ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАЛІТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫ
ДВУХТЫДНЁВІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ VIII

№ 13—14
ЛІПЕНЬ 1934 г.



ЗМЕСТ



Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул.
ЦК КП(б)Б, пакой № 105.
Тэлефон адказнага рэдактара па камутатару 20000 даб. 80; адк. сакратара—12; гарадскі—21044.



# Аб выніках чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б) і ліпеньскага пленума ЦК КП(б)Б

Пленумы ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б абмеркавалі выключнай важнасці два пытанні аб рабоце партыі ў вёсцы:

1) Аб выкананні плана паставак зярна і мяса;

2) Аб палепшанні і развіцці жывёлагадоўлі.

Рашэнні пленума ЦК ВКП(б)—гэта разгорнутая канкрэтная праграма практычнай барацьбы ўсіх партарганізацый за далейшае ўмацаванне і развіццё соцыялістычнага земляробства.

Выходзячы з гэтай чоткай і яснай праграмы пленума ЦК ВКП(б) пленум ЦК КП(б)Б абавязаў райкомы і палітаддзелы неадкладна намеціць канкрэтныя мерапрыемствы, якія-б забяспечылі рэалізацыю рашэнняў пленума ЦК ВКП(б), забяспечылі-б мабілізацыю ўвагі кожнага калгаса, соўгаса, фермы, калгасніка і аднаасобніка вакол пытанняў уборкі, хлебапаставак і жывёлагадоўлі.

Цэлы месяц аддзяляе нас з часу сканчэння работы пленума ЦК ВКП(б) і больш двух тыдняў прайшло з часу пленума ЦК КП(б)Б. За гэты час усе раёны БССР прыступілі да ўборкі ўраджаю, ЦК КП(б)Б праверыў, як выконваюцца ўказанні партыі і ўрада аб своечасовай уборцы і аб своечасовай барацьбе са стратамі на ўборцы.

> «**У першыя-ж дні ўборкі выяўляецца рад фактаў няправільнага і няпоўнага скарыстання, а месцамі прамога ігнаравання ўборачных машын:** жняярак, касілак і асабліва ільно-церабілак, дрэнная арганізацыя работ па ручной уборцы касой і сярпом. У радзе калгасаў зусім недастаткова арганізавана барацьба са стратамі: вязка снапоў услед за жнівам не праходзіць, каласы не падграбаюцца і не падбіраюцца, ураджай на палях не ахоўваецца, снапы не складваюцца ў бабкі і не прасушваюцца» (з пастановы бюро ЦК КП(б)Б).

Гэта значыць, што рад партыйных арганізацый і палітаддзелаў па-большэвіцку яшчэ не змагаюцца за выкананне рашэнняў пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б. Трэба рашуча змагацца з антымеханізатарскімі тэндэнцыямі, памятуючы, што правільнае скарыстанне ўборачных машын побач з ручной працай—уборкай сярпом і касой—з'яўляецца важнейшым фактарам у справе своечасовай уборкі ўраджаю, барацьбе са стратамі і своечасовым выкананні абавязацельстваў перад дзяржавай. Слабая барацьба са стратамі ў мінулым годзе прывяла к таму, што па адной толькі Беларусі гэтыя страты складалі дзесяткі тысяч пудоў. А мы маем усе магчымасці ўбраць хлеб без страт. Неда-

**ацэнка нашых магчымасцей у барацьбе са стратамі—гэта прамое ігнараванне рашэнняў пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б.**

Усе партарганізацыі неадкладна, непасрэдна ў полі павінны праверыць выкананне прынятых мер барацьбы са стратамі, якасць выкарыстоўвання ўборачных машын, вязкі, прасушкі і складвання снапоў у бабкі. Неабходна праверыць, як на мясцох змагаюцца за падграбанне і збор каласоў, арганізоўваючы калгаснікаў на барацьбу са стратамі, за захаванасць кожнага зярна. Адначасова з гэтым неабходна ўзмацніць барацьбу супроць злодзеяў—раскрадальнікаў грамадскай уласнасці. Комсамольскія і піонерскія арганізацыі на мясцах павінны шырэй разгарнуць работу па ахове ўраджаю.

Бюро ЦК КП(б)Б у сваім рашэнні ўказала, што ў ходзе ўборкі намеціўся разрыў паміж уборкай і малацьбой. Ход уборкі на сёнешні дзень сведчыць аб тым, што ў радзе раёнаў гэтай справе не ўдзяляюць належнай увагі.

Пленум ЦК КП(б)Б абавязаў РК КП(б)Б, палітаддзелы і РВК з першых-жа дзён уборкі і малацьбы ўстанавіць для кожнай малатарні сутачныя нормы абмалоту хлеба з пераводам на двухзменную работу ўсе малатарні. Гэта рашэнне павінна быць выканана безагаворачна. Змагацца за своечасовае выкананне закона аб пастаўках дзяржаве—гэта весці большэвіцкую барацьбу са стратамі, добра арганізаваць ахову ўраджаю, ліквідаваць разрыў паміж уборкай і малацьбой, арганізаваць работу так, каб лепшы хлеб з-пад малатарні заразжа ішоў на здачу дзяржаве.

Пленум ЦК КП(б)Б абавязаў усе партарганізацыі:

> «Разгарнуць работу па здачы зярна з самага пачатку ўборкі і малацьбы, з тым, каб жнівень і верасень месяцы зрабіць асноўнымі месяцамі выканання ўсяго гадавога плана зярна».

Аднак, рад раёнаў дрэнна змагаецца за выкананне калгаснікамі і аднаасобнікамі сваіх абавязацельстваў перад дзяржавай. Рад калгасаў Мсціслаўскага раёна праяўляюць антыдзяржаўныя тэндэнцыі і першы зжаты хлеб дзяржаве не здаюць, а размяркоўваюць паміж калгаснікамі. У калгасе «Трактар», Хлышчаўскага сельсовета, старшыня калгаса Маліноўскі ўвесь першы змалочаны ячмень размеркаваў паміж калгаснікамі. У калгасе імяВарашылава, гэтага-ж сельсовета, абмалочаны ячмень быў накіраван на млын і дзяржаве не было здана ні аднаго кілограма, а паміж калгаснікамі размеркавалі 45 пудоў мукі.

У калгасе «Новы шлях», Пячкоўскага сельсовета, старшыня калгаса Чыстабродаў першы абмалочаны хлеб у колькасці 14 пудоў таксама размеркаваў паміж калгаснікамі. Падобныя факты антыдзяржаўных тэндэнцый маюць месца ў Ельскім, Мазырскім і іншых раёнах. Партыйнае кіраўніцтва ўказаных раёнаў не арганізавала рашучай барацьбы з гэтымі антыдзяржаўнымі тэндэнцыямі і сабатажнікамі хлебаздачы.

Трэба неадкладна даць рашучы адпор малейшым праяўленням антыдзяржаўных тэндэнцый, дабіваючыся дакладнага выканання закону аб хлебапастаўках і своечасовага ажыццяўлення калгаснікамі першай запаведзі—выканаць абавязацельствы перад дзяржавай.

Выкананне цвёрдых заданняў па кулацкіх гаспадарках пленумам прапанавана скончыць не пазней 15 верасня, са спагнаннем у ліпені і жніўні месяцах не менш 70 процантаў.

Рашэнне пленума павінна быць выканана безагаворачна. Цвёрдазаданнікі павінны дакладна ў тэрмін выканаць свае заданні. Трэба

весці бязлітасную барацьбу з тымі, хто зрывае і ўтойвае ад дзяржавы хлеб.

Пленум ЦК КП(б)Б устанавіў цвёрдыя тэрміны звароту насеннай і харчовай пазыкі: у ліпені і жніўні 70 проц., у верасні 30 проц.

Жнівень і верасень месяцы павінны быць рашаючымі месяцамі ў выкананні плана здачы хлеба па натураплаце. Дырэктары і начпалітаддзелаў МТС павінны разгарнуць работу так, «каб шляхам перавыканання вытворчай праграмы дабіцца перавыканання плана здачы збожжа па натураплаце» (з рэзалюцыі пленума ЦК КП(б)Б).

**Даць рашучы адпор антыдзяржаўным тэндэнцыям, спыніць кулацкую практыку ігнаравання закона аб хлебапастаўках, мабілізаваць і арганізаваць калгасныя масы і аднаасобнікаў на безагаворачнае выкананне рашэнняў пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б—такава задача.**

Улічваючы вопыт мінулага года, партарганізацыі павінны, для правядзення ўборкі ўраджаю і здачы прадукцыі дзяржаве па аднаасобнаму сектару, неадкладна падабраць па вёсках праверанных работнікаў у якасці ўпаўнаважаных для дзесяцідворак. Упаўнаважаных трэба падбіраць у першую чаргу з ліку дэмабілізаваных чырвонаармейцаў, праверанных актывістаў, паказаўшых сваю прыкладнасць чэсным і акуратным выкананнем абавязацельстваў перад дзяржавай, лепшым выкананнем плана веснавой сяўбы і т. д. Частку кіруючых работнікаў раёна трэба замацаваць спецыяльна для кіравання ўборкай, абмалотам і загатоўкамі ў аднаасобным сектары.

У гэтым годзе мы не павінны дапусціць ні аднаго факту невыканання аднаасобнікамі сваіх абавязацельстваў перад дзяржавай.

Своечасовае выкананне абавязацельстваў аднаасобнікамі ва ўмовах БССР, дзе процант калектывізацыі параўнальна нізкі, набывае выключна важнае палітычнае значэнне, як з пункту гледжання своечасовага выканання рэспублікай сваіх абавязацельстваў, так і з пункту гледжання ўзмацнення нашай работы сярод аднаасобнікаў, работы, накіраванай к росту калектывізацыі ў вёсцы.

Рашэннем бюро ЦК КП(б)Б і СНК БССР ад 15-га ліпеня спынены калгасны і індывідуальна-сялянскі гандаль хлебам і закупка зярна спажыўкааперацыяй да выканання рэспублікай у цэлым устаноўленага плана зернепаставак, звароту пазык, натураплаты за работы МТС і засыпку калгасамі поўнасцю насенных, страхавых і фуражных фондаў. Гэта рашэнне трэба праводзіць з усёй настойлівасцю і паслядоўнасцю, **рашуча змагаючыся са спекуляцыяй хлебам.**

Для заахвочвання калгаснікаў і перадавых калгасаў у гэтым годзе, па прыкладу мінулага году, захоўваецца адлічэнне зярна на ўнутрыкалгасныя патрэбы—авансы калгаснікам, корм жывёлы і т. д.—у размеры 10 проц. ад колькасці фактычна намалочанага зярна, з павышэннем адлічэнняў да 15 проц. для перадавых добрапрацуючых калгасаў. Тым калгасам, якія поўнасцю выканаюць устаноўленыя для іх месячныя планы па зернепастаўках і натураплаце работ МТС дазваляецца дадаткова, у працэсе хлебаздачы, лепшае зярно пакідаць для стварэння насеннага фонду ў размеры 10 проц. ад колькасці намалочанага зярна.

Указанні пленумаў ЦК трэба шырока раз'ясніць калгаснікам, каб забяспечыць яшчэ большае ўзняцце прадукцыйнасці працы і далейшае разгортванне сопспаборніцтва і ўдарніцтва, каб у тэрмін выканаць абавязацельствы перад дзяржавай.

Паспяховае і своечасовае выкананне соўгасамі і калгасамі сваіх абавязацельстваў перад дзяржавай патрабуе і сваечасовай падрых-

тоўкі гужавога і аўтамабільнага транспарту, каб без перабояў і затрымак вывезці абмалочанае зярно, бульбу і інш. прадукты на прыёмачна-загатоўчыя пункты.

Трэба праверыць усе загатоўчыя пункты і прывесці іх у баявую гатоўнасць, каб унікнуць памылак і недахопаў, меўшых месца ў мінулым годзе (вялікія чаргі здатчыкаў на загатоўчых пунктах, непрыстасаванасць складскіх памяшканняў, пад'язных шляхоў і т. д.).

Ва ўмовах нашай рэспублікі выключна вялікае, а ў паасобных раёнах і рашаючае, значэнне маюць уборка і загатоўка ільну, канаплі і бульбы. Няўважлівасць паасобных партарганізацый прыводзіла ў мінулыя гады да ганебнага адставання, асабліва ў выкананні кантракцыйных дагавораў па ільну і канаплі.

Таму ў гэтым годзе мы павінны належным чынам арганізаваць церабленне ільну, сартыроўку яго, своечасовую малацьбу, расціл і паслядоўную апрацоўку, памятуючы, што ў жніўні і верасні трэба выканаць не менш 80 проц. плана загатовак насеннага ільну, а к 15-му снежня трэба выканаць усе 100 проц. загатовак ільнавалакна.

Адначасова з выкананнем хлебазагатовак, выключна вялікае значэнне мае поўнае і безумоўнае выкананне дзяржаве плана мясапаставак. Не гледзячы на асобую ўвагу, якую ўдзяліў гэтаму пытанню майскі пленум ЦК КП(б)Б, мясапастаўкі ў радзе раёнаў выконваюцца яшчэ нездавальняюча. Асабліва адстаюць соўгасы сістэмы Наркамсоўгасаў і калгасна-сялянскі сектар у Кармянскім, Мсціслаўскім, Быхаўскім, Прапойскім, Гомельскім, Ушацкім і Веткаўскім раёнах, якія план мясапаставак 2-га квартала на 10 ліпеня па калгасна-сялянскаму сектару выканалі ўсяго толькі ў размерах ад 23 да 30 проц.

Рад партарганізацый, здавальняючыся толькі сярэднімі процантнымі лічбамі, не дабіліся прыцягнення ўсіх здатчыкаў да ўдзелу ў выкананні плана мясапаставак. У гэтым квартале, па абследаваных 39 раёнах, у выкананні плана мясапаставак прымалі ўдзел толькі 83 проц. здатчыкаў.

Гэту самазаспакоенасць на сярэдніх лічбах без праверкі і кантролю выканання сваіх абавязацельстваў кожным калгасам, соўгасам, калгаснікам і аднаасобнікам, скарыстоўваюць нядоімшчыкі, якія сабатыруюць выкананне дзяржаўнага плана мясапаставак.

Якасць здаваемай да гэтага часу жывёлы па мясапастаўках была дрэнная.

Замест таго, каб жывёлу, якая прызначалася да здачы дзяржаве на мяса, своечасова паставіць на адкорм, падняць яе ўпітанасць, павялічыць вагу, паасобныя кіраўнікі калгасаў і соўгасаў адбіралі на мясапастаўкі жывёлу тошчую і малаўпітаную і таму замест таго, каб здаць адну добраўпітаную галаву, яны здавалі па дзве—тры малаўпітаных.

Такое выкананне мясапаставак няўпітанай жывёлай прыводзіла да падрыву жывёлагадоўлі.

Адначасова ліпеньскі пленум ЦК КП(б)Б адзначыў гаспадарча немэтазгодным і недапушчальным зніжэнне здачы скараспелай жывёлы ў лік мясапаставак. Пленум ЦК абавязвае ГК і РК КП(б)Б, савецкія і мясазагатоўчыя арганізацыі шляхам шырокага раз'яснення здатчыкам выгаднасці гадавання скараспелых відаў жывёлы—дабіцца максімальнага павелічэння пры мясапастаўках гэтых відаў жывёлы, асабліва свіней.

Каб знішчыць выкананне мясапаставак тошчай і няўпітанай жывёлай, пленум ЦК КП(б)Б прызнаў арганізацыю групавой здачы жы-

вёлы мясаздатчыкамі важнейшай задачай раённых партыйных і савецкіх органаў, сельсоветаў і праўленняў калгасаў.

Кожнаму комуністу трэба добра ўсвоіць **«што выкананне плана хлеба-і мясазагатовак з'яўляецца зараз, як і раней, асноўнай умовай далейшага росту і ўмацавання Совецкага Саюза».**

«Дзяржаўныя мяса-і хлебазагатоўкі,—гаварыў тав. **Кіраў** у дакладзе «Аб выніках пленума ЦК ВКП(б)»—ёсць канцэнтраванае выражэнне, рэальнае выражэнне ўсёй нашай палітыкі ў вёсцы, ў калгасе, соўгасе і сярод аднаасобнікаў. Гэтым вымяраецца ў канчатковым выніку ўся наша работа».

* * *

У адчотным дакладзе XVII з'езду ВКП(б) тав. **Сталін** гаварыў, што

«1934 год павінен і можа стаць годам пералому і ўздыму ва ўсёй жывёлагадоўчай гаспадарцы».

На аснове рашэнняў XVII з'езда партыі і выступлення тав. **Сталіна** партарганізацыі Беларусі больш канкрэтна сталі займацца пытаннямі жывёлагадоўлі і ў рэзультаце—вясной гэтага года мы захавалі некалькі большую колькасць маладняка, чым у мінулым годзе.

Але наша работа ў справе ўздыму жывёлагадоўлі прадаўжае быць яшчэ нездавальняючай. Нездавальняючым прадаўжае аставацца і стан жывёлагадоўлі ў цэлым. Пленум ЦК ВКП(б) адзначыў, што развіццё жывёлагадоўлі «ідзе надзвычай марудна, а па конях не спынен яшчэ працэс скарачэння пагалоўя». Тое-ж самае назіраецца і ў нас у БССР.

«Такое становішча з жывёлагадоўляй аб'ясняецца, галоўным чынам, тым, што большэвікі Беларусі не здолелі яшчэ перабудаваць сваю работу па развіццю жывёлагадоўлі так, як гэтага патрабуюць рашэнні XVII з'езда і правадыр партыі тав. **Сталін**—канкрэтна, аператыўна, штодзенна кіраваць справай жывёлагадоўлі, сістэматычна правяраць гэты ўчастак соцыялістычнай гаспадаркі. Асабліва нездавальняюча праходзіць перабудова работы ў сістэме Наркамзема і Наркамсоўгасаў» (з рэзолюцыі пленума ЦК КП(б)Б).

Недапушчальна адстаюць па ўсіх паказчыках у галіне жывёлагадоўлі наступныя раёны: Чэрвеньскі, Суражскі, Горацкі, Шклоўскі, Мсціслаўскі, Жлобінскі, Сенненскі, Расонскі і Плешчаніцкі. Нездавальняючая работа пералічаных партарганізацый па жывёлагадоўлі прывяла да таго, што ў іх раёнах усё яшчэ астаецца высокім процант адыходу маладняка. Маючы найгіднейшыя паказчыкі па жывёлагадоўлі, гэтыя раёны цягнуць уніз і агульнарэспубліканскае пагалоўе жывёлы. Калі па ўсяму Саюзу за апошнія 5 месяцаў адыход маладняка ў свінагадоўчых фермах склаў 12,3 проц., а па Украіне—7 проц., то па БССР адыход склаў 16,1 проц.

У Лепельскім раёне за 2 апошнія месяцы пала 233 цялят, 301 парасё, больш як 300 ягнят. 3 959 цялят у раёнах калгаснікамі і аднаасобнікамі гадуюцца толькі адзінкі.

Пленум ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б прызнаў неабходным разгарнуць барацьбу за развіццё жывёлагадоўлі на аснове гаспадарчага плана, па прыкладу дзяржаўнага пасеўнага плана. Гэты план будзе мець заданне па вырошчванню маладняка, развіццю племяннной справы, выхаду пагалоўя, па забяспечанню кармамі.

«Выкананне дзяржаўнага плана развіцця жывёлагадоўлі павінна стаць у цэнтры ўвагі ўсіх партыйных і совецкіх аргані-

зацый і служыць важнейшым сродкам мабілізацыі работнікаў соўгасаў, калгаснікаў і аднаасобнікаў вакол задачы развіцця жывёлагадоўлі» (з рэзалюцыі чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б).

**Уся арганізацыйная магутнасць пролетарскай дзяржавы, усе сродкі планавага ўздзейнічання і арганізацыйныя мерапрыемствы павінны быць пушчаны ў ход партыяй для быстрэйшага вырашэння жывёлагадоўчай праблемы.** Гэта абавязвае ўсе партыйныя, совецкія і зямельныя органы канкрэтна, па-дзеламому пераключаецца на выкананне рашэнняў пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б па ўздыму і развіццю соцыялістычнай жывёлагадоўлі.

Выходзячы з гэтага пленум ЦК КП(б)Б запрапанаваў Наркамзему, дырэктарам трэстаў і соўгасаў, райкомам КП(б)Б, палітаддзелам МТС і соўгасам і райвыканкомам:

> «Неадкладна разгарнуць работу па прапрацоўцы дзяржаўнага плана развіцця жывёлагадоўлі і стварэнню кармовай базы на 1934—1935 год, пачынаючы прапрацоўку плана непасрэдна з калгаса, соўгаса і сельсовета і закончыўшы яе ў месячны тэрмін».

Пленум ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б указалі, што, побач з соўгасамі, важнейшай асновай развіцця нашай жывёлагадоўлі і пашырэння аднаўлення ўсяго пагалоўя з'яўляюцца калгасныя фермы. Калгаснатаварныя фермы ўжо прайшлі перыяд свайго арганізацыйнага афармлення і на справе даказалі свае перавагі не толькі перад індывідуальнай формай жывёлагадоўлі, але і перад аграмаджанай. Выходзячы з гэтага пленум ЦК КП(б)Б запрапанаваў:

> **«Да 1 кастрычніка 1934 г. перавесці наяўныя ў калгасах абагуленыя стады на становішча калгасных таварных ферм, дабіўшыся, каб да канца 1934 года не асталося ні аднаго калгаса, які-б не меў жывёлагадоўчай таварнай фермы».**

Выкананне гэтага ўказання патрабуе рашучага ўзмацнення барацьбы партарганізацый на мясцох супроць кулацкай «тэорыі» аб адсутнасці перспектыў для развіцця свінагадоўлі і аўцагадоўлі ў пасобных калгасах Беларусі.

Каб заахвоціць калгаснікаў у пашырэнні прадукцыйнасці жывёлагадоўчых ферм, пленум ЦК ВКП(б) на 1935 г. прадаставіў значныя ільготы калгснікам тых калгасаў, дзе арганізуюцца жывёлагадоўчыя фермы. Гэтыя ільготы наступныя: 25 проц. мяса, 15 проц. малака і 20 проц. шэрсці, здаваемых фермай дзяржаве, залічваюцца ў выкананне калгаснікамі гэтага калгаса іх асабовых абавязацельстваў па пастаўках дзяржаве.

Гэтыя мерапрыемствы трэба шырока раз'ясніць усім калгаснікам, каб кожны з іх зразумеў тыя выгады, якія дае яму добрая работа таварнай фермы. **Ні аднаго калгаса без таварнай фермы—такі лозунг практычнай барацьбы за развіццё соцыялістычнай жывёлагадоўлі.**

Агромную ролю ва ўзняцці жывёлагадоўлі мае правільная арганізацыя работы на фермах. Толькі здзельшчына і пастаянныя вытворчыя брыгады могуць даць патрэбныя рэзультаты на ферме. Цэнтральнай фігурай на малочна-таварнай ферме павінна быць даярка, на свінагадоўчай—свінар, на аўцагадоўчай—чабан. К 1-му верасня павінен быць праверан склад загадчыкаў усіх ферм. Апошнія павінны быць ачышчаны ад класава-варожых элементаў. Кожны загадчык

фермы зацвярджаецца Райвыканкомам і ніхто не мае права яго зняць без ведама РайЗА.

Асобай дзяржаўнай задачай з'яўляецца развіццё конегадоўлі. Пленум адзначыў выключна дрэнную работу па аднаўленню і павелічэнню конскага пагалоўя:

> «асноўнымі мерапрыемствамі, ў галіне конегадоўлі лічыць вырошчванне і поўнае захаванне конскага маладняка і палепшанне пароды каня».

Рашэннем пленума ЦК ВКП(б) з 1935 года калгасы, якія вырошчваюць конскі маладняк, вызваляюцца ад абавязковых зернепаставак на 0,5 га пасеву на кожнае вырошчваемае ў калгасе жарабё. Конюх—цэнтральная фігура ў конегадоўлі. Пры выкананні ім плана вырошчвання жарабят, яго прэміруюць: у калгасах налічэннем да 25 працадзён і ў соўгасах—да 100 рублёў за кожнае вырашчанае жарабё. Дырэктары МТС абавязаны абслугоўваць трактарамі і аўтамашынамі пераважна тыя калгасы, якія больш і лепш вырошчваюць конскі маладняк.

Неабходна ўжо зараз, пры апрацоўцы дзяржплана, скласці план адпаведнага палепшання пароды нашай жывёлы. Мы маем свае добрыя пароды племянных вытворнікаў, але на месцох ёсць няўважлівыя, а часамі варварскія адносіны да вырошчвання іх.

У падняцці нашай жывёлагадоўлі вельмі важнае значэнне мае метызацыя (скрэшчванне маючайся ў нас беспароднай жывёлы з племяннымі вытворнікамі).

Метызацыя значна павышае жывую вагу жывёлы і больш чым у 2 разы ўдой малака. Аднак, на 10 жніўня план метызацыі па калгасна-сялянскаму сектару выканан толькі на 42,6 проц. па каровах і на 88,6 проц. па свінням.

**Павышэнне пароды жывёлы і племяннай справы мае зараз першаступеннае значэнне.**

Комуністам, комсамольцам і ўсяму беспартыйнаму актыву пасапраўднаму і па-сур'ёзнаму трэба ўзяцца за вывучэнне тэхнікі жывёлагадоўлі. Да пастаноўкі жывёлы на стойлавае ўтрыманне рабочыя соўгасаў, даглядаючыя жывёлу, калгаснікі, працуючыя на жывёлагадоўчых фермах, павінны здаць зоатэхмінімум і ауладаць тэхнікай жывёлагадоўлі.

Партарганізацыі павінны звяртаць агромную ўвагу на вядзенне племяннай кнігі. Правільным вядзеннем племянных кніг мы ўстановім дакладны ўлік сапраўды племяннай жывёлы і найлепшае выкарыстанне яе.

Калгаснікі, жывёла якіх занесена ў рэспубліканскую дзяржплемкнігу, вызваляюцца ад паставак мяса (калі прыплод прадаецца дзяржаве для вытворчых мэт).

Адной з умоў барацьбы за пасияховае развіццё жывёлагадоўлі з'яўляецца ветэрынарная работа. Партарганізацыі павінны стварыць усе ўмовы для лепшай работы ветфельдшарскіх участкаў і пунктаў.

Недапушчальна такое становішча, калі работнікі ветпункту Веласоўскага сельсовета, Лепельскага раёна, тры месяцы не атрымліваюць зарплаты, а старшыня сельсовета не выдае 3.000 руб., якія адпушчаны тэтаму пункту на медыкаменты.

Выключна важнае значэнне мае догляд і захоўванне жывёлы ў зімні стойлавы перыяд, што ў значнай меры залежыць ад добра прыстасаваных памяшканняў (кароўнікаў, свінарнікаў, канюшань і т. д.).

Таму зараз неабходна падрыхтаваць да зімы ўсе памяшканні, ставіць новыя збудаванні і рамантаваць старыя з тым, каб жывёла на зімні час у кожным соўгасе і калгасе была забяспечана добрым і цёплым памяшканнем.

Стварэнне кармовай базы—рашаючае звяно быстрэйшага ўздыму жывёлагадоўлі. Таму пленумы ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б гэтаму пытанню ўдзялілі выключную ўвагу. У рашэннях пленумаў вызначаны канкрэтныя шляхі і мерапрыемствы па стварэнню ў кожным соўгасе і калгасе неабходнай кармовай базы, забяспечваючай усё пагалоўе соўгаснай і калгаснай жывёлы грубымі і сакавітымі кармамі і ў максімальнай колькасці канцэнтраванымі кармамі. У рашэннях ліпеньскага пленума ЦК КП(б)Б вызначаны канкрэтныя мерапрыемствы і заданні па стварэнню і пашырэнню ў БССР кармовай базы.

Задача Наркамзема і яго органаў на мясцох—партыйных і совецкіх арганізацый—большэвіцкай настойлівасцю і ўпорнасцю, канкрэтна пераключыцца на выкананне рашэнняў пленумаў ЦК па стварэнню кармовай базы, пашы, па палепшанню і паднящцю ўраджайнасці сенажацей, кармовых траў і корнеплодаў. На выкананне дырэктыў пленумаў ЦК трэба мабілізаваць шырокія масы калгаснікаў, рабочых соўгасаў і аднаасобнікаў.

Рашэннямі пленума ЦК ВКП(б) і распрацаванымі на аснове іх практычнымі мерапрыемствамі пленумам ЦК КП(б)Б дана разгорнутая праграма палепшання і развіцця социялістычнай жывёлагадоўлі, дана праграма барацьбы за паспяховае завяршэнне 1934 сельскагаспадарчага года.

Справа чэсці ўсіх партыйных і совецкіх арганізацый, усіх нашых работнікаў, партыйных і беспартыйных—паспяхова ажыццявіць гэтыя рашэнні.

> «Справу жывёлагадоўлі павінны ўзяць у свае рукі ўся партыя, усе нашы работнікі, партыйныя і беспартыйныя, маючы на ўвазе, што праблема жывёлагадоўлі з'яўляецца цяпер такой-жа першаступеннай праблемай, якой была ўчора ўжо вырашаная з поспехам праблема зернавая» **(Сталін).**

У непарыўнай сувязі з пытаннямі, якія абгаварваў пленум ЦК ВКП(б), стаіць пытанне далейшай калектывізацыі сельскай гаспадаркі БССР. Мы маем зараз у БССР усяго каля 53 проц. калектывізацыі. Ёсць раёны, дзе процант калектывізацыі складае менш ⅓ наяўных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. У нас мае месца працяглае існаванне побач з калгаснікамі аднаасобнікаў, якія складаюць у радзе раёнаў меншасць, а ў некаторых—большасць гаспадарак. Сярод аднаасобнікаў мы маем розныя кулацкія і антыкалгасныя элементы, якія робяць адмоўны ўплыў як на працоўных аднаасобнікаў, так і на адстаючую частку калгаснікаў. Гэта адзін з паказчыкаў слабай работы нашых арганізацый. Слабасць гэта з усёй рэзкасцю падкрэсліваецца адставаннем БССР у калектывізацыі бяднецка-серадняцкіх гаспадарак. Неабходна ўзмацніць палітычную і арганізацыйна-масавую работу сярод аднаасобнікаў, правесці вялікую работу па ўмацаванню калгасаў, з тым каб

> «забяспечыць ужо гэтай восенню сур'ёзныя зрухі ў справе далейшай калектывізацыі і калгаснага будаўніцтва ў цэлым» (з рэзалюцыі пленума ЦК КП(б)Б).

**Мы павінны так праводзіць нашу палітыку, каб ва ўсіх адносінах калгаснік меў перавагу перад аднаасобнікам.**

Нельга дапусціць таксама такіх з'явішч, калі з калгаса выключаюць людзей, якія не заслугоўваюць гэтай надзвычай сур'ёзнай і цяжкай меры. Бясспрэчна, чуждага чалавека, пралезшага ў калгас каб весці ў ім падрыўную работу, трэба як найхутчэй выганяць. Але трэба весці барацьбу і супроць таго, каб старшыня калгаса або праўленне не выганялі з калгаса за тое, што калгаснікі выкрываюць агідпасці, якія маюцца ў калгасе.

**Нам неабходна сістэматычна дабівацца павышэння даходаў калгаснікаў, як важнейшага фактару ў справе ўцягнення ў калгасы працоўных аднаасобнікаў.**

Асноўны шлях павышэння даходаў калгасніка—гэта далейшае ўмацаванне абагуленай вытворчасці, павышэнне прыбыткоўнасці калгаснай таварнай фермы, павышэнне ўраджайнасці калгасных палёў і т. д.

Трэба стымуляваць высокапрыбыткоўныя галіны, як жывёлагадоўлю, садоўніцтва, гародніцтва і т. д., што дасць пашырэнне сельска-гаспадарчай вытворчасці.

Адначасова з гэтым нельга недаацэньваць і падсобнай гаспадаркі калгасніка. Пленум ЦК КП(б)Б паставіў задачу—ліквідаваць бескароўнасць сярод калгаснікаў у 1934 годзе. Задачу гэту трэба пабольшэвіцку выканаць. Каб заахвоціць калгаснікаў, якія вырошчваюць у сваёй падсобнай гаспадарцы цёлак або кароў і прадаюць іх таварнай калгаснай ферме па дзяржаўнай цане, пленум ЦК прапанаваў вызваліць такіх калгаснікаў на 2 гады ад абавязковай пастаўкі дзяржаве малака і мяса. Зразумела, што гэта яшчэ больш павысіць даходы калгасніка.

**Уся наша далейшая работа і па лініі калектывізацыі і па лініі далейшага росту добрабыту калгаснікаў непарыўна звязана з неабходнасцю рашучага падцягвання адстаючых калгасаў.** На арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне гэтых калгасаў трэба звярнуць асаблівую ўвагу. Неабходна ведаць кожны калгас і ўмець кіраваць ім.

У рашэннях пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б намечаны канкрэтныя і аператыўныя мерапрыемствы, накіраваныя на далейшы, больш быстры ўздым соцыялістычнай сельска-гаспадарчай вытворчасці і матэрыяльна бытавога становішча калгаснікаў, рабочых соўгасаў і ўсіх працоўных нашай краіны.

Рашэнні пленумаў ЦК з'яўляюцца праграмай практычнай барацьбы за заможнае калгаснае жыццё, за ўмацаванне эканамічнай магутнасці нашай краіны.

Рашэнні пленумаў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б павінны стаць праграмай штодзённай работы кожнай партыйнай арганізацыі, РВК, сельсоветаў, МТС, калгасаў, соўгасаў і ўсіх совецкіх і зямельных работнікаў.

**Д. Конік**

# Беларуская савецкая літаратура на ўздыме[1]

Гістарычнае рашэнне ЦК ад 23 красавіка 1932 г.—вялікі дакумент, які паказвае шлях трыумфу савецкай і пралетарскай літаратуры. Але гэта трыумфальнае шэствіе—не «прогулка по садам словесности». Шлях савецкай літаратуры—гэта шлях найвастрэйшай класавай барацьбы. Найбольш утончаныя формы гэтай барацьбы «ціхая сапа», як форма наступлення класавага ворага супроць дыктатуры пралетарыята, знайшлі свой яркі адбітак на літаратурным фронце. У гэтай барацьбе загартаваліся асноўныя пісьменніцкія сілы, перабудаваліся і ідэйна-палітычна ўзмацнелі для таго, каб аказацца на ўзроўні задач, пастаўленых ЦК партыі. Рашэнне ЦК указала нашай літаратуры шляхі правільнага і крытычнага асваення спадчыны мінулага, шляхі вучобы і пазнання сапраўднасці метадам соцыялістычнага рэалізма і паслужыла асновай для магутнага росквіту літаратуры і мастацтва.

Са здавальненнем трэба адзначыць, што творчыя сілы літаратурнага фронту Беларусі таксама прышлі да свайго з'езда з вялікімі дасягненнямі. Даклады і спрэчкі сведчаць аб тым, што пад кіраўніцтвам нашай партыі мастацкая савецкая літаратура БССР згуртавалася, як ніколі.

З вялікім здавальненнем адзначым рашучую перабудову старэйшага пакалення беларускіх пісьменнікаў—Янкі Купалы, Якуба Коласа, Бядулі і Цішкі Гартнага, якія сваёй творчасцю ўключыліся ў барацьбу за соцыялістычнае будаўніцтва.

Таксама трэба адзначыць рост паслярэволюцыйнага пакалення беларускіх пісьменнікаў, якія далі ўжо не мала яркіх праўдзівых вобразаў нашай сапраўднасці. Надзвычай паказальны агульнакультурны рост нашай краіны, які забяспечвае магутны рост новых кадраў дзесяткаў і соцень рабочых і калгаснікаў, уступіўшых на шырокі літаратурна-творчы шлях. Сваёй творчасцю і ўпорнай вучобай яны становяцца ў першыя рады літаратурнага фронта. Быстрымі тэмпамі ідзе працэс жанравага разгортвання нашай літаратуры. Асобна вылучаецца проза, але і наша паэзія заваявала салідна месца не толькі ў нашай рэспубліцы, але і ў маштабе Савецкага саюза. Наша драматургія за апошні перыяд прыкметна вырасла. Наша крытыка таксама значна прасунулася ўперад. Ёсць усе падставы заявіць, што наша маладая крытыка знайшла правільныя шляхі творчай дапамогі пісьменніку.

Таварышы, першы з'езд савецкіх пісьменнікаў БССР адбываецца ў момант, аддзелены толькі некалькімі месяцамі ад XVII з'езда боль-

---

[1]) Скарочаная прамова на I з'ездзе ССПБ.

шэвіцкай партыі, з'езда велізарнейшых перамог соцыялізма, з'езда пабудавання бяскласавага грамадства.

Пяць найвялікшых помнікаў, якія ўвайшлі ў скарбніцу сусветнай літаратуры, вызначаюць задачы нашай работы па барацьбе за ажыццяўленне ідэалаў комунізма:

1. Прамова тав. Сталіна на з'ездзе гаспадарнікаў;
2. Прамова тав. Сталіна на з'ездзе калгаснікаў;
3. Дзве прамовы тав. Сталіна на студзеньскім пленуме нашай партыі;
4. І—апошні дакумент эпохі—прамова тав. Сталіна на XVII з'ездзе партыі.

Гэтыя дакументы, як шэдэўры марксісцка-ленінскай дыялектыкі, увойдуць у гісторыю, як помнікі нараджэння новага чалавека, ствараючага бяскласавае грамадства. Яны адлюстроўваюць найвялікшыя зрухі, якія адбыліся ў нашай краіне і ў сусветнай капіталістычнай сістэме.

Як у люстэрку у іх адлюстроўваецца гібель і знікненне самага лютага, самага драпежнага класа эксплаататараў—кулакоў.

З няўмольнай логікай тав. Сталін паказаў, як пролетарская рэволюцыя вырашыла нацыянальнае пытанне, доказам чаго з'яўляецца росквіт гаспадарчага і культурнага будаўніцтва сярод усіх нацыянальнасцей, усіх народаў, насяляючых вялікі Совецкі саюз.

Гэтыя дакументы эпохі—найярчэйшы паказчык трыумфу ленінізма, трыумфу тэорыі лепшых розумаў гісторыі чалавецтва—Маркса—Энгельса—Леніна.

Гісторыя не ведае выпадку, каб гібель аджыўшага класа адбылася без шалёнага супраціўлення з яго боку. У суровай класавай барацьбе перамагла лінія ленінізма, лінія партыі.

Ворагі былі розныя і форма барацьбы на той ці іншай стадыі была розная.

Буржуазія, кулацтва, яшчэ недабітыя апартуністы ўсіх масцей, троцкісты, правыя, нацдэмы і шавіністы ў гэтай барацьбе аказвалі шалёнае супраціўленне. Аднак, не гледзячы на гэта, агульны баланс такі, што партыя ў гэтай барацьбе перамагла і ўсякія тэорыі і ідэі, накіраваныя да аслаблення і ліквідацыі пролетарскай дыктатуры, партыяй развеяны ў прах.

Барацьба на ідэалагічным фронце—на фронце навукі, мастацтва, літаратуры—гэта барацьба складанага характару.

Літаратура—гэта найбольш блізкі і даступны шырокім народным масам від творчасці. Літаратура размаўляе з масамі на роднай, хвалюючай, народнай мове. Літаратура—сапраўды востра адточаная зброя ў класавай барацьбе. Гэта зброя павінна служыць пролетарыяту і працоўным. Трэба навучыцца памайстэрску валодаць гэтай зброяй. Вось чаму партыя ўдзяляе літаратуры такую вялікую ўвагу.

Звычайна выступленні ад Цэнтральнага Камітэта партыі на з'ездах і нарадах гаспадарнікаў і іншага парадку арганізацый пачынаюцца з таго, як работнікі гэтых арганізацый выконваюць свой промфінплан, бо гэта адзіны вымярыцель работы. Ці можна і перад вамі паставіць пытанне аб выкананні вамі свайго промфінплана? Сёй-той з вас можа заявіць, што вы такога плана, моў, не атрымлівалі. Але гэта будзе памылкова. Вы свой промфінплан маеце. І ў галіне выканання вашага літаратурнага промфінплана перад вамі трэба паставіць рад пытанняў.

Выканаць свой літаратурны промфінплан—гэта значыць даць краіне добрыя творы. Я думаю, што ў асноўным вы свой промфінплан выканалі. Вы далі рад добрых твораў. Вы зрабілі рад спроб апісаць героіку эпохі. Але няма чаго граха таіць, што з пункту гледжання якасных паказчыкаў у вас не заўсёды ўсё добра— героі нашай літаратуры не заўсёды паказаны поўнацэнна. У вашай творчасці павінны быць даны вобразы, хвалюючыя нас. Не заўсёды вашы вобразы нас хвалююць. Вядома, можна назваць рад твораў беларускай літаратуры, у якіх паказ герояў нашых дзён у асноўным вырашаецца не дрэнна.

Наша літаратура заваявала сабе месца не толькі ў БССР. Яна заваявала сабе пачэснае месца ў радах літаратуры Саюза. Імёны нашых лепшых пісьменнікаў вядомы ўсяму Савецкаму саюзу.

Наша літаратура правяла значную работу па выкарчоўванню карэнняў нацдэмаўшчыны. Яна прыкметна павярнулася тварам да актуальнай тэматыкі, яна рушылася ўперад і ў якасным сэнсе, але яна ўсё-ж значна адстае, **яна яшчэ не паднялася да ўзроўню лепшых мастацкіх твораў Савецкага саюза,** яна яшчэ не на ўзроўні нашай вялікай сапраўднасці.

Чатыры месяцы прайшло з таго часу, як скончыў сваю работу XVII з'езд ВКП(б), які ўвайшоў у гісторыю нашай партыі, як з'езд пабудавання бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

З'езд, прыняўшы праграму работ на другое пяцігоддзе, паставіў перад намі велізарнейшыя задачы, ажыццяўленне якіх забяспечыць пабудову бяскласавага грамадства ў нашай краіне, якая з'яўляецца аплотам пролетарскай рэволюцыі ва ўсім свеце. **Першая** і разам з тым **асноўная палітычная задача**—гэта канчатковая ліквідацыя капіталістычных элементаў і класаў наогул, поўнае знішчэнне прычын, параджаючых класавую розь і эксплаатацыю, і перамаганне перажыткаў капіталізма ў эканоміцы і сазнанні людзей, ператварэнне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў свядомых і актыўных будаўнікоў бяскласавага соцыялістычнага грамадства. **Другая задача**—далейшы пад'ём добрабыту рабочых і калгаснікаў і павышэнне ўзроўню спажывання працоўнымі ў 2½—3 разы. **Трэцяя задача**—завяршэнне тэхнічнай рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі: прамысловасці, транспарта, сельскай гаспадаркі.

Літаратура можа і павінна актыўна ўдзельнічаць у арганізуючай і выхаваўчай рабоце партыі па лініі «перамагання перажыткаў капіталізма ў эканоміцы і сазнанні людзей». Астаткі ідэалогіі разбітых класаў і антыленінскіх груп жывуць не толькі ў сазнанні шырокіх рабочых і сялянскіх мас, гэтыя астаткі жывуць і ў сазнанні паасобных праслоек партыі. Тав. **Сталін** на XVII з'ездзе сказаў:

> «Але ці можна сказаць, што мы ўжо пераадалелі ўсе перажыткі капіталізма ў эканоміцы? Не, нельга гэтага сказаць. Тым больш нельга сказаць, што мы пераадалелі перажыткі капіталізма ў сазнанні людзей. Нельга гэтага сказаць не толькі таму, што сазнанне людзей у яго развіцці адстае ад іх эканамічнага становішча, але і таму, што ўсё яшчэ існуе капіталістычнае акружэнне, якое стараецца ажыўляць і падтрымліваць перажыткі капіталізма ў эканоміцы і сазнанні людзей у СССР і супроць якога мы, большэвікі, павінны ўвесь час трымаць порах сухім».

Асноўная задача літаратуры: барацьба з перажыткамі капіталізма асабліва ў сазнанні людзей і «ўвесь час трымаць порах сухім». Літа-

ратура Савецкага Саюза, з'яўляючыся рычагом ідэалагічнага ўздзеяння на шырокія працоўныя масы, павінна падняць сілу свайго ўплыву на масы такім чынам, каб сапраўды стаць вартай сваёй вялікай эпохі, эпохі пабудавання бяскласавага грамадства.

## Прамовы тав. Сталіна—невычарпальная крыніца мастацкай літаратурнай творчасці

Наша совецкая літаратура прышла да свайго з'езда з вялікімі дасягненнямі. Усе віды і жанры літаратурнай творчасці далі значны рост. Абагацілася наша літаратура такімі каштоўнейшымі творамі прозы, як «Дрыгва» і «Адшчапенец»—Якуба Коласа, «На чырвоных лядах»—Лынькова, «Спалох на загонах»—Галавача, «Бацькаўшчына»—Чорнага, «Тэорыя Каленбрун»—Самуйлёнка і цэлы рад іншых твораў.

Вялікія дасягненні мы маем таксама па лініі нашай паэзіі ў надзвычайных творах Янкі Купалы—«Над ракою Арэсай», Андрэя Александровіча—«Цені на сонцы», «Большэвік Бахрым», «Напор», «Векапомная восень», «Шчаслівая дарога» і інш., П. Броўкі—«Так пачыналася маладосць», «Мінеральныя воды» і інш. Глебкі, Хведаровіча, Куляшова і інш.

Не малыя дасягненні мае наша літаратура і ў галіне драматургіі: Крапіва—«Канец дружбы», «Бацькаўшчына»—Кузьмы Чорнага і інш. Выраслі новыя кадры нашай літаратуры.

Вялікія дасягненні можам адзначыць і па лініі росту літаратуры нацыянальных меншасцей. Яўрэйская совецкая літаратура Беларусі з'яўляецца значным атрадам яўрэйскай совецкай літаратуры ўсяго Совецкага саюза. Такія творы, як Харыка «Круглыя тыдні», «Ад полюса да полюса», Кульбака—«Чайльд Гарольд з Дзісны», вершы Аксельрода, Камянецкага, Тэйфа стаяць у раду лепшых твораў літаратурнай творчасці Совецкай Беларусі. Маладая польская совецкая літаратура заняла таксама прыкметнае месца ў літаратурнай творчасці Беларусі (Жарскі, Кавальскі, Раманоўская). Рад добрых твораў дала і наша маладая растучая літоўская літаратура.

Сотні таленавітых рабочых і калгаснікаў уцягнены ў актыўную літаратурную творчасць. Мы маем не мала рабочых ударнікаў, калгаснікаў, трактарыстаў, конюхаў, якія моцна валодаюць пяром і выказваюць свае страсці і подвігі ў літаратурных творах. Вось рабочы-комсамолец калгаса «Чыжэвічы» пачынае прабаваць сваё творчае пяро і наступным чынам апісвае ход большэвіцкай сяўбы:

Па калгасных палёх.
Гулка трактар бурчыць,
Люба глянуць здалёк,—
Бы маланкай імчыць.
А за ім ў тры рады
Рэжа землю метал,
Трактарыст малады
Ціха песню пачаў.

Ні на мінуту нельга забываць, што дасягненні нашай літаратуры з'яўляюцца рэзультатам росту соцыялістычнага будаўніцтва, росту літаратуры Совецкага саюза. Толькі пры брацкай дапамозе Совецкага саюза і перадавога атрада совецкай літаратуры—рускай літаратуры мы дабіліся гэтых грамадных дасягненняў.

Літаратура Совецкага саюза, пад кіраўніцтвам партыі, выгадавала плеяду вялікіх пісьменнікаў, мастакоў, вартых свайго класа. Досыць назваць такія імёны, як Шолахаў, Панфераў, Стаўскі, Аўдзеенка і інш. І гэта людзі вялікай эпохі і яны па-майстэрску адлюстроўваюць вялікую барацьбу гэтай эпохі. «Паднятая цаліна», «Брускі», «Разбег», «Людзі трактарнага», «Белморканалбуд», «Я люблю» і т. д. адлюстроўваюць на вялікіх мастацкіх палотнах гераізм нашай эпохі— эпохі велізарнейшых у свеце дасягненняў, эпохі вялікага Саюза Совецкіх Рэспублік.

Развіццё нашай літаратуры не ў малой ступені абавязана значнаму ўплыву літаратуры ўсяго Совецкага саюза, асабліва перадавому атраду яе—рускай літаратуры. Наша літаратура не з'яўляецца «самабытнай», «ізаляванай літаратурай», як гэта сцвярджалі нацдэмы.

Нельга не адзначыць той грамаднай дапамогі, якую аказаў нам аргкамітэт совецкіх пісьменнікаў Саюза прысылкай да нас для практычнай дапамогі нашым таварышам брыгады маскоўскіх пісьменнікаў на чале з т. Бухмецьевым і ў складзе Бруно Ясенскага, Лідзіна, Міх. Галоднага, Огнёва, Леўмана. Падобная форма кіраўніцтва з боку аргкамітэта пісьменнікаў цалкам сябе апраўдала як па лініі дапамогі нашым пісьменнікам, так і па азнаямленню з нашай беларускай літаратурай пісьменнікаў брацкіх нам рэспублік. Нельга таксама не адзначыць недастатковасці перакладаў твораў на іншыя мовы нацрэспублік і арганізацыі крытыкі іх дэтальнага разбору асноўных нашых твораў на паседжаннях саюзнага аргкамітэта.

Адзначаючы нашы вялікія дасягненні, мы не павінны на з'ездзе скрываць нашых недахопаў. Наша літаратура, якая разгарнула свае творчыя сілы і ступіла на шырокі шлях росту, усё-ж значна адстае ад тэмпаў развіцця нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

Рабочы патрабуе сабе не абы толькі кніжкі, а кнігі высокай якасці, як у ідэйным, так і ў мастацкім сэнсе, кнігі з хвалюючай яго тэматыкай. Ён патрабуе, каб наша літаратура паказала мастацкім шляхам працэс і пераробку людзей, усю глыбіню росту новага чалавека ў нашай краіне, ён патрабуе, каб героіка нашага багатага жыцця знайшла сваё вартае адлюстраванне ў нашай літаратуры.

Змена аблічча нашай вёскі, трыумф палітыкі партыі ў галіне калектывізацыі забяспечылі таксама агульны культурны і палітычны рост калгасных працоўных мас.

Расце цікавасць шырокіх калгасных мас да мастацкай літаратуры. Вёсцы патрэбна добрая кніга пра соцыялістычны горад, пра нашу Чырвоную армію, пра герояў нашага Совецкага саюза, аўтабіяграфіі нашых вялікіх людзей, жыццё і дзейнасць правадыроў нашай партыі. Тэматыка нашай літаратуры далёка яшчэ не вычэрпвае ўсяго багацця нашага жыцця.

Усе нашы лепшыя творы: Чорнага—«Бацькаўшчына», Бядулі— Язэп Крушынскі», Галавача—«Спалох на загонах», Коласа—«Дрыгва» і «Адшчапенец», Лынькова—«На чырвоных лядах», Крапівы— «Мядзведзічы»—усё яшчэ пабудаваны на сялянскай тэматыцы.

Пісаць пра рабочага, вядома, не лёгка. Гэта значыць разгарнуць палатно пяцігодкі і адлюстраваць гераізм пролетарыята вялікай эпохі. Гэта значыць—паказаць новага чалавека, якога не было яшчэ ў літаратуры, які ў сапраўднасці існуе, творыць. Гэта значыць—паказаць сінтэтычнага героя эпохі.

Даць сінтэтычны тып нашай эпохі «чалавека барацьбіта за соцыялізм», «чалавека героя, творцу»—справа больш складаная і цяжкая.

«Мастак павінен валодаць здольнасцю абагульнення,—піша **А. М. Горкі**.—«Мастацтва слоўнай творчасці, мастацтва стварэння характараў і «тыпаў» патрабуе выабражэння, дагадкі, «выдумкі». Апісаўшы аднаго знаёмага яму крамніка, чыноўніка, рабочага, літаратар зробіць больш ці менш удачную фатаграфію іменна аднаго з дваццаці, пяцідзесяці, сотні крамнікаў, чыноўнікаў, рабочых, але гэта фатаграфія, пазбаўленая соцыяльна-выхаваўчага значэння, яна бадай нічога не дасць для пашырэння, паглыблення нашага пазнання аб чалавеку, аб жыцці. Але калі пісьменнікі здолеюць узяць ад кожнага з дваццаці, пяцідзесяці, сотні крамнікаў, чыноўнікаў, рабочых найбольш характэрныя класавыя рысы, прывычкі, густы, жаданні, вераванні, ход мовы і т. д.—узяць і аб'яднаць іх у адным крамніку, чыноўніку, рабочым,—гэтым прыёмам пісьменнік створыць «тып»—гэта будзе мастацтва».

Гэта зусім правільнае ўказанне А. М. Горкага павінны ўлічыць работнікі нашай літаратурнай творчасці, калі яны сапраўды імкнуцца даць высокамастацкія творы.

Колькі каштоўнейшых указанняў у гэтай галіне даў нашай літаратуры тав. **Сталін!** Возьмем хоць-бы адзін фрагмент тав. Сталіна—яго выступленне на студзеньскім пленуме ЦК «Аб рабоце ў вёсцы». Факт-жа, што наша мастацкая літаратура яшчэ не ўзялася за распрацоўку гэтага каштоўнейшага дакументу. Пададзім некаторыя вытрымкі з прамовы тав. Сталіна, паказваючыя, якія задачы высоўвае перад нашай мастацкай літаратурай тав. Сталін.

Гаворачы аб недахопах нашай работы ў вёсцы, тав. Сталін кажа:

«У чым тут справа? Дзе прычыны гэтага недахопу нашай работы? Чым аб'ясніць гэту неадпаведнасць?

Аб'ясняецца гэта перш за ўсё тым, што нашы таварышы на мясцах, нашы вясковыя работнікі не здолелі ўлічыць новай абстаноўкі ў вёсцы, створанай абвяшчэннем калгаснага гандлю хлебам».

Селянін меркаваў так: «абвешчан калгасны гандаль хлебам, легалізавана рыначная цана, на рынку я магу за тую-ж колькасць хлеба атрымаць больш, чым пры здачы хлеба дзяржаве,—стала быць, калі я не дурань, я павінен хлеб прытрымаць, здаваць яго дзяржаве менш, пакінуць яго для калгаснага гандлю больш і такім чынам дабіцца таго, каб выручыць больш за тую-ж колькасць праданага хлеба.

Самая простая і натуральная логіка!

Але бяда тут заключаецца ў тым, што нашы вясковыя работнікі, ва ўсякім выпадку многія з іх, не зразумелі гэтай простай і натуральнай рэчы».

Хто з літаратараў і драматургаў арганізаваў паказ гэтай гістарычнай праўды? Я сцвярджаю, што ніхто.

Або возьмем характарыстыку, даную тав. **Сталіным** некаторым работнікам нашага апарата па пытанню кіраўніцтва вёскаю:

«А што бачым на справе? На справе мы бачым адарванасць цэлага раду раённых і абласных арганізацый ад жыцця калгасаў, ад іх запатрабаванняў.

Сядзяць людзі ў канцылярыях і самазадаволена скрыпяць пер'ямі, не заўважаюць, што развіццё ідзе міма бюракратычных канцылярый. У паасобных выпадках адарванасць ад калгасаў даходзіла да таго, што некаторыя члены краявых арганізацый даведваліся аб справах у калгасах у сябе ў краі не ад адпаведных раённых арганізацый, а ад членаў ЦК у Маскве. Гэта сумна, але гэта факт».

Колькі сарказму, якая ўніжаючая характарыстыка нашага бюракратызма! А хто з мастакоў-літаратараў перанёс гэту рашучую характарыстыку на літаратурнае палатно?

Тав. **Сталін** з празорлівасцю вялікага правадыра партыі вызначыў новыя формы класавай барацьбы, паказваючы тып кулака такім, якім ён ёсць на данай стадыі развіцця соцыялістычнага будаўніцтва. Ён гаварыў:

«Шукаюць класавага ворага па-за калгасамі, шукаюць яго ў выглядзе людзей са зверскай фізіяноміяй, з грамаднымі зубамі, з тоўстай шыяй, з абрэзам у руках. Шукаюць кулака, якім мы яго ведаем з плакатаў. Але такіх кулакоў даўно ўжо няма на паверхні. Цяперашнія кулакі і падкулачнікі, цяперашнія антысовецкія элементы ў вёсцы—гэта большаю часткаю людзі «ціхія», «салодзенькія», амаль «святыя».

. . . Яны ніколі не скажуць—«далоў калгасы».

. . . Яны ніколі не скажуць—«далоў хлебазагатоўкі».

Наша мастацкая літаратура і гэта пытанне недастаткова адлюстравала ў сваёй творчасці. Я падаў толькі некалькі вытрымак з адной прамовы правадыра нашай партыі для таго, каб паказаць тую невычарпальную крыніцу, з якой наша літаратура можа чэрпаць незлічоныя багацці вучобы для сваёй творчасці, і наколькі вялікае адставанне нашай літаратуры ад асноўных задач нашага будаўніцтва.

Мастацкім разцом абавязаны мы ачышчаць сазнанне селяніна ад астаткаў прыватна-ўласніцкай іржы і адточваць яго соцыялістычнае ўспрыняцце. Перад пісьменнікамі і паэтамі стаяць у гэтым сэнсе гіганцкія задачы.

У нашай літаратуры не закрануты праблемы бацькаўшчыны і соцыялістычнай творчасці, у процілегласць буржуазнай бацькаўшчыне і радзіме.

Якія кнігі могуць быць названы, што поўна-б паказвалі жыццё нашай вялікай бацькаўшчыны? Такіх твораў наша літаратура яшчэ не мае. А якое шырокае поле дзейнасці для нашай літаратуры ў галіне ўспамінаў шырокіх мас і адлюстраванне іх у нашай літаратуры, у галіне неабмежаванай любові мільёнаў да сваёй соцыялістычнай бацькаўшчыны.

## Соцыялістычны рэалізм

Заклікаючы пісьменнікаў адлюстраваць у сваіх творах істотныя бакі сапраўднасці ў праўдзівых мастацкіх вобразах, лозунг соцыялістычнага рэалізма штурхае пісьменніка да актыўнага ўключэння ў барацьбу за комунізм, да сапраўднага вывучэння рэчаіснасці, бо, не вывучаючы аб'екту, нельга яго праўдзіва адлюстраваць. Актыўнае-ж уключэнне пісьменніка ў самую гушчу жыцця, вывучэнне нашай соцыялістнай эпохі, шчырае жаданне яго дапамагчы будаўнікам соцыялізма праўдзівым мастацкім адлюстраваннем сапраўднасці ў сваіх

творах—самым радыкальным чынам садзейнічае перабудове ўсяго светапогляду пісьменніка.

Непасрэднае практычнае ўключэнне пісьменніка ў вывучэнне соцыялістычнай сапраўднасці, актыўная барацьба яго за справу соцыялізма —гэта і ёсць найкарацейшы шлях да вышынь пролетарскай ідэалогіі: марксізма-ленінізма.

Шлях гэты ў кожнага з прадстаўнікоў мастацкай інтэлігенцыі своеасаблівы. Індывідуальныя якасці пасьменніка, яго біяграфія, асяроддзе, з якога ён вышаў, яго мастацкі талент і т. д.—усё тут іграе сваю ролю.

Так, напрыклад, Алексей Талстой ідзе да разумення нашай сапраўднасці праз гісторыка-матэрыялістычнае асэнсоўванне мінулага (раман «Петр I»), Янка Купала праз паэму «Над ракою Арэсай», Якуб Колас праз раманы «Дрыгва» і «Адшчапенец», Бядуля праз сваю аповесць «Язэп Крушынскі» і т. д.

Як на нашу думку трэба разумець пытанне аб перабудове пісьменніка?

Некаторыя думаюць аб перабудове, выходзячы з таго, колькі разоў пісьменнік заявіў, што ён не супроць калгасаў, што ён за пяцігодку, ці на аснове таго, што ён напісаў аб соцыялістычным будаўніцтве і расставіў усіх сваіх персанажаў згодна са штампам.

Не, гэта яшчэ далёка не перабудова. Нас цікавіць «нутро» твора, тэмпература яго, голас, якім гаворыць мастак, яго героі, а не голыя фатаграфіі. Нам патрэбна сапраўдная літаратура эпохі вялікага класа пролетарыята.

Пісьменнік павінен быць не палоннікам падзеі, стыхіі, фактаў, а гегемонам, гаспадаром іх. Факт-жа, што многія з нашых пісьменнікаў захлёбваюцца матэрыялам. Героі, створаныя мастаком, хапаюць за горла самога мастака, адводзяць яго ад праўды жыцця, ад нашай рэальнай соцыялістычнай сапраўднасці.

Перабудавацца—гэта значыць не падслухоўванне жыцця з боку, а ўключэнне ўсяго сябе ў нашу практыку, без астатку, рашуча парваўшы са старым «я», якое падточвае арганізм і цягне назад.

Раскрываючы праўду жыцця метадам соцыялістычнага рэалізма пісьменнік здолее даць сапраўды мастацкі твор змястоўнага і шматграннага жыцця Совецкай краіны.

Тыя творы, якія набліжаюцца да паказу гэтай вялікай героікі класа—ці то «Дрыгва» Коласа, ці «Над ракою Арэсай»—Купалы, ці «Бацькаўшчына»—Чорнага і інш. адлюстроўваюць сапраўдную перабудову пісьменніка і сведчаць аб тым, што пісьменнік толькі на аснове соцыялістычнага рэалізма, як метада адлюстравання нашай сапраўднасці, можа даць яркія творы.

Колас ілюструе сваю перабудову разваротам вялікага палатна партызанскага руху на Палессі. Ён паказвае гістарычную ролю нацдэмакратызма, чые інтарэсы ён сам раней абараняў. Абрэзамі Талаша, героя рамана «Дрыгва» і падпольшчыка Нявіднага Колас зацвярджае сябе на пазіцыях совецкай літаратуры.

Своеасаблівы шлях перабудовы Бядулі.

Бядуля прайшоў вялікі шлях ад нацыянал-дэмакратызма да разрыву з ім і да паказу контррэволюцыйнага твару нацдэмаў. У яго другой кнізе «Язэп Крушынскі» вы знойдзеце рад памфлетаў, накіраваных супроць нацдэмаўскіх інтэрвентаў.

Бядуля па-новаму глядзіць цяпер на свет. Ён бачыць тыя працэсы інтэрнацыянальнай салідарнасці, якія характарызуюць совецкую сапраўднасць.

Мы маем каштоўную спробу разгорнутага паказу класавай барацьбы і рэволюцыйнага руху ў Беларусі ў рамане К. Чорнага «Бацькаўшчына» (а К. Чорны ў мінулым таксама-ж быў пад уплывам нацыяналізма).

Шлях бедняка-селяніна Леапольда Гушкі, ад ідэй прыватнай уласнасці і спроб «устроіцца» ва ўмовах капіталізма—да пролетарскай рэволюцыі паказан ярка ў рамане К. Чорнага —«Бацькаўшчына».

Лозунг соцыялістычнага рэалізма штурхае пісьменніка да той перабудовы, узор якой я толькі што падаў.

Лозунг—соцыялістычны рэалізм—штурхае пісьменніка да **вывучэння сапраўднасці** (сапраўднасць гэта не мора для плавання, яе трэба вывучыць).

Дапасаваць метад соцыялістычнага рэалізма ў літаратурнай творчасці, гэта значыць: паказаць вялікую сілу, якая прывяла ў рух мільёны, сілу вялікай большэвіцкай партыі, правільна адцяніць гэтыя сілы і тую рэволюцыйную энергію, якая была выклікана Окцябрскай рэволюцыяй; абагуліць складанейшыя працэсы краіны Советаў, краіны былога жандарма капіталізма на ўсходзе, цяпер краіны перадавой ударнай брыгады сусветнага пролетарыята; паказаць краіну былых калоній, варварства, рабства, цяпер краіну росквіту нацыянальных рэспублік, вялікую бацькаўшчыну сусветнага пролетарыята, паказаць, як 60 мільёнаў жанчын—палавіна чалавецтва, адна шостая частка земнага шара пакончыла з праклятым мінулым і ўвайшла ў сям'ю роўна з мужчынам. Гэта значыць—паказаць сілу і магутнасць нашай партыі і ролю вялікага правадыра нашай краіны і прыгнечаных усяго свету.

Усё тэта па-мастацку рысуе гістарычную ролю перадавога класа, усё, што садзейнічае прасоўванню рэволюцыйнага класа ўперад—усё гэта праўдзіва, усё гэта—соцыялістычны рэалізм.

Соцыялістычны рэалізм—гэта паказ мільёнаў у будаўніцтве соцыялізма.

Перамога соцыялізма дала гіганцкі штуршок развіццю навукі, навукі новага маштаба як па глыбіні даследванняў, так і па размаху праяўлення нябачанага гераізму, па заваяванню яшчэ нязведаных для чалавецтва і неадкрытых з'яў. Гэты размах гераізму ў галіне навуковых глыбінь прыроды ў нашай мастацкай літаратуры не знаходзіць патрэбных слоў для яго адлюстравання. Слова гераізм, герой ужо з'яўляюцца недасканалым тэрмінам для паказу нябачанай адвагі і доблесці. Тут мы маем яўнае адставанне мовы ад тых зрухаў, якія створаны новым чалавекам, чалавекам соцыялізма.

Большэвік, ударнік, пяцігодка—гэтыя словы мастацкай літаратуры яшчэ не раскрыты. Гэтыя словы ўскрываюць змест цэлай эпохі і развіцця чалавечай гісторыі. Слова ўдарнік—можа быць вобразна параўнана з атамам, які пры расшчапленні вылучае найвялікшы зарад патэнцыянальнай энергіі,—так і раскрыццё ў мастацкай літаратуры слова ўдарнік дае вылучэнне найвялікшага зараду рэволюцыйнай энергіі.

Большэвік—як сінонім нараджэння новага чалавека, узыходзячага новага класа, які вядзе чалавечае грамадства да бяскласавага грамадства. Гэты сінонім яшчэ не падняты нашай мастацкай літаратурай.

Але мы, будаўнікі новага жыцця, мы яшчэ цягнем на сабе многа напластаванняў вякоў старой буржуазнай культуры, груз мінулых традыцый, навыкаў, думак, упітаных у наша сазнанне векавым гнётам, эксплаатуючымі класамі.

Усё гэта павінна быць ускрыта прама, ясна, глыбока, чулліва, так, каб захапляла ўсяго цябе, усю тваю свядомасць—вось такава задача нашай літаратуры.

## Пытанні ауладання літаратурнай спадчынай мінулага

Справа вывучэння культурнай спадчыны для нас—справа сугуба ідэйна-прынцыповая. Літаратурная спадчына ў нас яшчэ не распрацавана. Адсутнасць сур'ёзнага разбору і адбору літаратурнай спадчыны мінулага корміць аж да гэтага часу сяго-таго з нацдэмаўскіх элементаў.

Нацыянальная па форме, соцыялістычная па зместу наша культура будуецца з улікам неабходнасці крытычнага асваення культурнай спадчыны і скарыстання яе дэмакратычных і соцыялістычных элементаў. Аднак, гэтага палажэння нельга разумець у тым сэнсе, што совецкая культура з'яўляецца прадаўжэннем у эвалюцыйным сэнсе гэтага слова культуры буржуазна-нацыяналістычнай, як гэта імкнуліся даказаць нацдэмы. Соцыялістычная якасць нацыянальнай па форме культуры расце на аснове непрымірымай і паслядоўнай барацьбы супроць нацыяналістычных ухілаў ад генеральнай лініі партыі.

Ленін прыдаваў агромнае значэнне крытычнаму асваенню і перапрацоўцы пролетарыятам культурнай спадчыны мінулага. Ужо ва ўмовах дыктатуры пролетарыята Ленін пісаў, што

> «гвозд пытанняў у тым, каб ва ўмовах пролетарскай улады лепшыя дасягненні буржуазнай культуры сталі дасягненнем мас».
>
> «Толькі дакладным веданнем культуры, створанай усім развіццём чалавецтва, толькі перапрацоўкай яе можна будаваць пролетарскую культуру».

Калі Леніну ў гэтым пытанні прыходзілася не мала змагацца з ліквідатарскімі нігілістычнымі плынямі ў мастацтве, то Марксу і Энгельсу прыходзілася таксама не мала змагацца з аналагічнымі тэндэнцыямі «скідання класікаў з барта сучаснасці», не мала змагацца супроць усякіх тэорый адмаўлення ролі мастацтва ў барацьбе рабочых і працоўных мас за сваё вызваленне. З пункту гледжання асноўных задач, якія стаяць перад намі ў галіне асваення спадчыны мінулага, мы абавязаны кіравацца наступнымі ўказаннямі тав. Леніна:

> «У кожнай нацыянальнай культуры ёсць хоць-бы не развітыя элементы дэмакратычнай і соцыялістычнай культуры, бо ў кожнай нацыі ёсць працоўная і эксплаатуемая маса, умовы жыцця якой немінуча параджаюць ідэалогію дэмакратычную і соцыялістычную. Але ў **кожнай** нацыі ёсць таксама культура буржуазная (а ў большасці яшчэ чорнасоценная і клерыкальная)—прытым не ў выглядзе толькі «элементаў», а ў выглядзе пануючай культуры»...

Ставячы лозунг

> «інтэрнацыянальнай культуры дэмакратызма і сусветнага рабочага руху, мы з кожнай нацыянальнай культуры бяром толькі

яе дэмакратычныя і яе социялістычныя элементы, бяром іх **толькі і безумоўна** ў процілегласць буржуазнай культуры, буржуазнаму нацыяналізму кожнай нацыі» (т. XVIII, стар. 137).

Асабліва завострана гэта пытанне ў статуце саюза совецкіх пісьменнікаў. Яно пастаўлена, як адно з актуальнейшых пытанняў развіцця совецкай літаратуры на даным этапе.

У статуце зусім правільна ўказана, што социялістычны рэалізм склаўся ў рэзультаце «з аднаго боку крытычнага асваення літаратурнай спадчыны мінулага, і з другога боку—на аснове вывучэння вопыту пераможнага будаўніцтва социялізма і росту социялістычнай культуры».

Совецкая літаратура не з'явілася гатовай, яна наследвала і наследуе ўсё самае перадавое і лепшае, што створана было мастакамі мінулага. Цяпер, калі ў рады совецкіх пісьменнікаў усё больш шырокім фронтам уступае пісьменніцкі маладняк, які расце на нашых социялістычных будоўлях, на фабрыках, у соўгасах, ў калгасах,— з асаблівай сілай павінна быць падкрэслена задача крытычнага асваення літаратурнай спадчыны ў нас у Беларусі.

Каб вырашыць гэту задачу ў нашых умовах, трэба выкрыць і разбіць да канца яшчэ недабітыя астаткі контррэволюцыйнага нацдэмакратызма і іншых відаў буржуазнага ахвосця, даць правільны марксісцка-ленінскі аналіз, ацэнку спадчыны мінулага беларускай літаратуры.

У гэтых адносінах трэба весці бязлітасную барацьбу з усякімі астаткамі нацдэмаўскага «адраджанізма», асабліва з буржуазна-кулацкай «нашаніўшчынай». Справа ў тым, што і гістарычна, і з пункту гледжання класавага свайго зместу сучасны беларускі контррэволюцыйны нацдэмакратызм ідзе сваімі карэннямі ў «Нашу ніву», якая, як гэта вядома, праграмным лейтматывам сваёй дзейнасці абвясціла «служыць не толькі аднаму мужыку, але і пану і мужыку», якая ўсе сілы аддала прапагандзе ідэй адзінства беларускай нацыі ў мэтах закабалення беларускіх працоўных мас.

Вядома, што «Наша ніва» з'яўлялася ярым апалагетам і правадніком котррэволюцыйнай сталыпіншчыны, што ва ўздыме рабочага руху напярэдадні імперыялістычнай вайны яна ўбачыла толькі тое, што народ і прамыслоўцы разбураюцца і «бяднее краіна», што ў барацьбе супроць рэволюцыі яна пайшла на згоду з вялікадзяржаўнай вялікарускай контррэволюцыяй.

Вось як ў 1915 годзе ў «Нацыянальных праблемах», характарызуючы «нашаніўскі перыяд», пісаў Багдановіч:

«Беларускі народ (як і яго інтэлігенцыя) цалкам належыць да працоўных класаў насельніцтва. Таму абарона і падкрэсліванне нацыянальных праў беларускага народа—гэта абарона і падкрэсліванне праў працоўнага пласта края. Разуменне «нацыя» і «дэмократыя» ў дадзеным выпадку якраз супадае. Гэта пазбавіла беларускі рух ад паталагічных бакоў гэтак нярэдкіх ў нацыяналізме шматкласавых народаў».

Каб бачыць, якую культуру несла гэта «надкласавая» «Наша ніва», пададзім наступны прыклад: у «Нашай ніве», у артыкуле, прысвечаным «Калядам», мы чытаем:

«Шмат яшчэ і цяпер звычаяў, што адбываюцца ў дзень нараджэння Хрыста, захавалася і асталася ад паганскіх (багахвальскіх) часоў, але народ разглядае іх ужо як хрысціянскія звычаі. Сумна тое,

што за апошнія гады народ пачаў забываць звычаі сваіх дзядоў і нават сям-там і саромеецца іх. Трэба любіць мінулае дзеля мінулага. Таму што ў добрым мінулым народу ёсць моц, яго сіла, і калі народ любіць сваё мінулае, дык яго не так лёгка адолеюць (змацуюць) цёмныя сілы ворагаў».

З арсеналу «Нашай нівы», «адраджанізма» ў яе розных варыяцыях, «абагачаючы» яго, нацдэмы і нацапартуністы чэрпалі матывы і аргументы для барацьбы супроць пролетарскай рэволюцыі, для ідэалагічнай падрыхтоўкі рэстаўрацыі капіталізма і імперыялістычнай інтэрвенцыі.

І ў галіне культуры, літаратурнай крытыкі і гісторыі беларускай літаратуры нацдэмы аддалі пачэснае месца нашаніўству.

У сваім «кароткім» нарысе нацыянальна-культурнага адраджэння Беларусі, які вышаў у Менску ў 1921 годзе, Ігнатоўскі (як выявілася, агент польскай дэфензывы) прапагандаваў ідэю аб тым, што інтэлігенцыя—галава народу, што вёска ад шчырага сэрца прывітала сваю газету («Н.Н.») тым, што прыняла яе да сябе, і ў канцы дае нашаніўскую нацдэмаўскую «філасофію гісторыі» адраджанізма:

«Так праз цэлае 19-сталецце ішла памалу работа па адраджэнню Беларусі. Працавала шмат народу. Працавалі палякі, велікарусы і беларусы. Цяпер у нас маецца навучнае становішча і для будачага культурна-нацыянальнага руху. Якая будзе далейшая доля, залежыць цалкам ад нас—беларусаў. Мы павінны ўрэшце ўзяць справу ў свае ўласныя рукі. Магчыма думаць, што штандар руху дэмакратычны, што рух апіраецца на земляроба і работніка нашай зямелькі.

Ужо прачынаецца гэты працоўны люд Беларусі ад векавечнага сну. Настануць часы, калі ён працягне сваю мазолістую руку інтэлігенту, які падышоў да яго, вышаў з яго і прабудзіў яго. І пойдуць яны рука аб руку, крок у крок, шукаць сваёй лепшай долі і пэўна знойдуць яе. І ты, зямелька наша, многапакутная Беларусь, сустракаеш вясну свайго жыцця» (стар. 77).

У такім духу і кірунку разгарнулі сваю дзейнасць як «гісторыкі», так і «крытыкі» контррэволюцыянеры, буржуазна-кулацкія рэстаўратары Ігнатоўскія ўжо пры совецкай уладзе.

Так, напрыклад, у 1922 годзе ў брашурцы пра «Матывы лірыкі Чарота», выступаючы, як «літаратурны крытык» Ігнатоўскі цалкам абодвума нагамі стаіць на глебе ідэалогіі «Н.Н.». Ён прыкрывае свой буржуазны нацыяналістычны падыход да разбору творчасці Чарота такімі «азначэннямі», як «пролетарска-сялянскі настрой», «пролетарска-сялянскія інтарэсы» і т. д. З пазіцыі «нашаніўскага адраджанізма», якія завуаляваны пад выглядам «пролетарска-сялянскага адраджэння», Ігнатоўскі хваліць якраз найбольш слабыя і адмоўныя бакі творчасці Чарота ў мінулым—яго нацыяналізм, індывідуалізм і т. д. і зусім не прыцягвае ўвагі да таго новага, што ва ўмовах Совецкай Беларусі дана ў творчасці паэта і як паэт у сваёй паэме рве з мінулым («Босыя на вогнішчы») і т. д.

Дам некаторыя прыклады, якія сведчаць аб тым, як нацдэмаўскія погляды, па сутнасці таго-ж нашаніўскага характару, знайшлі сваё выражэнне ў розных работах па літаратурнай крытыцы і гісторыі беларускай літаратуры. Так, напрыклад, у «Літаратурна-навуковым весніку інстытута беларускай культуры» (нацдэмаўскае гняздо, як гэта відаць па большасці ўдзельнікаў) за 1922 год у № 1, які і носіць назву «Адраджэнне», што сведчыць аб яго палітычнай платформе, ёсць артыкул праф. Піотуховіча. Даволі прывесці адтуль некалькі

месц, каб упэўніцца, які кірунак і які характар дан у гэтым артыкуле разбору творчасці Коласа. Пачынаецца артыкул з «агульнай філасофіі».

«І тэорыя кожнага народу ёсць выяўленне нацыянальнага характара з боку волевага; літаратура ёсць выяўленне гэтага характара з боку інтэлектуальнага і галоўным чынам эмацыянальнага; у літаратуры адлюстроўваецца складаны комплекс мысляў і пачуццяў народу, гэта люстэрка яго ўнутранага жыцця, яго псіхікі».

Пасля гэтай шавіністычнай устаноўкі і ідэалістычнай папоўскай белібярды даюцца наступныя азначэнні творчасці Купалы і Коласа:

«Матыў абуджэння беларускага народу найбольш поўна выяўлен у творчасці Я. Купалы: ён прарок беларускага адраджэння, ён яго ідэйны правадыр. А вось у Я. Коласа мы знаходзім найбольш поўнае мастацкае выяўленне псіхікі беларуса, складу яго розума і сэрца».

Але што-ж тады ўяўляе псіхіка беларуса?

І Піотуховіч паказвае на дзве адзнакі:—«гэта лірызм і філасофская рэфлексія, задумлівасць».

А вось далей яшчэ больш разгорнута:

«З асаблівай напружанасцю народны розум накіраван на развязванне маральных пытанняў. Этычны крытэрый народ дапасоўвае да развязвання самых балючых для яго соцыяльна-эканамічных пытанняў».

Палітычны сэнс гэтай ідэалістычнай белібярды ясны. Хіба можна пасля гэтага гаварыць аб класавай барацьбе, аб класах і т. д. і т. п.

Робячы падобныя аперацыі над беларускім народам Піотуховіч і заключае, што ў творчасці Коласа «знайшлі сабе адлюстраванне галоўныя рысы беларускага народа»... «яго чуласць да хараства, пяшчотнасць думы, смутны настрой, які скрашваецца гумарам і, нарэшце, філасофская дапытлівасць розуму і здаровае сумленне» і што такім чынам «Якуб Колас сапраўды нацыянальны паэт».

Не дзіўна, што ў сваіх «Нарысах гісторыі беларускай літаратуры», якія выйшлі ўжо ў 1928 г., гаворачы аб творчасці Багушэвіча, Піотуховіч сцвярджае, што «ідэйны бок літаратурнай спадчыны Багушэвіча асабліва звяртае на сябе ўвагу ў **наш час,** калі пад сцягам пралетарскай рэвалюцыі закладаюцца магутныя падваліны культурна-нацыянальнага і соцыяльнага адраджэння Беларусі. **У думках Багушэвіча, паэта другога адраджэння, можна выявіць і першапачатковае адраджэнне, так сказаць эмбрыён тых ідэалаў, якія з'яўляюцца баявым лозунгам сёнешняга дня»** (падкрэслена много—Д. К.).

Лішнім было-б тут гаварыць аб характары гэтай ад пачатку да канца нацдэмаўскай фальсіфікацыі, якая мае толькі адну мэту—падмяняць беларускую соцыялістычную культуру буржуазна-нацыяналістычным «адраджанізмам», прамой зброяй у барацьбе за рэстаўрацыю капіталізма.

Напомнім яшчэ, што ў 1928 годзе ДзВБ выдала кнігу Клейнберга «Очерк современной белорусской литературы», у якой аўтар на працягу 500 старонак развівае непісьменную белібярду, якая ад пачатку да канца нам класава варожа і прадстаўляе сабою буржуазна-нацыяналістычную фальсіфікацыю горшага выгляду.

Ці варта падаваць прыклады? Такімі «перламі», як сцверджанне аб тым, што трэба трактаваць беларускую літаратуру «як асобны тып літаратурнага руху», што ў аснове яе своеасаблівасці **«ляжыць злітасць нацыянальнага і соцыяльнага моманта—рыса, характэрная для**

**лёсу гістарычнага развіцця Беларусі як такавога»** (падкрэслена аўтарам), ці што «асноўная плынь беларускай літаратуры ў нашаніўскі перыяд адпавядае рабоча-сялянскаму ядру літаратуры вялікарускай, высунутаму прафесіянальным і рабочым друкам, эпохай «Правды» і «Звязды» і т. д. і т. п. Гэтым напоўнена ўся кніга. Думаю, што каментарыі не патрэбны.

Наша барацьба за асваенне культурнай спадчыны, зразумела, нічога агульнага не мае з тым фактам, што буржуазны нацыяналізм шырока прапагандуе па пытанню асваення «літаратурнай спадчыны мінулага». У цяперашні час у краінах фашызма шырокая кампанія разгорнута на карысць рэстаўрацыі самага варварскага сярэдневяксўя. Насуперак здароваму сэнсу гістарычнага развіцця, фашысты імкнуцца павярнуць кала гісторыі назад. У інтарэсах панавання фашызма гістарычныя факты «мадэрнізуюцца» ў духу сучаснага нацыяналізма. Рад фашысцкіх літаратуразнаўцаў займаюцца тым, што выкопваюць з запыленых архіваў творчасць тых дзеячоў, якія змагаліся з рэвалюцыйным рухам. Яны гальванізуюць групу самых рэакцыйных пісьменнікаў, яны паднімаюць на шчыт такіх, як Адам Міллер, якога Маркс заклеймаваў як сікафіянта рамантыкі. Лепшыя творы класікаў літаратуры спальваюцца фашысцкімі культур-падпальшчыкамі, а нямецкі фашызм нават ухітрыўся такіх як Гетэ ператварыць у аднаго з прадшэственнікаў нацыянал-фашызма.

Мэтавая ўстаноўка фашысцкіх літаратуразнаўцаў ясная: не абектыўная гісторыя сапраўднасці ім патрэбна, не лепшае, што стварыла чалавечая мысль, таму што ўсё лепшае ў сусветнай літаратуры накіравана супроць самых асноў усёй сістэмы фашызма. Нацыяналістычная рамантыка мінулага непасрэдна змыкаецца з палітычным цяперашнім, з сучасным панаваннем фашызма. У процівагу фашысцкаму тлумачэнню мінулага і праблем гістарычных шляхоў развіцця «нацыі», «самабытнасці» яе і т. д. мы павінны разгарнуць бальшэвіцкую работу ў галіне асваення спадчыны.

Усё гэта высоўвае перад нашай беларускай літаратурай наступныя задачы:

а) па-першае, мы павінны даць разгорнутае выкрыццё ўсяго буржуазна-нацыяналістычнага «адраджанізма», асабліва «нашаніўства» і ўсяго нацдэмаўскага напрамку пасля Октябрскай рэвалюцыі, паказаць яго сапраўдны класавы, буржуазна-кулацка-рэстаўратарскі і інтэрвенцыяніцкі твар.

Неабходна вырваць з коранем усякія яго рэцыдывы, якія з'яўляюцца выражэннем адчайнага супраціўлення, асуджаных на канчатковую гібель недабітых астаткаў класавага ворага;

б) распрацаваць у святле тэорыі Маркса—Леніна—Сталіна пытанне аб спадчыне. У прыватнасці, калі пытанне ідзе аб такіх выдатных беларускіх пісьменніках, як Я. Купала, Я. Колас, З. Бядуля, Ц. Гартны.

Мы павінны з усёй выразнасцю аналізаваць розныя этапы ў іх творчасці і паказаць:

1) што складае буржуазна-нацыяналістычнае, нацдэмаўскае ў іх спадчыне і гэта выкрыць і ўскрыць іхнія класавыя карэнні (у перыяд «Н.Н.», доўгі час пасля Октябра і т. д.);

2) найлепшыя, рэвалюцыйна-дэмакратычныя элементы ў іхняй даоктябрскай творчасці (перыяд рэвалюцыі 1905 г. і г. д.) аналіз і класавыя карэнні і т. д.;

3) новыя зрухі ў іх творчасці на цяперашнім этапе; паказаць перабудову, ідэйна-творчы паварот у бок совецкай улады, соцыялістычнага будаўніцтва, як новы якасны бок, як пад'ём на новую вышыню лепшых элементаў іх мінулай творчасці і т. д.;

4) неабходна стварыць гісторыю беларускай літаратуры ў вытрыманым марксісцка-ленінскім асвятленні, правільна асвятліць яе розныя этапы, выкрываючы контррэволюцыйную нацдэмаўшчыну і паднімаючы на новую вышыню ўсе праблемы, звязаныя з барацьбой за соцыялістычны рэалізм і т. д.

Барацьба за ленінскае асваенне культурнай спадчыны набывае выключнае значэнне ў справе пастаноўкі сістэматычнай вучобы маладых пачынаючых пісьменнікаў. Неабходна прама заявіць, што вучоба пачынаючых і маладых пісьменнікаў пастаўлена наогул нездавальняюча.

Да гэтага часу саюз совецкіх пісьменнікаў не справіўся з арганізацыяй літгурткоў як у сэнсе колькаснага ахвату, так і з пункту гледжання якасці вучобы ў іх. Нездавальняюча працуе выпадковая літаратурная кансультацыя, якая, дзякуючы свайму павярхоўнаму, а часам і вульгарызатарскаму падыходу, не стварае спрыяючых умоў для творчага росту пачынаючых пісьменнікаў. Асабліва дрэнна стаіць справа па ўцягненню пачынаючых кадраў у сістэматычнае вывучэнне класікаў сусветнай літаратуры. Вучоба маладых—вузкае месца работы пісьменніцкіх арганізацый.

Добра было-б і мы ўсямерна гэта віталі-б, калі-б вопытныя нашы пісьменнікі ўзялі на сябе задачу папрацаваць сур'ёзна з літаратурным маладняком. Гэта робіцца недастаткова. Але і пры максімальным намаганні з іх боку адным ім не справіцца з гэтай справай, бо маладняка гэтага ў нас надзвычай многа, а пісьменнікаў, вопытных майстраў мы маем пакуль што мала. Пытанне аб культурным, мастацкім росце маладых пісьменніцкіх кадраў павінна быць пастаўлена шырэй. Праз усю сетку нашых культурных устаноў, праз газеты і часопісы, пры дапамозе ўсіх рычагоў культурнага будаўніцтва, мы павінны вырашыць гэту задачу—задачу дапамогі росту маладому пісьменніку.

## Праблема творчага метаду і паказ вобраза большэвіка ў літаратуры

Пазнаёміўшыся з паасобнымі творамі нашых пісьменнікаў, як «Дрыгва», «Адшчапенец»—Коласа, «Спалох на загонах»—Галавача, «На чырвоных лядах», «Апошні зверыядавец»—Лынькова і інш., трэба канстатаваць, што ўсе яны звязаны паміж сабою агульнай ніццю. Калі спачатку прачытаць «На чырвоных лядах»—Лынькова, а потым «Дрыгва»—Коласа і «Спалох на загонах»—Галавача, то атрымаецца агульная карціна гісторыі росту самасазнання. У Лынькова мы сустракаем такіх герояў, якія перакачавалі ў «Дрыгву». Так, напрыклад, Сямён у Лынькова перарос у Коласавага партызана Талаша, Лынькоўскі Іван Іванавіч вызваліўся ад вузкай вясковай абмежаванасці, уступіў у партыю і стаў Нявідным у рамане «Дрыгва» Коласа. Партызаны Палесся, якія абмяркоўваюць у лесе паход на палякаў, моцна зацвердзіліся ў «Адшчапенцы», пайшлі ў калгас у «Спалоху на загонах»—Галавача.

Наша эпоха ў гэтых творах адлюстравана ў радзе месц вельмі ярка. Чытаючы гэтыя творы, знаёмішся з ходам класавай барацьбы і ходам соцыялістычнага будаўніцтва Беларусі.

Чаму так вышла, што ўсе творы паміж сабою звязаны агульнай ніцю?

Творчая мысль совецкага пісьменніка працуе ў адным напрамку. Пісьменнік імкнецца рэалістычна паказаць соцыялістычнае будаўніцтва. Якой-бы праблемы нашы совецкія пісьменнікі не імкнуліся вырашыць, яна заўсёды будзе звязана паасобнымі ніцямі у той ці іншай ступені з іншымі ўжо існуючымі творамі. Гэта сувязь будзе тым мацней, чым больш моцна творчасць паасобных пісьменнікаў звязана з агульнасцю іх светапогляду. У даным канкрэтным прыкладзе сувязь названых твораў з'яўляецца рэзультатам іх агульнага імкнення адлюстраваць у мастацкай форме развіццё рэволюцыйных сіл, перамогі пролетарскай рэволюцыі і трыумф палітыкі партыі на фронце соцыялістычнага будаўніцтва.

Нашы празаікі—Колас, Бядуля, Гартны, Лынькоў, Галавач, К. Чорны, Крапіва, Самуйлёнак, Мікуліч, далі па-мойму рад таленавітых кніг, адлюстроўваючых ход развіцця нашай рэволюцыі. Іх творы з'яўляюцца сяр'ёзнымі мастацкімі творамі ў нашай літаратуры.

З усяго комплексу творчых пытанняў нашай лтаратуры, дазвольце мне вылучыць адно выключна важнае пытанне—пытанне аб паказу кіруючай ролі нашай партыі і паасобных яе членаў на тым ці іншым участку соцыялістычнага будаўніцтва. Большэвік—гэта вядучы чалавек нашай эпохі, гэта кіраўнік і арганізатар мільённых мас за будаўніцтва новага жыцця, за пераробку сазнання людзей. Па-мастацку адлюстраваць большэвіка—гэта значыць паказаць сілу перамогшага класа, сілу і магутнасць нашай слаўнай партыі. Вобраз большэвіка так, як ён ёсць, як ён жыве і змагаецца за новае жыццё, нашай мастацкай літаратурай яшчэ не дан. Гэта не значыць, што совецкі пісьменнік абыходзіць гэты вобраз. Гэты вобраз пападаецца ў многіх вашых творах. Не гледзячы на гэта, на жаль, не можам назваць ніводнага вашага твора, які даў-бы поўнацэнны вобраз большэвіка. У тых творах, у якіх пішуць пра члена партыі, пра яго рабсту, пра яго барацьбу з класавым ворагам, ён, як правіла, не паказан як поўнацэнны чалавек і адлюстроўваецца неяк аднабакова, няпоўна, суха і фармальна, або на хадулях рыторыкі.

Большэвік у нашай літаратуры часта паказваецца, як саматужнік-адзіночка і далёкі ад мас.

Але-ж будаўніцтва соцыялізма ў нашай краіне ідзе пад кіраўніцтвам нашай партыі і канкрэтна ажыццяўляецца паасобнымі комуністамі. **Першая задача нашай літаратуры**—паказаць вобраз нашага комуніста! Недаацэньваць кіруючай ролі партыі і комуніста—гэта значыць скажаць сапраўднасць, гэта значыць стаяць «у баку ад класа». Усякія сцверджанні аб асваенні метаду соцыялістычнага рэалізма нашай літаратурай без рэальнага адлюстравання большэвіка-ўдарніка, комсамольца, калгасніка не будзе мець пад сабой глебы і гэта будзе далёка ад соцыялістычнага рэалізма сапраўднасці.

У класікаў марксізма мы можам многаму павучыцца ў гэтым кірунку.

У 1924 годзе тав. **Сталін** паставіў пытанне аб стылі ленінізма, які заключаецца ў злучэнні двух асаблівасцей—рускага рэволюцыйнага размаху і амерыканскай дзелавітасці. Увесь гэты перыяд ішла ўпорная барацьба за тое, каб гэты стыль стаў галоўнай рысай большэвіка, і гэты стыль стаў галоўнай асаблівасцю большэвіка. Адзін з самых моцных бакоў большэвіка—яго арганізацыйная дзеянасць разам з палітычнай празорлівасцю.

Вельмі рэзка на XVII з'ездзе партыі тав. **Кагановіч** падкрэсліў:

> «Галоўны прызнак партыйнасці большэвіка—роля авангарднага байца за соцыялістычныя адносіны да працы, роля арганізатара соцыялістычнага спосабу вытворчасці ў прамысловасці і ў сельскай гаспадарцы».

Толькі кіруючыся гэтымі паказаннямі ў сваёй творчай дзейнасці, наша літаратура здолее даць мастацкі вобраз большэвіка.

Вобраз большэвіка ў беларускай літаратуры мае сваю гісторыю. За гэты вобраз пісьменнікі браліся для розных класавых мэт.

Адны браліся за паказ вобраза большэвіка для больш праўдзівага і глыбокага паказу сапраўднасці. Другія—для паклёпу на яе, для кампраметацыі большэвіка. Да ліку апошніх адносіцца спроба Цішкі Гартнага ў яго творы «Здарэнне з камісарамі», некаторыя спробы ранняга Зарэцкага. Для гэтых пісьменнікаў таго часу характэрна было паказаць большэвіка, як размякшага інтэлігента, рэфлектуючага, слінявата.

Іменна да першых трэба аднесці разглядаемых мною аўтароў—Коласа, Лынькова, Галавача, якія сёе-тое ўжо зрабілі, каб дабіцца правільнага адлюстравання большэвіка, як кіраўніка соцыялістычнага будаўніцтва, працуе над гэтым вобразам і Цішка Гартны («Наступ на горны»).

У дакладах і спрэчках на з'ездзе наша крытыка і пісьменнікі ўжо адзначалі, што Я. Колас не даў поўнацэннага вобраза большэвіка. Я таксама схілен канстатаваць, што ў паказе большэвіка Нявіднага ёсць павярхоўнасць і адсюль зацямненне ролі партыі ў кіраўніцтве партызанскім рухам на Беларусі, як і грамадзянскай вайной.

Роля большэвіка ў «Дрыгве» Коласа значна прыніжана ў параўнанні з іншымі яго героямі «Дрыгвы». Большэвік Нявідны слаба відзен, а дзе ён відзен, як кіраўнік партарганізацыі, то ён мае выгляд па меншай меры, нявопытнага падпольшчыка.

**Міхась Лынькоў** у рамане «На чырвоных лядах» разгарнуў шырокае палатно. Гэты раман мастацкі не дрэнна паказвае рост класавых супярэчнасцей у дарэволюцыйнай вёсцы і ў мястэчку і ярка паказвае нарастанне рэволюцыйных сіл. У рамане відаць майстра, які дэтальна вывучыў дарэволюцыйны перыяд беларускага мястэчка і вёскі.

Да недахопаў твора трэба аднесці наступныя моманты: пісьменнік астаўся ў палоне вузкай вясковай тэматыкі, хоць у радзе месц тонка, па-майстэрску, аволодаў псіхалогіяй бедняка, серадняка і кулака. Зусім слаба паказаны ніці, якія ідуць з горада і ўплыў горада на дыферэнцыяцыю сялянства. Не ўскрыты пружыны самадзяржаўнага гнёту і нацыянальнай розні ў мястэчку. Станоўчае ў аўтара—гэта спроба паказаць рост рэволюцыйнага самасазнання рабочага ў асобе Івана Іванавіча.

Асноўны недахоп кнігі—грамоздскасць галярэй вобразаў, на што зусім правільна ўказаў Колас у яго крытыцы. Раман сур'ёзны, глыбокі, але, на жаль, нашай крытыкай слаба даведзен да шырокага чытача.

Лынькоў таксама не адалеў вузкай абмежаванасці свайго большэвіка Анатоля з аповесці «Апошні зверыядавец».

Гэта яркі, мастацкі твор аб рабочых на вытворчасці, аб рабочым быце, аб складанай абстаноўцы класавай барацьбы на заводзе ў

правінцыі. У гэтай аповесці пісьменнік паказвае суровы жорсткі быт, у якім моцна яшчэ спадчына мінулага (антысемітызм, п'янка, шкодніцтва дырэктара—былога белага афіцэра) і адначасова паказвае барацьбу супроць старога з боку растучага і мацнеючага новага. Не дрэнна паказана роля партыйнага кіраўніцтва, не публіцыстычна, а ў мастацкіх жывых вобразах; бальшэвік Анатоль, які выкрыў дырэктара, былога белага афіцэра, паказан рэалістычна, праўдзіва. Але і ў гэтым не дрэнна паказаным большэвіку Лынькоў дапусціў рад зрываў.

Як твор, які адлюстроўвае пачатковы перыяд калектывізацыі, «Спалох на загонах» **Галавача,** як па глыбіні аналіза, так і па шырыні пастаўленых ім праблем, безумоўна стаіць вышэй за многія творы, закранаючыя гэтую-ж тэму. Галавач у сваім творы падыходзіць да вырашэння праблемы калектывізацыі з пункту гледжання пралетарыята і яго кіраўніцтва. Пісьменнік стараецца паказаць труднасці арганізацыйнага перыяду не толькі на вёсцы, але і паасобныя хістанні, выкліканыя ў паасобных праслойках рабочага класа і партыі.

Успомніце, як сакратар райпарткома Сідар прымаў за жарт хістанні Кліма, не ўваходзячы ў сутнасць гэтых настрояў. Падобнае кіраўніцтва, як вядома, прывяло да тых перагібаў, аб якіх тав. **Сталін** пісаў у сваім артыкуле—«Галавакружэнне ад поспехаў», указваючы на адмоўныя бакі кіраўніцтва вёскаю.

Але ў гэтым рамане паказ большэвіка вельмі слабы. Аўтар выпусціў з-пад увагі арганізацыйную ролю партыі на вёсцы. Асабліва рэльефна гэта можна прасачыць па Панасу—кіраўніку арганізацыяй калгасаў, які паказан у большай ступені як агітатар, і то часамі палітычна непісьменны, а яго арганізуючая роля ў арганізацыі калгасаў не відна.

Самаўпэўненасць Панаса не падмацавана ні масавай, ні палітычна-арганізацыйнай работай.

Але прыгледзімся бліжэй да агітацыі Панаса за калгасны лад. Яна не выходзіць з рамак агульных слоў, як, напрыклад: «лепшае жыццё будзе, дзядзька». У сваіх довадах за калгасны лад Панас выходзіць з практычнага жыццёвага вопыту самога селяніна. Для яго прамоў і размоў характэрна агульшчына, а не большэвіцкая канкрэтнасць, выцякаючая з канкрэтнасці жыцця самога сялянства. Ясна, што такой агітацыяй за калгаснае жыццё Панас дасягаў малога, не гледзячы на тое, што ў яго заўсёды было жаданне «трэба сказаць ім так, каб зразумелі, што для іх, для іх жыцця хачу лепшага». Ясна, што такой агітацыяй ён не мог супроцьстаяць кулацкай агітацыі.

Некалькі слоў пра пісьменніка Эдуарда **Самуйлёнка.** Наша крытыка ўпорна ўхіляецца ад ацэнкі гэтага пісьменніка, выкручваецца такімі разважаннямі, што Самуйлёнак малады растучы пісьменнік. Я павінен да гэтага дадаць, што гэта не толькі малады растучы, але і таленавіты пісьменнік. Паказ большэвіка ў Самуйлёнка сведчыць аб удумлівай рабоце аўтара.

Самуйлёнак не дрэнна паказаў рост фашызма і карэнні фашызма, паказаў як фашызм разбураецца і гніе на корані. У яго герої Пфэц-Добравольскі ён гэта разбурэнне паказаў не дрэнна. З пафасам і цеплынёй паказвае смерць большэвіка Дроба.

Самуйлёнак у сваёй кнізе «Тэорыя Каленбрун» не толькі дае гістарычны раман аб рабоце падпольнай арганізацыі ў фашысцкай краіне. Ён паказаў як працуюць нашы таварышы ў краінах фашызма цяпер.

Гэты твор з'яўляецца каштоўным укладам у беларускую літаратуру. у якой класавая барацьба на Захадзе мала паказана. Гэта, зразумела, не значыць, што ў творы Самуйлёнка няма недахопаў. Займальнасць гэтай кнігі часта ідзе за лік паглыбленага псіхалагічнага паказу вобраза і быта.

## Аб паэзіі

Калі ў галіне прозы мы канстатуем адставанне, то ў галіне паэзіі гэта адставанне яшчэ больш відавочна. Праўда, рост паэзіі да апошняга часу бясспрэчны. Гэты рост сапраўдны. Ён ідзе як па лініі ідэйнага зместу, так і па лініі аўладання паэтамі мастацкім майстэрствам, майстэрствам паэтычнага слова, вобраза.

Апошнія гады вызначыліся паяўленнем значных твораў савецкіх і пролетарскіх паэтаў. Досыць назваць імёны **Янкі Купалы, Александровіча, Харыка, Кульбака, Броўкі, Глебкі, Куляшова, Аксельрода, Камянецкага, Тэйфа, Кавальскага** і многіх іншых. Асоба трэба адзначыць у гэтай сувязі буйны твор **Янкі Купалы**—«Над ракою Арэсай»—твор аб перамагаючай сіле социялістычнага будаўніцтва. Гэта твор вялікай мастацкай сілы, вялікага майстэрства. Ён ярка сведчыць аб каласальным значэнні савецкай социялістычнай тэматыкі ў справе перавыхавання старога пакалення пісьменнікаў, у справе перагляду імі сваіх светапоглядных творчых пазіцый. Ён яркі доказ сілы социялістычнага рэалізма, як асноўнага метаду савецкай літаратуры. Ён паказвае, што калі пісьменнік чэсна, сур'ёзна адносіцца да фактаў і з'яў нашай социялістычнай сапраўднасці, сур'ёзна прыглядаецца да іх, вывучае іх, то ён неміnуча ідзе да нас.

Аднак, як-бы высока не ацэньвалі гэтага твора, усё-ж нельга цалкам згадзіцца з радам крытыкаў у ацэнцы яго. Купалу ў гэтым творы яшчэ шмат чаго не хапае. Не хапае яму ўсебаковага і глыбокага падыходу да з'яў социялістычнай сапраўднасці, ахвату яе. Не хапае ў гэтым творы той паэтычнай сілы, якая ўласціва лепшым яго дарэволюцыйным вершам. Калі ў паэме «Над ракою Арэсай» адчуваецца значная лірычная цеплыня ў абрысоўцы савецкіх людзей, з'яў савецкай сапраўднасці, то ў ёй усё-ж недастаткова адлюстраваны сілы размаху, уласцівага социялістычнаму будаўніцтву, адсутнічае паказ арганічнай сувязі ўчастку «Над ракою Арэсай» з усёй сістэмай социялістычнага будаўніцтва.

У сваім уступе да паэмы Янка Купала з вялікай сілай па-мастацку адлюстроўвае тое новае, што ўнесла рэволюцыя ў быт і сазнанне людзей, пераробку чалавека Палесся, барацьбу за новае жыццё. Прыглядаючыся да новага жыцця, новых людзей, Янка Купала адкрывае многае, што для яго да гэтага часу было скрыта.

Янка Купала, пераацэньваючы свае каштоўнасці, ушчыльную набліжаючыся да социялістычнага будаўніцтва, упершыню пачуў песні комунараў, песні, якія ведае новае Палессе, новая калгасная вёска.

Успамінаючы цяжкае жыццё мінулага, дарэволюцыйную Беларусь, паэт, на жаль, абышоў рост рэволюцыйнай самасвядомасці сялянства і праяўлення класавай барацьбы.

Жывуць людзі ў хатах,
Плятуць сабе лапці,
Каб з торбай у латах
Пайсці жабраваць.

Праз леты і зімы
Паданне йшло ў векі:
— Паляшукі мы,
А не чалавекі.

Сапраўднасць была іншая. Паляшук не толькі лапці плёў і не толькі жабраваў, але і вёў класавую барацьбу з самадзяржаўем і памешчыкамі.

Або, паказваючы разварот соцыялістычнага будаўніцтва, паэт зводзіць паляшука да пасіўнага гледача, а не актыўнага барца.

Не дабачыў паляшук
З хаты беззаконнай
Дзён, надыходзячых без мук,
Без трудоў прыгонных.

Паляшук не толькі бачыў прыход гэтых вялікіх дзён перамогі Совецкай Беларусі, але ён асабіста актыўна ўдзельнічаў у гэтай барацьбе з ворагамі совецкай улады.

Таксама не менш памылковы погляд паэт паказаў у выступленні старшыні комуны Модзіна. Прывядзем выступленне Модзіна на сходзе комунараў:

Ліквідуйце гаспадаркі—
Парасят, авечак, коні,
І прыводзьце у комуну,
Комунаркі, хоць сягоння.
Хто жанаты, вязі жонку—
Без падушкі ці з падушкай.
Хто не мае жонкі, звонку
Пашукай сабе падружку.

Модзін тут агітуе за дробнабуржуазную ўраўнілаўку, аб чым тав. **Сталін** гаварыў на XVII з'ездзе партыі, як «аб самым слабым баку комуны».

Не гледзячы на ўсе гэтыя паасобныя памылкі, якія ёсць у паэме Янкі Купалы «Над ракою Арэсай», яна з'яўляецца адным з лепшых твораў Совецкай Беларусі. Паэт паказаў, як змянілася палескае балота, самы адсталы куток царскай калоніі. Палессе балот, каўтуноў, гразі, здзічэння, і як на гэтым балоце вырасла комуна. У гэтым творы Янка Купала паказвае таксама сваю ўласную рашучую перабудову. Як цёпла гучаць словы паэта аб перамозе соцыялізма на Палессі:

А па рэчцы па Арэсе
Бегае «маторка»,
Стары човен як карыта
Пазірае горка.
Дажывае свайго веку
На яве ўжо новай,
Бо ўжо човен у Палессі
Ўрэзаўся сталёвы.

Астаецца пажадаць, каб Янка Купала паказаў, як «сталёвы човен» плыве далей па шляху соцыялістычнага будаўніцтва Беларусі, і будзем верыць, што Янка Купала апраўдае словы, ім-жа сказаныя:

Ды час прыдзе, ды паклічуць
Да новай работы,
Пойдзем асушаць з вінтоўкай
Пінскія балоты!

Паэт Купала, як верны сын калгаснага сялянства, асвядоміўшы ролю рабочага класа, як гегемона пролетарскай рэволюцыі, вышаў на шырокую дарогу, якая вядзе яго ў адным толькі напрамку—да соцыялізма.

Аднак, трэба адзначыць, што працоўныя масы, рабочыя і калгаснікі чакаюць ад Купалы больш актыўнага і жывога водгуку на запатрабаванні, адпавядаючыя сучаснаму этапу соцыялістычнага будаўніцтва [1]).

Паэт **А. Александровіч** з'яўляецца адным з выдатных пролетарскіх паэтаў. За гэтыя годы ім напісаны такія творы, як: «Хлебная зіма», «Векапомная восень», «Шчаслівая дарога», «Песня пролетарскай еднасці» і т. д.

Для Александровіча характэрна яго жывая адзыўчывасць на баявыя задачы партыйнай палітыкі. Прычым адзыўчывасць не на шкоду яго мастацкаму росту. Такія яго творы, як «Песня пролетарскай еднасці», «Векапомная восень», «Шчаслівая дарога» з'яўляюцца выдатнымі і ў мастацкім сэнсе ў творах беларускай паэзіі апошніх год.

Асаблівасцю Александровіча з'яўляецца тое, што ён тэм для сваёй паэзіі не выдумляе, падобна некаторым іншым, бярэ іх з жывой практыкі класавай барацьбы, з жывой практыкі соцыялістычнага будаўніцтва.

Ён не грэбуе пісаць на тэму аб загатоўках, ён умее любое, закранутае ім пытанне, падаць у мастацкіх вобразах значнай сілы. Ён не грэбуе паказаць у мастацкіх формах новых форм кулацтва, выкрыць яго; заклікаць чытача да масавай пільнасці; апяяць правадыра партыі; паказаць інтэрнацыянальнае адзінства працоўных СССР.

Творчасць Александровіча не з'яўляецца «простым» «адлюстравальніцтвам». Яна класава актыўна, партыйна завострана, заклікаючая і бадзёрачая. Да таго-ж яна і праблемная. «Шчаслівая дарога» з'яўляецца значнай паэмай для данага этапа соцыялістычнага будаўніцтва. Паэма «Шчаслівая дарога» цікавая, займальная і з'яўляецца каштоўным мастацкім падаркам нашым дзецям.

Рост Александровіча ў прыватнасці і выражаецца ў яго рэалістычным аналізе з'яў, у яго пранікненні ў глыб з'яў, людзей, не ў іх знадворнай абрысоўцы, а знутры.

Аднак, варта адзначыць рад недахопаў, якія ёсць у творчасці Андрэя Александровіча. У гэтых адносінах варта вылучыць пытанне, якое з'яўляецца актуальным пытаннем у творчасці Андрэя Александровіча. Справа ідзе аб паказу сапраўдных людзей—будаўнікоў соцыялізма. Не гледзячы на рост герояў Александровіча, усё-ж трэба прызнаць, што паказаць ў мастацкіх вобразах рабочага-ўдарніка,

---

[1]) Мы павінны адзначыць далейшую творчую актывізацыю Янкі Купалы. За апошні час Я. Купала надрукаваў рад вершаў „Чэлюскінцам", „Трэба нам песні", „Наша канстытуцыя" і т. д.), якімі ён уключаецца ў баявыя актуальныя тэмы соцыялістычнага будаўніцтва.

члена партыі, комсамольца, Александровічу не ўдалося. Бадай усе героі яго значных твораў хварэюць на той ці іншы дэфект.

Слаба актывізуецца такі выдатны паэт, як **Міхась Чарот.** Чарот з'яўляецца аснавальнікам рэволюцыйнай пролетарскай паэзіі ў Беларусі. Рад яго твораў, як «Босыя на вогнішчы», «Суровы прыгавор падпісваю першым» да гэтага часу астаюцца выдатнымі творамі беларускай паэзіі. Партыя, рабочы клас ад яго патрабуюць паэтычнай творчасці і не адпачываць на дасягнутым. І тут трэба кінуць сур'ёзны папрок 'аргкамітэту, які мала зрабіў для актывізацыі Чарота, для стварэння яму адпаведнай абстаноўкі і ўмоў творчай работы.

У творчасці **П. Броўкі** варта адзначыць актуальнасць, палітычную завостранасць, ідэйную мэтанакіраванасць. Гэта асноўная палітычная якасць яго твораў. Броўка—паэт чулы да совецкай сапраўднасці. Ён, падобна Александровічу, умее браць жыццёвыя тэмы, праблемы і пытанні, хвалюючыя мільёны будаўнікоў соцыялізма. Ён умее схватваць жыццёвую сапраўднасць і браць у ёй значныя жывыя пытанні, умее іх ставіць, і ў радзе выпадкаў палітычна правільна іх вырашаць. Гэта якасць вельмі істотная для паэта.

Мы лічым, што яго верш «Наша бацькаўшчына СССР» з'яўляецца вельмі актуальным у справе соцыялістычнага выхавання працоўных мас. Тое самае і ў дачыненні да паэмы «Так пачыналася маладосць»—паэмы пра героіку комсамольскага падполля, якая з'яўляецца значным укладам у совецкую паэзію. Пры ўсіх станоўчых якасцях Броўкі, як паэта, яго творы носяць сляды недапрацоўкі, часамі недастаткова сурёзнага і глыбокага вывучэння матэрыялу, асэнсоўвання яго.

Крыху інакш прыходзіцца гаварыць аб паэтах **Глебку і Хведаровічу.** Глебка з'яўляецца адным з даволі паэтычна-пісьменных паэтаў, у мінулым даволі творча актыўным. Рад яго твораў, напрыклад, паэма «Арлянка» з'яўляецца значнай паэтычнай каштоўнасцю. Аднак, паэт Глебка цвёрды ідэйна-творчы шлях толькі намацвае, аб чым сведчаць яго апошнія некаторыя вершы, як «Пра вясну і рэволюцыю», які носіць на сабе груз не нашай рамантыкі.

Нельга сказаць, каб верш «Кара», напісаны тав. Глебка на смерць члена ЦК КПП тав. Рэдыко, быў пазбаўлен сур'ёзных недахопаў.

Глебка слаба разумее класавы сэнс той барацьбы, якую вёў тав. Рэдыко, як член комуністычнай партыі.

І ты,
Калі быў на Мловай
Падняты чорвоны сцяг,
Пайшоў ваяваць за права
На роўную долю жыцця.

Уся гэта сентыментальна-народніцкая лексіка «за права на роўную долю жыцця» яўна не да твару комуністу.

Тав. Глебку варта больш удумчыва вывучаць совецкую сапраўднасць, жывую практыку мільёнаў, жывое жыццё, якія апладзілі-б яго і тэмамі, і вобразамі, і ідэямі.

Аб **Хведаровічу**—не гледзячы на рост гэтага паэта, яго паэтычная індывідуальнасць яшчэ не зусім ярка акрэслена, не вызначана.

Апошнія творы Хведаровіча «Палітаддзел МТС» нельга, вядома, не вітаць. Хведаровіч, пры агульным замоўчванні гэтай тэматыкі, узяўся за гэту тэму і ў асноўным яе распрацаваў. Вялікі недахоп гэтага верша—неглыбокае вывучэнне і веданне паэтам палітаддзела,

як партыйна-выхаваўчага органа партыі на вёсцы. Ён успрыняў ролю палітаддзелаў МТС крыху павярхоўна. Палітаддзел МТС у Хведаровіча з'яўляецца ў калгасе «любімым гасцём». Тав. Хведаровічу трэба ўважліва ўлічыць заўвагі, зробленыя яму паасобнымі пісьменнікамі на з'ездзе.

З маладых, асабліва комсамольскіх паэтаў, трэба адзначыць таленавітага паэта **А. Куляшова.** У пошуках уласнага паэтычнага шляху ён нярэдка спатыкаецца («Аманал»), але ў ім ужо адчуваецца арыгінальная паэтычная сіла.

*(Працяг будзе)*

**В. Чэрнышоў**
Сакратар Барысаўскага РК КП(б)Б

# Першыя крокі перабудовы работы Барысаўскай партарганізацыі

Большэвізм на працягу ўсёй сваёй гісторыі прыдаваў агромнае значэнне арганізацыйнаму пытанню. Варта толькі ўспомніць артыкулы **Леніна** ў пачатку XX стагоддзя ў «Искре», прысвечаныя арганізацыйным пытанням, каб зразумець, якое значэнне прыдавалі большэвікі арганізацыйным пытанням у процівагу эканамістам, меншавікам і ўсякага роду апартуністам. Адзіная, стройная і паслядоўная лінія ідзе ад першых ленінскіх артыкулаў, прысвечаных арганізацыйным пытанням у «Искре» і «Што рабіць», да абгаварэння гэтага пытання на XVII партз'ездзе, да дакладаў **тт. Сталіна і Кагановіча.**

Формы і метады партыйнага кіраўніцтва змяняюцца ў залежнасці ад канкрэтнай гістарычнай абстаноўкі і тых задач, якія з гэтай абстаноўкі выцякаюць.

> «Партыя рэволюцыйнага марксізма ў корані адмаўляе пошукі абсалютна правільнай, годнай для ўсіх ступеней рэволюцыйнага працэсу, формы партыйнай арганізацыі, а таксама і метадаў яе работы. Наадварот, форма арганізацыі і метады работы цалкам вызначаюцца асаблівасцямі данай канкрэтнай гістарычнай абстаноўкі і тымі задачамі, якія з гэтай абстаноўкі непасрэдна выцякаюць» (з рэзалюцыі X з'езда ВКП(б) аб партбудаўніцтве).

На XVII партз'ездзе арганізацыйнае пытанне было паднята ў дакладах тт. **Сталіна** і **Кагановіча** на агромную прынцыповую вышыню, адпаведна той новай ступені развіцця матэрыяльных прадукцыйных сіл нашай краіны, якую мы маем зараз, адпаведна тым агромным палітычным і гаспадарчым задачам, якія стаяць перад намі

На XVII партз'ездзе ў сваім адчотным дакладзе—праграме вялі-
ў другой пяцігодцы.
кіх работ—правадыр нашай партыі і сусветнага пралетарыята тав. **Сталін** так вызначыў задачы ў галіне **арганізацыйнай работы:**

> «1) Падняць і ў далейшым нашу арганізацыйную работу да патрабаванняў палітычнай лініі партыі;
>
> 2) Падняць арганізацыйнае кіраўніцтва да ўзроўню палітычнага кіраўніцтва;
>
> 3) Дабіцца таго, каб арганізацыйнае кіраўніцтва поўнасцю забяспечвала правядзенне ў жыццё палітычных лозунгаў і рашэнняў партыі».

Перабудова па сутнасці—гэта ліквідацыя ўсякіх непатрэбных прамежных звенняў паміж кіраўніком пярвічнай партарганізацыі і кожным комуністам у паасобку. Бачыць заўсёды ў сваёй рабоце жывога чалавека, працаваць, выходзячы з інтарэсаў яго палітычнага выхавання, належным чынам кіраваць ім—вось якая задача.

«Цэнтральнай і галоўнай задачай»,—сказаў т. **Кагановіч**,—«партыйнага кіраўніцтва з'яўляецца ажыццяўленне кіраўніцтва членамі партыі і праз усю масу членаў партыі мільёнамі рабочых і сялян. Таму член партыі павінен стаяць у цэнтры работы партыйных арганізацый... Рост членаў партыі залежыць ад пастаноўкі ўнутрыпартыйнай работы, залежыць ад увагі да члена партыі і ад таго, як ім кіруюць».

Гэтыя геніяльнейшыя ўказанні тав. **Сталіна** і тав. **Кагановіча** павінны быць пакладзены ў аснову перабудовы работы партыйных арганізацый.

Памятуючы гэта, большэвікі Барысаўшчыны і прыступілі да перабудовы партыйнай работы.

* * *

Адно з асноўных рашаючых звенняў, за якое мы ўхваціліся ў сувязі з перабудовай партработы, гэта правядзенне партдня. Тав. **Кагановіч** указаў:

«Кожны партыйны сход павінен павышаць ідэйны ўзровень комуніста. Член партыі абвучаецца і павінен абвучацца на партыйных сходах большэвізму не менш, калі не больш, чым у партыйнай школе».

Першы адзіны партдзень па-новаму мы правялі па пытанню аб статуце партыі. На гэтым партдні не было агульнага даклада, а на сходзе слухаліся адчоты паасобных комуністаў аб тым, як яны ўсвоілі і праводзяць у жыццё новы статут партыі, як выконваюць абавязкі комуніста і як захоўваюць найстражэйшую партыйную, працоўную і дзяржаўную дысцыпліну, як працуюць над павышэннем сваёй ідэйнай узброенасці, як авалодваюць тэхнікай сваёй справы і як звязаны і працуюць з беспартыйнымі масамі.

Для забяспечання масавасці партдня і пагалоўнага актыўнага ўдзелу ўсіх комуністаў, падрыхтоўка да яго была распачата за два тыдні. Гэты перыяд партарганізацыя скарыстала для яшчэ больш глыбокай прапрацоўкі рашэнняў і матэрыялаў XVII партз'езда, даклада тав. **Сталіна** і новага статуту партыі. Заметна ўмацавалася сетка партасветы, павысілася якасць вучобы і ахват ёю комуністаў. Большасць партарганізацый («Пролетарская перамога», «Комінтэрн», макаронная ф-ка) к партдню выпусцілі спецыяльныя нумары шматтыражак і насценгазет.

Падрыхтоўчая работа, якая праводзілася пад кутом погляду—член партыі ў цэнтры ўвагі работы партарганізацыі—выклікала вялікую актыўнасць і зацікаўленасць комуністаў, палепшылася выкананне партнагрузак. Паасобныя партарганізацыі (друкарня, лесазавод імя Молатава, шклозавод імя Домбаля) спецыяльна рабілі праверку выканання комуністамі промфінплана і нагрузак. Вось прыклады правядзення партдня па паасобных партыйных арганізацыях.

На сходзе партгрупы 3-й змены каробка-эцікіровачнага цэху, фабрыкі «Пролетарская перамога» (парторг т. **Багданава**), прысутнічала

30 чалавек. Комуніст Шпац далажыў партыйнаму сходу, што, выконваючы новы статут, ён палітэкзамен па дакладу т. Сталіна здаў на выдатна, працуючы манцёрам падрыхтаваў 25 рабочых к здачы тэхэкзамена, з'яўляючыся рэдактарам насценгазеты, забяспечвае рэгулярны выпуск яе. Па такіх-жа пытаннях дакладваў т. Кішкурна і інш.

На сходзе партгрупы калодачнага цэха, камбіната «Комінтэрн», прысутнічала 80 чалавек. Выступаючыя з адчотамі члены і кандыдаты партыі Райхельсон, Трусава, Махліна рассказалі, што яны, вывучаючы новы статут, рэалізуюць яго на практыцы. Усе яны здалі палітэкзамен на выдатна, перавыконваюць промфінплан, у цэху вядуць сістэматычную работу з беспартыйнымі, праводзяць чытку газет, яны ведаюць настрой сваёй брыгады.

На партднях была разгорнута самакрытыка. Так, партгрупа механічнага цэха шклозавода імя Домбаля моцна крытыкавала комуніста Барэнбаўма за тое, што ён фармальна адносіцца да сваёй работы на вытворчасці і да сваіх нагрузак (як рэдактар насценгазеты нерэгулярна выпускае яе). Тое-ж самае і па другіх партарганізацыях.

Рашэнні на партсходах звычайна прымаліся кароткія, з указаннем, што трэба рабіць таму ці іншаму комуністу, выходзячы з канкрэтных задач, якія стаяць перад партыйнай арганізацыяй.

Падрыхтоўчая работа к партдню і сам партдзень садзейнічалі актывізацыі членаў партарганізацыі. Аб гэтым сведчыць работа, праведзеная радам партарганізацый (камбінат «Комінтэрн», лесазавод імя Молатава) з так званымі «маўчальнікамі», гэта значыць комуністамі, не выступаючымі на партыйных сходах.

Партком камбіната «Комінтэрн» склікаў нараду гэтых «маўчальнікаў», на якой яны не толькі загаварылі, але і ўказалі на асноўную прычыну іх маўчання на сходах: «З намі не займаліся, не працавалі, пра нас забылі». Разгорнутая работа з гэтымі «маўчальнікамі» (партыйныя нагрузкі, прымацаванне да іх больш развітых комуністаў) ужо дала станоўчыя рэзультаты.

Тав. **Шуматовіч** (кандыдат партыі), якая ніколі не выступала на сходах, на гэтым партдні сказала: «Я таксама хачу сказаць, як я выконваю статут партыі. Лікбез наведваю, за прыкладную вучобу прэміравана. Нагрузкі мне ніхто не даваў. Вяду сістэматычную работу з беспартыйнымі работнікамі, праводжу гутаркі з імі аб неабходнасці вучыцца, аб якасці прадукцыі, аб пазыцы і інш.».

Тав. **Шэлег** (член партыі)—рабочы лесазавода імя Молатава, пасля схода «маўчальнікаў» і пасля некаторай работы, праведзенай з ім, зараз стаў дзельна выступаць на сходах і ўносіць каштоўныя прапановы, у той час, як раней на сходах ён, звычайна, ніколі не выступаў.

У паасобных партарганізацыях, дзе падрыхтоўка была праведзена недастаткова (хлебазавод), рашэннем Райкома партыі партдзень быў адтэрмінован, а кіраўніцтву партарганізацый зроблена папярэджанне.

У совецкіх установах падрыхтоўка была праведзена слаба, а таму партдзень фактычна быў сарваны.

Адзіныя партдні ўведзены зараз у сістэму работы партыйных арганізацый. Партдні праведзены па такіх пытаннях: павышэнню якасці выпускаемай прадукцыі, аб выніках веснавой пасеўнай кампаніі, па абгаварэнню артыкула ў «Правде»—«Неослабно продолжать работу с шовинизмом», па выніках чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б) і пленума Камісіі партыйнага кантролю.

* * *

XVII з'езд партыі адной з важнейшых задач перабудовы партыйна-масавай работы паставіў стварэнне **груп спачуваючых**—новага магутнага рэзерва партыі.

Тав. **Кагановіч** у сваім дакладзе на з'ездзе ўказваў, што арганізацыя груп спачуваючых

> «Справа вельмі важная і добрая, трэба толькі... каб партарганізацыі ўдзялялі групам спачуваючых адпаведную ўвагу і сапраўды вялі сярод іх кваліфікаваную ідэйна-палітычную работу».

Улічваючы гэта партарганізацыі раду прадпрыемстваў палепшылі работу са спачуваючымі. Парткомам лесазавода імя Молатава прынята ў спачуваючыя 4 чалавека, з якімі сістэматычна праводзяцца гутаркі. Так, напрыклад, сакратаром парткома была праведзена гутарка на тэму аб задачах спачуваючых. Кожны спачуваючы атрымаў нагрузку, а праз некаторы час на сходзе групы спачуваючых была праведзена гутарка на тэму аб выкананні нагрузак і аб тым, якую дапамогу яны жадалі-б атрымаць для паспяховага выканання імі нагрузак.

Партарганізацыя фабрыкі «Пролетарская перамога» прыняла ў спачуваючыя 12 чалавек, якія ўцягнуты ў партшколы. Праведзены два сходы спачуваючых і адзін партдзень па пытанню аб рабоце з імі. Заўважаецца палітычны рост спачуваючых (тт. Шустэрман, Крачкоўская—фабрыка «Пролетарская перамога», спачуваючыя з «Комінтэрна»).

Аднак трэба адзначыць, што паасобныя партарганізацыі недаацэньваюць яшчэ работу са спачуваючымі (партарганізацыя завода імя Домбаля і паасобныя партгрупы фабрыкі «Пролетарская перамога», партгрупа ўпаковачнага цэха—парторг т. Сахопчык).

* * *

Вялікую работу на вёсцы праводзяць інструктары РК па вясковай партарганізацыі тт. Аўруцэвіч, Ульяновіч, Махнач і Зеленоў.

Яны пачалі сваю работу з азнаямлення з кожным комуністам сваёй зоны і з аказання канкрэтнай дапамогі рабоце комуніста, умацоўваючы кіраўніцтва імі.

Інструктар Аўруцэвіч расказвае: «Я бываю ў кожнага комуніста-адзіночкі, знаёмлюся з тым, як ён жыве, як працуе і якую яму трэба аказаць дапамогу. Так у гутарцы з комуністам Брухачэўскім (старшыня калгаса імя Варашылава) я даведаўся, што ён рэдка чытае газеты, выявіў, што ён вельмі слаба палітычна падрыхтаван. Я паставіў перад т. Брухачэўскім канкрэтную задачу: чытаць газеты, павышаць свой тэарэтычны і палітычны ўзровень. Пасля гэтага ён пачаў чытаць газеты, сачыць за ўсім тым, што робіцца па Саюзу. З ім ужо можна весці гутарку па пытаннях партыйнага будаўніцтва, ён усвоіў рашэнні XVII партз'езда. Дзякуючы гэтаму падняўся яго аўтарытэт, як старшыні калгаса.

Партыйная і комсамольская група калгаса «Ударнік» (Зембінскага с/с, парторг т. **Гіль)** пасля перабудовы арганізавала партшколу, у якую ўцягнута 50 чалавек калгаснікаў. У школе прапрацавалі матэрыялы і рашэнні XVII партз'езда. Арганізаван агратэхгурток, рэгу-

лярна выпускаецца насценная газета, сярод комуністаў і калгаснікаў разгорнута соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва.

Рэгулярна праводзяцца куставыя сходы комуністаў-адзіночак, якія садзейнічаюць актывізацыі іх. Комуніст-адзіночка **Баброўскі** (старшыня калгаса) арганізаваў у калгасе прапрацоўку даклада тав. **Сталіна** на XVII партз'ездзе, уцягнуўшы ў гэта 50 чал. калгаснікаў, забяспечыў рэгулярны выхад насценгазеты, арганізаваў у калгасе камісіі па якасці, разгарнуў соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Актыўна працуюць комуністы-адзіночкі і ў радзе іншых калгасаў раёна, як Шпілеўскі Іван (калгас «Новая Любатаўшчына»), Шыдлоўскі Іван (калгас «Пяцігодка») і інш.

Аднак, работа з комуністамі-адзіночкамі яшчэ недастатковая. Няма сталага кантролю за выкананнем даручаемых ім заданняў.

У парадку шэфства партарганізацыі прадпрыемстваў дапамагаюць вясковым партарганізацыям падшэфных сельсоветаў у наладжванні партмасавай і выхаваўчай работы, забяспечанні выканання гаспадарча-палітычных задач. Зараз у падшэфных сельсоветах праводзіцца вялікая работа па раз'ясненню рашэнняў пленумаў ЦК ВКП(б) і Камісіі Партыйнага Кантролю і прамовы тав. **Кагановіча** «Аб задачах кантрольнай работы профсаюзаў, комсамола і друку», а таксама праводзіцца работа па аказанню дапамогі ў падрыхтоўцы да ўборкі зернавых. Перадавікамі ў гэтай рабоце з'яўляюцца партарганізацыі лесазавода імя Молатава, завода імя Дсмбаля і інш.

У апошні час інструктары РК КП(б)Б забяспечаны патэфонамі, якія яны павінны скарыстаць у наладжванні масавай работы на вёсцы.

* * *

«Большэвік»,—сказаў тав. **Кагановіч**,—«не можа абмяжоўвацца простай верай у соцыялізм, падобна таму, як верыць рэлігійны чалавек у царства нябеснае. Не, большэвік—гэта член такой партыі, праграма, палітыка і тактыка якой будуюцца на строга навуковых асновах марксізма-ленінізма; большэвік—гэта той, хто разумее немінучасць краху капіталізма, немінучасць дыктатуры пролетарыята, забяспечваючай перамогу соцыялізма. Таму кожны член партыі павінен аўладаць асновамі марксізма-ленінізма.

Ці магчыма гэта? Безумоўна, магчыма».

У барацьбе за ідэйна-палітычную ўзброенасць комуністаў тэорыяй Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна мы дабіліся не дрэнных рэзультатаў.

Увосень сеткай партасветы было ахвачана 3269 чал., на 15 мая на летнія формы вучобы перайшло 3 043 чалавека. Амаль уся партарганізацыя поўнасцю вучыцца. Палітычны экзамен па дакладу тав. Сталіна на XVII партз'ездзе здала 1 705 чал., з іх 621 беспартыйны.

Вялікае месца ў справе партыйнай асветы займаюць раённы дом партактыва і партгабінеты пры буйных парткомах. Яны з'яўляюцца асноўнымі метадычнымі цэнтрамі ў справе палепшання якасці партыйнай вучобы (інструктаж прапагандыстаў, правядзенне вопытна-паказальных урокаў для прапагандыстаў, вучоба актыва і інш.).

Шырока прымяняюцца апраўдаўшыя сябе формы масавай партвучобы, у прыватнасці палітдні. Так, напрыклад: з 1 па 10 ліпеня палітдні праведзены на наступных прадпрыемствах: Бярэзінскі камбінат, лесазавод імя Молатава, друкарня, камбінат «Комінтэрн», шклозавод імя Домбаля і «Чырвоны металіст». Асноўнай тэмай палітдзён з'яўлялася—14 год вызвалення БССР ад белапалякаў.

Інструктары РК, Дом партактыва і партарганізацыі прадпрыемстваў к палітдню правялі вялікую падрыхтоўчую работу: праводзіліся гутаркі аб прадстаячым палітдні ў цэхах і на кожным прадпрыемстве, дзе павінен быў быць палітдзень. Праз парторгаў, комсамольскіх арганізатараў і спецыяльна вывешаныя для гэтага скрынкі арганізоўваўся збор пытанняў на розныя цікавячыя рабочых тэмы. Такім чынам было сабрана каля 3 тысяч пытанняў.

На прадпрыемствах на тэму палітдня былі арганізаваны кансультацыі. Для правядзення палітдня вылучылі кваліфікаваных прапагандыстаў. Палітдзень прайшоў з даволі вялікім эфектам.

Палітднямі па Бярэзіне ахвачана 300 чалавек, па «Домбалю» каля 200, па «Комінтэрну» каля 300, а ўсяго каля 1 500 рабочых.

Палітдзень праводзіўся наступным чынам: усе рабочыя, якія з'ўляліся на палітдзень, разбіваліся на групы па 20—30 чалавек і ў асобным пакоі з кожнай групай прапагандыст па ўказанай тэме вёў на працягу гадзіны гутарку. Пасля гэтага ўсе рабочыя збіраліся ў агульны зал, дзе былі даны адказы на пастаўленыя імі пытанні. На палітычныя пытанні адказвалі прапагандысты, а на ўнутрызаводскія—гаспадарнікі, профработнікі, работнікі ОРС'аў, раённыя работнікі (Гарано і інш.). Але не на ўсе пытанні тут-жа былі даны адказы.

Зараз перад кіраўнікамі прадпрыемстваў пастаўлена задача—ні адно з гэтых пытанняў не павінна аставацца без адказу. Для гэтай мэты павінны быць скарыстаны цэхавыя, групавыя гурткі, мясцовы друк, кансультацыі, гутаркі ў інтэрнатах і інш.

Палітдзень даў магчымасць выявіць рост палітычнай актыўнасці рабочых мас. Так, па Бэрэзіне было задана каля 350 пытанняў на разныя тэмы па міжнароднаму і ўнутранаму становішчу. Такую актыўнасць мы мелі і па раду іншых прадпрыемстваў. Рабочыя з вялікай зацікаўленасцю адчесліся да адказаў на зададзеныя імі пытанні.

Палітдні праводзіліся на кватэрах рабочых і калгаснікаў, дзе прапрацоўваліся рашэнні XVII партз'езда. Такіх палітдзён па раёну праведзена 650. Рэгулярна кожны месяц па сельсоветах і калгасах праводзяцца 5-дзённыя курсы партыйнага і калгаснага актыва, якія абслугоўваюцца прапагандыстамі з горада.

Для правядзення курсаў-семінараў партыйна-калгаснага актыва на вёсцы, па прапрацоўцы рашэнняў пленумаў ЦК ВКП(б) і Камісіі Партыйнага Кантролю і прамовы тав. **Кагановіча,** было накіравана 25 тэарэтычна падрыхтаваных комуністаў з райпартактыва.

* * *

Заметна палепшылася якасць палітычна-масавай работы сярод рабочых і шырока прымяняецца практыка прымацавання комуністаў да беспартыйных. Напрыклад, на фабрыцы «Пролетарская перамога» комуніст Гельфер (шчапальны цэх) прымацаван да 8 беспартыйных рабочых, з якімі ён прапрацаваў рашэнні XVII партз'езда, падрых-

таваў іх да здачы палітэкзамена, трох малапісьменных накіраваў у школу, зараз распрацоўвае з імі рашэнні апошняга пленума ЦК ВКП(б).

Комуністка Барэнбаўм (гэтая-ж фабрыка) прымацавана да 10 беспартыйных. Яна дабілася таго, што трое з іх ліквідавалі сваю непісьменнасць, сталі выпісваць і чытаць газету. Прымацаванне комуністаў да беспартыйных праводзіцца і на «Комінтэрне», у друкарні і на іншых прадпрыемствах.

Разгортваецца масавая работа са старымі кадрамі рабочых, асабліва на камбінатах «Чырвоная бярэзіна», «Комінтэрн», шклозаводзе імя Домбаля. Распрацован цэлы рад мерапрыемстваў па палепшанню матэрыяльна-бытавога становішча старых рабочых (дадатковыя адпачынкі, забяспечанне кватэрамі, культабслугоўванне). Побач з гэтым са старымі кадравымі рабочымі праводзяцца палітзаняткі, практыкуюцца спецыяльныя нарады.

Паасобныя партарганізацыі ўзяліся за выяўленне і задавальненне бытавых патрэб рабочых. Партком фабрыкі «Пролетарская перамога» сіламі актыва абследваў матэрыяльна-бытавое становішча 150 сем'яў рабочых, у рэзультаце чаго 6 былі прадастаўлены новыя кватэры, у кватэрах 5 быў зроблен капітальны рамонт, 30 сем'ям аказана дапамога ў набыцці свінней і т. д.

* * *

Па ініцыятыве комсамольскай арганізацыі камбіната «Комінтэрн», у сувязі з падрыхтоўкай да Ўсебеларускага з'езда пісьменнікаў, быў аб'яўлен масавы паход за **«літаратурны мінімум».** Гэты паход ахваціў звыш 200 чалавек, з якіх 110 новых чытачоў літаратуры (Белагураў, Штукмайстэр і інш.). Рабочы манцёр Зязюльчык прачытаў рэкамендуемую кнігу Шолахава—«Поднятая целина». Зацікавіўшыся, ён прачытаў яшчэ «Мать»—Горкага, «Первую девушку»—Богданава і інш. Актыўна прайшла канферэнцыя чытачоў.

Гэтымі днямі комсамольскім камітэтам камбіната «Комінтэрн» у сям'і парторга Гільдзенберга была арганізавана за чашкай чаю чытка паасобных месц з «Карычневай кнігі», якія ўвязваліся з сучаснымі падзеямі ў Германіі. Чытка праводзілася на яўрэйскай мове. Прысутнічала 12 чалавек старых кадравых рабочых з сем'ямі (Каплан—герой першай пяцігодкі, вытворчы стаж 35 год; Каган, вытворчы стаж 20 год і інш.). Рабочыя былі задаволены чыткай і ў канцы вынеслі такую прапанову, каб праз дзень пасля работы з імі арганізоўваліся сістэматычныя чыткі. Пасля гэтага быў наладжан калектыўны паход удзельнікаў чыткі на пастаноўку Яўрэйскага тэатра.

Чытка мастацкай літаратуры і газет практыкуецца і на камбінаце «Чырвоная Бярэзіна», якая наладжваецца ў абедзены перапынак і перад пачаткам работы змен.

Нядаўна быў праведзен агульна-гарадскі сход партыйнага, комсамольскага і профсаюзнага актыва горада па пытанню аб выніках Усебеларускага з'езда пісьменнікаў, на якім прысутнічалі пісьменнікі: Янка Купала, Гурскі і Васіль Каваль.

* * *

Праводзіцца вялікая работа па **падрыхтоўцы кадраў.** Працуе дэкадны Комвуз сакратароў парткомаў з ахватам 25 чал., праведзены месячныя курсы парторгаў з ахватам 60 чал. Пасля заканчэння работы

курсаў арганізован дэкадны семінар парторгаў. Зараз працуюць летнія курсы па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы вясковых прапагандыстаў, кандыдацкіх партшкол і комсамольскіх палітшкол. З 20 ліпеня будуць працаваць курсы па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы гарадскіх прапагандыстаў.

Аб росце кадраў сведчаць наступныя факты: парторг **Лабанава** (здымальны цэх, фабрыкі «Пролетарская перамога») была малапісьменнай, а ў гэтым годзе скончыла школу малапісьменных і курсы парторгаў на «добра». Парторг **Лабаноўская** (гэтая-ж фабрыка) таксама была малапісьменнай, а зараз на «добра» скончыла курсы парторгаў. Такія-ж факты можна прывесці і па вясковай партарганізацыі.

Апрача гэтага, у парадку правядзення работы па выкананню ўказання т. **Кагановіча** аб інструктаванні і абвучэнні людзей, інструктары РК, сакратары парткомаў і парторгаў уводзяць у сістэму сваёй работы інструктаванне паасобных комуністаў і аказваюць штодзенную дапамогу ў іх рабоце. Апрача штодзенных указанняў, праводзіцца інструктаж і дапамога сакратарам парткомаў і парторгам, склікаюцца нарады па абмену вопытам іх работы.

Для дапамогі інструктарам РК у выкананні іх задач і галоўным чынам у інструктажы і абвучэнні людзей, уводзіцца інстытут пазаштатных інструктароў з лепшых комуністаў, больш вытрыманых і палітычна лепш падрыхтаваных. Зараз у дапамогу інструктару РК тав. **Суміцельнаву** пазаштатнымі інструктарамі вылучана 5 комуністаў, якія ад інструктароў РК атрымліваюць заданні. Так, напрыклад, пазаштатнаму інструктару тав. **Самковічу** (рабочы завсда імя **Домбаля**) было дана заданне правесці на хлебазаводзе работу па праверцы падрыхтоўкі да палітдзён і аказаць канкрэтную дапамогу ў самой падрыхтоўцы. Тав. Самковіч з поспехам выканаў данае яму заданне. Пазаштатны інструктар т. **Салавей** (Бярэзіна) таксама атрымаў заданне: дапамагчы парторгу арганізаваць на ЦЭС работу са спачуваючымі і адначасова праверыць, як тры комуніста (прозвішчы якіх былі даны) выконваюць даныя ім нагрузкі. Тав. Салавей таксама з поспехам выканаў гэта заданне.

Нам патрэбна вялікая колькасць падрыхтаваных, ідэйна-ўзброеных людзей, шырокія кадры актыва, якія-б змаглі весці за сабой масы. Вось чаму зараз з асаблівай сілай паўстае пытанне аб інструктажы і вучобе. Трэба яшчэ шырэй арганізаваць інструктаж і вучыць людзей лепш працаваць. Патрабаваць работу, але і дапамагаць яе арганізоўваць.

* * *

Перабудова апарата Райкома зрабіла яго работу больш аператыўнай і канкрэтнай. Члены бюро Райкома сістэматычна бываюць на вытворчасці і ў калгасах.

Інструктары Райкома на практыцы апраўдваюць сябе як звенні, якія звязваюць Райкомы з пярвічнымі партарганізацыямі.

Перабудова спрыяла набліжэнню кіраўніцтва Райкома не толькі да буйных, але і дробных прадпрыемстваў. Перабудова зрабіла рашучы пералом у рабоце гэтых прадпрыемстваў.

Апошні пленум Райкома прайшоў пад знакам праверкі ходу перабудовы. Усе рашэнні пленума былі канкрэтнымі, яны ўказалі паасоб-

-ным арганізацыям і комуністам, што ім трэба рабіць у бліжэйшы перыяд па таму ці іншаму пытанню.

Перад намі стаіць задача—лепш правесці перабудову работы профсаюзаў і комсамольскай арганізацыі. Калі паасобныя комсамольскія арганізацыі не дрэнна ўзяліся за перабудову сваёй работы (комсамольская арганізацыя «Комінтэрн» і інш.), то гэтага нельга сказаць аб профарганізацыях. Не гледзячы на некаторыя зрухі за апошні час перабудова іх работы праходзіць яшчэ нездавальняюча. Не ўсе пярвічныя партарганізацыі ў патрэбнай меры кіруюць і дапамагаюць у гэтай рабоце сваім профарганізацыям.

Зараз, у парадку шэфства, з боку партарганізацый і цэлых прадпрыемстваў праводзіцца вялікая работа па аказанню дапамогі палітаддзелу чыгункі і кіраўніцтву станцыі ў разгортванні палітычнамасавай выхаваўчай работы сярод чыгуначнікаў ст. Барысаў, а таксама па канкрэтнаму наладжванню работы транспарта. Праводзяцца сумесныя нарады па абмену вопытам работы, паміж рабочымі паасобных прадпрыемстваў з рабочымі таго ці іншага падшэфнага чыгуначнага аб'екту заключаны соцумовы. Комсамольскім камітэтам камбіната «Комінтэрн» на кватэры рабочага стрэлачніка **Нікіціна** праведзен літаратурны вечар.

Апрача гэтага прадпрыемствы прывялі ў культурны выгляд вакзал, абсталявалі пакой «Маць і дзіця», арганізавалі буфет, адрамантавалі два блок-пасты і 2 будкі стрэлачнікаў і пабудавалі 5 новых будак.

Але трэба з усёй катэгарычнасцю адзначыць, што ў справе перабудовы зроблены толькі першыя крокі. У нас ёсць буйныя недахопы па лініі кантролю над выкананнем, а таксама па лініі культурнага будаўніцтва і інтэрнацыянальнага выхавання, аб чым зусім правільна сігналізаваў ЦО партыі «Правда». Апошні пленум РК прыняў рад мерапрыемстваў па рашучаму палепшанню гэтай работы.

Абмежавацца гэтымі першымі крокамі ні ў якім разе нельга.

Трэба лепшы вопыт перабудовы зрабіць здабыткам усіх пярвічных партарганізацый, падняць усю арганізацыйную работу на ўзровень палітычных задач партыі, як гэтага ад нас патрабуюць гістарычныя рашэнні XVII з'езда ВКП(б) і ўказанні нашага вялікага правадыра тав. **Сталіна.**

Большэвікі Барысаўшчыны, вучачыся працаваць па-сталінску, пад непасрэдным кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б, на чале з непахісным большэвіком т. **Гікало**, акажуцца дастойнымі тых задач, якія усклаў на нас XVII з'езд партыі.

А. Балцін

# Лёгкая прамысловасць БССР павінна працаваць добра

Лёгкая прамысловасць БССР у першым паўгоддзі 1934 г. мае некаторыя дасягненні.

Рад буйных прадпрыемстваў, якія знаходзіліся ў мінулым годзе, а часткова і ў першым квартале 1934 г., у глыбокім прарыве, у апошні час пачалі выконваць план як па якасных, так і колькасных паказчыках (швейная фабрыка „Сцяг індустрыялізацыі", трыкатажная фабрыка „Кім", абутковая імя Кагановіча і інш.).

Сталі выконваць план цэлыя галіны прамысловасці (у проц. да плана):

| Назва галін | I квартал | Красавік | Май | За 5 мес. 1934 г. |
|---|---|---|---|---|
| Скураная | 104,5 | 107,5 | 106,9 | 106,0 |
| Шчацінна-шчотачная | 103,8 | 100,7 | 100,5 | 102,4 |
| Тэкстыльная | 98,8 | 103,8 | 103,9 | 100,9 |
| Панчошна-трыкатажная | 104,2 | 106,5 | 106,4 | 105,2 |
| Паліграфічная | 83,3 | 102,4 | 103,9 | 91,7 |

Ёсць некаторыя дасягненні таксама і ў адносінах якасці прадукцыі, а таксама пашырэння і палепшання асартыменту.

Але гэта яшчэ не азначае, што наша лёгкая прамысловасць ужо працуе добра. **Яна працуе яшчэ вельмі дрэнна.**

Гэта—ісціна, якую павінен усвоіць кожны работнік лёгкай прамысловасці. Між тым, частка работнікаў лёгкай прамысловасці ў большай ці меншай ступені паддалася галавакружэнню ад поспехаў.

Толькі павярхоўна прааналізаваўшы становішча работы лёгкай прамысловасці БССР за першыя 5 месяцаў 1934 г., можна ўпэўніцца ў тым, што лёгкая прамысловасць працуе зусім нездавальняюча, як правільна адзначана ў пастанове ЦК КП(б)Б.

На самой справе, як можна гаварыць аб сур'ёзных поспехах, калі за першыя 5 месяцаў 1934 г. лёгкая прамысловасць задаўжала краіне 3 671 тыс. руб. недаданай прадукцыі, аб чым сведчаць прыведзеныя ніжэй лічбы.

Недавыкананне плана па валавой прадукцыі(—) і перавыкананне (+) (у тыс. руб):

| Назва галін | I квартал | Красавік | Май | Усяго |
|---|---|---|---|---|
| Тэкстыльная . . . . . . . . . . . | —188,2 | +205,9 | +207,3 | +225,0 |
| У тым ліку: | | | | |
| Валяльна-войлачная . . . . . | —501,8 | — 84,7 | — 1,1 | —590,6 |
| Трыкатажная . . . . . . . . | +478,7 | +264,2 | +255,7 | +998,6 |
| Швейная . . . . . . . . . . . . | —749,3 | —456,5 | —456,9 | —1662,7 |
| Скураная . . . . . . . . . . . . | +173,0 | + 90,1 | +117,1 | +380,2 |
| Абутковая . . . . . . . . . . . | —367,6 | — 42,6 | + 37,9 | —372,3 |
| Галантарэйная (абедзве ф-кі) . . . | —447,6 | —273,1 | —186,3 | —907,0 |
| Шкляная . . . . . . . . . . . . | —392,2 | — 90,0 | — 60,1 | —542,3 |
| Паліграфічная . . . . . . . . . | —462,0 | + 24,2 | + 38,5 | —399,3 |
| Шчаціяна-шчотачная . . . . . . | +103,5 | + 6,6 | + 5,5 | +115,6 |
| Дапаможныя і інш. . . . . . . . | —181,0 | — 64,9 | —262,4 | —508,3 |
| Усяго па НКЛП БССР | —2 511,4 | —600,3 | —559,4 | —3 671,1 |

Як зусім недапушчальную з'яву, трэба адзначыць сістэматычнае недавыкананне плана важнейшымі галінамі прамысловасці БССР— швейнай, абутковай і шкляной (у проц. да плана):

| Назва галін | I квартал 1934 г. | Красавік | Май | За 5 мес. 1934 г. |
|---|---|---|---|---|
| Швейная . . . . . . | 96.9 | 91,3 | 92,8 | 95,6 |
| Абутковая . . . . . . | 93,4 | 97,8 | 102,1 | 96,0 |
| Шкляная . . . . . . | 94,1 | 88,4 | 91,8 | 92,4 |

Калі-ж узяць паасобныя прадпрыемствы ўнутры адной і той-жа галіны прамысловасці, то атрымаецца яшчэ горшая карціна. Так, па тэкстыльна трыкатажнай прамысловасці, якая пяцімесячны план выканала на 102,6 проц., побач з фабрыкамі: „КІМ“, выканаўшай пяцімесячны план на 107,5 проц., імя К. Цэткін—на 104 проц., „Дзвіна“— 99,6 проц., ёсць прадпрыемствы, якія знаходзяцца ў глыбокім прарыве: „Чырвоны тэкстыльшчык“—68,8 проц., менская войлачная фабрыка—49 проц., „Дняпроўская мануфактура“—90,7 проц.

Такое-ж становішча маецца і па цэламу раду іншых галін прамысловасці.

Але якасць прадукцыі лёгкай прамысловасці БССР яшчэ дрэнная. Аб гэтым сведчаць шматлікія рэкламацыі, штрафы і рашэнні судовых органаў.

Яшчэ больш наглядна аб якасці прадукцыі гавораць водзывы саміх спажыўцоў (матэрыялы завочнага агляду прадукцыі фабрыкі імя Лекерта, праведзенага газетай „Віцебскі пролетарый", пісьмо рабочых завода „Большэвік", змешчанае ў газеце „Звязда" і т. д.).

Шматлікія факты выпуску нядобраякаснай прадукцыі сведчаць аб тым, што многія работнікі прамысловасці яшчэ не ўсвоілі простай ісціны, што **„тавары выраблююцца ў апошнім выніку не для вытворчасці, а для спажывання"** (Сталін, з даклада на XVII з'ездзе ВКП(б)).

Аднак, мы павінны прызнаць, што і пасля XVII з'езда і выступлення т. Сталіна мы не дабіліся яшчэ сапраўднага пералому ў справе палепшання якасці прадукцыі і прыспасаблення работы лёгкай прамысловасці да здавальнення патрэб спажыўцоў. Толькі паасобныя прадпрыемствы сур'ёзна падышлі да выканання гэтага важнейшага задання партыі („КІМ", „Окцябр", „Большэвік" і інш.), але і там ёсць яшчэ буйныя недахопы.

Іншыя якасныя паказчыкі работы лёгкай прамысловасці астаюцца таксама нездавальняючымі (недавыкананне плана, па прадукцыйнасці працы пры перавышанай сярэдняй заработнай плаце, перавышэнне ліку рабочых супроць выканання промфінплана, перарасход фонда заработнай платы).

Асоба трэба спыніцца на выкананні заданняў па зніжэнню сабекошту.

З 60 прадпрыемстваў лёгкай прамысловасці БССР, у першым квартале 1934 г. толькі 11 выканалі і перавыканалі заданні па зніжэнню сабекошту.

| №№ п/п | Назва прадпрыемстваў | План | Выкананне |
|---|---|---|---|
| 1 | Ф-ка імя К. Маркса . . . . . | — 3,4 | — 6,5 |
| 2 | Панчош. імя К. Цэткін . . . | — 3,3 | — 3,5 |
| 3 | Ф-ка „КІМ" . . . . . . . . . | —10,0 | —12,4 |
| 4 | Скурзавод імя Сталіна . . . | + 5,0 | + 1,8 |
| 5 | Аўчынна-шубны завод „Пролет. шлях" . . . . . . . . | — 6,3 | —15,1 |
| 6 | Гарбарны завод . . . . . . . | +17,0 | — 3,1 |
| 7 | Абутковая ф-ка „Прагрэс" . . | —20,8 | —20,8 |
| 8 | Шклозавод „Окцябр" . . . . | — 6,1 | —10,1 |
| 9 | Друкарня „Комінтэрн" . . . | — 2,0 | — 6,0 |
| 10 | Друкарня „1 мая" . . . . . . | — 4,4 | — 9,5 |
| 11 | Музыч. ф-ка імя Молатава . . | — 2,7 | — 7,0 |

Астатнія-ж прадпрыемствы плана па зніжэнню сабекошту не выканалі, а рад прадпрыемстваў маюць зусім агідныя прарывы:

| №№ п/п | Назва прадпрыестваў | План | Фактычнае выкананне |
|---|---|---|---|
| 1 | Менская войлачная ф-ка . . . | — 2,7 | +16,0 |
| 2 | Менск. панч. „Чыр. Тэкст." | — 4,9 | +14,7 |
| 3 | Швейная „Окцябр" . . . . . | + 7,2 | + 9,5 |
| 4 | „ Імя Валадарскага . . | + 1,6 | + 5,0 |
| 5 | „ „Сцяг Індустрыял." | + 1,2 | + 2,6 |
| 6 | Скурзавод імя Еўсцігнеева . | + 6,3 | +14,0 |
| 7 | Абутковая імя Кагановіча . . | + 2,5 | +12,1 |
| 8 | „ „Праца" . . . | — 1,3 | + 3,1 |
| 9 | Шклозавод „Домбаль" . . . . | — 0,6 | +16,6 |
| 10 | „ „Ноўка" . . . . | — 4,7 | — 1,7 |
| 11 | „ „Ільіч" . . . . . | — 6,5 | + 8,4 |
| 12 | „ „Комітэрн" . . | — 5,0 | + 2,3 |
| 13 | Друкарня „Палесдрук" . . . | — 3,6 | +11,5 |
| 14 | Інструментальная ф-ка . . . | + 4,2 | +16,7 |
| 15 | Ільнапрадз. ф-ка „Дзвіна" . . | — 5,3 | — 0,4 |

Ясна, што пры такім гаспадаранні немінучы буйныя фінансавыя прарывы. Паасобныя фабрыкі, нават цэлыя галіны прамысловасці (шкляная, скурабутковая, швейная і інш.), знаходзіліся ў 7-м квартале 1934 г., а часткова і ў 2-м квартале, у выключна глыбокім фінансавым прарыве (галоўным чынам, з-за невыканання якасных паказчыкаў промфінплана).

Няма патрэбы больш спыняцца на прарывах і недахопах у рабоце лёгкай прамысловасці, каб паказаць правільнасць ацэнкі работы прамысловасці БССР за 4 месяцы 1934 г., у тым ліку становішча лёгкай прамысловасці, якую даў майскі пленум ЦК КП(б)Б, бо прыведзеныя факты гавораць самі за сябе з поўнай пераканальнасцю.

Каб выйсці з паласы прарываў і цвёрда стаць на шлях выканання рашэнняў XVII з'езда партыі і канкрэтных указанняў майскага пленума ЦК КП(б)Б, лёгкая прамысловасць БССР павінна прарабіць вялікую работу па перабудове ўсіх галін сваёй дзейнасці. У сувязі з гэтым перад нашай лёгкай прамысловасцю стаіць цэлы рад канкрэтных задач.

Мы не маем магчымасці падрабязна спыніцца на ўсіх практычных задачах, якія стаяць перад лёгкай прамысловасцю БССР. Ніжэй мы спынімся больш падрабязна толькі на асноўных задачах.

### І. Рэарганізацыя сістэмы кіраўніцтва, ліквідацыя функцыяналкі

Да сучаснага моманту апараты Наркамлегпрома, трэстаў і ў значнай ступені прадпрыемстваў пабудаваны па функцыянальнаму прызнаку. Наколькі такая функцыянальная сістэма не забяспеч-

вае правільнага кіраўніцтва, аб гэтым ясна ізложана ў дакладзе тав. **Кагановіча** на XVII з'ездзе партыі. У апараце наркамата, напр., няма ні аднаго чалавека, які комплексна кіраваў-бы той ці іншай галіной прамысловасці (швейнай, скуранай, шкляной і т. д.). Каб вырашыць якое-небудзь пытанне па паасобнай галіне прамысловасці прыходзіцца даваць заданні цэламу раду асоб, працуючым у розных сектарах і аддзелах, што прыводзіць да распылення заданняў і ствярае абязлічку. Гэта ўказвае, што пытанні аператыўна-вытворчага кіраўніцтва трэстамі і прадпрыемствамі не былі пастаўлены ў цэнтры ўвагі наркамата. Адсюль і планаванне, паколькі яно не апіраецца на вытворчае кіраўніцтва і вывучэнне вытворчага працэсу кожнай галіны прамысловасці, кожнага прадпрыемства, часта не дасягае сваёй мэты—забяспечання планавасці вытворчага працэсу.

Не ліквідавана яшчэ многазвеннявасць структуры кіраўніцтва (наркамат, трэст, прадпрыемства). У радзе галін, дзе ёсць немнога прадпрыемстваў (шкляная, паліграфічная, шчацінная, тэкстыльная і інш.), такая складаная структура не мае ніякага апраўдання.

На аснове рашэнняў XVII з'езда партыі Наркамлегпромам БССР яшчэ ў красавіку г. г. распрацован праект рэарганізацыі структуры ўсёй сістэмы апарата, у аснову якога паложан прынцып ліквідацыі функцыяналкі і абязлічкі і ўстанаўленне комплекснага метаду кіраўніцтва, пачынаючы ад наркамата і канчаючы прадпрыемствам, цэхам і брыгадай. Аднак, гэты праект яшчэ не зацверджан з прычыны таго, што ў бліжэйшым часе чакалася зацверджанне саюзнымі органамі тыповай структуры кіраўніцтва лёгкай прамысловасці СССР.

Зараз, калі пастанова ЦВК і СНК СССР аб рэарганізацыі Кіраўніцтва лёгкай прамысловасці ўжо зацверджана, неабходна вельмі тэрмінова ўнесці неабходныя змены ў праект рэарганізацыі Кіраўніцтва лёгкай прамысловасці БССР і зацвердзіць яго.

Да сучаснага моманту праведзена толькі рацыяналізацыя сістэмы кіраўніцтва шкляной прамысловасці (у адпаведнасці з пастановай СНК Саюза ад 2 красавіка г. г.). З I-VI г.г. Белшклотрэст ліквідован і на месца яго ў складзе Наркамлегпрома створана кіраўніцтва шкляной прамысловасці. Такім чынам, шклозаводы непасрэдна падпарадкаваны наркамату. Структура Кіраўніцтва зацверджана, выходзячы з комплекснага прынцыпу. Асноўнай задачай Кіраўніцтва з'яўляецца вытворча-тэхнічнае кіраўніцтва шклозаводамі і падпарадкаванымі ім торфзаводамі. Таксама перабудавана сістэма кіраўніцтва заводаў: праведзена ўзбуйненне цэхаў, пашыраны правы начальнікаў цэхаў, упарадкавана становішча брыгады, як асноўнага пярвічнага вытворчага звяна, узмоцнена роля тэхнічных кадраў.

Разам з гэтым перагледжаны прынцыпы вызначэння зарплаты. Ад пачатку рэарганізацыі Кіраўніцтва шкляной прамысловасці прайшло каля 2 месяцаў і ўжо зараз можна адзначыць палепшанне работы заводаў і кіраўніцтва імі, хоць, як паказала абследванне некаторых заводаў, ёсць яшчэ многа недаробак, а ў некаторых месцах рэарганізацыя праведзена фармальна.

Наркамлегпром неадкладна павінен выправіць дапушчаныя пры рэарганізацыі шкляной прамыслоасці памылкі і забяспечыць поўнае выкананне пастановы СНК Саюза.

Станоўчы рэзультат перабудовы шкляной прамысловасці яшчэ з большай відавочнасцю патрабуе паскорыць рэарганізацыю ўсёй сістэмы кіраўніцтва лёгкай прамысловасці БССР.

## II. Тэхпромфінплан

Перавагі планавай гаспадаркі і роля планавання ўпаўне зразумелы. План з'яўляецца асновай соцыялістычнай гаспадаркі. Аднак, мы яшчэ дрэнна карыстаемся планам, які забяспечвае роўнамернасць работы на вытворчасці і найбольш мэтазгоднае скарыстанне сродкаў. Выцякае гэта з двух асноўных прычын:

1) нашы планы не заўсёды з'яўляюцца даволі ўстойлівымі і непарушнымі. Яны часта падвяргаюцца карэктыроўкам, якія зводзяць на нішто сам план;

2) планавыя работнікі наркаматаў і трэстаў не ведаюць вытворчасці і адарваны ад штодзеннай работы прадпрыемстваў. Планы часта не ўвязаны з вытворча-тэхнічнымі ўмовамі прадпрыемстваў.

Нярэдка атрымліваецца такое становішча, калі работнікі, якія складаюць планы і работнікі, якія праводзяць іх у жыццё, не маюць дзелавога кантакту. Работнікі планавых аддзелаў і сектароў не ведаюць як складзеныя імі планы даводзяцца да цэха і агрэгата і не сочаць за іх выкананнем. Кіраўнікі прадпрыемстваў і трэстаў часта самі не кіруюць складаннем планаў і не даюць канкрэтных указанняў планавым работнікам.

Сучаснае становішча планавання не можа ўжо задаволіць запатрабаванняў прамысловасці. У планаванні непасрэдны ўдзел павінен прымаць адміністрацыйна-тэхнічны персанал прадпрыемстваў, трэстаў, і т. д. Асноўная ўвага павінна быць звернута на нізавое планаванне, прычым план цэха, завода і фабрыкі павінен быць поўнасцю ўвязан з вытворча-тэхнічнымі ўмовамі.

На жаль, мы не можам пахваліцца поспехамі па ўнядрэнню тэхпромфінплана. У сучасны момант тэхпромфінплан існуе толькі на двух прадпрыемствах лёгкай прамысловасці БССР: на заводзе „Бальшэвік" і швейнай фабрыцы „Окцябр". У абодвух выпадках тэхпромфінплан уведзен па ініцыятыве саміх прадпрыемстваў. Гэту ініцыятыву неабходна падтрымаць самым рашучым чынам. Тэхпромфінплан надалей павінен стаць асновай усяго планавання. Да канца 1935 г. не павінна астацца ні аднаго прадпрыемства, на якім не было-б тэхпромфінплана, а для гэтага неабходна тэрмінова, ужо з III квартала 1934 г., разгарнуць падрыхтоўчую работу.

## III. Арганізацыя вытворчага працэсу

За гады першай пяцігодкі мы пабудавалі ў БССР цэлы рад буйнейшых фабрык і заводаў, абсталяваных навейшымі машынамі і агрэгатамі. Але для выканання вытворчых заданняў гэтага недастаткова. Трэба асвоіць гэту новую тэхніку, навучыцца кіраваць складанай фабрычнай і заводскай гаспадаркай.

Не ўсе кіраўнікі нашых прадпрыемстваў добра ўяснілі выключнае значэнне правільнай арганізацыі вытворчага працэсу. Між тым, недаацэнка значэння арганізацыі вытворчасці немінуча прыводзіць да прарываў у выкананні промфінплана.

Узорам няўмення арганізаваць вытворчы працэс з'яўляецца былы дырэктар Менскай войлачнай фабрыкі тав. Свідэрскі. Як мы ўжо ўказалі вышэй, фабрыка ў І-м квартале 1934 г. сарвала промфінплан як па якасных, так і па колькасных паказчыках (па колькасці—

49 проц. плана, прадукцыя 1-га сорта складала 17 проц. супроць задання па плану — 87 проц., сабекошт павысіўся на 16 проц., замест зніжэння на 2,7 проц.). Тав. Свідэрскі аб'ясняў гэты ганебны прарыў аб'ектыўнымі прычынамі (дрэнная сыравіна, недахват паліва і т. д.).

Пры больш дэтальным вывучэнні справы аказалася, што калі некаторыя труднасці і мелі месца ў справе выканання промфінплана, то значэнне іх у сапраўдных прарывах вельмі нязначнае, яны складаюць усяго толькі некалькі процантаў, пры недавыкананні квартальнага плана фабрыкі на 51 проц.

У сапраўднасці аказалася, што перш за ўсё, запушчана ўся фабрычная гаспадарка. Двор і вытворчае памяшканне завалены розным кламам, які не ўбіраўся на працягу многіх месяцаў, што прывяло іх у антысанітарнае становішча; вытворчая сыравіна цэлымі кучамі валялася на дварэ пад адкрытым небам і гніла. Пасля аднаўлення кіраўніцтва фабрыкай на працягу двух месяцаў усе цэхі і двор яе былі заняты пад сушку гэтай сыравіны (шэрсць, штучная шэрсць). Амаль усё абсталяванне фабрыкі было прыведзена ў нягоднае становішча (шчыпальная машына працавала без калкоў, валікі валяльных машын сцерліся і пабіліся, кулачныя машыны паламаны і т. д.). На фабрыцы адсутнічала адзінаначалле. Сакратар парткома т. Маневіч умешваўся ў распараджэнні дырэктара і сам аддаваў распараджэнні аператыўнага характару. Няправільна былі расстаўлены тэхнічныя сілы. Адсутнічаў улік браку, з прычыны чаго не было адказнасці за масавы выпуск яго і за зрыў промфінплана.

Вось сапраўдныя прычыны ганебнага становішча на Менскай войлачнай фабрыцы. Не аб'ектыўныя прычыны, а дрэннае кіраўніцтва (вярней, адсутнасць усякага кіраўніцтва) прывяло фабрыку да цяжкіх прарываў.

Пасля ўмацавання кіраўніцтва фабрыка на працягу параўнальна кароткага часу выправілася, стала даваць добрую прадукцыю і ўшчыльную падышла да выканання промфінплана (у маі 92,2 проц).

Кіраўніцтва сучасным прадпрыемствам—вельмі адказная і складаная справа. Ад кіраўніка (дырэктара трэста, фабрыкі, начальніка буйнага цэха), апрача свядомага вывучэння і ведання сваёй справы, патрабуецца таксама наяўнасць пэўнага адміністрацыйнага вопыту. Дырэктар павінен дасканала аўладаць складаным майстэ ствам кіраўніцтва. Першае правіла, якое павінен цвёрда захоўваць кожны адміністратар гэта—цвёрды парадак на заводзе, у цэху, у брыгадзе. Гэты парадак нямыслім без паслядоўна правадзімага адзінаначалля. Нашы савецкія адміністратары маюць дастатковыя правы, каб правесці ў жыццё адзінаначалле і на аснове яго—цвёрды парадак і дысцыпліну. Але гэтымі правамі трэба ўмець карыстацца.

У справе асваення новай тэхнікі, устанаўлення цвёрдай вытворчай дысцыпліны вялікае значэнне мае агульная абстаноўка на прадпрыемстве: узорны выгляд рабочых памяшканняў, утрыманне іх у поўнай чыстаце, прывядзенне ў парадак фабрычных двароў і т. д. Стварэнне культурнай абстаноўкі на месцы работы мае выхаваўчае значэнне — рабочыя прывыкаюць да акуратнасці і да беражлівых адносін да машыны, сыравіны, гатовай прадукцыі. Культурныя навыкі паступова пераносяцца і ў штодзеннае бытавое жыццё рабочай сям'і.

## IV. Тэхвучоба

Гаворачы аб культурных умовах вытворчасці нельга адкінуць работу па падняццю агульнага развіцця рабочых і тэхвучобы, у прыватнасці. Наш совецкі рабочы, які працуе на новай фабрыцы са складаным абсталяваннем, толькі тады здолее выканаць вытворчыя заданні, калі ён атрымае неабходны мінімум агульнай адукацыі і пройдзе курс спецыяльнай тэхнічнай вучобы па сваёй вытворчасці. Непісьменны і малапісьменны рабочы не зможа забяспечыць тую якасць работы, якая ад яго патрабуецца.

На нашы прадпрыемствы, у сувязі з цякучасцю рабочай сілы і пашырэннем вытворчасці, штогод паступаюць тысячы новых рабочых, сярод якіх ёсць многа малапісьменных і нават зусім непісьменных. Патрэбнай работы сярод іх не вядзецца. Больш таго, нашы дырэктары часта не разумеюць, што яны павінны быць зачыншчыкамі і непасрэднымі ўдзельнікамі правадзімых мерапрыемстваў па павышэнню агульна-адукацыйнага ўзроўню рабочых.

У галіне тэхвучобы лёгкая прамысловасць БССР у апошнія месяцы мае пэўныя дасягненні. Тэхвучоба ў масавым выглядзе пачала разгортвацца пасля XVII з'езда партыі. Параўнальна паспяховае разгортванне тэхвучобы дало магчымасць склікаць ужо ў пачатку мая 1934 г. першую Ўсебеларускую канферэнцыю „зотаўцаў“ лёгкай прамысловасці.

Канферэнцыя, якая была склікана ў гор. Віцебску, прайшла з уздымам. Дэлегаты канфэренцыі—зотаўцы—абмяняліся вопытам вучобы і, раз'ехаўшыся па сваіх прадпрыемствах, справу тэхвучобы ўзнімаюць на яшчэ большую вышыню.

Разгортванне тэхвучобы па лёгкай прамысловасці БССР відаць з наступных даных: з 34613 рабочых, занятых у прадпрыемствах лёгкай прамысловасці рэспубліканскага значэння, на 1 сакавіка 1934 г. тэхвучобай было ахвачана 6 157 чал., к 20 красавіка—14 349 чал., к 10 мая—18 381 чал. і к 5 чэрвеня—19 200 чал. К моманту адкрыцця Віцебскай канферэнцыі тэхэкзамен здала 4 790 чал., з іх на „выдатна“ 2 400 чал. На 15 чэрвеня тэхэкзамен здала 6 100 чал., у тым ліку на „выдатна“—2 900 чал.

На канферэнцыі выявіўся выключны энтузіязм рабочых, асабліва моладзі. Заклік правадыра партыі—т. **Сталіна**—аб вывучэнні і асваенні тэхнікі знайшоў шырокі водгук у рабочых масах. Аднак, і ў гэтай галіне работы ёсць яшчэ істотныя недахопы, якія выяўлены на Віцебскай канферэнцыі. У асноўным яны зводзяцца да наступнага:

а) побач з перадавымі прадпрыемствамі, як, напрыклад: імя Клары Цэткін, „КІМ“, завод „Большэвік“, ф-брыка „Окцябр“ і інш., к моманту канферэнцыі мы мелі яшчэ не толькі паасобныя прадпрыемствы, але і галіны прамысловасці, дзе да тэхвучобы па-сапраўднаму яшчэ не падышлі (шкляная прамысловасць);

б) зусім нездавальняюча абстаіць справа з вучэбнай праграмай і вучэбнымі дапаможнікамі па большасці галін прамысловасці. У некаторых выпадках выяўлена, што ў вучобе карыстаюцца дапаможнікамі, якія маюць палітычна шкодныя ўстаноўкі;

в) зусім недастаткова ўцягнут у работу па к'раўніцтву тэхвучобай адміністрацыйна-тэхнічны персанал прадпрыемстваў;

г) не арганізаваны, за рэдкім выключэннем, гурткі-школы павышанага тыпу, для выдатнікаў, жадаючых прадаўжаць вучобу.

З моманту Віцебскай канферэнцыі прайшло каля 2-х месяцаў. Але трэба адкрыта прызнаць, што многія з указаных дэфектаў і дагэтуль не зжыты, многія рашэнні канферэнцыі не рэалізаваны. Дапускаць такога становішча мы не можам і абавязаны забяспечыць кожнаму рабочаму магчымасць узняць узровень сваіх тэхнічных ведаў. Асобна стаіць пытанне аб павышэнні тэхнічнай кваліфікацыі адміністрацыйна-тэхнічнага персанала прадпрыемстваў, а таксама наркаматаўскага і трэстаўскіх апаратаў, бо часта на кіруючых адміністрацыйна-тэхнічных пасадах мы маем людзей, якія не маюць спецыяльнай тэхнічнай адукацыі.

Ужо ў сучасны момант у радзе прадпрыемстваў усё больш чотка пачынаюць вырысоўвацца своеасаблівыя „нажніцы“: многія перадавыя рабочыя-ўдарнікі, „зотаўцы“ па сваіх тэхнічных ведах пачынаюць пераганяць сваіх адміністрацыйных і тэхнічных кіраўнікоў. Тэхвучоба і зотаўскі рух дапамаглі выявіць значныя кадры рабочай моладзі, з асяроддзя якой могуць быць вылучаны дзелавыя і здольныя брыгадзіры, начальнікі цэхаў і т. д. Але мы павінны зрабіць усё для таго, каб дапамагчы старым кадрам прасоўвацца ўперад у справе асваення тэхнікі і агульнага пашырэння светапогляду. Гэту работу мы павінны пачаць неадкладаючы.

## V. Асартымент, якасць прадукцыі, сувязь са спажыўцамі

Гаворачы аб асартыменце і якасці прадукцыі, неабходна, перш за ўсё, спыніцца на адным шкодным захапленні, якое мае месца ў рабоце лёгкай прамысловасці. Гэта – звышамерыканізм, які насаджаўся большасцю галін лёгкай прамысловасці і ў першую чаргу швейнай прамысловасцю за перыяд 1931, 1932 і 1933 гадоў. Гэта заблуджэнне не зжыта і па сучасны момант. Канкрэтна гэты звышамерыканізм выражаўся ў наступным:

а) празмерна вузкая спецыялізацыя фабрык;

б) вузкая стандартызацыя і рэзкае скарачэнне асартымента;

в) празмернае драбленне паасобных аперацый;

г) ушчыльненне рабочага часу не праз павышэнне прадукцыйнасці працы і зніжэнне сабекошту, а праз пагоршанне якасці работы, якасці прадукцыі, скарачэнне раду неабходных аперацый. Такое становішча магло мець месца ва ўмовах поўнага адрыву прамысловасці ад масы спажыўцоў.

У рэзультаце гэты звышамерыканізм (па сутнасці лявацкая лінія) прывёў многія прадпрыемствы нашай лёгкай прамысловасці, галоўным чынам швейную і абутковую, у рэзкую процілегласць з патрабаваннямі рынка. У паасобных выпадках з-за масавага выпуску нядобраякаснай прадукцыі справа дайшла да закрыцця паасобных цэхаў і да пастаноўкі пытання аб закрыцці нават цэлых прадпрыемстваў („Сцяг Індустрыялізацыі“, „КІМ“, імя Лекерта і інш.).

У сучасны момант найбольш глыбокія перагібы, дапушчаныя ў гэтай галіне, выпраўлены. Напрыклад, на швейнай ф-цы „Окцябр“ у 1933 г. асартымент прадукцыі складаўся з 4 фасонаў летніх паліто, 4 фасонаў зімніх, 1 фасона жаночых касцюмаў; у 1934 г. летніх паліто 9 фасонаў, зімніх—9, жаночых касцюмаў—2 фасоны. „Сцяг індустрыялізацыі“—у 1933 г. асенніх паліто—2 фасоны, зімніх—2, мужчынскіх касцюмаў—2 фасоны; у 1934 г. асенніх паліто—4 фасоны, зімніх—3, мужчынскіх касцюмаў—4 і запланавана на 3 квартал 5 фасонаў.

Паступова павялічваецца дзіцячы асартымент швейнай і абутковай прадукцыі: у другім квартале 1934 г. па швейнай прамысловасці

дзіцячы асартымент складаў 8,7 проц., на трэці квартал плануецца 11,9 проц.

Па скуранай прамысловасці ў другім квартале 1934 г. дзіцячы асартымент складаў 11,0 проц., на трэці квартал 41,0 проц., прычым дзіцячы і маладзіцячы асартымент даведзен у трэцім квартале да 8,7 проц. супроць 4,1 проц. у другім квартале.

Аднак, у адносінах асартымента і якасці прадукцыі мы яшчэ зрабілі надта мала.

Астаўшыяся да канца 1935 г. месяцы мы павінны скарыстаць для таго, каб грунтоўна падрыхтаваць перабудову ўсёй нашай работы, а частку правесці яшчэ ў бягучым годзе.

Гэта работа павінна быць праведзена на аснове наступнай установкі:

1) ва ўсіх гарадах, дзе ёсць прадпрыемствы швейнай прамысловасці, трэба выпрацоўваць увесь асартымент, які спажываецца на мясцовым рынку;

2) колькасць фасонаў павінна расшырацца і далей;

3) рашуча ўзняць удзельную вагу дзіцячага асартымента гатовых вырабаў;

4) з мэтай палепшання якасці прадукцыі, неабходна дадаткова ўвесці рад аперацый;

5) скараціць размер канвеераў-лент.

Адпаведныя мерапрыемствы павінны быць праведзены і па іншых галінах прамысловасці.

Усе гэтыя мерапрыемствы дадуць станоўчы рэзультат толькі тады, калі прамысловасць сапраўды звяжацца са спажыўцамі.

Нашы гандлюючыя арганізацыі, на жаль, да гэтага часу не апраўдалі сваёй ролі—звязваючага звяна. Таму вельмі востра стаіць пытанне аб устанаўленні непасрэднай сувязі прамысловых прадпрыемстваў са спажывецкімі масамі, што трэба праводзіць шляхам арганізацыі спецыяльных магазінаў прамысловасці, выпуску каталагаў і часопісаў, пабудовай выставак, намечаных да выпуску фасонаў, склікання канферэнцый прадстаўнікоў прамысловасці, гандлюючых арганізацый, спажыўцоў і т. д.

## VI. Паліва

Якое агромнае значэнне мае правільная пастаноўка паліўнай гаспадаркі на прадпрыемствах мы ўбачылі на вопыце мінулай зімы, калі на паліва не было звернута неабходнай увагі і своечасова не былі прыняты меры да забяспечання прамысловасці на зіму апалам.

У цэлым радзе прадпрыемстваў, пачынаючы са снежня 1933 г., мелі месца значныя прастоі, якія даходзілі на паасобных прадпрыемствах да 20—28 проц. рабочага часу. А некаторыя прадпрыемствы былі зусім спынены і на вялікі тэрмін (шклозавод „Пролетарый"—студзень—люты; шпалерная фабрыка—люты—сакавік).

Звычайна прарыў у рабоце з-за адсутнасці паліва аб'ясняюць аб'ектыўнай прычынай. Гэта няправільна, бо своечасовая загатоўка кандыцыйнага паліва, яго правільнае захаванне і расходванне цалкам залежаць ад людзей. Значыцца, мы маем справу з прычынай сугуба суб'ектыўнай. І сапраўды, хто, як не работнікі прамысловасці ў першую чаргу, павінны былі адказваць за зрыў плана завозу паліва летам мінулага года (калі мы не мелі ніякіх затрудненняў з паражняком).

Работнікі прамысловасці таксама цалкам нясуць адказнасць за зрыў плана здабычы торфу, нездавальняючую сушку і захаванне яго.

У сезоне 1933 г. план торфаздабычы па Наркамлегпрому быў сарван (выканана 73 проц. плана), прычым вільготнасць торфу ў многіх выпадках даходзіла да 60—70 проц. Мы не можам прыняць за аб'ясненне спасылку на метэаралагічныя ўмовы мінулага года, бо па паасобных торфзаводах, дзе да сушкі і захавання торфу падышлі па-гаспадарску (торфзавод „Звязда", пры шклозаводзе „Комінтэрн"), вільготнасць торфу не перавышала 40 проц.

Пара, нарэшце, пакончыць з агідным захаваннем торфу. У радзе выпадкаў з-за безгаспадарчага захавання яго на тэрыторыі саміх прадпрыемстваў і з прычыны ўплыву атмасферных асадкаў вільготнасць павялічвалася. Напр., на Менскай ЦЭЦ к вясне з-за недапушчальных адносін да захавання торфу, вільготнасць яго павысілася да 60—65 проц., супроць 40—45 проц. у момант завозу на тэрыторыю ЦЭЦ.

Для таго, каб не паўтараць памылак мінулага года і забяспечыць нашы заводы і фабрыкі палівам на зімні сезон 1934—35 г., неабходна правесці наступныя мерапрыемствы:

а) тэрмінова ўстанавіць самую жорсткую эканомію паліва, праверыць нормы спажывання яго на кожнай цепла-сілавой установцы, „берагчы паліва як хлеб";

б) справай забяспечання паліва, яго захавання абавязан займацца кожны дырэктар асабіста і штодзенна правяраць ход выканання задання па загатоўцы паліва, па захаванню і спажыванню яго;

в) прыцягваць да найстражэйшай судовай адказнасці ўсіх асоб, віноўных у зрыве мерапрыемстваў па паліву (зрыў загатоўкі, безгаспадарчае абыходжанне з палівам, перапал і т. д.);

г) рашуча пашырыць удзельную вагу торфу ў агульным балансе паліўных рэсурсаў.

Прымяненне торфу, як асноўнага паліва для прамысловых прадпрыемстваў, ва умовах БССР мае выключнае значэнне. Ёсць яшчэ многа коснасці і кансерватызму, а ў радзе выпадкаў і прамога сабатажу ў справе ўнядрэння торфу.

Мы маем наступную дынаміку спажывання торфу па лёгкай прамысловасці г. Менска:

1932 г.—608 тон
1933 г.—7 715 „
1934 г.—11 408 „ (2-ое паўгоддзе ўзята па плану).

Калі выходзіць з прыведзеных лічбаў, то можа стварыцца ўражанне пэўнага зруху. На самой-жа справе па ўнядрэнню торфу мы знаходзімся толькі ў самым пачатку работы. Толькі нязначная колькасць прадпрыемстваў лёгкай прамысловасці спажывае торф як асноўнае паліва (галоўным чынам шкляныя заводы). Побач з гэтым цэлыя галіны прамысловасці да пытання ўнядрэння торфу, як паліва, практычна яшчэ не падышлі (швейная прамысловасць, паліграфічная і т. д.).

План здабычы торфу па лёгкай прамысловасці БССР у 1934 г. павялічан на 128,1 проц. На 1-ае жніўня сезонны план выканан на 94 проц., каляндарнае заданне—на 113 проц.

Трэба адзначыць, што большасць торфзаводаў лёгкай прамысловасці ў бягучым сезоне здавальняюча спраўляецца са сваімі задан-

нямі. На 1-ае жніўня сезоннае заданне выканана поўнасцю наступнымі торфзаводамі: „Чырвоны тарфянік“, „Шлях Леніна“, „Звязда“, „Чырвоны Окцябр“. Некалькі адстае торфзавод „Міхановічы“— 93 проц. Сарваў план новы торфзавод—„Новы двор“.

Мы павінны ў бліжэйшыя дні дабіцца сапраўднага пераломў ў рабоце гэтых торфзаводаў і забяспечыць выкананне вытворчага задання шляхам дастаўкі ўпаўне кандыцыйнага паліва, вільготнасцю не больш 30 проц.

Павінны быць поўнасцю скарыстаны вельмі спрыяючыя метэаралагічныя ўмовы бягучага сезона. Ужо зараз неабходна пачаць вывозіць торф і стварыць пераходны запас на заводах і фабрыках.

Пастановай ЦК КП(б)Б і СНК БССР на трэці квартал 1934 г. па лёгкай прамысловасці дана заданне: вывезці 9 500 тон торфу. Гэты план з'яўляецца рэальным і мы абавязаны забяспечыць яго выкананне.

## VII. Фінансавая гаспадарка і ўлік

Фінансавая гаспадарка да гэтага часу астаецца адным з найбольш запушчаных участкаў работы лёгкай прамысловасці. Мы ў паасобных галінах прамысловасці нават не маем дакладна пастаўленага ўліку становішча фінансавай гаспадаркі. Як правіла, і ў трэстах і на прадпрыемствах фінансавая гаспадарка передаверана спецыяльным фінансавым работнікам, а дзе такіх няма—галоўным бухгалтэрам. Дырэктары заводаў або трэстаў непасрэдна і апаратыўна, за рэдкім выключэннем, фінансавай справай не кіруюць. З прычыны такога становішча мы маем вельмі нездавальняючыя паказчыкі не толькі за 1933 г., але і за першае паўгоддзе 1934 г.

У нашай практыцы былі і такія выпадкі, калі кіраўнікі завода або фабрыкі і кіраўнікі трэста не мелі абсалютна ніякага ўяўлення аб фінансавым становішчы сваіх прадпрыемстваў. Так, з прычыны няправільнага становішча бухгалтэрскай адчотнасці на скурзаводзе імя Сталіна (Магілеў) на 1 кастрычніка 1933 г. па балансу значыўся прыбытак у 800 тыс. руб. Выходзячы з гэтага, дырэкцыя завода і кіраўнікі Белскуртрэста лічылі, што на 1 студзеня 1934 г. завод выйдзе з прыбыткам, перавышаючым 1 млн. руб. У сапраўднасці-ж аказаўся ўбытак у некалькі сотень тысяч рублёў. Такім чынам, фактычны разрыў паміж прадпаложаным прыбыткам, у сапраўднасці аказаўся звыш 1 300 тыс. руб. Гэта такая буйная сума, што ўсякі кіраўнік, які арыентуецца ў фінансавых справах, павінен быў-бы памылку, дапушчаную бухгалтэрыяй, выкрыць у працэсе гаспадарчага года, але на скурзаводзе гэтага зроблена не было.

Многія гаспадарнікі лічаць, што бухгалтэрыя вельмі складаная навука, што вывучыць яе простаму смертнаму не пад сілу. Гэта ні на чым не абгрунтаванае заблуджэнне.

Для гаспадарніка-дырэктара аўладанне тэхнікай не можа абмежавацца вывучэннем толькі тэхналагічных працэсаў данага прадпрыемства. Неабходна таксама набыць мінімум эканамічных і рахунковых ведаў.

Дырэктар фабрыкі і завода, які не аўладаў асновамі бухгалтэрыі, уліку і не можа чытаць баланса,—не здолен забяспечыць комплекснага кіраўніцтва прадпрыемствам, бо ён цалкам будзе знаходзіцца ў пляну ў сваіх бухгалтэраў і фінансістаў. Можна дабіцца самых

бліскучых рэзультатаў па ўдасканаленню тэхналагічных працэсаў і ў той-жа час загубіць усю справу з-за расстройства фінансавай гаспадаркі.

Гэту ісціну павінен ведаць кожны гаспадарнік.

* * *

У СССР ёсць вобласці і рэспублікі, дзе выкананне і перавыкананне промфінплана стала традыцыяй. Ці можам мы мірыцца з такім становішчам, калі ў БССР у традыцыюператвараецца невыкананне плана, на жаль, па раду галін лёгкай прамысловасці (шкляная, швейная)?

КП(б)Б гэтай вясной дала моцны бой гнілой традыцыі адставання ў сельскай гаспадарцы. Рэзультаты нам вядомы: Беларусь у адносінах сяўбы вышла ў рад перадавых рэспублік. Традыцыя адставання аказалася на гэтым участку бітай.

Адной з важнейшых і неадкладных задач з'яўляецца задача ліквідацыі прарываў і адставання лёгкай прамысловасці, займаючай пераважнае становішча ў прамысловай прадукцыі БССР.

Сістэматычнае выкананне промфінплана па колькасных і якасных паказчыках павінна стаць справай гонару работнікаў лёгкай прамысловасці БССР.

Мы не сумняваемся, што пад кіраўніцтвам Цэнтральнага Камітэта КП(б)Б і т. Гікало гэта задача будзе выканана.

---

В. Якабсон

# Рачны транспарт БССР прадаўжае працаваць надзвычай дрэнна

*(Па матэрыялах Камісіі Савецкага Кантролю)*

Зусім невыпадкова II пленум Камісіі Партыйнага Кантролю пры ЦК ВКП(б) у сваёй пастанове аб ходзе арганізацыйнай перабудовы Наркамзема, Наркомсоўгасаў, НКШЗ і Наркамвода адзначыў, што:

> «На мясцах перабудова праведзена яшчэ ў меншай меры, чым у наркаматах... Чыгуначны транспарт раней чым другія прыступіў да перабудовы, аднак і там чоткасці ў рабоце і перабудове апарата ўсё яшчэ няма. Што-ж датычыць нізавых звенняў, то іх перабудова па НКШЗ і Наркамводу (станцыя, паравознае дэпо, прыстань) не закончана...».

Гэта сурова большэвіцкая ацэнка ходу арганізацыйнай перабудовы лішні раз указвае, што комуністы і беспартыйны актыў, якія працуюць на водным транспарце і, у прыватнасці, воднікі БССР, не забяспечылі да гэтага часу правядзення ў жыццё ўказанняў **тав. Сталіна** і пастаноў XVII з'езда аб рабоце транспарта.

Тав. **Сталін** на XVII з'ездзе партыі ў сваім дакладзе адзначыў:

> «Не можа быць сумнення, што ўсе гэтыя віды транспарта маглі-б працаваць многа лепш, калі-б органы транспарта не хварэлі вядомай хваробай, называемай канцылярска-бюракратычным метадам кіраўніцтва. Таму, апрача таго, што трэба дапамагчы транспарту людзьмі і сродкамі, задача заключаецца ў тым, каб выкараніць у органах транспарта бюракратычна-канцылярскія адносіны да справы і зрабіць іх больш аператыўнымі».

Пастановы ЦВК і СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 15/III—34 г. і 5/V—34 г., якія ў развіццё дырэктыў XVII з'езда партыі давалі канкрэтныя ўказанні шляхоў выпраўлення работы воднага транспарта, таксама як і ўказанні XVII з'езда, да гэтага часу воднікамі БССР і ў першую чаргу самім кіраўніцтвам параходства, не выкананы.

Кіраўніцтва Днепра-Дзвінскага параходства перабудавалася фармальна, раёны ліквідаваны, а замест іх створаны тэхнічныя ўчасткі. Нават прыстані атрымалі самастойнасць, але гэта толькі фармальна, бо па сутнасці сама работа параходства не перабудавана і прадаўжае аставацца нездавальняючай..

## Судно

Месячныя аператыўныя планы на чэрвень параходам спушчаны не былі, у той час як СНК і ЦК у сваёй пастанове ўказваюць, што ў аснову работы прыстані, парта і судна неабходна пакласці месячны аператыўны план, што параходства дае мясцам дырэктыву аб тым, што астаюцца ў сіле месячныя планы, указаныя ў навігацыйных планах, складзеных і спушчаных параходам яшчэ ў сакавіку і красавіку месяцах. Безумоўна, што такое планаванне ні ў якім разе нельга назваць аператыўным, калі ўлічыць яшчэ і тое, што ў гэтых планах былі ўказаны толькі такія вымярыцелі, як тона-кіламетравы і ходавы час, без указання колькасці рэйсаў, нагрузкі на рэйс і т. д.

Месячны план перавозак на чэрвень дыспетчарскім пунктам (за выключэннем Крычава) быў дан своечасова, але ў гэтых планах параходства зусім не ўказала катэгарыйнасці грузаў. Убачыўшы пазней сваю памылку, яе не выправілі: параходствы ўказалі прыстаням і дыспетчарскім пунктам, што трэба выдзяліць грузы першай катэгорыі, але канкрэтна, якія грузы павінны ісці па першай катэгорыі, не вызначылі.

Аператыўнае кіраўніцтва буксірным і транспартным флотам праводзіцца не самім кіраўніцтвам параходства, як гэтага патрабуе пастанова СНК і ЦК, а створанымі дыспетчарскімі пунктамі па пасобных месцах, г. зн. у Мозыры—на р. Прыпяць, у Магілеве—на р. Днепр, Крычаў—верхні ўчастак Сожа і т. д. Гэтыя пункты, падпарадкуючыся непасрэдна параходству, на месцы кіруюць транзітным флотам. Гэтым параходства, замест ранейшых раёнаў, стварыла тыя-ж самыя эксплаатацыйныя ўчасткі, толькі пад назвай дыспетчарскіх пунктаў. Такое становішча прывяло да таго, што флотам фактычна кіруюць адначасова з двух цэнтраў, г. зн. дыспетчарскія пункты і само кіраўніцтва праз галоўнага дыспетчара. Іх распараджэнні паміж сабою не ўзгадняюцца, што выклікае дрэннае скарыстанне флота і рад іншых недарэчнасцей. Так, напр., галоўны дыспетчар параходства т. Дрэйшаў у пачатку чэрвеня знімае пасажырскі параход з лініі Жлобін—Лоеў, не папярэдзіўшы Магілеўскага дыспетчара, які кіруе работай флота гэтага ўчастка. З-за гэтага грузы ў Лоеве чакаюць адпраўкі на Магілеў праз Жлобін, а Жлобін грузаў не мае і параход, які абслугоўвае лінію Жлобін—Магілеў, ідзе 3—4-VI з грузам у 1 тону замест 15—18 тон, а пасажыры з білетамі на Лоеў, Кіеў і іншыя напрамкі былі прывезены з Магілева ў Жлобін і там некалькі дзён чакалі парахода на Лоеў.

Такім чынам параходства, няправільна стварыўшы дыспетчарскія пункты і перадаверыўшы ім кіраўніцтва флотам, прывяло к дрэннаму скарыстанню і загрузцы яго.

Сістэма дачы парэйсавых загадаў, заданняў уведзена з 1-VI—34 г., але ў гэтай сістэме параходства дапусціла грубыя парушэнні і скажэнні пастановы СНК і ЦК аб парэйсавым планаванні. Так, напр., параходства, замест таго, каб даць дакладнае ўказанне аб тым, што парэйсавыя загады-заданні, паложаныя ў аснову выканання аператыўнага месячнага плана, у суме сваёй за месяц не могуць быць менш месячнага плана, данага параходу на падставе ўліку яго магутнасці і магчымасці, як гэтага патрэбуе партыя і ўрад, дае ў сваёй інструкцыі дырэктыву аб тым, што:

«Загад з'яўляецца канкрэтным заданнем на рэйс або абарот і

сума такіх заданняў па сканчэнні месяца з'яўляецца ўдакладненым месячным планам».

З гэтага відаць, што дыспетчары, даючы параходам парэйсавыя заданні на падставе таго колькі ёсць грузаў на прыстані (а іх часта нехапае для поўнай загрузкі параходаў, як—параходы: «Валката»—Віцебск, «Молатаў», «Ленін»—Гомель, «Пролетарый»—Магілеў) плануюць параходам зменшаныя заданні, што прыводзіць да недагрузкі параходаў на 35—40 проц. і безумоўна вядзе да невыканання плана перавозак.

Апрача гэтага, параходства ў сваёй інструкцыі груба парушыла дырэктыву ўрада аб адказнасці начальнікаў прыстані за забяспечанне параходаў грузамі. Параходства ўжо загадзя па-апартуністычнаму рыхтуецца к адсутнасці грузаў на прыстані і адначасова апраўдвае ў гэтым начальнікаў прыстаней. Так, параходства ў сваёй інструкцыі дае ўказанні прыстаням аб тым, што:

> «Тэхнічная магчымасць парахода, як правіла, не дасягае 100 проц., а бывае менш, а таму трэба перайсці да фактара эканамічнага парадку (у даным выпадку ён заключаецца ў сярэдніх прабегах пасажыраў і грузаў)».

Працягваючы гэты апартуністычны дакумент, параходства прыходзіць да двух вывадаў: па-першае, трэба планаваць заданне параходам не канкрэтна, а з разліку сярэдняга прабегу пасажыраў і грузаў, г. зн. параходства прыходзіць к метаду, асуджанаму партыяй і ўрадам, і, па-другое, трэба, моў, улічыць, што прыстані не змогуць цалкам і поўнасцю забяспечыць параходы грузамі ў той час, як партыя і ўрад патрабуюць:

> «Ускласці на начальнікаў прыстаней абавязкі прыцягнення грузаў на ваду».

І што ў:

> «парэйсавым загадзе-заданні павінна быць забяспечана максімальнае скарыстанне магутнасці і грузапад'ёмнасці суднаў і паказаны: род грузаў, якія трэба перавозіць, колькасць тон, тона-кілометраў і напрамак грузаў».

У выніку такіх «дырэктыў» кіраўніцтва параходства, разлічаных на самацёк, дыспетчарскія ўчасткі і нават сам галоўны дыспетчар параходства ў парэйсавых загадах-заданнях указваюць толькі тонакілометры, не ўказваючы напрамку грузаў, род грузаў і т. д. Гэта значыць, прадаўжаюць планаване наогул, а не канкрэтна, што ў сваю чаргу прыводзіць да таго, што адпраўкай грузаў вялікай хуткасці фактычна плануе вагаўшчык і капітан парахода, якія непасрэдна вядуць перагаворы па гэтай справе з кліентурай (Магілеў—параход «Пролетарый», там-жа вагаўшчык).

Самі парэйсавыя загады-заданні выдаюцца параходам не за 6, а за 2 і 3 гадзіны да адыходу, а часта нават і перад самым адыходам, чым зноў-такі парушаюць дырэктыву партыі і ўрада (Віцебск, Магілеў, Гомель і інш.). Зусім не выпісваюцца парэйсавыя загады-заданні мясцоваму флоту, прыпісанаму прыстаням, а адсюль не выпадкова выключна дрэннае скарыстанне яго. Так, па Віцебску, напр., матакацер «Звеннявы» ў красавіку карысна працаваў толькі 409 га-409 гадзін, а 455 гадз. працаваў некарысна (чаканне распараджэння і інш.). У маі месяцы некарысная работа гэтага кацера складала 46 гадзін, што ў абодвух выпадках дало перапалу 4 003 кгр. карасіны.

Як пасажырскі, так асабліва і буксірны флот, з-за няпоўнай загрузкі яго, не выконвае заданняў па нагрузцы на 1 індыкатарную сілу (Магілеў, Віцебск і інш.). Зусім абураючае становішча са скарыстаннем флоту па Крычаўскаму ўчастку. Там у красавіку месяцы з усяго буксірнага флота ў 9 000 сіла-сутак было скарыстана толькі 43 проц. гэтага часу, а 57 проц. не было скарыстана з-за адсутнасці гаручага—2 941 сіла-сутак, паўторнасці рамонту—353 сіла-сутак і сканчэння зімняга рамонту—1 900 сіла-сутак. У маі месяцы флот працаваў толькі 8 дзён, а 22 дні стаяў у чаканні гаручага. Такім чынам, за 2 месяцы флот быў скарыстан на 35—38 проц., а ў чэрвені, ужо маючы гаручае, флот скарыстан не мог быць з-за нізкіх гарызонтаў вады. Тут-жа план перавозак грузаў першай катэгорыі ў красавіку выканан на 25 проц., а ў маі толькі на 4 проц.

Работа Крычаўскага флота сведчыць аб тым, што кіраўніцтва параходства не перабудавала сваю работу так, як гэтага патрабуюць партыя і ўрад. Да гэтага трэба яшчэ даць, што капітаны амаль ніколі не бачаць начальніка параходства тав. Почэбута, начальніка сектара эксплаатацыі тав. Бануса, галоўнага дыспетчара тав. Дрэйшава і інш., бо гэтыя работнікі ў большасці сваёй адсіджваюцца ў габінетах кіраўніцтва, а самое кіраўніцтва транзітным флотам перадаверылі дыспетчарскім пунктам і на гэтым заспакоіліся.

## Прыстань

Урад запатрабаваў «пакласці ў аснову работы прыстані, парта і судна месячны план перавозак, які атрымліваецца партом і прыстанню за подпісам начальніка параходства не пазней, чым за 5 дзён да пачатку плануемага месяца». Работнікі параходства не забяспечылі выканання гэтай пастановы, бо прыстані Крычава і Магілёва плана на чэрвень месяц не атрымалі, а дыспетчарскія пункты далі ім выпіскі прадпалагаемых перавозак па іх участках.

Па Гомельскай прыстані справа з давядзеннем чэрвеньскага месячнага плана да начальніка прыстані паказала ўсю бюракратычнасць і безалаберщчыну апарата параходства. Так, сектар эксплаатацыі перадаў план адміністратыўнаму сектару 26-V, які, пратрымаўшы яго да 28-V, перадаў у канцылярыю парта, сакратар-жа канцылярыі парта перадаў яго начальніку толькі 1/VI, г. зн. са спазненнем на 6 дзён, прычым ад Кіраўніцтва параходства да канцылярыі парта ходу ўсяго 5—7 мінут, а сам начальнік парта прыстані тав. Тытэнко кожны дзень бывае ў Кіраўніцтве параходства.

Усе начальнікі прыстаней зусім не кіруюць і не кантралююць пагрузкай і выгрузкай на сваіх участках, а займаюцца гэтым непасрэдна на самой прыстані, у той час як параходствам да прыстаней прыпісаны ўчасткі адлегласцю на 30—50 клм., на якіх і ідзе ў асноўным уся пагрузка грузаў малой хуткасцю. Таму гэтай справай выпадкова займаюцца толькі дыспетчарскія пункты, а начальнікі прыстаней фактычна зноў астаюцца збоку.

Адсюль выключна дрэнная работа ўсяго параходства і яго прыстаней, у прыватнасці ў прыцягненні грузаў з чыгункі на ваду. У маі месяцы наогул ніякіх грузаў змешанага адпраўлення не прымалі з той прычыны, што яны не былі забяспечаны вагонамі на перавалкі, у чэрвені-ж прымалі толькі тое, што даваў сам кліент, не ўстанаўляючы кантакту ў сваёй рабоце з чыгуначнымі станцыямі.

Па Бабруйску, напр., тут-жа, побач з прыстанню, дрэваапрацоўчы камбінат на красавік месяц атрымаў ад чыгункі 144 вагоны на поўдзень, прычым некаторыя з іх ішлі на адрас такіх заводаў, якія знаходзяцца на беразе Дняпра, г. зн. па прамому воднаму шляху з Бабруйска.

Не выконваецца начальнікамі прыстаней (Віцебск, Гомель і інш.) пастанова ўрада аб дачы мясцоваму флоту парэйсавых загадаўзаданняў. Мясцовы флот такіх загадаў наогул не атрымлівае, што выклікае нерацыянальнае скарыстанне і лішнія прастоі яго (Віцебск), у той час, як па паасобных прыстанях параходы-буксіры самі для сябе збіраюць грузы.

Станоўчым момантам работы паасобных прыстаней супроць мінулай навігацыі трэба лічыць палепшанне справы абслугоўвання пасажыраў. Такія прыстані як Віцебск, Магілеў, Бабруйск зараз ужо забяспечылі пасажыраў адпаведнымі чакальнямі. Але справа яшчэ няскончана, бо чакальні часта бываюць зачынены, няма буфетаў, вады і інш.

Надзвычай дрэнна з абслугоўваннем пасажыраў па такіх прыстанях, як Рэчыца, Лоеў, Барысаў і т. д., дзе пасажыры ў чаканні парахода павінны сядзець на беразе пад адкрытым небам.

Параходства сумесна з тэрытарыяльнымі арганізацыямі павінна гэту справу неадкладна наладзіць і выправіць. Трэба стварыць пасажырам культурнае месца чакання парахода.

Нявыканана прыстанямі, а таксама і самім параходствам, пастанова СНК і ЦК аб 15—20 проц. зніжэнні збораў за пагрузачна-разгрузачныя работы на грузы змешанага адпраўлення.

## Участкі шляху

Арганізаваныя згодна рашэння ўрада ўчасткі шляху не змаглі да гэтага часу перабудаваць сваю работу ў адпаведнасці з указаннямі партыі і ўрада толькі таму, што гэтыя ўчасткі не атрымалі неабходнай дапамогі і кіраўніцтва з боку кіраўніцтва параходства: на ўчастках у 400—500 клм. яны не маюць нават маленькіх катэраў для абслугоўвання работ, а параходства, каб фармальна аддзелацца і адвязацца ад участка, вызначыла ім катэры «Юнкерс», якія самім параходствам на працягу 2-х год асвоены не былі і да гэтага часу стаяць нескарыстаныя з-за адсутнасці запасных частак. Апрача гэтага, самі работнікі пуцейскіх участкаў прадаўжаюць працаваць бюракратычнымі метадамі. Так, напр., начальнік Бабруйскага ўчастка Міронаў за час навігацыі да другой палавіны чэрвеня зусім не быў на лініі Барысаў—Броды, а па лініі Барысаў—Бабруйск праехаўся толькі адзін раз. Гэты-ж Міронаў, з мэтай умацавання работнікамі самой канторы ўчастка, незаконна павялічыў штат апошняй на 3 асобы, з якіх аднаго за кошт абстаноўкі і двух за кошт вышукальнай партыі. І гэта ў той час, калі становішча абстаноўкі выключна дрэннае і не забяспечвае неабходныя правілы плавання, вынікам чаго, напр., і была аварыя 14-V—34 г., калі 3 баржы каля Бабруйска з прычыны адсутнасці абстаноўкі сталі на мель і патрабавалася работа двух параходаў на працягу цэлай ночы і нават перагрузка грузаў для таго, каб зняць баржы з мелі.

Зусім не выпадкова справамі палепшання шляху і ўстанаўлення часовых збудаванняў у чэрвені месяцы па Віцебску займаліся начальнік эксплаатацыйнага ўчастка і прыстані, а ў Магілеве—сакра-

тар парткома, бо работнікі ўчасткаў шляху не перабудавалі зместу сваёй работы, аператыўна не займаюцца сваёй работай, а адсюль, як вынік, не спраўляюцца з пастаўленымі перад імі задачамі.

Усё вышэйпрыведзенае сведчыць аб тым, што параходства да гэтага часу не перабудавала сваёй работы, а прадаўжае кіраваць прыстанямі і параходамі канцылярска-бюракратычнымі метадамі, што ў сваю чаргу выявілася пры выкананні дзяржаўнага плана перавозак. Так, пры заданні на красавік—май месяцы ў 237 139 тон параходства перавезла толькі 208 727 тон або 88 проц. плана. Яшчэ больш сарван план перавозак за чэрвень месяц, бо пры заданні ў 113 700 тон, перавезена толькі 85 503 тоны або 75,2 проц. плана, пры поўнай магчымасці выканання плана. Гэта сведчыць аб няправільным скарыстанні флота і яго прастоях.

ЦК ВКП(б) у сваёй пастанове аб палітаддзелах на чыгуначным транспарце, пры ўстанаўленні прычын дрэннай работы чыгункі, адзначыў, што:

> «Адказнасць кладзецца перш за ўсё і галоўным чынам на камуністаў і беспартыйных актывістаў чыгуначнага транспарта зверху да нізу. Камуністы і беспартыйныя актывісты і толькі яны прызваны кіраваць чыгуначным транспартам. Яны-ж і адказваюць за яго неўпарадкаванасць, за перабоі ў яго рабоце».

Гэта ацэнка ролі камуністаў і беспартыйнага актыва не ў меншай меры датычыць і работнікаў воднага транспарта, аб гэтым трэба помніць больш за ўсё.

Воднікі БССР шляхам правядзення сапраўды большэвіцкай перабудовы сваёй работы павінны забяспечыць штодзённае канкрэтнае кіраўніцтва работай прыстані і флотам, як асноўных звенняў, якія рашаюць выкананне планаў перавозак па вадзе.

Трэба, каб капітан стаў гаспадаром той адзінкі, на якую ён пастаўлен і каб ён меў выразны і чоткі план сваёй работы. Для гэтага ён павінен атрымліваць непасрэдна ад Кіраўніцтва параходства штомесячны аператыўны план сваёй работы з указаннем усіх вымярыцеляў работы за даны месяц, у тым ліку і ўказаннем аб колькасці рэйсаў і характару работы.

Для выканання гэтага месячнага плана, разлічанага на максімальнае скарыстанне магутнасці парахода, апошні перад кожным рэйсам павінен атрымаць парэйсавы загад-заданне, у якім абавязкова трэба ўказаць род грузу, падлягаючага перавозцы, колькасць тон, тона-кілометраў і дакладны напрамак грузаў. А для таго, каб дыспетчарскі апарат змог даць параходу такі загад, усе начальнікі прыстаней павінны кожны дзень паведамляць дыспетчараў аб тым, колькі і якога грузу яны маюць.

Самі загады-заданні павінны быць падрыхтаваны за 6 гадз. да адыходу парахода і аддадзены капітану, а таксама даведзены да ведама начальнікаў прыстаней, якія павінны ўсебакова падрыхтавацца да сустрэчы і адпраўкі парахода з тым, каб унікнуць лішняга прастою і адпраўкі недагружанага.

Каманда парахода і ў першую чаргу капітан, парторг і судком на падставе гэтага мабілізуюць усю каманду, даводзячы да іх план прадстаячай ім работы.

Толькі такім парадкам загрузкі і скарыстання парахода будзе забяспечана яго максімальнае скарыстанне, а адсюль і выкананне дзяржаўнага плана перавозак.

Ніякія спасылкі на недахоп і адсутнасць грузаў, нават і на дробных прыстанях, не могуць апраўдаць дрэннай работы воднікаў. Народная гаспадарка мае грузы, трэба толькі ўмець узяць і забяспечыць іх перавозкай.

Трэба таксама неадкладна спыніць бясплanавую і пустую работу мясцовага флота, прымацаванага да прыстаней. Спасылкі на тое, што трэба выпісваць вельмі вялікую колькасць загадаў і нельга папярэдне поўнасцю ўлічыць яго работу, з'яўляюцца спасылкамі апартуністычнага харктару, спасылкамі бюракратаў, не жадаючых паварушыць свае мазгі вакол пытання аб добрым і карысным скарыстанні мясцовага флота.

Мясцовы флот за 2 гадзіны да пачатку работы павінен мець выразнае заданне. Трэба, нарэшце, спыніць стаянкі яго ў чаканні распараджэнняў.

Згодна апошніх рашэнняў партыі і ўрада, прыстаням і іх начальнікам дан рад самастойных правоў, якіх яны не скарыстоўваюць. Нельга дапусціць такога становішча, як было ў чэрвені месяцы на такіх прыстанях, як Жлобін, Рагачоў, Бешанковічы і інш., калі з-за адсутнасці грузаў пасажырскія параходы ўходзілі з загрузкай на 25 проц. і нават менш, а капітан ужо па дарозе самастойна, па-за прыстанню, шукаў і падбіраў грузы.

Начальнікі прыстаней са сваім апаратам павінны штодзенна звязвацца з усімі арганізацыямі, якія знаходзяцца на іх тэрыторыі з тым, каб забяспечыць выяўленне і прыцягненне грузаў і поўнасцю загрузіць імі параходы.

Начальнікі прыстаней і іх агенты павінны сістэматычна бываць на лініі сваёй тэрыторыі абслугоўвання для таго, каб штодзенна сачыць за ходам пагрузкі, бо гэтай справай фактычна ніхто не займаецца, а адсюль—перапрастоі транспартнага флота і парожнія прабегі буксірнага флота.

Як начальнікі прыстаней, так і капітаны параходаў павінны поўнасцю скарыстаць свае правы для лепшага абслугоўвання пасажыраў (чаго ў нас да гэтага часу яшчэ няма).

Само кіраўніцтва параходства, і асабліва такія яго сектары як: эксплаатацыі, судна-механічны і шляху павінны асноўную частку свайго часу праводзіць не ў канцылярыі, а непасрэдна на параходзе, прыстані, участку шляху і майстэрні з тым, каб ведаць патрэбы параходства, ведаць, чым жыве кожная адзінка, дапамагаць ім у іх рабоце, інструктаваць іх і т. д. Без гэтага Кіраўніцтвы параходства работу не паднімуць.

Седзячы ў канцылярыі плана перавозак не выканаеш і будзеш заўсёды адставаць—гэта павінны помніць работнікі воднага транспарта БССР.

В. Адлерштэйн

# Перабудаваць работу оптавых баз—важнейшага звяна таваразвароту

*(Па матэрыялах Камісіі Совецкага Кантролю)*

У сістэме мерапрыемстваў партыі і ўрада па разгортванню совецкага гандлю пачэсна месца адведзена перабудове оптавага звяна на аснове прыцягнення прамысловасці і арганізацыі ёю спецыялізаваных збытавых баз, якія павінны, побач з гандлёвымі базамі, стаць арганізатарамі культурнага совецкага гандлю, ускрываць і аналізаваць усе фактары, абмоўліваючыя спажывецкі попыт.

Таму задачы, пастаўленыя перад арганізаванымі прамысловымі базамі, выключна вялікія: лепшае абслугоўванне гандлёвай нізоўкі, фарміраванне для яе неабходнага асартыменту на аснове вывучэння спажывецкага попыту і т. д.

Практычнае ажыццяўленне гэтых задач прамысловымі базамі павінна мець сваім рэзультатам ператварэнне іх у заслон супроць механічнай засылкі тавараў, прыняўшай шырокія размеры пры сплашным транзіце.

Якія-ж вынікі работы прамысловых баз за два гады іх існавання? Было-б у корані няправільна адмаўляць тыя зусім бясспрэчныя дасягненні, якія маюцца ў рабоце гэтых баз. Набліжэнне тавара да нізавога гандлёвага звяна, больш быстрая абарачваемасць таварных мас і інш.—усё гэта можна беспамылкова запісаць у актыўнае сальдо баланса прамысловага опта.

Тым не менш на сёнешні дзень мы маем адставанне большасці прамысловых баз ад тых выключна важных і адказных задач, якія паставілі перад імі партыя і ўрад у галіне разгортвання совецкага гандлю.

Прычыны гэтага адставання трэба шукаць у той дыспрапорцыі, якая маецца паміж новай сістэмай арганізацыі таварапрасоўвання праз спецыялізаваныя прамысловыя базы і старой сістэмай кіраўніцтва, нізкая якасць якога не адпавядае вырасшым задачам і патрабаванням совецкага гандлю.

Матэрыялы Камісіі Совецкага Кантролю па абследванню прамысловых збытавых баз указваюць на надзвычай нездавальняючую работу гэтых баз у сферы таваразвароту. Асабліва характэрным для работы гэтых баз на сёнешні дзень з'яўляецца тое, што яны ўсё яшчэ іграюць ролю пераваланчна-складскіх пунктаў, механічна адгружаючых гандлюючым арганізацыям усё тое, што ім прысылае прамысловасць.

Само сабой зразумела, што такое становішча гандлёвых арганізацый, якія знаходзяцца ў вапіючай супярэчнасці з задачамі арганізацыі гэтых баз, выяўляецца, перш за ўсё, у невыкананні імі планаў тавараразвароту. Так, сістэма Саюзшвейзбыту плана рэалізацыі швейных вырабаў невыконвае з квартала ў квартал. Гэта, вядома, з'ява далёка не выпадковая. Сістэматычнае невыкананне плана рэалізацыі швейных вырабаў нельга аб'ясняць адсутнасцю попыту на гэтыя тавары. Наадварот, рост дабрабыту і пакупной здольнасці працоўных мас нашай краіны прад'яўляе ўсё большыя запатрабаванні на тавары шырокага спажывання.

Прычыны невыканання прамысловымі збытавымі аб'яднаннямі планаў тавараразвароту карэняцца, перш за ўсё, у тым, што базы прымаюць ад прамысловасці тавар нездавальняючага асартыменту і часам нізкай якасці. А гэта, у сваю чаргу, аб'ясняецца тым, што базы не змагаюцца за канкрэтны тавар, неабходны абслугоўваемаму імі раёну, зусім ігнаруючы неабходнасць прасоўвання тавараў да спажыўца ў патрэбным яму асартыменце і добрай якасці.

Тут-жа трэба асабліва падкрэсліць зусім недапушчальныя адносіны прамысловых баз да важнейшай дырэктывы партыі і ўрада аб папярэдніх заказах. Верасеньскі пленум ЦК ВКП(б) у 1932 г. у сваім рашэнні аб совецкім гандлі сказаў:

«Улічваючы, што наяўнасць шырокай сеткі оптавых баз дае магчымасць ажыццявіць сістэму папярэдніх заказаў з боку нізавых кааператураў, пленум ЦК ВКП(б) прапануе камітэту таварных фондаў пры СТО распрацаваць і ўвесці з 1 студзеня 1933 г. сістэму папярэдніх заказаў дзяржгандлю і каапераціі, з ахватам імі не менш 50 проц. рыначнай прадукцыі па важнейшых таварах шырокага спажывання (тканіна, абутак, сукенкі і т. д.)».

У развіццё гэтай пастановы верасеньскага пленума ЦК ВКП(б) СНК СССР устанавіў, што 45 проц. рыначнага фонду швейных бавоўняных вырабаў павінна завазіцца ў парадку папярэдніх заказаў. І гэта ўпаўне натуральна. Папярэдні заказ—важнейшы фактар уздзеяння спажывання на выраб тавараў, аснаваны на вывучэнні спажывецкага попыту. Гэта ўздзеянне гандлёвай сістэмы на выраб тавараў у бок прыстасавання выпрацоўваемага асартыменту да тых ці іншых асаблівасцей спажывецкага попыту можа быць аказана ў грамаднай ступені дзякуючы папярэднім заказам.

Калі і на сёнешні дзень усё яшчэ існуе зусім абязлічаная сістэма планавання тавараразвароту, якая адлюстроўвае механічнае размеркаванне па раёнах адных толькі цэнтралізаваных фондаў без асартыментнага разрэзу і т. д., то гэта ў асноўным аб'ясняецца тым, што сістэма папярэдніх заказаў не ўнядрылася, або ўнядрылася ў вельмі абмежаванай ступені, у практыку ўзаемаадносін паміж прамысловасцю і гандлёвай сістэмай. Таму арганізацыя таварапрасоўвання на аснове папярэдніх заказаў закрыла-б шлях пранікненню ў тавараправодзячы апарат няходавых і несезонных тавараў і тым самым з'явілася-б важнейшай умовай паскарэння тавараразвароту.

Усяго гэтага незразумелі або не хацелі зразумець кіраўнікі цэлага раду прамысловых баз. Даволі сказаць, што па Віцебскай базе Саюзшвейзбыту, маючай мільённыя абароты, аб'ём работы па папярэдніх заказах вызначаецца ўсяго толькі некалькімі тысячамі рублёў. Характэрнай пры гэтым з'яўляецца механічная прыёмка

базай папярэдніх заказаў ад гандлюючых арганізацый без аналіза правільнасці гэтага заказу.

Так, гэта саюзшвейзбытаўская база прымае ад Гарадокскага райсаюза папярэдні заказ, які прадугледжвае адгрузку зімніх паліто ў летнія месяцы, лічачы гэта зусім нармальным, бо «любой арганізацыі прадастаўляецца права ўказаць у папярэднім заказе, які прадмет яна лічыць неабходным патрабаваць ад базы, і што будзе няверна, калі мы яе пазбавім таго ці іншага прадмету, хоць-бы зімніх паліто на ліпень, жнівень і верасень месяцы». Прамысловыя базы пры гэтым забываюць аб тым, што яны прызваны **арганізаваць тавараразварот** у сістэме прымацаваных да іх гандлюючых арганізацый, што задача ўздзеяння на прамысловасць можа быць імі выканана ў рэзультаце вывучэння попыту. А гэта значыць, што роля базы ў справе папярэдніх заказаў зусім не можа і не павінна звесціся да пасіўнай прыёмкі тавараў. База павінна аналізаваць кожны прымаемы ёю заказ з пункту гледжання адпаведнасці яго сезонным і іншым асаблівасцям спажывецкага попыту.

Такая пастаноўка папярэдніх заказаў патрабуе пэўнай арганізацыі гэтай справы. Тут неабходна непасрэдная сувязь базы з данай гандлюючай арганізацыяй і раёнам, які яны абслугоўвае.

Між тым, апартуністычныя адносіны кіраўнікоў цэлага раду прамысловых збытавых баз да гэтай важнейшай дырэктывы партыі і ўрада прывялі да таго, што яна знайшла вельмі нязначнае праламленне ў іх рабоце. І сапраўды, на Віцебскай і іншых базах Саюзшвейзбыту і Саюзхлопказбыту гандлюючыя арганізацыі вымушаны з наяўных запасаў тавараў адбіраць у лік папярэдніх заказаў усё тое, што мае самыя далёкія адносіны да прадугледжанага імі асартыменту. Тут сціраецца якая-б там ні была грань паміж адборам тавараў у парадку папярэдніх заказаў і ў парадку агульных адгрузак.

Адсюль, бясспрэчна, выцякае тое, што базы не пабудавалі сваёй работы на аснове канкрэтнага вывучэння попыту і таварнага асартыменту, які мае пашырэнне ў даным раёне, зусім няправільна лічачы, што не іх справа рабіць уплыў на складанне вытворчых праграм прамысловасці для прывядзення асартыменту вырабляемай ёю прадукцыі ў адпаведнасць са спажывецкім попытам. У рэзультаце—важнейшую праблему асартымента на сяньёшні дзень вырашае не база, а кладаўшчык фабрыкі. І атрымліваецца, што ў асартыменце Віцебскай базы Саюзхлопказбыту сезонны тавар амаль дасягае 10 проц., а на базах Саюзшвейзбыту астаткі зімняга, не сезоннага тавару, вылічаюцца мільёнамі рублёў. А збытавыя арганізацыі, у прыватнасці Саюзшвейзбыт, усё яшчэ няправільна арыентуючыся на дэфіцытнасць швейных вырабаў, упэўнены, што рынак паглынае любы асартымент гэтых вырабаў, зусім забываючы аб узрослых патрабаваннях працоўных нашай краіны.

Абсалютная недапушчальнасць такога становішча ўсугубляецца тым, што прамысловыя базы мелі ўсе ўмовы для ўздзеяння на выраб тавараў. Будучы, з аднаго боку, цесна звязаны з прамысловасцю, а з другога,—з нізавымі гандлюючымі арганізацыямі, прамысловыя базы маюць усе магчымасці наладзіць вывучэнне параённага попыту, не кажучы ўжо аб тым, што яны, у адрозненне ад універсальных баз спажывецкай кааперацыі і дзяржгандлю, з'яўляюцца спецыялізаванымі базамі, працуючымі з вузкім кругам тавараў.

Пры такім становішчы, якое характарызуецца нявывучанасцю попыту і адсутнасцю якога-б там ні было ўздзеяння на вытворчасць, прамысловыя базы зусім адарваны ад рынку, механічна прымаючы і засылаючы гандлюючым сістэмам таварны паток фабрыкі. З гэтага боку базы на сёнешні дзень прадстаўляюць сабою ў значнай ступені перавалачныя пункты, часам дрэнна выконваючыя нават функцыі складзіравання і транспартыроўкі таварных мас.

Таму зусім няверным з'яўляецца сцверджанне паасобных дырэктароў баз аб тым, што не механічнае размеркаванне тавараў, а адгрузка іх па нарадах сваіх цэнтраў вызначае змест работы гэтых баз. Памылковасць такога проціпастаўлення механічнага размеркавання тавараў адгрузкам па нарадах заключаецца ў тым, што не самы факт адгрузкі тавараў па нарадах робіць базу пунктамі, якія механічна размяркоўваюць прадукцыю. Такімі базы становяцца таму, што выкананне імі гэтых нарадаў ажыццяўляецца не на падборы неабходнага данаму раёну асартыменту, а выключна на адгрузцы таго вузкага асартыменту, які маецца на базе. Гэта і ёсць адна з рознавіднасцей механічнага размеркавання тавараў.

Тав. **Сталін** на XVII з'ездзе ВКП(б) сказаў, што:

> «Прышлося, далей, пераадалець нездаровыя прывычкі гандлёвых работнікаў да механічнага размеркавання тавараў, ліквідаваць пагардлівасць да патрабаванняў асартыменту і да патрабаванняў спажыўца, ліквідаваць механічную засылку тавараў, абязлічку ў гандлі. У гэтых мэтах былі адкрыты гандлёвыя базы, абласныя і міжраённыя; адкрыты дзесяткі тысяч новых магазінаў і палатак».

Значыцца, арганізацыя гандлёвых баз мела на ўвазе ўстанаўленне сапраўднага кантролю па лініі асартыменту і якасці прадукцыі. Нездавальняючая-ж работа гэтых баз на практыцы прыводзіць да таго, што і на сёнешні дзень яны яшчэ не маюць улады над таварам (у сэнсе ўздзеяння на яго якасць і асартымент).

Калі, такім чынам, зусім не прыходзіцца гаварыць аб якім-бы там ні было асартыментным уплыве гэтых баз на асартымент у вытворчых праграмах прамысловасці, то некаторыя базы ў радзе выпадкаў праяўляюць яшчэ зусім недапушчальную і нічым не апраўдваемую пасіўнасць у справе рэалізацыі не менш важнай партыйнай дырэктывы—весці барацьбу за высокую якасць адгружаемай гандлюючым арганізацыям прадукцыі. Для ілюстрацыі гэтага становішча можна прывесці незлічоную колькасць фактаў. Даволі ўказаць, што Віцебская база Саюзшвейзбыту ацэньвае ўвесь тавар з ліку праверанных 20-30 проц. Такім чынам, астатні тавар астаецца неправераным і частка яго з бракам ідзе на рынак. Або другі факт: з-за несвоечасовага афармлення і прад'яўлення пратэнзій па якасці і асартыменту, Віцебская база Саюзшвейзбыту не запатрабавала з прамысловасці за 1933 г. да 500 тыс. руб. штрафу. Такое становішча сведчыць аб поўным ігнараванні базай рашэнняў партыі аб барацьбе за якасць прадукцыі.

Жаданне Віцебскай базы Саюзшвейзбыту падтрымліваць дружбу з прамысловасцю праявілася таксама і ў практыцы прыёмкі ад швейнай фабрыкі «Профінтэрн» прадукцыі, транспартыруемай навалам. Тавар, навалены на ламавую павозку і неахвачаны па баках брэзентам, пакрыты густым пластом пылу і месцамі забруднены дзёгцем, спакойна прымаецца базай для адгрузкі гандлюючым арганізацыям.

Зусім недапушчальнай з'яўляецца адсутнасць на Віцебскай базе Саюзхлопказбыту якога-б там ні было бракеражу трыкатажа. Тут база ні ў якай ступені не з'яўляецца заслонам супроць засылкі бракаванай прадукцыі.

Гомельская база Саюзшклофарфаразбыту зусім не прад'яўляла ніякіх прэтэнзій, не вяла барацьбы за якасць і ігнаравала дырэктывы партыі і ўрада аб абавязковай маркіроўцы тавараў.

Усе прыведзеныя вышэй факты з'яўляюцца яркай ілюстрацыяй таго, што замест жорсткага правядзення гаспадарчага разліку ва ўзаемаадносінах з пастаўшчыкамі, замест ажыццяўлення сапраўднага кантролю рублём, збытавыя базы па-прымірэнцку адносяцца да недачотаў прамысловасці, амністыруючы яе безадказную (у некаторых выпадках) работу.

У радзе выпадкаў нізкая якасць тавараў пагаршаецца яшчэ і ад злачыннага і агіднага захоўвання іх. Так, на Віцебскай базе Саюзшвейзбыту 6 вагонаў швейных вырабаў захоўваюцца ў дзеравяным сараі, які мае шчыліны як у бакавых сценках, так і ў страсе; тавар ляжыць раскіданы і неўпакаваны, раскладаецца высокімі штабелямі, ад чаго траціць сваю ўцюжку.

Такія-ж злачынныя адносіны да захавання тавараў праяўляе і Менская база Саюзшклофарфаразбыту. На гэтай базе праверкай выяўлены вялікія залежы тавараў, якія ў беспарадку валяюцца на чыгунцы пад адкрытым небам, ломяцца і раскрадаюцца. Наогул, гэта база не лічыць патрэбным захоўваць прадугледжаныя тэхнічныя ўмовы выгрузкі шкла, дзякуючы чаму бой яго дасягае высокіх памераў: у адным вагоне аказалася 15 скрынак зусім разбітага шкла.

Такімі адносінамі да захавання тавараў кіраўнікі баз садзейнічаюць псаванню дзяржаўнай уласнасці.

Некаторыя збытавыя арганізацыі, асабліва Саюзхлопказбыт, у 1933 г. практыкавалі ў шырокіх размерах унепланавыя водпускі фандыруемых тавараў, якія (водпускі) па сваіх размерах і характару перараслі ў прамое разбазарванне тавараў. За другое паўгоддзе 1933 г. Віцебская база Саюзхлопказбыту рэалізавала ўнеплана адных толькі баваўняных тканін на суму каля 600 тыс. руб., Оршанская база—на 200 тыс. руб., Менская—на 175 тыс. руб., не кажучы ўжо аб іншых тканінах (баваўняныя, ільняныя, шоўкавыя), якія таксама былі рэалізаваны ўнеплана.

Спробы паасобных кіраўнікоў баз Саюзхлопказбыту апраўдаць такое масавае разбазарванне фондаў неабходнасцю быстрэйшай рэалізацыі таварных залежаў (якія стварыліся з прычыны засылкі прамысловасцю тавараў нізкай якасці і нездавальняючага асартыменту) зусім негрунтоўныя. Пасля праверкі такіх аб'ясненняў аказалася, што, напрыклад, па Менскай базе Саюзхлопказбыту, з рэалізаванай ёю ўнеплана хлапчаткі на 175 тыс. руб., на долю нехадавога адзёжнага тавару адной толькі Дубровенскай фабрыцы прыпадае 33 тыс. рублёў.

Але нават пры затаварванні нехадавым таварам сістэма Саюзхлопказбыту павінна была ліквідаваць гэтыя залежы шляхам арганізаванага пераразмеркавання фондаў праз адпаведныя ўрадавыя органы, але зусім не шляхам самавольнай планавай іх рэалізацыі. Такое вырашэнне пытання дыктавалася ўсёй абстаноўкай 3-га квартала 1933 г., калі для рабочага снабжэння не было выдзелена фондаў у цэнтралізаваным парадку і калі рад сельскіх раёнаў, па-

спяхова праводзіўшых уборачную кампанію, не быў у дастатковай меры насычан таварамі.

Стаўшы-ж на шлях ўнепланавага самавольнага расходвання фондаў, базы Саюзхлопказбыту стварылі такое становішча, калі Барысаўскі ЦРК і інш. арганізацыі, абслугоўваючыя менш важныя прадпрыемствы, атрымлівалі хлапчаткі на дзесяткі тысяч рублёў, у той час як вядучыя прадпрыемствы БССР не атрымлівалі ні аднаго метра. Было і так, калі Оршанскі рынак быў у большай меры насычан таварамі, чым Менскі, што таксама з'яўляецца недапушчальным з пункту гледжання партыйных дырэктыў аб пераважным снабжэнні буйных пролетарскіх цэнтраў.

Аргументацыя кіраўнікоў сістэмы Саюзхлопказбыту аб тым, што гэтыя тавары, моў, былі рэалізаваны ўне плана па камерчаскіх цэнах, не мяняе становішча, бо, па-першае, раду арганізацый (міліцыі, промкааперацыі і інш.) унепланавыя тавары былі адпушчаны па нармальных цэнах; па-другое, камерчаскія фонды плануюцца дзяржавай нараўне з нармальнымі, а гэта значыць, што і камерчаскія фонды павінны быць рэалізаваны па гэтых, а не іншых каналах снабжэння і гандлю, і, па-трэцяе, пролетарская дзяржава не зацікаўлена ў такіх накапленнях, якія ідуць за кошт самавольнага ўнепланавага расходвання базамі плануемых тавараў. У гэтай сувязі можна яшчэ спаслацца на цэлы рад загадаў наркома лёгкай прамысловасці СССР, т. **Любімава,** якія катэгарычна забаранялі ўнепланавы водпуск фандыруемых тавараў.

Дзе-ж трэба шукаць карэнні такога масавага разбазарвання фондаў па лініі Саюзхлопказбыту? Іх не трудна знайсці, калі азнаёміцца з поглядамі паасобных кіраўнікоў Саюзхлопказбытаўскіх баз на парадак рэалізацыі гэтых фондаў. Аказваецца, па думцы быўшага кіраўніка Белканторы Саюзхлопказбыту т. **Вайсмана** і некаторых дырэктароў паасобных баз «важна толькі быстра рэалізаваць тавар, а каму рэалізаваць—няма розніцы». Такі «чыста камерчаскі» падыход да рэалізацыі плануемых тавараў з'яўляецца выражэннем дзяляцкага нэпманскага духу, які арыентуецца на самацёк і так званы чысты і свабодны гандаль. Кіраўнікі сістэмы Саюзхлопказбыту не хацелі зразумець таго, што рэалізацыя сельскіх фондаў у горадзе з фактара стымулявання ператвараецца ў тормаз загатовак лішкаў сельска-гаспадарчай прадукцыі і што поўнае выкананне планаў завозу промтавараў на сяло з'яўляецца адным з важнейшых сродкаў умацавання эканамічных сувязей паміж горадам і вёскай.

Унепланавымі адпускамі займалася таксама, толькі ў меншых размерах, і сістэма Саюзшклофарфаразбыту. Так, унеплана Гомельская база Саюзшклофарфаразбыту ў першым квартале 1934 г. адпусціла розным арганізацыям шкляных вырабаў на 40 тыс. руб., прычым найбольш цікавым у гэтай справе з'яўляецца тое, што ўнепланавым пакупнікам адпускаўся найбольш дэфіцытны асартымент. Рэзультаты такой «палітыкі» выявіліся ў тым, што план па гораду гэтай базай выкананы на 200 проц., а па сялу толькі на 27 проц., інакш кажучы, сельскія фонды Гомельскай базай Саюзшклофарфаразбыту былі разбазараны ў горадзе.

Такім чынам, замест барацьбы за строгае выкананне планаў размеркавання дзяржаўных таварных фондаў, кіраўнікі збытавых баз праявілі тэндэнцыю эмансіпіравацца ад планавага пачатку пролетарскай дзяржавы ў справе рэалізацыі таварных рэсурсаў, стаўшы на шлях ігнаравання класава-вытворчых прынцыпаў совецкага гандлю.

Партыя неаднаразова ў сваіх рашэннях падкрэслівала неабходнасць рацыяналізацыі і максімальнага скарачэння шляхоў таваpaпрасоўвання.

Кастрычніцкі пленум ЦК ВКП(б) у 1932 г. пастанавіў:

«Прапанаваць камітэту таварных фондаў пры СТО у месячны тэрмін разглядзець і зацвердзіць дыслакацыю оптавых баз прамысловасці і міжраённых баз дзяржгандлю і спажыўкааперацыі, а таксама парадак хутчэйшага прасоўвання тавараў ад вытворца да спажыўца, мінаючы лішнія звенні, прадугледзіўшы ліквідацыю сустрэчных перавозак».

Найбольшае скажэнне гэтай партыйнай дырэктывы выявілася ў рабоце сістэмы Саюзхлопказбыту, дзе было многа выпадкаў скрыўлення шляхоў таварапрасоўвання, якія пацягнулі за сабой сустрэчныя перавозкі, павелічэнне звенневасці праходжання тавараў і т. д. Тавары, якія паступалі з раду абласцей Саюза праз Оршу на Менскую базу Саюзхлопказбыту, па распараджэнню беларускай канторы зноў перакідваліся з Менска ў Оршу, Віцебск і іншыя гарады. Так, у трэцім квартале 1933 г. з Менска ў Віцебскае аддзяленне Саюзхлопказбыту было перакінута хлапчаткі на 15 тыс. руб., шэрсці на 12 тыс. руб., у Оршанскае аддзяленне Саюзхлопказбыту—шэрсці на 19 тыс. руб. і т. д. Тут сустрэчныя перавозкі выклікалі замаруджанне таваразвароту, павелічэнне выдаткаў абарачэння. Такое становішча аб'ясняецца не «аб'ектыўнымі» прычынамі, як гэта стараюцца прадставіць кіраўнікі Белканторы Саюзхлопказбыту, а зусім няправільным планаваннем вывазу тканін па паасобных базах, якія не ўлічваюць па іх пераходзячых таварных астаткаў—аднаго з асноўных элементаў планавання. Базы Саюзхлопказбыту ў радзе выпадкаў дрэнна змагаюцца за транзіт. Мелі месца такія выпадкі, калі міжрайбазы спажывецкай кааперацыі атрымлівалі занараджаныя для іх фонды не транзітам, а з баз Саюзхлопказбыту. Так, у верасні 1933 г. Менская база Саюзхлопказбыту перакінула на Лепельскую міжрайбазу БКСаюза хлапчаткі на 62 тыс. руб.

Такое становішча толькі падаўжае шлях руху таварнай масы, прымушаючы яе рухацца па вельмі складанай схеме: прамысловая база—міжрайбаза спажыўкааперацыі—райсаюз—сельпо. Гэта таксама аб'ясняецца не «аб'ектыўнымі» прычынамі, а непрыняццем неабходных мер да забяспечання транзітнага завозу тавараў на міжрайбазы спажыўкааперацыі.

Ненармальнымі неабходна таксама прызнаць такія выпадкі, калі, напрыклад, Віцебская база Саюзхлопказбыту ў снежні м-цы 1933 г. перакінула на Менскую базу хлапчаткі на 65 тыс. руб., а Менская база хлопказбыту ў гэты-ж час адгрузіла Віцебскай швейнай фабрыцы «Сцяг індустрыялізацыі» хлапчаткі на 72 тыс. руб.

Гэтыя, нічым не апраўдваемыя, перакідкі тавараў мелі месца па Оршанскай і іншых базах Саюзхлопказбыту. Оршанская база хлопказбыту ў 3-м квартале 1933 г. перакінула на Менскую і Гомельскую базы хлапчаткі на 249 тыс. руб., з-за чаго атрымалася: замаруджанне таваразвароту, лішнія выдаткі абарачэння, бо тавар, разгружаны ў Оршы, грузіцца зноў у вагоны для адпраўлення ў Менск або Гомель (замест таго, каб тавар грузіць у гэтыя пункты непасрэдна з месц вытворчасці).

З гэтых агідных фактаў выдзяляецца факт **самавольнай** перакідкі Оршанскай базай Саюзхлопказбыту на 39 тыс. руб. хлапчаткі ў Менск, на адрас лабараторыі Белшвейаб'яднання.

Скрыўленне шляхоў таварапрасоўвання мае месца таксама і ў справе транспартыроўкі шкляных вырабаў. Так, вырабы, якія завозяцца ў Менск з Гомеля або Заходняй вобласці праз Оршу, зноў адпраўляюцца ў Оршу, Віцебск і іншыя гарады.

Усе прыведзеныя выпадкі сведчаць аб тым, што збытавыя аб'яднанні аказаліся няздольнымі арганізаваць рух тавараў адпаведна строга праверанымі разлікам патрэбнасці данага раёна ў тым ці іншым тавары.

Надзвычай сур'ёзным момантам у рабоце збытавых баз з'яўляецца пытанне снабжэння швейнай прамысловасці сыравінай. Перабоі ў снабжэнні швейнай прамысловасці сыравінай часта прыводзяць да таго, што паасобныя цэхі швейных фабрык не працуюць амаль на працягу ўсяго квартала. Так, цэх «юнгштурм», на Магілеўскай швейнай фабрыцы імя Валадарскага, з-за адсутнасці дыяганалі—хакі не працаваў на працягу ўсяго першага квартала 1934 г. З перабоямі, па такой-жа прычыне, працавалі паасобныя цэхі на фабрыках «Крупскай» і «КІМ» у Менску, «Комінтэрн» у Гомелі і т. д.

Віцебская база хлопказбыту механічна абслугоўвае буйнейшую швейную фабрыку ў БССР «Сцяг індустрыялізацыі». Неабходнасць папярэджання перабояў у рабоце швейнай фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі» прымушала пасылаць сваіх людзей на тэкстыльныя фабрыкі для адбору і фарсіравання адгрузкі тавараў.

Сама база не вядзе ніякай барацьбы супроць засылкі тавара неадпавядаючага асартыменту і часта яўна нядобраякаснага. Яркім доказам гэтага служыць факт звароту швейнай фабрыкай «Сцяг індустрыялізацыі» Віцебскай базе Саюзхлопказбыту ў 1933 г. бракаванага тавара на паўтары мільёны рублёў.

Калі пры ўсім гэтым улічыць яшчэ дарагоўлю абслугоўвання базай Саюзхлопказбыту швейнай фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі» (0,5 проц. або 90 тыс. руб. у год), нізкую кваліфікацыю апарата базы для такой важнейшай справы, як снабжэнне швейнай прамысловасці сыравінай, то трэба сказаць, што неабходна ўнесці рад сур'ёзных карэктыў ва ўсю практыку і сістэму ўзаемаадносін паміж базамі Саюзхлопказбыту і швейнай прамысловасцю.

Мы ў гэтым артыкуле сканцэнтравалі ўвагу чытача на вузлавых і больш прынцыповых пытаннях работы прамысловых баз, не асвятліўшы цэлага раду выяўленых праверкай фактаў безгаспадарчасці і раскраданняў тавараў на гэтых базах.

Становішча прамысловых баз на сёнешні дзень гаворыць аб неабходнасці хутчэйшай перабудовы іх работы ў адпаведнасці з рашэннямі XVII з'езда партыі. Адной з умоў, забяспечваючых гэту перабудову, з'яўляецца ўсваенне той ісціны, што безупынная цыркуляцыя таварных мас, якія дзяржава даверыла базам, знаходзіцца ў прамой залежнасці ад якасці іх работы, ад падняцця гэтай якасці на ўзровень патрабаванняў, прад'яўляемых зараз партыяй і ўрадам да тавараправодзячага апарата.

Збытавыя базы—гэта ёсць толькі адно звяно тавараправодзячай сістэмы, але ад умацавання гэтага звяна залежыць нармальнае функцыянаванне астатніх звенняў гэтай сістэмы, у прыватнасці, правільная работа гандлёвай розніцы.

Развіццё соцыялістычнай гаспадаркі нашай краіны мае сваім натуральным і немінучым рэзультатам агромны рост таварнай масы.

Тав. **Сталін** на XVII з'ездзе партыі сказаў, што

«Каб эканамічнае жыццё змагло забіць ключом, а прамысловасць і сельская гаспадарка мелі стымул да далейшага росту сваёй прадукцыі, трэба мець яшчэ адну ўмову, а іменна,—разгорнуты тавараварот паміж горадам і вёскай, паміж раёнамі і абласцямі краіны, паміж рознымі галінамі народнай гаспадаркі. Неабходна, каб краіна была пакрыта багатай сеткай гандлёвых баз, магазінаў, крам. Неабходна, каб па каналах гэтых баз, магазінаў, крам безупынна цыркулявалі тавары ад месц вытворчасці да спажыўца».

Перад совецкім гандлёвым апаратам стаіць выключнай важнасці задача—быстра давесці да спажыўца гэту растучую таварную масу ў мэтах стымулявання і паскарэння тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва і павышэння вытворчасці для далейшага палепшання добрабыту працоўных. У ажыццяўленні гэтай задачы далёка не апошняе месца партыя адводзіць оптаваму гандлёваму звяну. Таму павышэнне якасці яго работы будзе не ў малой ступені спрыяць устанаўленню таго разгорнутага тавараабароту паміж горадам і вёскай, які з'яўляецца адной з цэнтральных задач другой пяцігодкі, пяцігодкі пабудавання бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

---

Ф. Дмітрыеў

# Правільна арганізаваць работу калгаснай брыгады

Правільная арганізацыя працы ў калгасе іграе рашаючае значэнне ў павышэнні прадукцыйнасці сельска-гаспадарчай работы.

У пытаннях арганізацыі працы, у арганізацыі самога вытворчага працэсу кожны комуніст павінен больш старанна і дакладна, пабольшэвіцку прааналізаваць вопыт веснавой сяўбы і ўборкі з тым, каб арганізацыю працы ў калгасах падняць на яшчэ больш высокую ступень, адпаведна запатрабаванням соцыялістычнага будаўніцтва.

Практыка арганізацыі працы ў брыгадзе сведчыць аб тым, што пытанні правільнай аплаты працы і па сёнешні дзень не займаюць яшчэ належнага месца. Між тым, пры арганізацыі працы ў брыгадзе трэба няўхільна праводзіць асноўныя прынцыпы аплаты ў залежнасці ад колькасці і якасці работы.

Неабходна дабіцца аплаты працы сапраўды ў залежнасці ад колькасці і якасці работы, дабіцца строгага ўліку працадзён, своечасовага іх запісу.

Трэба дабіцца, каб гэты прынцып аплаты працы забяспечыў добрую якасць сельска-гаспадарчых работ, каб ён стымуляваў на барацьбу за лепшыя якасныя паказчыкі.

Арганізацыя працы калгасаў патрабуе правільнай расстаноўкі людзей, правільнай арганізацыі вытворчага працэсу, брыгады і пастаянства яе складу. На аснове вывучэння арганізацыі вытворчага працэсу брыгады трэба выпраўляць скажэнні і недахопы ў арганізацыі саміх пастаянных брыгад у калгасах.

Пытанне скажэння сутнасці пастаяннай вытворчай брыгады, недахопаў яе арганізацыі і планавання заслугоўвае вялікай увагі і патрабуе мабілізацыі сіл, рашучай барацьбы з усімі скажэннямі і недахопамі ў арганізацыі працы, барацьбы за сапраўды вытворчую, пастаянную брыгаду ў калгасах.

Поспех уборачнай кампаніі ў значнай ступені залежыць ад таго, наколькі добра і правільна арганізаваны і расстаўлены людзі ў працэсе вытворчасці. Гэтым мы дасягнем акуратнага, чоткага і добрасумленнага выканання вытворчага плана ва ўстаноўленыя тэрміны з адпаведнымі якаснымі і колькаснымі паказчыкамі.

Для таго, каб арганізацыя вытворчага працэсу адпавядала гэтым запатрабаванням, трэба сплянаваць усе работы на працягу года, вызначыць функцыі ў агульным працэсе вытворчасці для кожнага калгасніка брыгады. Трэба справу арганізаваць так, каб кожны калгаснік ведаў, дзе, калі і з кім ён працуе, хто яго звенавод, і як ён будзе пераключацца з адной работы на другую.

Але справе ўнутрыбрыгаднай работы ўсе яшчэ не ўдзяляецца дастатковай увагі. Мы маем многа выпадкаў, калі расстаноўку людзей у працэсе вытворчасці пускаюць на самацёк, як, напр., палявая работа скопам—усе працуюць разам на адным загоне. Адсюль вялікія прастоі ў рабоце, невыкананне норм выпрацоўкі, нізкая якасць работы і нізкая працоўная дысцыпліна. Так, у Лёзненскім і Суражскім раёнах на веснавым ворыве 1934 г. у многіх калгасах працавала скопам на адным загоне па 7—8 пар, а ў некаторых і больш. У калгасах «Верны шлях», «Комуніст», «13 год Кастрычніка» і інш., як правіла, на работу выходзілі ў 8—10 гадзін, нормы выпрацоўкі не выконвалі, якасць работы была нізкая—таму і зацягнулі веснавую сяўбу.

Неарганізаванасць у брыгадзе, адсутнасць расстаноўкі людзей вядуць да скажэння сутнасці здзельшчыны, падмены здзельнай аплаты працы ўраўнілаўкай. Гэтым карыстаецца кулак і яго агентура ў калгасе—гультай, рвач, разгільдзяй—каб падарваць калгасную вытворчасць, сарваць паспяховае правядзенне сельска-гаспадарчых работ. Расстаноўцы людзей у брыгадзе, пытанням арганізацыі вытворчага працэсу з боку партарганізацый павінна быць удзелена максімальная ўвага і паглыбленая работа над стварэннем парадку і арганізаванасці, бо «ў рабоце брыгады галоўнае вырашае арганізаванасць» **(Гікало).**

* * *

У правядзенні веснавой сяўбы, як адным з галоўных недахопаў, быў разрыў паміж паасобнымі працэсамі работ. У цэлым радзе раёнаў разрыў быў паміж падрыхтоўкай глебы і пасевам, у рэзультаце чаго гэтыя раёны адставалі ў веснавой сяўбе.

Прычына гэтага разрыву заключаецца ў дрэннай арганізацыі працы і расстаноўцы сіл унутры брыгады, у адсутнасці планавання вытворчага працэсу: звенні не арганізаваны, а часта працуюць скопам. Так, усе коні ў калгасах «Валадарскі» і «Чырвоны перакоп» адзін дзень прызначаліся для ворыва, у другі дзень для баранавання, культывацыі і т. д.; калгаснікі не былі расстаўлены на пэўныя ўчасткі, кожны дзень ім давалі новую работу. З гэтай прычыны там мы мелі нізкую працоўную дысцыпліну, невыкананне норм выпрацоўкі. У калгасе «Чырвоны перакоп» замест устаноўленай нормы па ворыву ў 0,40 га, выпрацоўвалі ўсяго толькі па 0,20—0,25 га, у рэзультаце чаго калгас ганебна адстаў у веснавой сяўбе.

З прычыны адсутнасці арганізацыі вытворчага працэсу, правільнай расстаноўкі сіл і арганізацыі звенняў, мы мелі грубае парушэнне правіл агратэхнікі. Пры рабоце скопам атрымліваецца разрыў паміж паасобнымі аперацыямі адзінага працэсу. Напр., ворыва разрываецца з баранаваннем, з культывацыяй, пасевам і задзелкай—пры веснавой сяўбе, касьба, звязка снапоў, укладка ў бабкі і падграбанне — пры ўборцы і т. д. Для ілюстрацыі такога становішча прывядзем прыклад з работы па сяўбе аўсу трэцяй брыгады калгаса «Перамога», Шклоўскага раёна. Там 25 красавіка брыгада арала пад авёс, 28 гэту плошчу баранавала, 1 мая сеяла, 3 мая пружынавала пасеў і 4 задзелвала. Мала таго, што ад ворыва да баранавання прайшло 4 дні, а да пасеву 6 дзён, за якія глеба выветрылася, многа страціла вільготнасці і каштоўных спажыўных матэрый, так яшчэ насенне пасля пасеву на паверхні засохшай зямлі ляжала 3 дні.

Класавы вораг ведае, што партыя прапануе арганізацыю вытворчага працэсу ў калгасах на прынцыпах камбінаваных звенняў, чаму ён усякімі спосабамі процідзейнічае, ведучы работу супроць звенняў.

Задача партарганізацый заключаецца ў тым, каб, пераключаючыся на папаравую, праполачную і ўборачную кампаніі, улічыць вопыт работы па веснавой сяўбе і ўсё добрае скарыстаць у практыцы для далейшай работы.

* * *

Арганізацыя працы ў перыяд уборкі павінна быць падпарадкавана такім задачам: ўбраць збожжа своечасова і ў самыя кароткія тэрміны, забяспечыць ахову ўраджаю, ўбраць без страт, дабіцца добраякаснай прадукцыі і выканаць дакладна ў тэрмін свае абавязацельствы перад дзяржавай як па колькасных, так і якасных паказчыках.

У справе своечасовай і добраякаснай уборкі агромнае значэнне мае правільная арганізацыя звенняў.

Работу па ўборцы трэба арганізаваць па прынцыпу камбінаваных звенняў. Такая работа звенняў забяспечыць найлепшую барацьбу са стратамі ўраджаю, бо пры ўборцы разрыў паміж касьбой, вязаннем і ўкладкай у бабкі адчуваецца найбольш згубна на ўраджаі. У практыцы мінулага года гэты разрыў у калгасах і соўгасах быў вельмі часты. У гэтым годзе перавага павінна быць за камбінаваным звяном і яго трэба пакласці ў аснову работы.

Доказам гэтага могуць служыць прыклады работы калгаса «**Дзяржынскі**» (Лагойскі раён). У гэтым раёне пры разрыве касьбы, вязкі і ўкладкі снапоў у бабкі нормы ніколі не выпрацоўваліся. Скошаны, але не складзены ў бабкі, хлеб часта пападаў пад дажджы. Калі-ж пачалі працаваць камбінаванымі звеннямі і разгарнулі паміж імі соцспаборніцтва, то нормы выпрацоўкі сталі нават і перавыконвацца. Так, звяно Яцкевіча, замест уборкі па норме 3,5 **га** ўбірала па 4,60—4,76 **га** ў дзень. Прычым, на вязцы снапоў за машынай працавала не па 8—9 чал., як было раней, а па 6—7.

Склад камбінаванага звяна на ўборцы зернавых у калгасе «Дзяржынскі» быў наступны:

| Назва работ | Склад | | | | Дзённая прадукцыйнасць |
|---|---|---|---|---|---|
| | Машын | | Коняй | Людзей | |
| | Назва | Кольк. | | | |
| Жніво . . . . . . . . | самаскідка | 1 | 2/2 | 1 | 4,5 *га* |
| Вязка снапоў . . . . | | — | — | 7 | 4,5 *га* |
| Зноска і ўкладка ў бабкі . . . . . . . | работу выконваюць вязальшчыкі | | | | |
| Разам . . | — | 1 | 4 | 8 | 4,5 *га* |

У сувязі з тым, што прадукцыйнасць кожнай групы людзей звяна (машыністаў, вязальшчыкаў) была аднолькавая, то не было затармажэнняў і затрымкі ў рабоце першай аперацыяй наступных, і была поўнасцю захавана бесперабойнасць вытворчага працэсу.

Бесперабойнасць вытворчага працэсу найбольш поўна дасягаецца пры механізацыі работ. Напр., работа па ўборцы камбайнам яднае працэс і робіць яго неразрыўным па жніву і абмалоту; работа снопавязалкай яднае жніво і вязку снапоў; трактар ЧТЗ можа адначасова ўзорваць і баранаваць і т. д. Такім чынам, механізуючы сельска-гаспадарчую вытворчасць, мы арганізоўваем агрэгатную работу, якая прадстаўляе сабой найбольш рацыянальную і прадукцыйную сістэму машын.

У нашых умовах мы павінны агрэгатную работу арганізоўваць не толькі канструкцыйна, але і шляхам складання паасобных рабочых машын і прылад на аснове правільна ўзгодненай іх прадукцыйнасці і забяспечання неразрыўнасці вытворчага працэсу. Апрача камбінацыі машын і прылад, неразрыўнасць вытворчага працэсу забяспечвае таксама камбінацыю машын і ручной працы, як: касьбу, вязку, укладку снапоў, ворыва, праполку, акучку і т. д. Такім чынам, метад арганізацыі звенняў у калгасах і соўгасах павінен адпавядаць метаду ствярэння неразрыўнага вытворчага працэсу. Аднак, такі метад не трэба механічна прымяняць да ўсіх відаў работы. Ёсць рад работ, якія па характару і часу распалагаюцца ў поўнай паслядоўнасці, як, напр., ручная праполка ільну. У такіх выпадках камбінаванае звяно непатрэбна, а неабходна спецыялізаванае звяно (гэтага патрабуе сам характар работы).

У часе веснавой сяўбы, побач з разрывам комплексных асноўных работ, мы мелі факты разрыву паміж асноўнымі і падсобнымі работамі. Вось характэрны прыклад: 10 мая 1-я брыгада калгаса «Перамога» паслала 3-х сяўбітоў на пасеў бабовых. Сяўбіты на работу вышлі ў 5 г. 40 м., а насенне для пасеву падвезлі толькі ў 7 г. 1 м.— сяўбіты стаялі 1 г. 19 м., што на трох чалавек складае 3 г. 57 м. Такім чынам амаль 4 гадзіны патрачана непрадукцыйна, за якія можна было-б засеяць мінімум 1,5 га і не затрымліваць работу наступных працэсаў.

Такіх прыкладаў работы ў 1934 г. не павінна быць. Ліквідаваць іх трэба арганізацыяй камбінаваных звенняў, дзе няма і не павінна быць разрыву ў тых ці іншых работах. Усе падсобныя работы трэба падпарадкаваць асноўным работам. На калгаснікаў, выконваючых падсобныя работы, трэба ўскласці матэрыяльную адказнасць за зрыў або тормаз у выкананні асноўных работ. Камбінаванае звяно тым і каштоўна, што яно папярэджвае разрыў паміж асноўнымі і падсобнымі работамі.

Задача партарганізацый заключаецца ў тым, каб работу ў брыгадзе арганізаваць на апраўдаўшых сябе ў практыцы калгаснага будаўніцтва прынцыпах дробных камбінаваных звенняў.

* * *

Размер камбінаванага звяна пры машынізаванай рабоце вызначае машына. Ні ў якім разе нельга механічна падыходзіць да ўстанаўлення размеру камбінаванага звяна. Размер яго павінен быць падпарадкаван задачы максімальна поўнага выкарыстання работы машыны. Нельга к жняярцы даваць 3 вязальшчыцы, бо яны не справяцца з работай, будуць затрымліваць работу машын, а ў рэзультаце брыгада не атрымае ад машыны таго, што можна скарыстаць для павелічэння прадукцыйнасці яе работы. Калі на ўборцы зернавых вызначаючым фактарам камбінаванага звяна з'яўляецца жняярка (прыклад пры-

водзіўся вышэй), на ільнаўборцы—ільноцерабілка, то па асеннай сяўбе гэтым вызначаючым фактарам будзе сеялка. Па дзённай прадукцыйнасці сеялкі павінен вызначацца і склад іншых прылад працы—плугоў, барон. Так склад звяна будзе наступны:

| | Дзённая прадукц. | Неабходна мець | | | | Склад звяна |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Коняй | Машын | | Людзей | |
| | | | Назва | Кольк. | | |
| Ворыва | 3,5 *га* | 6 | Плугоў | 6 | 6 | |
| Баранаванне | 3,5 *га* | 2 | Баронаў | 1 | 1 | 9 чалавек |
| Сяўба | 3,5 *га* | 4 | Сеялак | 1 | 2 | |

У першы дзень работы па ворыву могуць выйсці не толькі 6 чал., але і ўсе 9, для таго, каб на наступныя дні была падрыхтавана работа для сяўбіта і баранавальшчыка. Плугары, для лепшага ўліку і скарачэння да мінімуму прастояў, могуць працаваць не ўсе на адным загоне, а разбівацца па 2—3 пары ў кожным. Такім чынам, пры такой сістэме работы звяна мы ўнікаем разрыву паміж паасобнымі працэсамі, як, напр., ворывам, баранаваннем і сяўбой, што асабліва важна на лёгкіх пясчаных глебах (для захавання вільготнасці). У іншых умовах, на цяжкіх гліністых і надта вільготных глебах, якія пасля ворыва патрабуюць праветрывання, адно звяно выконвае ворыва, а другое баранаванне і сяўбу. Размер звяна ў такіх выпадках будзе меншы, прыблізна 3—4 чалавека.

Калі размер камбінаванага звяна пры машынізаванай рабоце вызначае машына, то размер звяна пры ручной рабоце вызначае галоўным чынам асабовы склад звяна.

Практыка работы брыгад цалкам пацвердзіла перавагу дробных звенняў, якія лепш спалучаюць і ўлік, і якасць, і тэмпы работы, а таксама з'яўляюцца адзінкай, больш зручнай для кіравання.

Усё гэта ў значнай меры павышае прадукцыйнасць працы ў калгасах.

Станоўчым прыкладам арганізацыі звенняў і ўстанаўлення размеру іх на прапалцы можа служыць калгас **«Чырвоны маяк»**, Слуцкага раёна. У гэтым калгасе склад звяна пры прапалцы складаецца з 3—4 чалавек. Устанаўляючы такі размер звяна, калгас выходзіў з зручнасці кіравання такім звяном, улічвання якасных і колькасных паказчыкаў работы кожнага калгасніка.

Такой арганізацыяй звенняў калгас дасягае гібкасці, манеўраванасці ў рабоце брыгады, больш прадукцыйнага выкарыстання рабочага часу, людзей і сродкаў вытворчасці. Пытанне правільнага, максімальнага, поўнага і рацыянальнага выкарыстання сродкаў вытворчасці, людзей і цягавай сілы з'яўляецца асноўным пытаннем арганізацыі і павышэння прадукцыйнасці працы ў калгасах.

Трэба забяспечыць работу кожнай машыны, кожнага трактара і каня, каб яны прыносілі найбольшую колькасць адзінак карыснай работы, найбольшую колькасць матэрыяльных каштоўнасцей для паспяховага соцыялістычнага будаўніцтва. Ад кожнай машыны ў калектыўнай вытворчасці трэба ўзяць усё, што можна, а гэтыя магчымасці агромны, трэба толькі арганізаваць справу іх выкарыстання. Правільнае рацыянальнае выкарыстанне сродкаў вытворчасці і рабо-

чай сілы несумешчальна з неарганізаванай работай, работай скопам, вялікімі групамі на дробным участку.

Ні ў якім разе нельга ствараць дробныя звенні штучна, напр., па 3—4 чал., незалежна ад характару самой работы і машыны, пры дапамозе якой праводзіцца работа. Трэба помніць, што размер звяна і магчымасць яго існавання вызначаюцца характарам работы і вытворчай мэтазгоднасцю, а не наадварот, як гэта мае месца ў паасобных калгасах. Так, напр., у калгасе «Прагрэс № 2», Слуцкага раёна, былі арганізаваны пастаянныя звенні, па 6 чал. у кожным на ўвесь сельскагаспадарчы год. У рэзультаце—калгас адставаў у выкананні ўсіх сельска-гаспадарчых кампаній і калгаснікі атрымлівалі нізкую аплату працадня. Размер звяна павінен адпавядаць рацыянальнаму выкарыстанню сродкаў вытворчасці, выкананню пэўнага віду работ і максімальнаму ўздыму прадукцыйнасці працы.

Побач з гэтым мы мелі такое становішча, што ў Шклоўскім, Талачынскім раёнах, таксама і ў клагасе «Прагрэс № 2», Слуцкага раёна, звенні арганізоўваліся па полаваму прызнаку: мужчыны асобна, жанчыны таксама асобна, а ў калгасе «Прагрэс» нават асобна і дзяўчаты. Шкоднасць падобнага «метаду» даказваць не прыходзіцца, бо полавы прынцып арганізацыі звенняў дыктуецца класавым ворагам для таго, каб дэзарганізаваць работу брыгады, абвастрыць адносіны паміж паасобнымі часткамі брыгады і гэтым унесці ў калгас дэзарганізацыю і раздоры.

Пры камплектаванні брыгад і звенняў трэба больш увагі ўдзяляць падбору людзей. У кожнай брыгадзе, ў кожным звяне павінны быць калгаснікі, здольныя працаваць на той машыне, якая замацавана за даным звяном і брыгадай, павінны быць людзі, асвоіўшыя тэхніку таго ці іншага працэсу работы.

Падбіраць людзей у брыгаду, звяно—гэта значыць размяркоўваць паміж імі абавязкі, а значыць выдзяліць аратых, баранавальшчыкаў, сяўбітоў, паганяльшчыкаў, возчыкаў і т. д. Кожная гэта група людзей, несумненна, павінна для выканання даручанага ёй віду работы мець адпаведны інвентар і неабходную цяглавую сілу. Абязлічка—біч для калгаснай вытворчасці, біч для прадукцыйнасці працы і заможнасці калгаснікаў. А для таго, каб выкарчаваць абязлічку, трэба ўмела падбіраць людзей у брыгады, трэба правільна размяркоўваць паміж імі абавязкі і даручаць выкананне той ці іншай работы.

Для работы на конях і на складаных сельгасмашынах трэба падбіраць лепшых калгаснікаў-ударнікаў, правераных у барацьбе за калгас. Парарганізацыі для ліквідацыі абязлічкі і правільнай расстаноўкі людзей на вытворчасці павінны арганізаваць справу так, каб кожны калгаснік ведаў сваю работу, інвентар і нёс за ўсё гэта асабовую адказнасць. Толькі такой пастаноўкай работы мы можам выжыць з калгасаў рвачоў, гультаёў, разгільдзяеў і іншых кулацкіх падпявал.

* * *

Камплектуючы звенні і ўстанаўляючы іх размер, трэба дабіцца ўстойлівасці звяна пры выкананні пэўнага віду работы.

Кожны комуніст, кожны калгасны работнік павінен добра ўсвоіць, што няўстойлівае звяно, г. зн. у якім часта мяняецца склад калгаснікаў, пры выкананні пэўнага віду работ зніжае прадукцыйнасць пра-

цы. Адначасова з гэтым трэба рашуча асудзіць практыку арганізацыі звенняў на ўвесь сельска-гаспадарчы год з замацаваннем за імі ўчастка зямлі, інвентара, бо гэта па сутнасці азначае арганізацыю новых дробных брыгад і вядзе к развалу маючыхся брыгад у калгасах. Устойлівасць звяна павінна быць забяспечана на пэўны від работы.

У часе веснавой сяўбы ў радзе калгасаў былі выпадкі, калі на гэту аказнейшую справу не звярталі належнай увагі. Людзі ў звеннях мяняліся амаль штодзённа. Прыкладам такой цякучасці людзей можа служыць калгас «Завет Ільіча», Шклоўскага раёна. У гэтым калгасе ні адзін калгаснік не меў пэўнай работы ў агульным комплексе работ. Кожны дзень і нават некалькі разоў у дзень людзі пераключаліся з адной работы на другую.

У рэзультаце цякучасці ў звеннях і адсутнасці якой-бы там ні было спецыялізацыі работніка атрымлівалася абязлічка як па рабоце, так і па інвентару і цяглавай сіле. У брыгадзе панавала безадказнасць. Брыгадзір не меў магчымасці дакладна і акуратна ўлічваць работу калгаснікаў. Якасць работы была нізкая, працадні разбазарваліся. Усё гэта ў канчатковым выніку аслабляла працоўную дысцыпліну і зніжала прадукцыйнасць працы.

Устойлівасць звяна неабходна захоўваць не толькі на рабочую сілу, але і на сродкі вытворчасці, звязаныя з пэўным відам работы.

Пад устойлівасцю звяна мы падразумяваем такі склад звяна, які не мяняецца на працягу выканання пэўнага віду сельскагаспадарчай работы. Камбінаванае звяно—гэта кааперацыя людзей для выканання пэўнага віду работы: сяўба, праполка, малацьба і т. д.

Устойлівасць звяна нельга змешваць з пастаянствам брыгады або такое-ж звяно ператвараць у пастаяннае звяно, тым самым проціпастаўляючы яго брыгадзе. Брыгада выконвае ўвесь комплекс сельскагаспадарчых работ на працягу ўсяго года, і нават севазварота на аснове раздзялення працы і звенняў. Склад і размер брыгады павінен забяспечваць чоткасць, акуратнасць і своечасовасць выканання ўсяго комплексу работ, што няздольна зрабіць дробнае камбінаванае звяно. Таму ўсякія гутаркі аб пастаянным звяне на ўвесь сельскагаспадарчы год ў калгасах з'яўляюцца шкоднымі, што ідзе ў разрэз дырэктывам партыі аб пастаяннай вытворчай брыгадзе і не адпавядае сапраўднасці калектыўнай вытворчай брыгады.

Звенні ў брыгадах ствараюцца для выканання пэўнага віду работы. Іх склад і размер вызначаюцца характарам данай работы, а не ўсяго комплексу работ на працягу ўсяго году, як гэта робіцца ў брыгадзе.

Кожны комуніст, кожны кіраўнік калгаса і брыгадзір павінен добра сабе ўсвоіць, што работу ў брыгадах трэба арганізоўваць па прынцыпах дробна-камбінаваных звенняў, дабіваючыся поўнай устойлівасці іх складу для пэўнага віду работ. Апрача гэтага, пры пераключэнні звенняў на іншы від работы, трэба ўлічыць зработанасць паасобных калгаснікаў паміж сабою і старацца ўключаць іх разам у звенні наступных відаў работ там, дзе гэта не супярэчыць самому характару выконваемай работы і спецыялізацыі калгаснікаў.

* * *

Асноўны недахоп работы брыгад у часе веснавой сяўбы заключаўся ў непрадукцыйным скарыстанні рабочага часу калгаснікаў. Ушчыльненне рабочага дня ў калгасах вельмі нізкае. Многа часу ідзе на пераезды, прыватныя гутаркі, стаянкі, чаканні, курэнне і т. д.

Рабочы дзень у калгасе выкарыстоўваецца зусім нерацыянальна. Прадукцыйны рабочы час калгасніка складае ад 4 г. 31 м. да 6 г. 39 м., або ад 35,2 да 39,6 проц. усяго «рабочага» дня. Многа часу траціцца на падрыхтоўчыя і заключныя работы (запражка і распражка коняй і звязаныя з тэтым аперацыі). Трата часу на такія аперацыі складае 5,2 проц. або $^1/_9$ усяго прадукцыйнага часу: вялікія пераезды з участка на ўчастак (да 6 проц.); нерацыянальнае выкарыстоўванне адпачынкаў і часу на падкорм коняй (на гэту справу ўходзіць да 19,4 проц.); вялікія простоі (каля 12 проц.). Непрадукцыйнай і лішняй траты часу можна было-б унікнуць і скараціць да мінімуму пры адпаведным аператыўным, чоткім кіраўніцтве і правільнай арганізацыі працы.

Задача ўшчыльнення рабочага дня і рацыянальнага скарыстання рабочага часу ў перыяд уборачных работ і асенняй сяўбы з'яўляецца важнейшай умовай павышэння прадукцыйнасці працы ў брыгадзе.

Што для гэтага патрэбна?

**Па-першае**, неабходна скараціць да мінімуму затраты часу на пераезды к месцу работы і назад, на падрыхтоўку і т. д.

**Па-другое,** трэба правільна арганізаваць рабочы дзень у калгасе. Устанавіць дакладны распарадак рабочага дня: выхад на работу, перапынак на абед, пасляабедзены выхад на рабсту і канец работы. Распарадак рабочага дня ўносіць дысцыплінаванасць і планавасць у работу, правільна арганізоўвае адпачынак і тым самым павышае прадукцыйнасць працы. К устанаўленню распарадку дня ва ўсіх калгасах не трэба падыходзіць аднолькава. Ён будзе ў кожным паасобным выпадку залежаць ад мясцовых умоў, становішча цягла, характару работ, часу работ і іх труднасці. Напр., ў сенаўборачную кампанію касцам лепш выходзіць раней на работу, рабіць вялікі абедзенны перапынак і пазней прыходзіць з работы.

**Па-трэцяе,** рэжым работы. Ад чаргавання работы і адпачынку ў працэсе работы ў значнай ступені залежыць прадукцыйнасць працы.

Так, па даных хранаметражных назіранняў, дзённая выпрацоўка пры правільным планаванні работ і адпачынку павышаецца на 20—30 проц. Апрача таго, пры правільным рэжыме работы скарачаецца час на стаянкі для адпачынку з 14—15 проц. да 8—9 проц. Пры правільным чаргаванні работы і адпачынку найбольш поўна і планамерна захоўваюцца сілы жывёлы і чалавека, а таму яны могуць быць лепш выкарыстаны на працягу ўсяго рабочага дня.

Для адпачынку трэба ўстанавіць пэўныя інтэрвалы і ўнікаць частых і кароткіх астановак, пры якіх арганізм амаль зусім не адпачывае.

Для цягавай сілы інтэрвалы для адпачынку і іх працягласць трэба ўстанаўляць па стану і ўкормленасці цягла.

І, **па-чацвертае,** да мінімуму скараціць час на простоі па ўсякіх арганізацыйных, тэхнічных і залежачых ад самога калгасніка прычынах.

Партарганізацыі барацьбу за ўшчыльненне рабочага дня ў бягучым годзе павінны падняць на прынцыпова высокую ступень. Трэба добра помніць, што барацьба за ўшчыльненне рабочага дня і рацыянальнае выкарыстанне рабочага часу ў перыяд уборкі—ёсць барацьба са стратамі соцыялістычных палёў, барацьба за заможнае жыццё калгаснікаў.

* * *

Паспяховасць работы брыгады ў значнай меры залежыць ад добрага кіраўніцтва, ад брыгадзіра. Адсюль, першачарговая задача партарганізацый—падабраць брыгадзіраў з лепшых калгаснікаў-ударнікаў і асоб карыстаючыхся аўтарытэтам у калгаснікаў, ведаючых справу, умеючых кіраваць, асоб, сапраўды адданых справе партыі і ўрада. Брыгадзір павінен ведаць тэрміны полкі і сяўбы зярна, апрацоўку і ўгнаенне глебы, тэрміны ўборкі, а таксама жняярку, малатарню, касілку і іншыя сельгасмашыны, якія ёсць у яго брыгадзе. Ён кіруе сельска-гаспадарчымі работамі непасрэдна ў полі, ля плуга, планета, сеялкі, жняяркі і т. д. Брыгадзір арганізоўвае людзей, расстаўляе іх на вытворчасці. Ён наглядае, правярае, улічвае работу кожнага калгасніка, вучыць калгаснікаў лепш працаваць, памагае ім у набыцці навыкаў па аўладанню тэхнікай быстрага і акуратнага выканання задання. Задача партарганізацый—акружыць брыгадзіра клопатам і ўвагай, памагаць яму ў кіраванні брыгадай, выхоўваць з яго арганізатара соцыялістычнай гаспадаркі. Трэба помніць, што ад брыгадзіра залежыць дысцыпліна, арганізаванасць, паспяховасць уборкі і асенняй сяўбы, павышэнне ў цэлым прадукцыйнасці сельскагаспадарчай работы.

* * *

Комуніст у калгасе павінен паказаць узоры работы, павінен быць арганізатарам мас. Яго задача, арганізоўваць людзей, мабілізоўваць іх на барацьбу за большэвіцкае вырашэнне задач партыі. Яго задача—згуртаваць усіх чэсных калгаснікаў у барацьбе за заможнае жыццё калгаснікаў, за большэвіцкія калгасы. Для ажыццяўлення гэтага патрабуецца шырока разгорнутая палітмасавая работа не толькі ў брыгадзе, а і ў звяне, з паасобнымі калгаснікамі. Але ёсць яшчэ і такія калгасы, дзе з калгаснікамі не прапрацаваны вытворчыя заданні, нормы выпрацоўкі і расцэнкі іх працадзён (Лёзна, Сураж і т. д.), не прапрацаваны дырэктывы партыі і ўрада па сельскай гаспадарцы. Некаторыя калгасы прапрацавалі гэтыя матэрыялы фармальна, не зрабілі з іх адпаведных практычных вывадаў, гэта значыць не мабілізавалі масы на хутчэйшае і лепшае іх правядзенне ў жыццё. Усё гэта гаворыць аб нашых недахопах, аб нашых слабых баках палітмасавай работы з калгаснікамі. Задача комуністаў заключаецца ў наладжванні і правядзенні палітмасавай работы ў калгасе так, каб яна з'явілася магутнай зброяй у барацьбе за план, за поспех праполкі, уборкі і асенняй сяўбы.

Палітычна-масавую работу трэба перанесці ў поле. Пасля работы трэба наладжваць штодзённыя пяцімінутныя вытворчыя нарады, на якіх падагульваць дзённую работу брыгады, звяна, выяўляць недахопы, паказваць, з аднаго боку, гультаёў, рвачоў і прагульшчыкаў, з другога—чэсных работнікаў, ударнікаў, энтузіястаў соцыялістычнага земляробства. Пасля гэтага трэба абмеркаваць далейшыя задачы і заданні заўтрашняга дня. Кожную свабодную мінуту ў полі трэба скарыстаць для партмасавай работы, як—перакуркі, перапынкі для адкорму коняй і т. д. Трэба праводзіць чыткі газет, каб мець уяўленне аб падзеях за мяжой, у іншых калгасах, аб мерапрыемствах партыі і ўрада ў галіне соцыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі. Гэтыя гутаркі трэба праводзіць жыва, цікава, у простай і зразумелай форме, не абстаўляючы гэта афіцыяльнасцямі і прымусовай абстаноў-

кай. Праз гэтыя вытворчыя нарады, праз гутаркі і расказы, праз насценныя газеты трэба мабілізоўваць масы на барацьбу з гультаямі, разгільдзяямі і рвачамі. Трэба раз'ясніць калгаснікам, што заможнасць жыцця ў іх руках, і чым лепш, чым больш добрасумленна яны будуць працаваць, берагчы калгаснае дабро і бязлітасна граміць гультаёў, рвачоў і разгільдзяеў, тым быстрэй яны стануць заможнымі.

Комуніст павінен павысіць не толькі сваю класавую пільнасць, а таксама пільнасць калгасніка. Трэба дабіцца таго, каб кожны калгаснік ведаў, што гультай, разгільдзяй, рвач у калгасах—гэта лепшы і верны прыяцель кулака. У гэтым задача і абавязак кожнага комуніста.

Каб павысіць працоўную дысцыпліну калгаснікаў трэба укараніць у жыццё соцыялістычныя метады працы. Яшчэ і да гэтага часу ў радзе калгасаў працдысцыпліна не на належнай вышыні. Куды варта такая пастаноўка работы, калі ў часе веснавой сяўбы калгаснікі на работу выходзілі ў 8—10 гадзін і ўстанаўлялі незалежна ад надвор'я выходныя дні (Лёзна, Нароўля). Барацьба за высокую працоўную дысцыпліну ў калгасах ёсць першачарговая задача партарганізацыі. Асноўным метадам яе ўздыму павінна быць соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Комуніст справу соцспаборніцтва павінен арганізаваць так, каб ім было ахвачана кожнае звяно, кожны калгаснік. Патрэбна разгарнуць глыбокую палітыка-выхаваўчую работу, якая у спалучэнні з соцыялістычнымі метадамі працы з'явіцца лепшым сродкам ператварэння калгаснікаў у свядомых будаўнікоў соцыялістычнага грамадства.

* * *

Пытанне арганізацыі працы ў калгасах—участак лютай класавай барацьбы. Класавы вораг, асабліва ў галіне арганізацыі працы, ўзмоцнена праводзіць сваю падрыўную контррэволюцыйную работу, карыстаючыся пры гэтым традыцыйнымі перажыткамі капіталістычнага грамадства, кааптуючы на свой бок гультая, разгільдзяя, рвача і іншыя адкіды пераможнага соцыялістычнага будаўніцтва. Кулак і яго агенты ў калгасе—лодыры і рвачы—накіроўваюць сваё астрыё на зрыў пастаяннай вытворчай брыгады, на зрыў працоўнай дысцыпліны і здзельшчыны. Ён прымае ўсе меры к таму, каб дэзарганізаваць работу ў брыгадзе, прапагандуючы «шкоднасць» камбінаваных звенняў, агітуючы за разрыў адзінага працэсу работы з тым, каб парушыўшы агратэхнічныя правілы, знізіць ураджайнасць і сарваць заможнае жыццё калгаснікаў. Кулак накіроўвае сваю работу на змяншэнне рабочага дня ў калгасах, вялікія перапынкі. Ён хоча, каб не выконваліся нормы выпрацоўкі і гэтым самым хоча зацягнуць, сарваць гаспадарча-палітычныя кампаніі, нанесці матэрыяльную шкоду калгасу і дзяржаве.

У падрыўной рабоце класавы вораг апіраецца на правых і «левых» апартуністаў, з'яўляючыхся прамымі яго памочнікамі. Кулаку дапамагае палітычная блізарукасць, санлівасць і адсутнасць класавай пільнасці ў калгасных кіраўнікоў.

Некаторыя калгасныя работнікі і дагэтуль схільны думаць, што класавага ворага ў яго калгасе няма і што аб кулацкай падрыўной рабоце яму няма чаго непакоіцца. У гэты-ж час пад сваім носам не бачыць гультая, разгільдзяя, рвача—гэтых верных прыяцеляў кулака. Не бачыць, што сам кулак пераапрануўся ў ціхага, непрыкмет-

нага калгасніка, а дзе-ні-дзе і актывіста. І несумненна, што такі «кіраўнік» калгаса не прама, а ўкосна дапаможа ў рабоце кулаку і яго агентуры.

Каб канчаткова дабіць класавага ворага, выжыць гультаёў, рвачоў, разгільдзяеў, трэба максімальна праяўляць на кожным кроку калгаснай работы большэвіцкую пільнасць; арганізаваць работу на аснове пастаяннай вытворчай брыгады; правільна расставіць людзей у працэсе вытворчасці па прынцыпах дробных камбінаваных звенняў; правільна ўстанавіць здзельшчыну, дакладна ўлічваючы работу кожнага калгасніка, ведучы чэсна і акуратна ўлік кожнай работы; разгарнуць масавую работу вакол пытанняў арганізацыі правільнай уборкі ўраджаю, аўладання тэхнікай справы. Арганізаваць соцспаборніцтва і ўдарніцтва—гэты магутны рычаг у справе барацьбы з гультайствам і разгільдзяйствам, у справе соцыялістычнага перавыхавання калгаснікаў.

Для выканання гэтых задач патрэбна аператыўнае кіраўніцтва, веданне кожнай брыгады і кожнага калгасніка.

Пастаянная вытворчая брыгада патрабуе канкрэтнасці кіраўніцтва, таму правільна арганізаваная брыгада з'яўляецца свайго роду паказчыкам таго, наколькі добра наладжана большэвіцкае кіраўніцтва калектыўнай вытворчасцю.

Кожны комуніст павінен добра помніць, што для таго, каб кіраваць людзьмі ў працэсе вытворчасці, трэба арганізаваць правільна, па-вытворчаму прынцыпу, брыгаду. У брыгадах трэба арганізаваць звенні і на іх аснове правільна расстаўляць людзей у вытворчасці.

Вышэйшай прадукцыйнасці працы калгасы дасягнуць толькі тады, калі кожны калгаснік будзе арганізован у рабоце, калі кожны будзе ведаць сваё месца ў вытворчасці і сваю справу ў агульным калектыве.

* * *

Самая важная задача партарганізацый вёскі зараз—з поспехам і ў самыя кароткія тэрміны правесці ўборку ўраджаю, выканаць самаабавязацельствы перад дзяржавай, гэта значыць з поспехам завяршыць сельска-гаспадарчы 1934 год. Для выканання гэтай задачы ў нас ёсць усе магчымасці і справа заключаецца толькі ў тым, каб гэтыя магчымасці рэалізаваць, ператварыць у рэчаіснасць.

**С. Салавей**

# За правільную пастаноўку ўліку ў калгасах

Аб важным значэнні ўліку і кантролю ёсць шматлікія ўказанні асновапаложнікаў марксізма-ленінізма. Маркс, Энгельс, Ленін, Сталін ўказваюць на ўлік і кантроль як на рашаючы фактар у справе кіраўніцтва соцыялістычнай гаспадаркай.

> «Вядзенне кніг, як сродак кантролю і ідэальнага аб'яднання ўсяго працэсу становіцца тым больш неабходным, чым больш працэс пашыраецца да грамадскіх размераў і чым больш ён траціць чыста індывідуальны характар. Такім чынам, вядзенне кніг больш неабходна пры капіталістычнай вытворчасці, чым пры раздробленай рамеснай і сялянскай вытворчасці, яно больш неабходна пры калектыўнай вытворчасці, чым пры капіталістычнай» **(Маркс**—«Капітал», т. II, гл. 6. Вядзенне кніг. стар. 83).

Гэта ўказанне Маркса наглядна паказвае тыя вялікія патрабаванні, якія прад'яўляе да ўліку соцыялістычная народная гаспадарка.

У нашых умовах улік з'яўляецца сродкам планавання і ажыццяўлення гаспадарчага разліку, сродкам аховы нашай соцыялістычнай, грамадскай уласнасці, сродкам перавыхавання мас. Улік узбройвае нашых гаспадарнікаў неабходнымі данымі для кіраўніцтва і рэгулявання.

Владзімір Ільіч і пасля Окцябрскай рэволюцыі падкрэслівае неабходнасць арганізацыі масавага, усенароднага ўліку і кантролю над вытворчасцю і размеркаваннем, якія патрэбны «для «наладжання», для правільнага функцыянавання **першай фазы** комуністычнага грамадства».

> «Бо,—гаворыць Ленін,—калі **ўсе** навучацца кіраваць і будуць на самой справе кіраваць самастойна грамадскай вытворчасцю, самастойна ажыццяўляць улік і кантроль дармаедаў, панычоў, машэннікаў і т. п. «ахоўвацеляў традыцый капіталізма», тады ўхіленне ад гэтага ўсенароднага ўліку і кантролю немінуча стане такім неімаверна трудным, такім вельмі рэдкім выключэннем, будзе суправаджацца, напэўна, такім быстрым і сур'ёзным пакараннем (бо ўзброеныя рабочыя—людзі практычнага жыцця, а не сантыментальныя інтэлігенцікі і жартаваць яны з сабой наўрад-ці дазволяць), што **неабходнасць** захоўваць нескладаныя, асноўныя правілы ўсякага чалавечага сужыцця вельмі хутка стане прывычкай» **(Ленін**—«Дзяржава і рэволюцыя», стар. 441).

Тав. **Сталін**, падкрэсліваючы агромную ролю ўліку, указвае, што **«ніякая прамысловасць, ніякае будаўніцтва нямыслімы без уліку, а ўлік нямыслім без статыстыкі».**

Задачы, пастаўленыя партыяй і ўрадам па рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі, у прыватнасці сацыялістычнай сельскай гаспадаркі, барацьбе за бальшэвіцкія калгасы, ставяць улік у сельскай гаспадарцы на віднае месца. Пытанні ўліку і адчотнасці ў калгасах набываюць выключна агромнае гаспадарча-палітычнае значэнне.

Трэба арганізаваць такі ўлік, каб ён сапраўды выяўляў усе бакі гаспадарчай дзейнасці калгасаў, даваў патрэбныя даныя для штодзеннага, аператыўнага і канкрэтнага кіраўніцтва і далейшай планавай перабудовы работы калгасаў.

Улік трэба зрабіць такім, каб ён быў дзейсным і вострым аруддзем барацьбы за ажыццяўленне лозунга т. **Сталіна**—«зрабіць калгасы бальшэвіцкімі, а калгаснікаў заможнымі».

Важнейшымі задачамі соцыялістычнага ўліку з'яўляюцца: актыўна ўздзейнічаючый кантроль за выкананнем вытворча-фінансавага плана як па ўсяму калгасу, так і па паасобных брыгадах; выяўленне затрат працы па колькасці і якасці работы. і, на гэтай аснове, правільнае размеркаванне даходаў, правільнае выяўленне накаплення і капіталаўкладанняў; выяўленне росту таварнасці і рэзультаты калгаснага гандлю; выяўленне прадукцыйнасці працы, забяспечанне аховы грамадскай калгаснай уласнасці шляхам своечасовага і дакладнага ўліку ўсіх маёмасных і прадуктова-матэрыяльных каштоўнасцей; своечасовае і поўнае, як у колькасных, так і ў якасных адносінах, выкананне абавязацельстваў калгасаў перад дзяржавай.

Адным з найбольш сільных і вострых сродкаў барацьбы за бальшэвіцкія калгасы з'яўляецца правільны і своечасова арганізаваны масавы і дакладны ўлік і кантроль. Класавы вораг добра разумее значэнне ўліку, ён усімі сіламі стараецца захваціць гэты ўчастак работы калгаса ў свае рукі. Гэта яму патрэбна для таго, каб адсюль «ціханька і непрыкметна» праводзіць сваю шкодніцкую работу, каб тут, шляхам заблытвання ўліку, очкаўціразельства і т. д., арганізоўваць раскраданне грамадскай і калгаснай уласнасці і тым самым падрываць асновы калгаснай гаспадаркі. Кулак процідзейнічае арганізацыі правільнай і добра наладжанай пастаноўкі ўліку, бо дрэнны ўлік лепшая лазейка для ўсякіх прадзелак класавага ворага.

На любым участку работы калгаса, пачынаючы ад падрыхтоўкі да веснавой сяўбы, самой сяўбы, арганізацыі працы, збору ўраджаю, выканання абавязацельстваў дзяржаве і канчаючы размеркаваннем даходаў, правільная пастаноўка ўліку павінна быць фактарам, дапамагаючым умацаванню і развіццю данай гаспадаркі. Адсутнасць уліку, заблытаны ўлік або дрэнна арганізаваны ўлік дапамагае раскраданню грамадскай уласнасці, зрывае соцыялістычнае накапленне і вядзе да дыскрэдытацыі калгаснага ладу, падрывае справу барацьбы за бальшэвіцкія калгасы.

Важнасць правільна пастаўленага ўліку ў калгасе, яго асабліва адказная роля і значэнне знайшлі адлюстраванне ў пастанове ЦВК і СНК СССР аб сельска-гаспадарчым падатку на 1934 г., у якой адзначаецца, што:

> «Калгасы, узорна паставіўшыя ўлік і адчотнасць, атрымліваюць скідку з вылічанага акладу падатку ў размеры да 10 проц. Гэтыя сумы абарачаюцца на стварэнне ў даным калгасе спецыяльнага фонду для выдачы прэмій лепшым калгаснікам-ўдарнікам, узорна паставіўшым улік і адчотнасць».

Наколькі вялікае значэнне ўліку і адчотнасці ў калгасах, якое значэнне пытанням уліку ў калгасах надае партыя і якім чынам завастраецца ўвага ўсёй совецкай, партыйнай і прафесіянальнай грамадскасці вакол пытанняў уліку ў калгасах можна бачыць з пастановы бюро ЦК КП(б)Б («Звязда» ад 30-VI—33 г.).

Гэта пастанова прапануе арганізаваць дэкаднік праверкі і дапамогі арганізацыі ўліку ў калгасах і намячае цэлы рад мерапрыемстваў па ўцягненню найбольш перадавых рахунковых работнікаў горада для аказання дапамогі калгаснаму ўліку. Гэта пастанова ўказвае на неабходнасць шырокага ўцягнення і актыўнага ўдзелу ў рабоце па наладжванню калгаснага ўліку ўсіх партыйных, совецкіх і прафесіянальных арганізацый.

Аснова нашай соцыялістычнай краіны—грамадская ўласнасць. Яна патрабуе клопату, беражлівасці з боку кожнага працоўнага. Яна патрабуе бесперабойнага, штодзеннага і строгага ўліку і кантролю, патрабуе эканоміі ў правільным расходванні сродкаў.

Барацьба за правільную пастаноўку ўліку ёсць адна з форм класавай барацьбы ў калгасе.

Калгас **«Ленінскі шлях»**, Менскага раёна, Самахвалавіцкага сельсовета, арганізаван у красавіку 1930 г. Яднаючы 234 гаспадаркі, з колькасцю ў 2 155 га зямлі, у лютым 1934 г. гэты калгас стаяў перад пагрозай развалу. Тут кулацкія элементы, прабраўшыся ў калгас і нават на кіруючыя пасады (старшыня калгаса, кладаўшчык, ключнік), карыстаючыся заблытанасцю ўліку, усякімі спосабамі праціддзейнічаючы правільнай арганізацыі яго—займаліся раскраданнем калгаснага дабра. Замест сістэматычнага росту, калгас быў даведзен да становішча заняпаду.

Па даручэнню палітаддзела 1-й Менскай МТС у лютым месяцы гэтага года ў даным калгасе была праведзена рэвізія. Даволі прыгожа некалькі вытрымак з акту рэвізіі, каб убачыць, якім чынам класавы вораг свядома зрываў арганізацыю ўліку і рабіў сваю шкодніцкую справу. Акт рэвізіі, даючы ацэнку становішча ўліку і яго заблытанасці, між іншым, гаворыць, што «ключнікі не правяраліся па свайму соцыяльнаму становішчу, дзякуючы чаму сюды зацясаліся кулацкія элементы, якія свядома заблыталі ўлік прадукцыі калгаса, каб лягчэй было праводзіць раскраданне і разбазарванне калгаснай прадукцыі. Гэта давяло да таго, што з-за блытаніны ў перадачах ключнікамі прадукцыі, усе недахопы і лішкі на 1-е ліпеня 1933 г. так абязлічаны, што няма магчымасці выявіць канкрэтных віноўнікаў іх, бо ў аддзяленнях і канторах няма актаў прыёмкі і здачы паміж ключнікамі».

У рэзультаце такога ўліку па калгасу на 1-е ліпеня 1933 г. нехапала: 1 256 цэнтнераў зернавых прадуктаў і 8 451 літраў малака.

Ураджай раскрадаўся рознымі спосабамі. У адных аддзяленнях практыкавалася свядомае незапрыходванне прадуктаў ураджаю, у другіх к моманту праверкі, а гэта значыць праз паўгода пасля зняцця ўраджаю, выяўлены наступныя незапрыходваныя прадукты: ячменю 3 868 кгр. і жыта 661 кгр. У кладаўшчыка 4-га аддзялення пры рэвізіі выяўлена раскрадзеных: жыта 573 кгр., пшаніцы 924 кгр., аўсу 617 кгр., апрача ўсіх «дробязей», як: 306 кгр. мякіны, 80 кгр. ржаной мукі, 25 кгр. пшанічнай і т. д. Рэвізія таксама выявіла, што з 12 жніўня 1933 г. па 15 студзеня 1934 г. нехапае 5664 кгр. і 345 пудоў усякага зярна, прычым выявіць віноўніка, на падставе ўліку, было немагчыма.

Вельмі характэрнымі з пункту гледжання «чоткасці» ўліку з'яўляюцца практыкаваўшыяся шкоднікамі калгаса так званыя «законныя» крадзяжы. Адны і тыя-ж расходы падаваліся для спісання ў бухгальтэрыю два разы. Так два разы спісаны па накладной № 54 ад 15-VIII—33 г. 3 250 кгр. жыта і па накладной № 26 2 005 кгр. Таксама два разы спісана натураплата па 1 000 кгр. ячменю і 1 000 кгр. аўсу.

Улік жывёлагадоўлі быў пастаўлен так, што толькі пры рэвізіі ўдалося выявіць рэзкае змяншэнне пагалоўя жывёлы ў калгасе. Пала і прадана: коняй і конскага маладняка 157 галоў, рагатай жывёлы 312 галоў, авец і ягнят 221, свіней 325. Прычым характэрна адзначыць, што жывёла на 70 проц. прадавалася на вольным рынку, а сума, выручаная ад продажу, прыходвалася або зусім без дакументаў або па неаформленых.

Не лепш абстаяла справа і з іншымі аперацыямі ў калгасе, як па асноўных сродках, грашовых аперацыях і інш.

Прыведзеныя факты аб шкодніцкіх дзеяннях калгаса «Ленінскі шлях» наглядна паказваюць, наколькі адсутнасць уліку або дрэнны і заблытаны ўлік садзейнічаў і дапамагаў класаваму ворагу рабіць сваю шкодніцкую справу.

У калгасе **«Чырвоная ніва»**, Бабруйскага раёна, Вароцінскага сельсовета, становішча амаль такое самае. Старшыня калгаса (з быўшых сектантаў) прабіраецца ў калгас з загадзя намечанымі мэтамі, каб разбурыць яго. Дрэннае становішча ўліку, а часта і поўная адсутнасць яго, дапамагалі таму, што калгасныя: пшаніца, жыта, малако і т. д. перацягваліся і пападалі ў рукі шкоднікаў. Бескантрольнасць давяла да таго, што старшыня калгаса прадае кулакам тысячы пудоў хлеба і здае за іх, у выглядзе падатку, па індывідуальнаму абкладанню. На выручаныя-ж грошы за прададзены кулакам хлеб наладжваюцца п'янкі.

Тав. **Кагановіч** на Ўсесаюзным з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў сказаў:

> «Многія сяляне думаюць, што ўлік, бухгалтэрскія кнігі—гэта ваша вучоная справа, нас гэта не датычыць. Не, таварышы, калгасны ўлік і рахункаводства кроўна закранае інтарэсы саміх калгаснікаў. Гэта-ж пытанне аб размеркаванні даходаў паміж калгаснікамі».

У адным з калгасаў Менскага раёна пасля завяршэння гадавой работы прыступілі да размеркавання ўраджаю. Рахункавод гэтага калгаса, замест 3 кгр. зернавых прадуктаў, якія прыходзіліся на кожны працадзень, на падставе сваіх «улікавых даных» вывеў, што на кожны працадзень прыпадае толькі 900 грам. Аб прадстаячым размеркаванні даходаў рахункавод далажыў на агульным сходзе калгаснікаў. Вядома, што калгаснікі абурыліся, пачуўшы такія вывады. Палітаддзел і МТС умяшаліся ў гэту справу і пасля правядзення дакладнай рэвізіі, якая дэмаскіравала свядомыя прадзелкі гэтага рахункавода, аднавілі сапраўднае становішча спраў. Пасля гэтага размеркаванне даходаў было праведзена нармальна, г. зн. па 3 кгр. зернавых прадуктаў на працадзень.

У некалькі іншым варыянце мы маем раскраданне калгаснага дабра ў калгасе імя ДПУ прыгараднага сельсовета, Менскага раёна: карыстаючыся адсутнасцю пільнасці, бескантрольнасцю і дрэнным станам уліку, рахункавод калгаса (ён-жа і касір) раскрадвае касу. Каб схаваць сляды сваіх злачынстваў, ён з расходных дакументаў

мінулага году вымае аплочаныя рахункі, выпраўляе на іх даты і выводзіць другі раз у расход ужо ў бягучым годзе. Гэтым прадзелкі не абмяжоўваюцца. Класавы вораг паступова робіцца больш наглым, вакол яго ствараецца цэлая зграя і ад грашовых спраў пускаюцца шчупальцы і на іншыя ўчасткі калгаснага дабра.

Карыстаючыся тым, што калгас прыгарадны і з'яўляецца пастаўшчыком ранняй гародніны, апошняя пад выглядам калгаснага гандлю, накіроўваецца на калгасны рынак, а выручаныя грошы дзеляцца паміж гэтай зграяй злодзеяў. Складзеныя акты або зусім знішчаліся або ў іх вельмі змяншалася сума выручкі.

У рэзультаце дзейнасці гэтай кампаніі—у тэтым калгасе, па даных следчага матэрыялу, раскрадзена каля 12 тысяч рублёў.

Але можна прывесці цэлы рад прыкладных узораў работы, калі добра арганізаваны ўлік дапамагае і з'яўляецца фактарам, уздзейнічаючым на ўмацаванне калгасаў. Вось, напрыклад, калгас **«Глуша»**, Бабруйскага раёна. У ім добра і чотка наладжан улік працадзён, правільна ўлічваюцца прадукты, матэрыялы, грашовыя і асноўныя сродкі. Гэты калгас першы ў раёне выконваў свае абавязацельствы перад дзяржавай і выдаў значна большую колькасць прадуктаў на працадзень, чым іншыя калгасы таго-ж раёна.

У калгасе «Х з'езд советаў», Менскага раёна, дзе таксама ўзорна пастаўлен улік, дзе ёсць магчымасць на падставе даных уліку сістэматычна правяраць план яго выканання, расстаноўку сіл, дзе ёсць дакладны ўлік працадзён па колькасці і якасці работы—там калгаснікі атрымалі максімальную лічбу на працадзень: звыш 4 кгр. зернавых прадуктаў і 16 кгр. бульбы.

Было-б, аднак, няправільным лічыць, што роля ўліку абмяжоўваецца простай рэгістрацыяй фактаў, аўтаматычным фіксіраваннем адбываючыхся працэсаў. Улік павінен актыўна ўздзейнічаць на гаспадарчую дзейнасць, своечасова сігналізаваць аб гаспадарчых непаладках у калгасе, аб спробах проціпастаўлення інтарэсаў калгаса інтарэсам дзяржавы. Нам патрэбен не фармальны ўлік, а дакладны, правільны, нам патрэбна верная і абгрунтаваная лічба, якая-б апіралася на дакументацыю і кантралявалася самімі калгаснікамі.

Вакол пытанняў калгаснага ўліку трэба мабілізаваць калгасную масу, трэба на канкрэтных прыкладах завастрыць увагу на ролі і значэнні ўліку ў справе ажыццяўлення задач калгаснага будаўніцтва. Трэба штодзенна раз'ясняць, што ўлік гэта не толькі справа бухгалтэра, рахункавода, канцылярыі, а і калгаснікаў, што гэта кроўна закранае іх інтарэсы.

Асноўнымі і найбольш важнымі рахунковымі момантамі калгаснага ўліку мы лічым:

а) устанаўленне сістэматычнага, актыўнага нагляду і кантролю за ходам выканання вытворча-фінансавага плана;

б) улік колькасці і якасці работы;

в) улік калгаснага ўраджаю, усёй прадукцыі калгаса, захаванне прадуктаў і забяспечанне недатыкальнасці насенных, фуражных і страхавых фондаў;

г) улік размеркавання даходаў, накаплення для далейшага расшыранага аднаўлення і выканання абавязацельстваў перад дзяржавай;

д) пытанне рахунковых калгасных кадраў, якія павінны забяспечыць у сельскай гаспадарцы социялістычны ўлік.

* * *

Арганізацыя ўліку і кантролю за выкананнем плана—гэта цэнтр усёй работы калгаса.

У калгаснай вытворчасці, як соцыялістычным тыпе гаспадаркі, патрабуецца арганізаванасць і планавасць. У плане адлюстроўваюцца ўсе важнейшыя моманты развіцця і росту калгасаў. План ёсць рэальная праграма дзеяння для кожнага калгаса, калгаснай брыгады і кожнага калгасніка.

> «Калгас ёсць буйная гаспадарка. Але буйную гаспадарку нельга весці без плана. Буйная гаспадарка ў земляробстве, ахватваючая сотні, а часам і тысячы двароў, можа весціся толькі ў парадку планавага кіраўніцтва. Без гэтага яна павінна загінуць і разваліцца» (**Сталін**—Аб рабоце на вёсцы).

Адсутнасць уліку і кантролю павінна немінуча прывесці да таго, што праўленне калгаса, яго кіраўніцтва, кіраўнікі на паасобных участках не будуць мець даных, якія неабходны для штодзеннай і аператыўнай работы па кіраўніцтву калгасам. Больш таго, гэта параджае няведанне сапраўднага становішча спраў у калгасе, самацёк у рабоце, а кіраваць пры такім становішчы—значыць кіраваць усляпую.

Надзвычай важнай з пункту гледжання выканання плана з'яўляецца дакументацыя. Складанне і прадстаўленне такіх дакументаў кожнай вытворчай адзінкай, брыгадай, МТФ, СТФ, якія даюць магчымасць сачыць за выкананнем плана, сігналізаваць аб усякіх ненармальнасях і прырывах у рабоце калгаса—мае каласальнае значэнне.

З існуючай калгаснай дакументацыі па інструкцыі на 1934 г. трэба асобую ўвагу звярнуць на ведамасць уліку працадзён, у якой, у асноўным, сабраны паказчыкі, асвятляючыя ход выканання плану і задання па паасобных брыгадах. Усе брыгады абавязкова ва ўстаноўленыя тэрміны павінны прадстаўляць у кантору такія ведамасці.

Апрацоўка гэтага дакумента, абагульненне яго даных, складанне зводкі ў разрэзе ўсяго калгаса, дае магчымасць праўленню сачыць за тым, як выконваецца план па калгасу ў цэлым і па паасобных брыгадах. На падставе атрыманай зводкі праўленне калгаса, маючы даныя аб колькасці выкананай работы за вядомы перыяд, аб пачатку выхаду на работу, выкананні норм выпрацоўкі, выкарыстанні рабочай і цяглавай сілы, сельска-гаспадарчага інвентара—атрымлівае матэрыял для канкрэтнага аператыўнага кіраўніцтва, для выпраўлення ўзнікаючых у працэсе работы недахопаў і недачотаў, для прыняцця неабходных мер у падцягванні найбольш адстаючых участкаў.

Для таго, каб лягчэй было кіраваць усім працэсам калгаснага будаўніцтва, каб даныя ўліку і адчотнасці найбольш лёгка супастаўляць з няпланавымі заданнямі, неабходна ўвесь вытворча-фінансавы план, складзены па калгасу за цэлы год, удасканаліць і разбіць на больш кароткія тэрміны, г. зн. памесячна або пакватальна.

На XVI з'ездзе партыі т. **Сталін** указаў:

> «Толькі бюракраты могуць думаць, што планавая работа скончыцца складаннем плана. Складанне плана ёсць толькі пачатак планавання. Сапраўднае планавае кіраўніцтва развіваецца толькі пасля складання плана, пасля праверкі яго на месцах, у ходзе ажыццяўлення, выпраўлення, удакладнення плана».

Выкананне плана ў калгасах цесна і непасрэдна звязана з аператыўнай адчотнасцю. Ва ўмовах социялістычнай планавай гаспадаркі правільна, дакументальна абгрунтаваныя звесткі маюць грамаднейшае значэнне.

Згодна пастановы СНК Саюза ад 17.1.34 г. калгасы павінны прадстаўляць адчотнасць вышэйстаячым арганізацыям: палітаддзелам, сельсоветам і іншым партыйным і совецкім арганізацыям, каб даць ім магчымасць на падставе гэтых звестак выпраўляць недахопы і кіраваць работай калгасаў.

Аднак, своечасова прадстаўляць звесткі гэтага яшчэ недастаткова. Неабходна, каб кожная прадстаўляемая лічба была сугуба правільнай, дакладнай і адпавядаючай сапраўднасці.

Барацьба за верную лічбу—ёсць барацьба за правільнае кіраўніцтва калгасам, бо ў кожную лічбу ўкладваецца пэўны канкрэтны змест.

Своечасовая і правільная адчотнасць, прадстаўленне неабходных звестак з'яўляецца магутнай зброяй у справе мабілізацыі калгаснай масы вакол ажыццяўлення дырэктыў партыі і ўрада па выкананню вытворча-фінансавага плана ў калгасах, з'яўляецца дзейсным фактарам барацьбы за план, за высокую якасць работы па ліквідацыі прарываў і т. д.

Трэба асоба адзначыць ролю рэвізійных камісій у калгасах.

Рэвізійная камісія павінна пільна сачыць за тым, каб усе патрабуемыя звесткі былі своечасова і ва ўстаноўленыя тэрміны адасланы адпаведным адрасатам. Рэвізійная камісія павінна сістэматычна і старанна правяраць прадстаўляемыя звесткі і тыя даныя і дакументы, якія ляглі ў аснову складання гэтых звестак. Трэба памятаць, што ўсякае очкаўціраціцельства, няверныя лічбы ўводзяць у заблуджэнне кіруючыя і рэгулюючыя арганізацыі, што гэта толькі на руку класаваму ворагу і яго шкодніцкай рабоце.

У планаванні работы калгаса, у пастаянным кантролі за выкананнем плана, у яго ажыццяўленні скрываюцца ўсе вузлавыя работы калгаса. Павышэнне ўраджайнасці, паднящце прадукцыйнасці працы, арганізацыя яе, мабілізацыя ўсіх вытворчых рэсурсаў, атрыманне, выкарыстанне і своечасовае пагашэнне атрыманых ад дзяржавы крэдытаў, выкананне плана капітальных укладанняў, выкананне абавязацельстваў перад дзяржавай, барацьба за развіццё жывёлагадоўлі, за палепшанае абслугоўванне быту калгаснікаў, уцягненне ў калгаснае будаўніцтва шырокіх мас працоўных—усе гэтыя пытанні з'яўляюцца пытаннямі плана і ўліку.

Ад якасці ўліку ўсіх гэтых элементаў вытворча-фінансавага плана будзе залежыць якасць кіраўніцтва, якасць самога выканання плана. Гэта ў сваю чаргу і павінна вызначыць і вызначае напрамак данага калгаса, яго далейшы лёс—сістэматычны рост, расшырэнне і ўмацаванне калгаснай гаспадаркі, павышэнне яе таварнасці і даходнасці і рад іншых паказчыкаў.

* * *

Не менш актуальнымі з'яўляюцца пытанні ўліку працы. Здзельшчына ў калгасах перш за ўсё ўпіраецца ў правільна распрацаваныя нормы выпрацоўкі, даведзеныя да кожнай паасобнай брыгады, да кожнага паасобнага калгасніка.

Правільна ўстаноўленыя нормы стымуліруюць павышэнне прадукцыйнасці працы, якасці работы і даюць магчымасць ажыццявіць улік і кантроль над лодырамі і дармаедамі, якія любяць пажыць за чужы кошт.

Арганізацыя працы на аснове здзельшчыны, правільна арганізаваны і наладжаны ўлік працадзён па колькасці і якасці забяспечвае выкананне адной з гістарычных умоў т. **Сталіна**—барацьбы супроць кулацкай ураўнілаўкі. Забяспечвае, безумоўна, правільны, на даным этапе неабходны, прынцып «хто больш і лепш працуе, той і больш атрымлівае, хто не працуе, той нічога не атрымлівае».

У ўліку працы павінна быць адлюстравана барацьба за лепшую якасць работы.

Вылік працадзён за дрэнную якасць работы і, наадварот, заахвочванне за добрую работу павінна сістэматычна і штодзенна праводзіцца ў кожным калгасе і ў кожнай брыгадзе. Брыгадзір, прымаючы работу, супастаўляе фактычнае выкананне работ кожным калгаснікам з планавым заданнем і нормай выпрацоўкі, устанаўляе колькасць і якасць работы і, у адпаведнасці з гэтым, адзначае працадні, павышаючы або паніжаючы іх.

Гэта лепшы метад барацьбы супроць **ураўнілаўкі, лепшы метад** перавыхавання шырокіх калгасных мас і ператварэння іх у актыўных і свядомых будаўнікоў соцыялістычнай сельскай гаспадаркі.

Асноўным дакументам па ўліку працы ў калгасе з'яўляецца **«паіменны пералік»,** які складаецца брыгадзірам на кожную паасобную работу. Гэты дакумент пры дакладным і правільным яго запаўненні, дае магчымасць, з аднаго боку, сачыць за выкананнем плана, а, з другога, адлюстроўвае якасць і колькасць работы, як брыгады ў цэлым, так і кожнага паасобнага калгасніка.

Другім важным дакументам з'яўляецца **індывідуальная кніжка калгасніка.** Перыядычна (не радзей аднаго разу ў пяцідзёнку) запаўняемая брыгадзірам або рахункаводам працоўная кніжка фактычна паказвае ўдзел калгасніка ў рабоце калгаса, яго долю ў агульнай працы і даходах, выяўляе рэзультаты соцспаборніцтва і ўдарніцтва, а гэтым самым актывізуе і мабілізуе кожнага калгасніка на барацьбу за лепшую работу.

Арганізацыя пастаянных вытворчых брыгад, своечасовае складанне вытворчых заданняў брыгадам, устанаўленне і замацаванне за кожнай брыгадай пэўных зямельных участкаў, інвентара, цягавай сілы, афармленне гэтых брыгад і перадача па вопісу брыгадзіру, прымацаванне да яго брыгады маёмасці—гэта састаўныя элементы, неабходныя ўмовы і патрабаванні правільна арганізаванага ўліку.

Аднак, мала атрымліваць даныя па брыгадзе у цэлым (хоць і гэтыя звесткі патрэбны). Улік трэба паставіць так, каб выяўляць работу кожнага калгасніка, сачыць за цэласцю даверанай кожнаму калгасніку маёмасці і гэтым самым дабіць абязлічку і ўраўнілаўку.

Кожная брыгада і кожны калгаснік у паасобку, раней чым выходзіць на работу, павінны ведаць якую і колькі работы яму трэба выканаць, у які тэрмін, якімі машынамі, цягавай сілай і матэрыяламі яна будзе праводзіцца.

Пры арганізацыі ўліку трэба змагацца за тое, каб кожны працадзень зрабіць больш поўнацэнным. Гэта значыць, што працадні павінны налічвацца не механічна, а ў адпаведнасці з колькасцю і якасцю выкананай работы.

Налічэнне працадзён ні ў якім разе нельга звесці толькі да простай тэхнічнай бухгалтэрскай работы—гэта пытанне вялікай палітычнай важнасці. Праз меру і лішне налічаныя працадні, налічэнне працадзён асобам, не маючым непасрэдных адносін да калгаснай вытворчасці немінуча павінна прывесці да зніжэння даходнасці калгаснікаў, да абесцанення працадня пры размеркаванні даходаў.

Арганізацыя працы на аснове здзельшчыны, улік работы—ёсць улік соцыялістычных адносін да калгаснай вытворчасці, а апошняе—важнейшы фактар арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў.

* * *

Пытанні ўліку калгаснага ўраджаю, усёй прадукцыі калгаса, недатыкальнасць насенных, фуражных і страхавых фондаў—неад'емна і арганічна звязаны з пытаннямі барацьбы за ахову соцыялістычнай уласнасці, за ахову калгаснай уласнасці.

Варожыя класы разбіты, але яшчэ не дабіты, яны аказваюць будуючамуся соцыялізму жорсткае і шалёнае супраціўленне. Адной з форм барацьбы кулацтва супроць калгаснага ладу на даным этапе ёсць раскраданне грамадскай уласнасці.

Каб даць кулацкаму супраціўленню сакрушальны адпор, побач з цэлым радам іншых мерапрыемстваў партыі і ўрада, улік можа і павінен адыграць каласальнейшае значэнне. Для гэтага ён павінен быць арганізаван і наладжан так, каб своечасова папярэджваць спробы класавых ворагаў раскрадаць калгаснае дабро.

Найстражэйшым улікам трэба стварыць такія ўмовы, пры якіх па ўсяму шляху праходжання калгаснага ўраджаю, пачынаючы з поля і да калгаснага свірна і ссыпнога пункту, не загубіўся-б ні адзін кілограм сабранага хлеба.

Пытанням аховы ўраджаю прысвечан цэлы рад важнейшых палітычных дакументаў. Пастанова СНК аб уліку ўраджаю прапануе к моманту яго паспявання вылучыць з праверавых калгаснікаў вартаўнікоў і аб'ежчыкаў, усклаўшы на іх адказнасць за захаванасць ураджаю. Улік прапануецца весці ў снапах, устанавіўшы дакументальнае афармленне перадачы брыгадзірам-вартаўнікам сабранага ўраджаю. Пры адпраўцы з поля ў свіран калгаснік, які накладае снапы, падлічвае колькасць іх і выдае возчыку адпаведную квітанцыю з указаннем колькасці адпраўленых снапоў. У свірне прыёмку робіць спецыяльны ўчотчык, які звярае колькасць адзначаных у квітанцыі снапоў з колькасцю прымаемых.

Пры паступленні зярна з-пад малатарні вагаўшчык МТС усё абмалочанае зярно ўзважвае і адпаведнымі накладнымі адпраўляе калгаснаму кладаўшчыку.

Апаратыўны ўлік пры ўборачнай кампаніі, улічваючы жорсткасць тэрмінаў па ўборцы хлеба, скірдаванню і касьбе, улічваючы неабходнасць як мага больш быстрай і лепшай уборкі, абмалоту і здачы хлеба дзяржаве, набывае выключна важнае значэнне.

Дрэнны ўлік ураджаю можа прывесці да велізарнейшых страт, раскрадання і разбазарвання сабранага хлеба.

Устанавіць улік снапоў пры накладанні вазоў, афармляць прыёмку хлеба ў свірнах, арганізаваць дакументальны зварот па ўліку хлеба—вось задача па ахове ўраджаю, а гэта значыць і арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаванню калгасаў.

Арганізаваць правільную сістэму запісаў паступіўшага ў свірны хлеба, сістэму найстражэйшага кантролю за расходваннем, маючы на ўвазе, што і тут барацьба за правільную абгрунтаваную дакументацыю ёсць таксама частка барацьбы супроць раскрадання грамадскай уласнасці. Ускрываць усякія спробы крадзяжу, мець магчымасць рэвізаваць становішча спраў, злічаць фактычныя астаткі з кніжнымі астаткамі—можа быць ажыццёўлена толькі тады, калі запісы аперацый, усякія паступленні і выдачы, як грашовыя, так і натуральныя, будуць рабіцца на аснове дакументаў, папярэдне праверных і належным чынам афармленых.

Увесь улік прадукцыі калгаса павінен быць прасякнут неабходнасцю максімальнай увагі ахове калгаснай уласнасці. Ён павінен выходзіць з асноўных установак, даваць магчымасць ажыццяўляць кантроль за выкананнем абавязацельстваў перад дзяржавай, за выдзяленнем і захаваннем усіх фондаў (насенных, фуражных і страхавых), сочачы за расходваннем іх па прызначэнню.

Улік прадукцыі павінен быць такім, каб не толькі ўскрываць, але і папярэджваць, зрабіць немагчымым раскраданне і нерацыянальнае расходванне і разбазарванне калгасных сродкаў і рэсурсаў.

* * *

Разгарнуўшаяся на старонках ЦО нашай партыі «Праўды» дыскусія аб уліку жывёлы з усёй вастрынёй паказвае і выяўляе становішча на гэтым участку.

Праблема жывёлагадоўлі, барацьба за павелічэнне пагалоўя жывёлы, за расшырэнне жывёлагадоўчай базы з'яўляецца самай адказнай і першачарговай задачай у сельскай гаспадарцы, пастаўленай партыяй і ўрадам на даным этапе.

На XVII з'ездзе партыі т. **Сталін** гаварыў, што

> «Справу жывёлагадоўлі павінны ўзяць у свае рукі ўся партыя, усе нашы работнікі, партыйныя і беспартыйныя, маючы на ўвазе, што праблема жывёлагадоўлі з'яўляецца цяпер такой-жа першачарговай праблемай, якой была ўчора ўжо вырашаная з поспехам праблема зерневая. Няма чаго і даказваць, што совецкія людзі, браўшыя не адну сур'ёзную перашкоду на шляху да мэты, здолеюць узяць і гэту перашкоду».

Між тым, існуючы ў сучасны момант улік жывёлы не задавальняе і не дае тых даных, якія неабходны для аператыўнага і канкрэтнага кіраўніцтва партыйным і совецкім арганізацыям па ажыццяўленню і вырашэнню жывёлагадоўчай праблемы.

Пастанова ЦК ВКП(б) ад 16 мая 1934 г. канстатуе, што «існуючая сістэма ўліку жывёлы не дае даставерных даных аб наяўным пагалоўі», і дае цэлы рад канкрэтных указанняў і практычных прапаноў па наладжванню гэтага ўчастку калгаснага ўліку.

Адной з задач, пастаўленых перад улікам жывёлагадоўлі ў сучасны момант, з'яўляецца выяўленне наяўнасці жывёлы. Перапіс жывёлы, які праводзіцца зараз па ўсяму Совецкаму саюзу, павінен даць даныя, адлюстроўваючыя становішча пагалоўя, павінен паказаць тыя зрухі, якія адбыліся ў нашай соцыялістычнай жывёлагадоўлі за апошні адрэзак часу.

Вакол пытанняў перапісу трэба мабілізаваць грамадскасць, друк і інш. Ад таго, наколькі мы здолеем правільна арганізаваць работу па перапісу і забяспечыць атрыманне правільных даных уліку, наколькі мы здолеем перамагчы і ўскрыць спробы ўтойвання і дачы няправільных і фальшывых звестак, будзе залежыць «далейшае рашучае палепшанне пастаноўкі ўліку жывёлы» (пастанова ЦК ВКП(б)), а адсюль і яго актыўна ўздзейнічаючая роля і дапамога ў ажыццяўленні вялікіх неадкладных задач і мерапрыемстваў у галіне развіцця жывёлагадоўлі.

Усесаюзны перапіс жывёлы з'яўляецца і павінен з'явіцца толькі фундаментам, пачаткам правільнай арганізацыі ўліку жывёлагадоўлі.

Трэба належным чынам наладзіць улік жывёлы ў кожным калгасе. Неабходна так паставіць улік, каб мець магчымасць атрымаць усе даныя, характарызуючыя наяўнасць, прырост, прыплод і страту жывёлы. Улік жывёлы ў кожным калгасе трэбаператварыць у дзейную зброю апаратыўнага кіраўніцтва, трэба ўсю пярвічную дакументацыю МТФ, СТФ (акты аб прыплодзе, прыросце і выбыцці скаціны) ператварыць у справу штодзённага нагляду з боку праўлення калгаса, рэвізійнай камісіі і калгаснай грамадскасці за становішчам гэтага ўчастку работы ў калгасах так, каб можна было быстра рэагаваць на заўважаныя недахопы, каб улік адпавядаў асноўнаму патрабаванню—дапамагчы і спрыяць ажыццяўленню мерапрыемстваў, намечаных XVII з'ездам партыі, пленумамі ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б па пытаннях жывёлагадоўлі.

* * *

Размеркаванне даходаў у калгасах, выдача калгаснікам натуральных і грашовых авансаў маюць агромнае гаспадарча-палітычнае значэнне. Правільнае размеркаванне даходаў пераконвае калгаснікаў у выгаднасці чэснай работы ў калгасе, стымулірує і ўзмацняе асабовую матэрыяльную зацікаўленасць у рэзультатах работы свайго калгаса і, разам з тым, паказвае кожнаму калгасніку, што толькі ён з'яўляецца калектыўным гаспадаром і што ад яго адносін да вытворчасці, ад павышэння прадукцыйнасці яго працы залежыць умацаванне калгаса і палепшанне яго матэрыяльнага становішча. Тым больш адказная задача, тым больш важны гэты ўчастак калгаснага ўліку. Правільнае размеркаванне даходаў патрабуе, у першую чаргу, дакладнага выяўлення маёмаснага становішча і ўсіх сродкаў, падлягаючых размеркаванню.

Аднолькава шкодным для арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў з'яўляецца як **недаўлік даходаў**, так і **пeравелічэнне іх**

Праверка ўсіх уліковых матэрыялаў к размеркаванню, выяўленне паступленняў, як грашовых сродкаў, так і натуральнай прадукцыі, падлягаючых размеркаванню паміж калгаснікамі па працаднях—асабліва важная задача.

Бухгалтэрскі ўлік размеркавання даходаў карыстаецца, згодна інструкцыі Наркамзема на 1934 г., агульным рахункам—валавая прадукцыя, даходы, размеркаванне іх і іншыя даходныя паступленні. На гэтым рахунку па крэдыту яго поўнасцю канцэнтруецца ўся прадукцыя і ўсе даходныя паступленні, як па асноўных вытворчасцях (раслінаводства, гароднiцтва, жывёлагадоўля, садаводства і т. д.), так і па прамысловых саматужных прадпрыемствах і распрацоўках. Па гэтаму рахунку таксама ўлічваюцца ўсе паступленні ў калгас за вы-

кананыя работы на старане, ад калгаснага гандлю, страхавыя і іншыя паступленні. Уся валавая прадукцыя ад капіталаўкладанняў калгаса (пабудовы, насаджэнні, капітальны рамонт) таксама прыходуецца з гэтага рахунку.

Між тым, не ўсё, улічваемае па гэтаму рахунку, падлягае размеркаванню. Трэба арганізаваць такую сістэму аналітычнага ўліку, так увязаць гэты рахунак з іншымі рахункамі калгаснага бухгалтэрската ўліку, і ў прыватнасці з рахункам «працоўных укладанняў і дадатковых накапленняў», каб забяспечыць, з аднаго боку, магчымасць выяўлення і кантролю за даходамі, падлягаючымі размеркаванню, а з другога, аблегчыць разлік і падлік іх.

Не трэба ўключаць у размеркаванне даходаў кошт валавой прадукцыі капітальнага будаўніцтва, прырост і прыплод жывёлы. Таксама не трэба ўключаць і тыя грашовыя паступленні, якія прызначаны і павінны ісці на аднаўленне асноўных сродкаў (як сродкі ад продажу жывёлы, сродкі ад продажу асноўных сродкаў вытворчасці). Усе гэтыя паступленні, аднесеныя па крэдыту рахунку валавой прадукцыі, павінны своечасова спісвацца з гэтага рахунку на рахунак працоўных укладанняў і дадатковых накапленняў.

З сум, падлягаючых размеркаванню, павінны выключацца сродкі, затрачаныя на закупку ўсякага роду абліга̇цый (што праводзіцца па пастанове агульнага схода). Цэлы рад паступленняў ужо па самой сваёй прыродзе не з'яўляецца даходам к размеркаванню, а таму не павінен уключацца ў размеркаванне. Сюды адносяцца атрыманыя калгасам крэдыты, натуральныя пазыкі, страхавыя прэміі за загінуўшыя асноўныя сродкі вытворчасці, уступныя і мэтавыя ўзносы і т. д.

Пытанні ўліку даходаў для размеркавання цесна звязаны з пытаннямі парадку размеркавання агульнага даходу калгаса. Пры ўліку трэба праяўляць пільнасць, спалучаючы інтарэсы калгаснікаў з пункту гледжання павышэння даходнасці з інтарэсамі агульнадзяржаўнымі і агульнакалгаснымі.

Выкананне абавязацельстваў перад дзяржавай, пастаўка зярна і інш. прадукцыі, разлікі з МТС у парадку натураплаты і зварот атрыманых ад дзяржавы пазык—**пярвейшая і неадкладная задача калгаса да размеркавання даходаў.**

**Толькі тады, калі абавязацельствы перад дзяржавай выкананы, калі зроблен разлік з МТС, калі выдзелены патрэбныя фонды (насенныя, фуражныя і страхавыя), тады толькі ўсё астаўшаеся зярно і іншыя прадукты паступаюць для размеркавання паміж калгаснікамі па працаднях.**

**Для ўмацавання калгаснай гаспадаркі** калгасы могуць ствараць і некаторыя іншыя фонды, як, напр.: павелічэнне недзялімых і спецыяльных фондаў (гэта можа рабіцца толькі па пастанове самых калгаснікаў на агульным сходзе з удзелам не менш ⅔ калгаснікаў).

У размеркаванні грашовых фондаў паміж калгаснікамі парадак амаль такі самы, як і з прадуктамі. Пасля ўплаты сельгаспадатку, страхоўкі, выдзялення адлічэння ў недзялімы фонд астаючыяся грашовыя сродкі, вылічыўшы толькі вытворчыя расходы, размяркоўваюцца паміж калгаснікамі па працаднях.

Расходы ў калгасах павінны праводзіцца толькі па зацверджанаму агульным сходам каштарысу. У цэнтры сваёй работы па падрыхтоўцы к размеркаванню даходаў работнікі калгаснага ўліку павінны паставіць барацьбу за скарачэнне адміністратыўна-упраўлен-

чых расходаў, за захаванне каштарыснай дысцыпліны. Трэба ўсякімі спосабамі змагацца супроць якіх-бы там ні было непрадукцыйных расходаў. Ад падыходу калгаснага рахункавода да размеркавання даходаў, ад яго зацікаўленасці ў рабоце ў вядомай меры залежыць даходнасць калгасніка і выкананне дырэктыў партыі і ўказання т. **Сталіна—ператварыць калгаснікаў у заможных і калгасы ў большэвіцкія.**

Асаблівую пільнасць трэба праявіць у адносінах да класавых ворагаў, да астаткаў кулацтва і яго агентуры, да іх спроб усякімі мерамі сарваць правільнае размеркаванне, спроб проціпастаўляць інтарэсы калгаса і калгаснікаў інтарэсам дзяржавы, з аднаго боку, а з другога, як-бы зменшыць даходы калгаса. Усякім прадзелкам і вылазкам кулацтва, усякім махінацыям з уліковымі данымі, скажэннямі гэтых даных, якія хочуць сарваць правільнае размеркаванне даходаў, павінен быць дан сакрушальны адпор.

Значэнне ўліку ў размеркаванні даходаў коратка можна сфармуляваць такім чынам: сістэма і пабудова ўліку павінны адказваць асноўным задачам—1) выкананне абавязацельстваў перад дзяржавай; 2) стварэнне ўсіх неабходных фондаў, забяспечваючых далейшы рост калгаса; 3) максімальнае павелічэнне даходнасці калгаснікаў.

* * *

Арганізацыя соцыялістычнага ўліку, які павінен забяспечыць арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасаў, вельмі цесна звязана з пытаннем рахунковых кадраў.

Улік у калгасах павінен знаходзіцца ў руках работнікаў адданых справе калгаснага будаўніцтва. На пасады рахункаводаў і ўчотчыкаў трэба прызначаць правераных людзей, якія не будуць абманваць калгасы і дзяржаву.

У большасці выпадкаў дрэннае становішча ўліку аб'ясняецца або адсутнасцю дастаткова падрыхтаваных рахунковых кадраў або наяўнасцю сярод іх класава-варожых і шкодніцкі настроеных людзей.

На 1-м Усесаюзным з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў т. **Кагановіч**, гаворачы аб уліку і планаванні ў калгасах, адзначыў:

> «Сядзяць у калгасах бухгалтэр, яго памочнік, рахункавод, а паглядзіце адчотнасць—сам чорт нагу зломіць. Часткова па свайму няўменню, а часткова свядома шкодніцкі яны заблыталі калгасную адчотнасць».

У рэзультаце праверкі і чысткі калгасных рахункаводаў удалося збавіцца ад значнай часткі соцыяльна-варожых элементаў. Аднак, некаторая засмечанасць ёсць яшчэ і цяпер. Апрача гэтага, падрыхтоўка маючыхся і астаўшыхся рахункаводаў у калгасах у большасці выпадкаў зусім нізкая.

Агромны і вельмі адказны тыя патрабаванні, якія калгасны ўлік на сёнешні дзень прад'яўляе да калгаснага рахункавода. Фактычна ў руках работнікаў калгаснага ўліку канцэнтруюцца ўсе ніці, якімі павінна забяспечвацца планавае, канкрэтнае і аператыўнае кіраўніцтва калгасам.

Быць калгасным рахункаводам—гэта ўмець арганізоўваць і весці ўлік і адчотнасць згодна інструкцыі Наркамзема па падвойнай або простай сістэме з усімі выцякаючымі адсюль паасобнымі абавязкамі

і функцыямі, а іменна: сачыць за правільным афармленнем дакументаў, правяраць законнасць праведзеных аперацый, арганізаваць дакументазварот і захаванне дакументаў, складаць перыядычныя гадавыя адчоты па выкананню вытворча-фінансавага плана і т. д. Там-жа, дзе ўлік вядзецца па падвойнай сістэме, весці сістэматычны і аналітычны ўлік па інструкцыі Наркамзема.

Будзе зусім недастатковым, і нават няправільным, абмежаваць абавязкі калгаснага рахункавода толькі тэхнічным выкананнем функцый па ўліку ў самай калгаснай канторы. Рахункавод павінен таксама прымаць уздел у складанні вытворча-фінансавага плана, ён павінен быць арганізатарам **ўліку ва ўсім калгасе.**

У абавязкі калгаснага рахункавода павінна ўваходзіць інструктаванне і нагляд за вядзеннем уліку ў брыгадзіра, кладаўшчыка, учотчыка і касіра.

Рахункавод, як передавы работнік калгаснага ўліку, павінен быць лепшым ударнікам на рабоце і адначасова свае веды і свой вопыт перадаваць і ўсім іншым калгаснікам, так або інакш звязаным з улікам. Ён павінен ажыццяўляць кантроль за работай кожнага і ўсіх калгаснікаў, дапамагаць ім у рабоце, бязлітасна ўскрываючы і сігналізуючы аб усіх раскраданнях і іншых шкодніцкіх дзеяннях, накіраваных на падрыў калгаснага будаўніцтва. Рахункавод калгаса павінен быць палітычна пісьменны, каб зразумець палітыку партыі і ўрада ў галіне калгаснага будаўніцтва і біцца за яе ажыццяўленне.

Толькі такія рахунковыя работнікі патрэбны соцыялістычнаму ўліку і таму зусім правільна т. **Якаўлеў** у сваім дакладзе на 3-й сесіі ЦВК СССР «Аб умацаванні калгасаў» гаварыў:

1) абавязаць праўленні калгасаў ставіць на пасады рахункаводаў, бухгалтэраў і ўсіх, хто вядзе ўлік калгаснай маёмасці, людзей чэсных, праверaных, адданых справе совецкай улады і калгасам, людзей, няздольных абманваць калгасы і дзяржаву;

2) усякі абман у справе ўліку калгаснай маёмасці, калгаснай працы і калгаснага ўраджаю павінен разглядацца як пасобніцтва кулаку і антысовецкім элементам, як спроба раскрадання калгаснай маёмасці, за што павінен карацца па закону аб ахове грамадскай уласнасці ад 7 жніўня 1932 года;

3) на працягу 1933 г. павінна быць праведзена грамадская праверка і чыстка калгасных рахункаводаў, загадчыкаў гаспадаркай і свірнавых вартаўнікоў;

4) калгасны рахункавод спачатку павінен прызначацца праўленнем калгаса і потым зацвярджацца **Райвыканкомам.**

У заключэнне лічым неабходным коратка спыніцца на формах і сістэме ўліку, якія павінны прымяняцца ў калгасах.

Пры вырашэнні гэтага пытання трэба ўлічваць канкрэтна калгасную магутнасць кожнага калгаса.

Не трэба механічна пераносіць падвойны метад уліку. Сістэма і форма ўліку павінны вызначацца велічынёй данага калгаса, наяўнасцю падрыхтаванага рахунковага работніка і правядзеннем цэлага раду папярэдніх мерапрыемстваў, якія павінны забяспечыць вядзенне падвойнага метаду ўліку.

Пры пабудове сістэмы ўліку трэба выходзіць з таго, каб гэта сістэма была найбольш даступна па сваёй прастаце не толькі рахунковым работнікам, але і ўсяму калгаснаму актыву, каб гэта сі-

стэма акватвала тыя паказчыкі, якія неабходны для кіраўніцтва і планавання калгаснай вытворчасцю.

Гаворачы аб сістэме ўліку на даным этапе, у прыватнасці пасля таго, як на працягу першай палавіны 1934 т. брыгада Беларускага аддзялення «Саюзоргулік», правяла вопыт увядзення падвойнага метаду ўліку ў 54 калгасах, якіх абслугоўвае першая Менская МТС, трэба адзначыць, што на данай ступені развіцця калгасаў падвойны метад уліку лепш, больш дэтальна і найбольш правільна адлюстроўвае працэсы гаспадарчай дзейнасці калгаса. Падвойны метад дае і выяўляе вялікі матэрыял і паказчыкі, неабходныя для кіраўніцтва калгасамі. Падвойны метад з'яўляецца найбольш дасканалай формай, дапамагаючай арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаванню калгасаў.

Ёсць усе магчымасці, каб гэты вопыт ажыццявіць ва ўсіх калгасах БССР.

---

**М. Поташ**

# К 14-годдзю вызвалення БССР ад белапалякаў

Ідзе семнаццаты год вялікай социялістычнай Окцябрскай рэволюцыі. Окцябрская рэволюцыя адкрыла новую старонку сусветнай гісторыі. На 1/6 частцы земнага шара рабочыя і сяляне прагналі капіталістаў і памешчыкаў і пачалі будаваць сваю социялістычную бацькаўшчыну.

Краіна Советаў стала маяком, які асвятляе шлях барацьбы і кліча паследваць прыкладу рабочых і сялян быўшай Расійскай імперыі—рабочых, сялян і прыгнечаныя народы ўсяго свету.

Іменна таму ўся зграя драпежнікаў сусветнага імперыялізма, расійскай і мясцова-нацыяналістычнай контррэволюцыі апалчылася супроць Советкай Расіі, напружваючы ўсе свае сілы, каб падавіць яе.

Пролетарыі і працоўныя масы Беларусі і Заходняга фронта, якія змагаліся разам з усім пролетарыятам і працоўнымі масамі ўсёй Расіі за перамогу Окцябрскай рэволюцыі, наткнуліся на сцяну штыхоў не толькі расійскіх капіталістаў і заводчыкаў і іх уладу ў асобе „часовага ўрада", чорнасоценных генералаў і афіцэраў з контррэволюцыйнай стаўкі, рускіх меншавікоў і эсэраў, стаяўшых на службе капітала.

Са зброяй у руках супроць пролетарскай рэволюцыі, супроць рабочых і сялян Беларусі, выступіла і ўся мясцова-нацыяналістычная контррэволюцыя, беларуская, яўрэйская і інш.

Выконваючы загад беларускага памешчыка, кулака і капіталіста, яўрэйскага фабрыканта і заводчыка—Беларуская социялістычная грамада, здрадніцкі і штрэйкбрэхерскі контррэволюцыйны Бунд і ўся контррэволюцыйная зграя са зброяй у руках змагалася за ўладу капітала, уладу кулака.

Гераічная Чырвоная армія адбіла першы і другі паходы Антанты і к пачатку 1920 г. амаль на ўсіх франтах атрымала перамогу. Советкая ўлада імкнулася скарыстаць перадышку, каб перайсці да гаспадарчага будаўніцтва, да ўмацавання краіны дыктатуры пролетарыята, умацоўваючы, у той-жа час, усямерна і Чырвоную армію.

Але імперыялістычныя дзяржавы, сабатыруючы ўсе мірныя прапановы Советкай Расіі, рыхтавалі новыя паходы супроць апошняй. На гэты раз, рыхтуючы трэці паход супроць Советкай Расіі, імперыялісты прадпісалі гэта выканаць панскай Польшчы і астаткам белагвардзейскіх дзенікінскіх войск на чале з Врангелем, якія канцэнтраваліся ў Крыме.

Выконваючы загад Антанты, ад якой Польшча знаходзілася ў поўнай залежнасці, яна імкнулася ажыццявіць і свае ўласныя імперыяліс-

тычныя захватніцкія прагненні і скарыстаць вайну з Савецкай Расіяй як сродак барацьбы супроць нарастаючай у Польшчы рэвалюцыі, распальваючы шавінізм. Польскія памешчыкі і капіталісты баяліся і з шалёнай нянавісцю адносілася да разгортваючайся пролетарскай рэвалюцыі, імкнуліся звярнуць свае страчаныя маёнткі, вінакураныя і розныя іншыя заводы і фабрыкі, імкнуліся да каланіяльнага парабашчэння Украіны і Беларусі.

Акупацыя белапалякаў прайшлася крывавай паласой па гарадах і палях Савецкай Беларусі. Белапалякі пасля свайго прыходу аб'явілі:

1) неадкладнае аднаўленне прыватнай уласнасці і звярненне фабрык і заводаў капіталістам;

2) неадкладнае звярненне маёнткаў пемешчыкам і абавязкам сялян звярнуць жывы і мёртвы інвентар памешчыкам і т. д.;

3) польскую мову дзяржаўнай.

Беларусь акупантамі была аб'яўлена „ўсходнімі землямі“ крэсамі (акраінамі) Польшчы.

Пагромы, крывавы тэрар, здзекі і шыбеніцы, голад і разруху— вось што прынеслі польскія акупанты і іх саюзнік—нацыяналістычная контррэволюцыя.

Недарма беларускія контррэволюцыянеры з раскрытымі абдымкамі сустрэлі „збавіцеля“ — начальніка польскай арміі — Пілсуцкага.

„Польшча мусіць дапамагчы Беларусі. Яна мусіць пасунуць свае войска яшчэ далей на ўсход, каб адабраць ад большэвікоў Усходнюю Беларусь і такім чынам злучыць яе. Беларусь мае права спадзявацца, што Польшча не забылася пра свайго даўнейшага саюзніка і хаўрусніка. Стары друг лепей за новых двух.

...Разам цярпелі, разам мусім весці свае адраджэнне. Трэба ісці да канца“ („Звон“ № 1-2, 1919 г.).

І гэта праграма з'яўляецца на працягу ўсяго часу крывавым сцягам нацфашыстаў—Луцкевічаў і К° у парабашчонай Заходняй Беларусі і іх саюзнікаў правакатараў і агентаў польскай дэфензівы—Ігнатоўскіх і К° у БССР. Гэта праграма цалкам прадыктавана інтарэсамі беларускай буржуазіі, кулака, усіх эксплаататараў, якія імкнуліся зноў сесці на шыю рабочых і сялян БССР.

Але гераічная барацьба ўсяго пролетарыята і працоўных мас Савецкай Расіі, у тым ліку пролетарыяў і працоўных Беларусі, пад кіраўніцтвам большэвікоў, разбіла белагвардзейскую і нацыяналістычную контррэволюцыю, адстаяла і Савецкую Беларусь. **11 ліпеня 1920 г. БССР была вызвалена ад белапольскіх акупантаў.**

З таго часу прайшло 14 год велізарнейшых перамог. У гэту вялікую гадавіну кожны рабочы, кожны калгаснік мае права з гордасцю аглядзецца на поспехі, якія яны атрымалі. Але каб больш ярка ўбачыць нашы поспехі, спынімся на тым, чым была Беларусь да Окцябрскай Рэволюцыі.

* * *

Вядома, якую грабежніцкую палітыку вяла ў захваченых калоніях царская Расія ў інтарэсах вялікарускага памешчыка і капіталіста. Вядома, якому нечуванаму нацыянальнаму гнёту падвяргаліся прыгнечаныя народы ў быўшай Расійскай імперыі, якую Ленін называў „турмой народаў“.

Ваяўнічы вялікадзяржаўны шавінізм з'яўляўся сцягам вялікарускага памешчыка і імперыяліста. Ім гэта патрэбна было для павелічэння сваіх даходаў, для ўтрымання свайго класавага панавання, для падаўлення рэволюцыйнай барацьбы як пролетарыята і сялянства вялікарускага народа, так і прыгнечаных народаў.

Такую-ж палітыку прыгнечання царская Расія вяла і ў Беларусі. Калі мы возьмем пытанне аб тарыфах на чыгуначныя перавозкі або пытанне аб крэдытах для развіцця прамысловасці, сельскай гаспадаркі і гандлю або пытанне аб тым, хто можа набываць зямлю і т. д. і т. п., то ўбачым, што для Беларусі існавалі такія законы і распараджэнні, якія перашкаджалі і тармазілі яе эканамічнае развіццё.

У царскай Расіі былі і такія сярэдневяковыя законы, якія, напр., забаранялі яўрэям свободна сяліцца там, дзе яны хацелі. Існавала так званая „рыса аседласці". І таму яўрэі, напр., павінны былі жыць абавязкова ў Беларусі, але не маглі выехаць ва ўнутраныя губерні, як Маскоўскую і інш. Зразумела, што законы гэтыя былі пабудаваны так, што датычыліся не яўрэйскага фабрыканта або багатага купца, а яўрэйскіх працоўных.

У самой Беларусі *яўрэі павінны былі жыць толькі ў гарадах*, а займацца сельскай гаспадаркай яны не маглі. І гэта датычылася толькі працоўных, бо яўрэйскія багачы і эксплаататары так маглі ўстроіцца, каб побач з эксплаататарамі іншых нацыянальнасцей эксплаатаваць сялянскую беднату. Гэтыя царскія законы вельмі дрэнна адбіліся на ўсім эканамічным развіцці Беларусі, бо стварылі штучнае скапленне насельніцтва і прыводзілі да яшчэ большай галечы працоўныя масы Беларусі.

Царскі ўрад, выкалачваючы апошнія грошы з працоўных, не толькі нічога не даваў ім узамен, але траціў выкалачаныя сродкі на шкоду гэтым масам. Так, напр., у Беларусі былі вялікія расходы па ўтрыманню царскай арміі і паліцыі, якія павінны былі абараняць цэласнасць „адзінай недзялімай Расіі" і падаўляць класавую, рэволюцыйную барацьбу рабочых і сялян.

Каб падтрымаць цемнату і адсталасць працоўных мас Беларусі, у мэтах найлепшага забяспечання іх прыгнечання, аграблення і эксплаатацыі, царскі ўрад не скупіўся ўтрымліваць агромны апарат папоў, шырокую сетку цэркваў, многа чыноўнікаў і т. д.

Гэта відаць з таго, што на долю чатырох, так званых заходніх акраін (сюды ўваходзяць і Украіна, і Літва, і Беларусь), прыходзілася 48,5 проц. (г. зн. амаль палавіна) усяго ітогу дзяржаўных расходаў на духавенства і цэркаў усёй Расіі, пры гэтым на паўночна-заходнія губерні (г. зн. на Беларусь і Літву) прыходзілася 15 проц. Значныя сумы адпускаліся „на пенсіі, дапамогі і арэнды чыноўнікаў".

А вось расходы на медыцыну ў Беларусі былі значна меншыя, чым у іншых раёнах, а іменна ў $2^1/_3$ разоў менш сярэдняга па Расіі.

Не менш шкоднай была палітыка царскай Расіі ў галіне культурнага будаўніцтва. Гэта палітыка праследвала адну мэту—культурную адсталасць і цемнату мас.

У Беларусі праводзілася насільніцкая русіфікатарская палітыка, забараняліся і праследваліся мовы мясцовых нацыянальнасцей (беларуская, яўрэйская, польская і т. д.), не дазваляліся школы на роднай мове.

Для дзяцей працоўных ствараліся так званыя царкоўна-прыходскія школы, у якіх дзецям унушалася асобая пашана да трох кітоў чорнасоценнага шавінізма—„самадзяржаўя, праваслаўя і народнасці". Яны з'яўляліся ачагамі насільніцкай русіфікацыі і папоўскага мракабесся.

Мы прывядзем сведчанне махровага чорнасоценца, які прымушан быў прызнаць, што памяшканні гэтых школ „сырыя, таксама без усякага прыстасавання... настаўнікаў набралі, якіх маглі: грубых, п'яных, поўпісьменных, амаральных".

А яўрэйскія шавіністы і клерыкалы атручвалі розумы дзяцей беднаты ў сырых і цёмных памяшканнях-хедэрах, „талмудорах" і т. д., сеючы невуцтва і мракабессе.

Калі ў 1913 г. зайшла гутарка аб вышэйшай навучальнай установе ў Беларусі, то царскі міністр — мракабес Кассо — выступіў супроць, спасылаючыхся на такі аўтарытэт, як сам цар Нікалай, які напісаў на часопісу Савета міністраў такую рэзалюцыю:

„Пытанне аб пабудове ў паўночна-заходнім краі універсітэта ва ўсякім выпадку павінна быць вырашана ў адмоўным сэнсе".

Царскі ўрад аберагаў памешчыцкую зямлю ад усякіх пасяганняў, люта распраўляючыся з малейшай спробай у гэтым напрамку з боку рэвалюцыйнага сялянства. Прадстаўнікі ўрада зрабілі ўсё, каб сяляне не маглі папасці ні ў якія ўстановы, створаныя нават царызмам, як земства, дзярждума і т. д. Царскі ўрад усімі сіламі падтрымліваў апеку памешчыка і ўрадніка над сялянствам, пазбаўляў пераважную частку сялянства, за выключэннем кулакоў, усякай матэрыяльнай дапамогі, здзіраў сем скур і з так разараўшагася і нішчаўшага сялянства.

Царызм і пануючыя класы ўсімі сіламі імкнуліся скарыстаць абстаноўку ў Беларусі ў сваіх класавых мэтах. Яны асабліва прыбягалі да самага агіднага сродку—распальвання нацыянальнай розні і варожасці, нацкоўвання адной нацыі на другую. Не адставалі ў гэтых адносінах і эксплаататарскія класы прыгнечаных нацый у Беларусі (беларускія, яўрэйскія, польскія памешчыкі і капіталісты). Прыбягаючы да здзелак з царызмам і з вялікарускім памешчыкам і капіталістам, памешчыкі і капіталісты Беларусі (беларускія, польскія, яўрэйскія) мелі даволі сіл і сродкаў, каб увесь цяжар нацыянальнага гнёту пералажыць на плечы рабочых і сялян. Пакідаючы свае ўнутраныя разнагалоссі аб долі прывілеяў на эксплаатацыю рабочых і працоўных усіх нацыянальнасцей Беларусі, яны стварылі адзіны фронт супроць рэвалюцыйнай барацьбы рабочага класа і пад яго кіраўніцтвам рэвалюцыйных сялянскіх мас.

Яны поўнасцю скарысталі ўмовы, створаныя царызмам у Беларусі, для найбольш варварскіх форм эксплаатацыі рабочага класа і працоўных.

На дапамогу буржуазіі спяшаліся рознага роду дробнабуржуазныя нацыяналістычныя партыі, як „Беларуская сацыялістычная грамада", Бунд і інш., якія прыкідваліся „прыяцелямі" рабочых і сялян, а ў сапраўднасці былі слугамі буржуазіі, іх агентурай, якія ўсякімі спосабамі імкнуліся атручваць сазнанне пралетарыяў і працоўных ідэямі буржуазнага нацыяналізма, раз'яднаць пралетарыяў розных нацыянальнасцей, весці іх за буржуазіяй.

Кожны рабочы, кожны калгаснік павінен помніць, што з самага пачатку і да таго, як яны са зброяй у руках абаранялі капіталізм і яго ўладу ад Октябрскай рэвалюцыі, гэтыя партыі абманвалі рабочых і сялян, прэдавалі іх інтарэсы, каб весці іх за буржуазіяй.

Лакеем буржуазіі і памешчыкаў была Беларуская социялістычная грамада.

Буржуазна-кулацкая „Наша нива“ выступала як абаронца аграрнага законадаўства контррэволюцыйнай сталыпіншчыны, якая насаджала кулака за кошт разарэння бядняцка-серадняцкіх мас сялянства і цалкам была ў інтарэсах памешчыкаў.

Калі пасля рэакцыі пачаўся новы ўздым рабочага руху, „Наша ніва“ пралівае кракадзілавы слёзы наконт таго, што, моў, „народ і прамыслоўцы разараюцца і бяднее краіна“.

„Наша ніва“, прапагандуючы шавінізм, абараняючы агалцела-рэакцыйныя буржуазна-нацыяналістычныя погляды, у той-жа час гаварыла аб сваёй гатоўнасці заключыць здзелку з вялікадзяржаўнай вялікарускай контррэволюцыйнай буржуазіяй за кошт кроўных інтарэсаў рабочых і сялян Беларусі.

Такі твар прамых прадшэственнікаў контррэволюцыйных нацдэмаў, агентаў польскай дэфензівы, правакатараў і катаў нацыянальна-вызваленчай барацьбы ў Заходняй Беларусі і заклятых ворагаў БССР.

Бунд прапаведваў буржуазны нацыяналізм. Ён выставіў рэакцыйную буржуазна-нацыяналістычную праграму нацыянальна-культурнай аўтаноміі. Ва ўмовах капіталізма „нацыянальная культура“ нагогул ёсць культура памешчыкаў, папоў, буржуазіі. І як гаварыў Ленін:

> „Хто прама або ўкосна ставіць лозунг яўрэйскай „нацыянальнай культуры“, той... вораг пролетарыята, староннік старога і каставага ў яўрэйстве, памочнікі рабінаў і буржуа“.

Бунд выступаў не за рэволюцыю, а за тое, каб ва ўмовах памешчыцка-буржуазнай Расіі рэфармаваць рэакцыйную і клерыкальную яўрэйскую абшчыну. Бундаўцы агітавалі не за тое, каб быў устаноўлен адзін абавязковы дзень адпачынку, а за „права суботы“, або, як выражаецца тав. **Сталін**, культывавалі сярод яўрэйскіх рабочых так сказаць „дух суботні“. Бундаўцы патрабавалі не інакш як специяльныя „яўрэйскія больніцы“, бо „сярод сваіх“ яўрэй адчувае сябе лепш. Па думцы бундаўцаў яўрэйскаму рабочаму лепш сярод яўрэйскіх крамнікаў, чым сярод беларускіх, польскіх і рускіх рабочых.

Хіба не відаць адсюль рэакцыйны, шавіністычна-буржуазны твар Бунда, хіба не відна адсюль чаму хацелі вучыць бундаўцы рабочых, каб ператварыць іх у ахвосце буржуазіі. Такую-ж контррэволюцыйную палітыку вялі і іншыя нацыяналістычныя групы.

* * *

Беларусь да Окцябрскай рэволюцыі была параўнальна адсталай краінай. Вядома, у Беларусі была, апрача часткі больш буйнай фабрычна-заводскай прамысловасці, пераважна лёгкая індустрыя на якой быў занят фабрычна-заводскі пролетарыят, шырока распаўсюджана рамесна-саматужная вытворчасць. Была і буйная прамысловая і гандлёвая буржуазія. Таксама, побач з наяўнасцю буйнейшых памешчыкаў было сільнае расслаенне сялянства, у рэзультаце якога мы мелі моцны слой кулакоў сялян-

скай буржуазіі, серадняцкае сялянства і найшырэйшыя масы беднаты і батракоў. Толькі нацдэмаўскія, бундаўскія і іншыя фальсіфікатары, у мэтах абгрунтавання сваіх буржуазна-нацыяналістычных тэорый аб адзінстве беларускай і яўрэйскай нацыі і для сваёй контррэвалюцыйнай падрыўной работы, гэта адмаўлялі.

Аднак, Беларусь да Окцябрскай рэволюцыі ў эканамічных і культурных адносінах была, безумоўна, адсталай.

Толькі Окцябрская соцыялістычная рэволюцыя, здзейсненая пролетарыятам у саюзе з беднатой, пад кіраўніцтвам большэвікоў, прынесла соцыяльнае і нацыянальнае вызваленне рабочым і сялянам Беларусі. У гераічнай барацьбе за Окцябр, за абарону яго заваяванняў, у барацьбе супроць сусветнай і ўнутранай белагвардзейскай і нацыяналістычнай контррэволюцыі, рабочыя і сяляне Беларусі пад кіраўніцтвам большэвікоў прымалі актыўны ўдзел, паказваючы ўзоры гераічнай барацьбы і, пры дапамозе рабочых і сялян усёй краіны, адстаялі БССР.

Толькі ў рэзультаце перамогі Окцябрскай рэволюцыі, скінуўшай ланцугі, у якіх цар, памешчыкі і капіталісты трымалі рабочых і працоўных сялян, толькі ўмацоўваючы пад кіраўніцтвам ленінскай партыі, дыктатуру пролетарыята, уладу советаў, магчыма было знішчэнне нацыянальна-каланіяльнага прыгнечання.

Толькі ленінская партыя, заўсёды вяла і вядзе барацьбу з усякага роду нацыяналізмам—адзіная партыя, якая правільна паставіла і вырашыла нацыянальнае пытанне. Кожнаму рабочаму і калгасніку трэба запомніць наступныя замячацельныя словы т. **Сталіна**:

> „Звергнуўшы памешчыкаў і капіталістаў, Окцябрская рэволюцыя разбіла ланцугі нацыянальна-каланіяльнага гнёту і вызваліла ад яго ўсе без выключэння прыгнечаныя народы вялікай дзяржавы. Пролетарыят не можа вызваліць сябе, не вызваляючы прыгнечаныя народы. Характэрнай рысай Окцябрскай рэволюцыі з'яўляецца той факт, што яна правяла ў СССР гэтыя нацыянальна-каланіяльныя рэволюцыі не пад флагам нацыянальнай варожасці і міжнародных сутычак, а пад флагам узаемнага давер'я і брацкага збліжэння рабочых і сялян нацыянальнасцей СССР, не ў імя нацыяналізма, а ў імя **інтэрнацыяналізма**".

Вызваліўшыся ад памешчыцкай і кулацкай кабалы, ад капіталістычнай эксплаатацыі, ад нацыянальна-каланіяльнага гнёту, рабочыя і працоўныя сяляне БССР у адзіных інтэрнацыянальных радах з усім пролетарыятам і працоўнымі ўсяго СССР, пад кіраўніцтвам ленінскай партыі і яе правадыра т. **Сталіна**, пад кіраўніцтвам КП(б)Б дабіліся агромных і рашучых поспехаў па шляху канчатковай ліквідацыі былога каланіяльнага становішча Беларусі.

З быўшай забітай і адсталай калоніі царскай Расіі БССР ператварылася ў адну з перадавых рэспублік СССР.

Аб гэтым гаворыць магутны ўздым прамысловасці ў БССР. На месцы дарэволюцыйных дробна-саматужных прадпрыемстваў выраслі буйныя фабрыкі і заводы, пабудаваны новыя гіганты прамысловасці.

Аб гэтым гавораць даныя аб соцыялістычнай перабудове беларускай вёскі, якая да Окцябрскай рэволюцыі стагнала пад ярмом памешчыка і кулацкай кабалы.

Цяпер-жа адбываецца росквіт передавога калектыўнага земляробства, на глебе якога калісці забітыя і бедныя працоўныя масы сялянства паднімаюцца да заможнага жыцця.

Аб гэтым гавораць даныя аб росквіце беларускай культуры і культуры нацменшасцей—нацыянальнай па форме і соцыялістычняй па зместу.

Гэты магутны росквіт эканомікі і культуры быў дасягнут рабочымі і сялянамі БССР пад кіраўніцтвам ленінскай партыі, дзякуючы самаму цеснаму брацкаму саюзу іх з расійскім пролетарыятам усяго Совецкага саюза, дзякуючы іх самаадданай і гераічнай барацьбе ў адзінстве інтэрнацыянальных радоў за дыктатуру пролетарыята, супроць імперыялістычнай буржуазіі ўсяго свету, супроць рускай белагвардзейшчыны, супроць беларускай, яўрэйскай і ўсякай іншай нацыяналістычнай контррэволюцыі.

БССР была, ёсць і будзе неад'емнай непарыўнай, часткай СССР і з'яўляецца адным з бліскучых прыкладаў перамогі ленінскай нацыянальнай палітыкі, каласальнай сілы і магутнасці ўсяго вялікага Совецкага саюза.

* * *

Колькасць прадпрыемстваў к канцу 1913 г. (г. зн. напярэдадні імперыялістычнай вайны), падпарадкаваных фабрычнай інспекцыі ў трох губернях: Віцебскай, Менскай і Магілеўскай, складала 512, з колькасцю рабочых на іх у 29 595 чал. У агульным сюды ўваходзіць пераважная частка фабрычна-заводскіх прадпрыемстваў.

Што-ж прадстаўлялі гэтыя 512 прадпрыемстваў з 29 595 рабочымі па сваёй велічыні? Аб гэтым гавораць наступныя табліцы:

Група прадпрыемстваў па ліку рабочых:

| | Кольк. прадпр. | У проц. | Кольк. рабоч. | У проц. |
|---|---|---|---|---|
| Да 100 рабочых | 455 | 88,8 | 12,920 | 43,6 |
| Ад 100 да 1000 і звыш | 57 | 11,1 | 11,675 | 56,3 |

Ітак, пераважная частка прадпрыемстваў, амаль $^9/_{10}$, былі больш дробныя—па 100 рабочых і менш, на якіх было занята амаль палавіна рабочых і толькі $^1/_{10}$ з лішнім прадпрыемстваў былі больш буйныя, на якіх было занята крыху больш палавіны рабочых.

Карціна стане яшчэ больш яснай, калі мы ўкажам, што каля 40 проц. прадпрыемстваў мелі да 20 рабочых і што сярод іх былі і такія, якія мелі менш 10 рабочых (такіх было 90 прадпрыемстваў з 512). У той-жа час прадпрыемстваў, на якіх было занята ад 500 да 1 тыс. рабочых і звыш 1 тыс. было 1,3 проц. усіх прадпрыемстваў і на іх было менш $^1/_5$ усіх рабочых. Наогул прадпрыемстваў з колькасцю рабочых звыш 1 тыс. было адно ў Віцебскай губ. (1 298) і адно ў Магілеўскай губ. (1 407).

Параўнаем гэтыя даныя з тым, што мы маем зараз у БССР. У 1933 г. у цэнзавай прамысловасці было занята 135 тыс. (у 1913—22,8 тыс.) рабочых. Пры гэтым мы ўжо мелі наступную групіроўку прамысловых прадпрыемстваў па ліку рабочых (у процантах):

| | | | |
|---|---|---|---|
| Да 100 | рабочых | 6,0 | (1913 г.—88,8). |
| Ад 100 да 500 | „ | 23,1 | (1913 г.—11,1). |
| „ 501 „ 1 000 | „ | 18,6 | |
| „ 1 001 „ 3 000 | „ | 43,4 | (1913 г.— 0 ). |
| Звыш 3 000 | „ | 9,2 | |

Прыведзеныя параўнальныя даныя гавораць самі за сябе і не патрабуюць аб'ясненняў. Вельмі відавочна агромная розніца паміж ранейшай адсталай у прамысловых адносінах Беларуссю і БССР у рэзультаце першай пяцігодкі, паставіўшай БССР у перадавыя рады соцыялістычных рэспублік вялікага Совецкага саюза. Аб тым-жа гаворыць каласальная розніца паміж тым, чым былі раней паасобныя заводы, паасобныя гарады і чым яны сталі цяпер. Рад заводаў і фабрык у корані перабудаваны і з ранейшых, па сутнасці саматужных прадпрыемстваў, ператварыліся ў буйнейшыя прадпрыемствы.

Вось завод імя **Варашылава** ў Менску. Раней была прыватная майстэрня, у якой да 1921 г. працавала 23 рабочых. Цяпер буйны машынабудаўнічы завод, на якім занята больш 1 тыс. рабочых. Завод гэты ўпершыню ў СССР асвоіў вытворчасць складаных тарфяных камбайнаў-багераў.

А вось завод імя **Ланцуцкага** ў Гомелі. У 1917 г. быў напоўразбуранай майстэрняй, на якой працавала каля 700 рабочых. У месяц выпускалася ўсяго 4 маламоцных паравозы серыі „А". Усе работы праводзіліся ручным спосабам. Нават заклёпкі і то прывозіліся з іншых заводаў. Цяпер—агромны завод усесаюзнага значэння, мае 3 тыс. рабочых. Новыя цэхі, навейшая тэхніка. За першую пяцігодку завод выпусціў з капітальнага рамонту 120 пасажырскіх вагонаў і адрамантаваў 1 065 таварных. Такіх прыкладаў многа („Комунар", „Чырвоны металіст" і т. д. і т. п.).

А вось новыя буйныя заводы—дзецішчы індустрыялізацыі і першай пяцігодкі:

| | Прадукцыя (у міл. руб.) | Рабочых |
|---|---|---|
| Гомсельмаш . . . . . . | 32 | — |
| Трыкатажная ф-ка „Кім" . . | 33,1 | 2 070 |
| Швейная ф-ка „Сцяг Індустр." | 36,3 | 3 836 |
| Могвалакно . . . . . . | 45 | 2 150 |

Гомельскі завод шкла (пушчан у 1933 г.) пры поўнай нагрузцы дасць 1/5 частку ўсяго ваконнага шкла па ўсяму СССР.

Возьмем паасобныя гарады. Вось чырвоная сталіца БССР—**Менск**. У 1912 г. на ўсіх прадпрыемствах Менска працавала 1 930 рабочых, а ў 1933 г.—21 000 рабочых, г. зн. павелічэнне ў 11 разоў. Замест

адсталых саматужных майстэрань мы маем у Менску заводы-гіганты, аснашчоныя перадавой тэхнікай. Замест ручной работы рабочы працуе на станках-аўтаматах. Таму выпрацоўка вырасла больш, чым колькасць рабочых. Калі ў 1913 г. усе заводы Менска выпускалі прадукцыі на 3 886 т. руб., то ў 1933 г.—на 203 міл. руб., г. зн. павелічэнне ў 53 разы.

Па **Гомелю:**

| | 1913 | 1933 | Увага |
|---|---|---|---|
| Рабочых. . . . . | 1700 | 20 000 | Павелічэнне ў 12 разоў |
| Прадукцыі . . . . | 1700 тыс. руб. | 130 міл. руб. | Павелічэнне ў 76 разоў |

У той-жа час мы бачым як указанне т. **Сталіна** на X з'ездзе партыі аб тым, што адбудзецца працэс беларусізацыі і карэнізацыі пролетарыята і гарадоў Беларусі, ажыццяўляецца.

У цэнзавай прамысловасці за гады першай пяцігодкі склад беларусоў павялічыўся з 21,8 тыс. да 61,4 тыс. рабочых; беларусы складаюць 62,4 проц. і яўрэі з 14,3 тыс. да 25,1 тыс. рабочых.

Як-жа адбіўся гэты агромны ўздым прамысловасці і рост рабочага класа на становішчы саміх рабочых?

Як жыў рабочы раней і як ён жыве цяпер?

Дадзім слова самім рабочым. Іх расказы аб гэтым—лепшае сведчанне.

Вось што расказваюць старыя кадравікі-рабочыя завода імя Ланцуцкага. Яны баставалі да рэволюцыі, патрабуючы, каб у цэхах была кіпячоная вада і каб ім было дазволена снедаць. Вось якія былі іх вельмі скромныя патрабаванні. І што-ж? „Але нават у гэтым",—гавораць яны,—„нам было адмоўлена. Мы вымушаны былі снедаць, хаваючыся ў канурах майстэрні".

А вось што расказвае работніца-ўдарніца фабрыкі „Дзвіна" ў Віцебску.

„12-гадовай дзяўчынкай я вымушана была пайсці на цяжкую работу... Цяжка было працаваць і яшчэ горш жыць. Мой рабочы дзень раўняўся 18 гадзінам, за якія мне плацілі 30 кап., самае большае 35 кап... Яшчэ больш пагоршылася маё жыцце, калі абзавялася сям'ёй. За гэтыя грошы я павінна была карміць трох чалавек. У хаце цемната, голад, холад..."

А вось, напрыклад, што гавораць рабочыя аб сваім жыцці-быцці пры Совецкай уладзе.

Рабочы завода „Большэвік" т. **Доўнер**, расказвае:

„Цяпер я жыву, як бачыце, у прасторнай кватэры з трох пакояў, плошчаю ў 45 кв. метраў. Раней я працаваў 17 гадзін і 7 спаў, а цяпер я працую 7 гадзін і 17 адпачываю. Зарабатваю 250 руб. Усім забяспечан, часта хаджу са сваёй сям'ёй у тэатр і кіно. Совецкая ўлада навучыла мяне чытаць і пісаць. Ды, што я... Паглядзіце на маіх дзяцей: вось старшая дачка—комсамолка Станіслава—ударніца, вучыцца і хутка будзе ўрачом, а сыны Эдуард і Ольгер таксама ўдарнікі, вучацца ў школе і заслужана носяць піонерскія галстукі".

Не пазнаць, у параўнанні з мінулым рабочым, цяперашняга. Расце яго кваліфікацыя, ён будаўнік, ён займае камандныя месцы ў вытворчасці, ён будуе сваю дзяржаву. Пафас будаўніцтва, энтузіязм рабочых пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў бярэ самыя непрыступныя крэпасці.

На новых будоўлях, на новых заводах разам з будаўніцтвам, вучачыся, перавыхоўваючыся, змагаючыся за аўладанне новымі машынамі, новай тэхнікай вырастаюць ударнікі соцыялістычнага будаўніцтва, барацьбіты за соцыялізм.

Вось, напрыклад, на Магілеўскай шоўкавай фабрыцы прадзільшчык **Юрэвіч**. На фабрыку прышоў з вёскі сырым парнем, а цяпер высокакваліфікаваны прадзільшчык.

Ці вось сям'я **Варанчука,** чатыры члены сям'і і ўсе яны на фабрыцы. Раней Варанчук быў батраком, жонка—нянькай і дзецям прадстаяла такая-ж перспектыва. А цяпер яны лепшыя ўдарнікі фабрыкі.

Вось яшчэ прыклад: шлях работніцы Жэні **Ханінай**—ад радавой панчошніцы да дырэктара фабрыкі. Паступіўшы на фабрыку яшчэ падросткам, выдзеліўшыся сваёй актыўнасцю і адданасцю соцыялістычнай вытворчасці, яна ў 1931 г. працуе ўжо на пасту дырэктара фабрыкі імя **Клары Цэткін.** Фабрыка гэта стала буйным соцыялістычным прадпрыемствам.

У студзені 1933 г. процант работніц ад усіх рабочых складаў 44,1. Адначасова ідзе быстры працэс вылучэння работніц на кіруючую партыйную, гаспадарчую і профсаюзную работу.

Толькі ва ўмовах дыктатуры пролетарыята, калі гаспадаром з'яўляецца пролетарыят, магчыма такое ўсё прадаўжаючаеся палепшанне становішча працоўных мас, толькі ва ўмовах дыктатуры пролетарыята магчым рост актыўнасці мас, рост соцспаборніцтва і ўдарніцтва, прычым, як гаворыць тав. **Сталін:**

„Самае замячацельнае ў спаборніцтве састаіць у тым, што яно робіць карэнны пераварот у поглядах людзей на працу, бо яно ператварае працу з зазорнага і цяжкага ярма, якім яна лічылася раней, у справу чэсці, у справу славы, у справу доблесці і геройства".

* * *

Вякамі беларускае сялянства працавала на рускага, польскага і беларускага памешчыка. Кулацтва моцна трымала ў цісках сваёй эксплаатацыі беднату.

У моцнай залежнасці ад кулака знаходзіліся і маламоцныя слаі сераднякоў. Царская Расія будавала сталыпінскія кулацкія хутары, разарала асноўныя масы сялянства, робячы над імі гвалт за гвалтам, узмацняючы яшчэ больш памешчыцкую і кулацкую кабалу, у цісках якой стагналі дзесяткі і сотні тысяч беднякоў. 60 проц. сялянскіх гаспадарак ніколі не вылязалі з кулацкай кабалы. Так ва ўмовах соцыяльнага і нацыянальнага гнёту жыло сялянства Беларусі.

У выніку, у 1917 г. мы маем беспасеўных:

Па Віцебшчыне— 7,4 проц.
Па Гомельшчыне—10,32 „
Па Мазыршчыне— 11,2 „

Пасеўных да 1 дзесяціны па Гомельшчыне было 12,82 проц.

Бясконных:
Па Віцебшчыне— 15,3 проц.
Па Гомельшчыне—12,54 „
Па Мазыршчыне— 18,70 „

Бядняцка-серадняцкія гаспадаркі вызначаліся вельмі адсталай тэхнікай. Саха, дзеравяныя бароны, матыкі—вось у чым заключалася „тэхнічнае ўзбраенне“ гэтых гаспадарак. Беззямелле, памешчыцкая і кулацкая эксплаатацыя, падатковы прэс памешчыцка-буржуазнай Расіі і т. д. прывялі да таго, што даход ад сельскай гаспадаркі забяспечваў менш палавіны спажывання сялянскай сям‘і. У быўшай Менскай губерні ў сярэднім на сялянскі двор не хапала 30 пудоў хлеба (выходзячы з норм поўгалоднага існавання сялянскай сям‘і).

Нават царская ўлада і памешчыкі не змаглі скрываць, што напярэдадні імперыялістычнай вайны ідзе быстрым тэмпам продаж жывёлы. А каму прыходзілася за бясцэнак прадаваць рабочую жывёлу, каму гэта несла разарэнне і нішчату ясна само сабою—беднаце, маламоцным серадняткам.

Такое разарэнне, нішчата і голад прымушалі дзесяткі тысяч бядняцкіх і маламоцных серадняцкіх гаспадарак пакідаць свае родныя вёскі і ісці на пошукі хлеба. З 1911 па 1915 гг. з тэрыторыі цяперашняй БССР перасялілася 69 750 сямействаў. Але гэта не выратоўвала разараючыяся бядняцка-серадняцкія масы ад нішчаты і голаду.

Як жыў бядняк? Вось простая біяграфія батрацкай сям‘і Ганны **Стасевіч**. Новы год заўсёды сустракалі без хлеба (такі ўжо быў „парадак“ і для тысяч падобных Ганне). Сяляне вёскі Красіна, у якой жыла Ганна, адчулі на сваёй спіне ўсе „прэлесці“ белапольскіх акупантаў... Вёска з усім „дабром“ была аграблена і дашчэнту спалена белапольскімі акупантамі. „Да пажару“,—рассказвае Ганна,—„я перабівалася з хлеба на квас, а потым яшчэ горш стала ... Мая сям‘я з пустухоў не вылязала...“

Сваё-ж новае жыццё Ганна лічыць з моманту ўступлення ў калгас.

У рэзультаце Окцябрскай рэволюцыі сялянства ў БССР атрымала 1 042 тыс. *га* зямлі. Няма больш памешчыкаў. Совецкая ўлада разгарнула калгаснае будаўніцтва. На аснове поспехаў калектывізацыі ліквідавана ў асноўным кулацтва як клас (самы шматлікі і апошні клас буржуазіі) і выкарчоўваюцца апошнія астаткі капіталістычных элементаў у вёсцы, якія не хочуць адмовіцца ад таго, каб сядзець на шыі працоўных, яны аказваюць шалёнае супраціўленне. Далейшыя поспехі соцыялістычнай пераробкі вёскі і ўпорная бязлітасная барацьба з імі прывядуць да іх канчатковай гібелі, яны будуць дабіты да канца. Разгортванне калгаснага будаўніцтва, знішчэнне кулацкай кабалы і эксплаатацыі выратавалі працоўнае сялянства ад нішчаты, голаду і разарэння.

Тав. **Сталін** на XV з‘ездзе партыі сказаў:

> „Са знікненнем кулацкай кабалы знікла нішчата ў вёсцы. Любы селянін, калгаснік або аднаасобнік мае цяпер магчымасць жыць па-чалавечаску, калі ён толькі хоча працаваць чэсна, а не лодырнічаць, не бадзяцца па свету і не раскрадаць калгаснае дабро“.

Лозунг тав. **Сталіна**—„зрабіць усе калгасы большэвіцкімі, а калгаснікаў заможнымі“, які стаў пад кіраўніцтвам ленінскай партыі ло-

зунгам мільёнаў барацьбітоў за соцыялістычную гаспадарку, становіцца сапраўднасцю.

Вось як у БССР ідзе калектывізацыя:

1928 г.—у калгасах бядняцка-серадняцкіх гаспадарак 0,72 проц.
1933 г. „ „ „ „ „ 52,6 „

Пасеўная плошча калгасаў павялічылася з 25 600 *га* да 1 867 т. *га*.

А вось як вырасла матэрыяльна-тэхнічная база соцыялістычнай сельскай гаспадаркі:

На 1 студзеня 1931 г. 6 МТС— 308 трактароў.
На 1 ліпеня 1933 г. 63 „ —1,565 „
Зернасеялак у 1928 г.—748, 1932 г.—8 772
Зернакасілак „ —737 „ —8 696

Уноў арганізаваныя 429 соўгасаў узброены 1 253 трактарамі. Тое-ж самае і ў адносінах уборачных машын і т. д.

БССР ператвараецца з так званага спажывецкага раёна ў вытвараючы. Аб гэтым гавораць даныя аб пасеўных плошчах. Так, напрыклад:

1916 г. Плошча пад яравую і азімую пшаніцу складала 63,1 тыс. *га*. Сеялі яе толькі памешчыкі і буйныя кулакі.

1928 г.— 93,1 тыс. *га*.
1933 г.—125,3 тыс. *га*.

З года ў год павышаецца ўраджайнасць калгасных палёў.

Так, напрыклад, пасеўная плошча ў 1933 г., у параўнанні з 1931 г., вырасла на 4,3 проц., а валавыя зборы ў 1933 г. у параўнанні з 1931 г. выраслі:

Па ільну — на 12,3 проц.
Па бульбе— „ 14,7 „
Па жыту — „ 29,2 „
Па ячменю— „ 67,3 „ і т. д.

У сувязі з ростам ураджайнасці, падняццем працоўнай дысцыпліны і палепшаннем арганізацыі і пастаноўкі работы значна выраслі даходы калгасаў і калгаснікаў. Так, напрыклад:

У 1932 г. у сярэднім на 1 працадзень прыходзілася 2—3 кгр. зернавых і 3—4 клг. бульбы.

У 1933 г. у большасці калгасаў і ў пераважнай масе калгаснікаў— 3—5 кгр. зернавых і 6—10 кгр. бульбы.

Партыя і совецкая ўлада вядуць працоўнае сялянства да заможнага і культурнага жыцця.

Возьмем, напрыклад, калгас „**Шлях Леніна**", які быў створан у вёсцы „Красіна". Пасля таго, як вёска была спалена белапалякамі, „красінцы", якія асталіся без хат, без жывёлы, пры дапамозе совецкай улады пачалі новае жыццё. У гэтай самай вёсцы жыла і сям'я Ганны Стасевіч, аб мінулым жыцці якой мы гаварылі вышэй. Пры стварэнні калгаса „Шлях Леніна" ў яго ўступіла і сям'я Ганны. Спачатку, пакуль калгас не стаў на ногі, было цяжка. Але вось ужо два гады сям'я Ганны сустракае наступаючы год упэўненая ў тым, што не толькі не прыдзецца галадаць, а што яны ўпаўне забяспечаны і змогуць жыць значна лепш, чым раней.

У апошні гаспадарчы год, калі калгас „Шлях Леніна" падвёў вынікі сваёй гадавой работы і канчаткова размеркаваў ураджай, сям'я Ганны Стасевіч на выпрацаваныя ёю 570 працадзён атрымала: каля трох тон зернавых бабовых, і каля сямі тон бульбы, 5,5 тоны кармоў для каровы.

Усяго сям'я Ганны атрымала 16 тон прадуктаў.

„Галадаць цяпер хопіць,—заявіла Ганна, атрымаўшы зробленае дабро,—трэба жыццяпакаштаваць у смак".

Ва ўсім калгасе няма ні адной сям'і, якая працавала-б не чэсна і не была забяспечана на год прадуктамі, цяпер у калгасе няма бескароўных. Калгас перамог. Вось што гаворыць учарашні аднаасобнік Дзям'ян Ляўковіч: „Усё сваё жыццё",—кажа ён,—„з года ў год я марыў стаць заможным, але мары мае кожны год лопаліся як пузыры... Цяпер на прыкладзе сям'і Ганны Стасевіч я пераканаўся, што выцягнуць „ачко" магу толькі чэснай працай у калгасе. Таму я стаў калгаснікам".

Агромныя поспехі соцыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі дасягнуты ў надзвычай лютай барацьбе з класавым ворагам.

Класавы вораг прадаўжае сваю падрыўную работу, каб аднавіць капіталізм, падрыхтаваць глебу для інтэрвенцыі імперыялістычным дзяржавам, але мяняе тактыку. Зграя кулакоў вяла агітацыю за хутары і пры дапамозе свайго стаўленіка контррэволюцыянера Прышчэпава, які абманным шляхам пралез у партыю і нават потым на пост Наркамзема, прыкладалі ўсе намаганні, каб ажыццявіць свой план сярод сёл і вёсак, у якіх прышчэпаўская банда кулакоў праводзіла сваю работу.

Адным з прыкладаў дзеяння класавага ворага служыць работа прышчэпаўскай банды на Сенненшчыне. Мэта кулацкага плана гэтай банды ясная. Сабе, кулакам, адвесці большую частку і найлепшай зямлі, а беднаце маленькія кавалкі і найгоршай зямлі. Няхай галадаюць на пясочку... і тады... тады можна будзе зноў сесці на шыю беднаце, неабмежавана яе эксплаатаваць і шлях аднаўлення капіталізма забяспечан.

Кулакі накшталт Масальскага, сябра і памочніка Прышчэпава, атрымалі па 25 гектараў лепшай зямлі і ў адным месцы.

Але партыя выкрыла нацдэмаўскую контррэволюцыйную лінію прышчэпаўшчыны, яна разбіла прышчэпаўскую банду.

У 1929 г. у вёсцы „Латыгаль", Сенненскага раёна, ствараецца калгас. Прышчэпаўскія кулакі зноў мяняюць тактыку, пралазяць у калгас, каб праводзіць „ціхай сапай" шкодніцкую, падрыўную работу ўнутры яго.

Тыя-ж Масальскія, Паўлоўскія і т. п. кулацкія і контррэволюцыйныя нацдэмаўскія і эсэраўскія элементы пралазяць у калгас, стараюцца займаць кіруючыя пасты ў ім.

Як-жа дзейнічае цяпер класавы вораг? На сходах Масальскія „за калгас", „за здачу дзяржаве што патрэбна" і т. д., а на справе яны робяць усё, каб ураджай пагніў, загінуў, каб замарыць голадам жывёлу, вядуць дома агітацыю сярод адсталых калгаснікаў: „раней чым здаць дзяржаве, патрабуйце, каб сябе забяспечыць", крадуць калгаснае і дзяржаўнае дабро, зрываюць дзяржаўныя загатоўкі. Калгас „Латыгаль", як і многія іншыя ў Сенненскім раёне, не вылязаў з прарыву дзякуючы іменна таму, што ранейшыя кіраўнікі ў раёне не разгледзелі гэтых новых манеўраў класавага ворага, не павялі рашучай барацьбы, каб своечасова выкрыць і разбіць яго шкодніцкую тактыку.

Партыя зняла апартуністаў і паслала ў гэты раён моцных, вытрыманых работнікаў. Партыя арганізавала Палітаддзелы МТС, папрацавала як след, каб раз'ясніць самаму адсталаму калгасніку дзе вораг,

у чым заключаюцца яго манеўры, да чаго ён імкнецца і што павінен і абавязан рабіць кожны чэсны калгаснік. Выкрылі кулакоў, пачысціліся ад іх і пашла другая работа.

Прыклад з калгасам „Латыгаль“ паказвае нам, якое вялікае супраціўленне аказвае класавы вораг і якая патрэбна рэволюцыйная пільнасць, каб своечасова выкрыць яго манеўры і разбіць іх. Ён паказвае нам, што контррэволюцыйныя нацдэмы хацелі аднавіць капіталізм, каб зноў закабаліць бедноту, што яны спадзяваліся з дапамогай імперыялістычнай інтэрвенцыі стварыць для сябе „кулацкі рай“, а працоўных ператварыць у рабоў акупантаў і эксплаататараў.

Ён паказвае нам, што толькі шлях соцыялістычнай перароблі вёскі, шлях соцыялістычнай вытворчасці, па якому партыя і совецкая ўлада вядуць калгаснікаў, што толькі гэта—адзіны шлях, які вядзе да заможнага і светлага жыцця, і назаўсёды знішчае магчымасць звароту да кулацкай кабалы і да эксплаатацыі чалавека чалавекам. Нацдэмы, бундаўцы, сіяністы і т. п. недабітыя яшчэ контррэволюцыйныя элементы, якія з лютай нянавісцю адносяцца да пераможнага соцыялістычнага будаўніцтва, да новага жыцця, якое будуюць рабочыя і сяляне пад кіраўніцтвам большэвікоў, гэтыя контррэволюцыйныя элементы, прыкрываючыся фальшывым нацыянальным сцягам, прыбягаюць да подлага сродку буржуазіі—да сеяння нацыянальнай розні сярод працоўных.

Навошта ім гэта патрэбна? А ім гэта патрэбна для таго, каб аблегчыць сваю падрыўную работу на прадпрыемстве, у горадзе, у калгасе, на вёсцы. Раз'ядноўваючы беларускіх, яўрэйскіх, польскіх і іншых рабочых і калгаснікаў, насаджаючы сярод іх буржуазны шавінізм ім лягчэй унушыць найбольш адсталым рабочым і працоўным свае контррэволюцыйныя ідэі, уцягнуць іх у контррэволюцыйныя справы. Тут яны прыбягаюць да розных манеўраў, каб некаторых, яшчэ адсталых рабочых і калгаснікаў, адразу не раскусіўшых іх замыслы, абманам уцягнуць у брудныя справы.

А ў калгасе хто дзеліць на чыста „беларускія“ брыгады, чыста „яўрэйскія“ брыгады і т. д., хто прабаваў у некаторых сельсоветах ажыццяўляць бундаўскую буржуазна-нацыяналістычную аўтаномію? Гэта ўсё рабілі, прыкрываючыся нацыяналістычным сцягам, нацдэмы, бундаўцы і т. д.

Кожны рабочы, кожны калгаснік **павінен помніць, хто** яго самы закляты вораг. Адзіным адказам павінен быць такі—„глядзі ў оба“ і бязлітасна змагайся з гэтымі контррэволюцыянерамі, жулікамі і шкоднікамі.

Грамадныя поспехі калгаснага будаўніцтва знайшлі сваё адлюстраванне яшчэ ў адным, маючым велізарнейшае значэнне, факце: у раскрэпашчэнні вясковай жанчыны. Адыходзіць мінулае цяжкое, забітае, бязраднае жыццё і горкая доля сялянкі, закрэпашчонай пялёнкамі, кухняй і гаршкамі. З цемнаты і рабства падняліся сотні тысяч жанчын, каб стаць актыўнымі тварцамі і, побач з мужчынамі, удзельнічаць у вялікім соцыялістычным будаўніцтве. Тысячы фактаў у штодзённай соцыялістычнай практыцы паказваюць, як масы калгасніц высунуліся ў першыя рады лепшых ударнікаў, арганізатараў і будаўнікоў калгаснага ладу.

У калгасах, МТС з 28 000 працуючых жанчын 10 000 ударніц. За апошні час вытворчымі нарадамі ахвачана 70 000 калгасніц. Жанчыны выконваюць самыя адказныя сельска-гаспадарчыя работы. Мы ўжо маем не адзін дзесятак старшынь калгасаў і не адну сотню жанчын

брыгадзірамі і не адну тысячу памочнікамі брыгадзіраў. І чым далей, тым іх будзе ўсё больш. У калгасах, МТС яслямі ахвачана 8 560 дзяцей. Калгасніцы з вялікай энергіяй узяліся за справу арганізацыі яслей.

Вось, напрыклад, калгасніца **Ераніўская** Настася. Кім яна была ў мінулым? У мінулым яна была батрачкай, якая з рання да позняй ночы гнула спіну на памешчыка і кулака, каб разам са сваімі дзецьмі сістэматычна недаядаць, а то і галадаць.

Кім цяпер стала Настася? Яна актыўны будаўнік соцыялістычнай гаспадаркі, яна першы агітатар за калгас, яна ў апошні час абрана старшынёй калгаса імя 8-га сакавіка, які быў створан пад яе кіраўніцтвам.

Як жыве цяпер Настася і яе сям'я? Аб гэтым мы даведваемся наступнае: „Ераніўская Настася з сям'ёй за сваю чэсную і ўдарную работу ў калгасе забяспечана на ўвесь год з лішкам. Дзеці Настасі сытыя, адзетыя, абутыя. Трое з іх вучыцца ў сямігодцы, а старшая дачка ў педтэхнікуме. Але Настася толькі адна з многіх, каго Окцябрская рэволюцыя і перамога калгаснага ладу паднялі ад цёмнага, забітага і рабскага жыцця да актыўнай соцыялістычнай працы, якая прынесла ім светлае, заможнае і культурнае жыццё.

Вось чаму на Ўсебеларускім злёце лепшых ударніц калгасаў і соўгасаў ударніца калгаса імя 8-га сакавіка, Копыльскага раёна, тав. **Гладкая,** расказваючы, як яны рана пачалі сеяць, далі высокую якасць апрацоўкі глебы і поўнасцю гатовы к уборцы і як вясёла і дружна ідзе работа ў іх калгасе, які з'яўляецца пагранічным, прадаўжае:

„Мы ў нашым калгасе выходзім на работу пад самую мяжу, дзе жывуць палякі. Яны толькі дзівяцца, як мы арганізаваным парадкам і з песнямі выходзім на работу".

Тав. Гладкая ў вельмі кароткіх славах ахваціла глыбокае бяздонне, якое аддзяляе два светы, два грамадскіх лады—свет соцыялізма і свет капіталізма.

* * *

Заходняя Беларусь, як і ўвесь капіталістычны свет, перажывае крызіс, які разарае мільёны працоўных мас. Там агромныя масівы зямлі належаць памешчыкам. Так, напрыклад, у Палескім ваяводстве, палавіна годнай зямлі (49,4 проц.) належала памешчыкам.

Фашысцкія ўлады прадаўжаюць у Заходняй Беларусі, не гледзячы на неімаверны зямельны голад беларускага сялянства, насаджаць спецыяльныя ваенныя пасяленні (асадніцтвы) усаднікаў-жандармаў з легіянераў, якіх багата надзяляюць зямлёю. Польскі фашызм прадаўжае праводзіць палітыку кулацкай камасацыі (г. зн. стварае кулацкія хутары), ідучы, такім чынам, на здзелку з беларускім кулацтвам. Усё гэта за кошт разарэння беларускай беднаты і шырокіх мас серадняцтва. Праводзіцца ліквідацыя сервітутаў. Сялянства пазбаўлена, нават у самай мінімальнай ступені, магчымасці карыстацца якімінебудзь угоддзямі. Галодным забараняецца нават збіраць ягады, грыбы і інш. у памешчыцкіх і дзяржаўных лясах(пад страхам агромных штрафаў і арыштаў). Не менш разбуральна дзейнічаюць агромныя падаткі.

Можна ўявіць сабе, як у гэтых умовах крызіс, які ўсё больш паглыбляецца ў сельскай гаспадарцы, наносіць удар за ўдарам разараючайся сялянскай гаспадарцы.

Тав. **Гікало** у сваім дакладзе на XV з'ездзе КП(б)Б прывёў вытрымку з таго, што пісаў „Кур'ер Новагрудскі“ аб становішчы сельскай гаспадаркі на тэрыторыі „Віленскага ваяводства“ (Зах. Беларусь): „Усе мы“,—пісала гэта газета,—„па ўсёй імавернасці, ведаем умовы жыцця на вёсцы. Карэсіна ўступае месца старажытнай лучыне, смак цукеру даўно забыт, мыла для мыцця ўжываецца толькі перад вяселлем, запалкі, калі купляюць, то па адной (за грош чатыры штукі), найбольш частыя прычыны адсутнасці дзяцей у школе—недахоп вопраткі“.

Прамысловасць у Заходняй Беларусі характарызуецца сваёй адсталасцю і забітасцю. Акупант па-драпежніцку знішчае лясныя багацці Заходняй Беларусі. Становішча рабочага класа не паддаецца апісанню. Сапраўднасць дае жудасны малюнак становішча рабочых у перыяд крызіса. Сумы, якія выплачваюцца рабочым, зменшаны: у мінеральнай прамысловасці ў Віленскім ваяводстве на 74,4 проц.; а ў Палескім нават на 96,2 проц; у металёвай прамысловасці ў Беластоцкім ваяводстве на 74 проц.; у Новагрудскім—на 80,2 проц.

У Вільне налічваецца 5 325 беспрацоўных. Лік беспрацоўнай моладзі павялічваецца з года ў год. А становішча сельска-гаспадарчых рабочых? Памешчык граф Яркелаў-Патоцкі павінен рабочым, працуючым у яго, 1 міл. злотых. Што-ж робіць гэты граф? Ён звярнуўся ў Новагрудскі арбітражны суд з просьбай зменшыць суму запазычанай зарплаты сваім рабочым і заплаціць зменшаную суму па частках на працягу не больш і не менш чым 7 год. А пакуль рабочыя няхай пухнуць з голаду. А як вырашыць суд—не клапаціцеся. Недарма суд састаіць з буйных памешчыкаў, сваякоў і прыяцеляў графа Патоцкага. Недарма прадстаўнікоў сельгасрабочых у Крывашэнна, Баранавіцкага павета (маёнтак графа Патоцкага), якія прыехалі за свой кошт, не дапусцілі прымаць удзел пры разглядзе гэтай справы.

Больш таго, батракоў проста выкідваюць з маёнткаў. Стачкі забараняюцца. Затое фашысцкая ўлада заганяе рабочую і працоўную моладзь у „абозы працы“, каб калі не пакарміць яе, то ў славу акупанцкага рэжыму ваенізаваць і фашызаваць іх. А беларуская буржуазія і кулацтва за атрыманыя падачкі ад польскага фашызма цалуюць яго бот, які давіць беларускія працоўныя масы. Беларуская буржуазія і кулак высмактваюць апошнія сокі з працоўных мас. Беларускі нацыянал-фашызм—верны пёс польскіх фашысцкіх катаў. Усе гэтыя Луцкевічы, Астроўскія Мётлы і т. п. правакатары, якія састаялі і састаяць на службе польскай дэфензівы, імкнуцца ў што-б там ні стала выканаць ролю магільшчыкаў нацыянальна-вызваленчай барацьбы беларускіх працоўных. Але рукі іх кароткія. Пролетарыі і працоўнае сялянства Заходняй Беларусі ў адзіных інтэрнацыянальных радах з пролетарыятам і сялянствам усёй Польшчы пад кіраўніцтвам КПП і КПЗБ звернуць у свой час шыю як акупантам, так і яго слугі—нацыянал-фашызму.

Не адстае ад беларускай буржуазіі і яўрэйская буржуазія. У той час, калі польскі фашызм нясе яўрэйскім рабочым і непролетарскім працоўным масам голад, пагромы і антысемітызм, яўрэйская буржуазія, клерыкалы, рабіны і т. д. кідаюцца ў абдымкі пілсудчыкаў, каб заняць сваё месца сярод астатніх эксплаататараў працоўных мас.

А соцыял-фашысцкі „Бунд“ праводзіць сваю здрадніцкую штрэйкбрэхерскую палітыку. Лінія „Бунда“ ёсць лінія буржуазіі, бо іменна яе палітыку ён стараецца праводзіць у рабочых масах. З яўрэйскай

буржуазіяй і з яўрэйскім фашызмам і соцыял-фашызмам рэволюцыйныя масы паступяць таксама, як і з беларускім.

Ці патрэбна яшчэ дадаць, што і ў галіне культуры польскі фашызм, пры самым актыўным удзеле беларускага нацыянал-фашызма, вядзе самую спусташальную палітыку. Крыжовы паход супроць беларускай школы скончыўся тым, што цяпер у заходняй Беларусі не асталося ні адной беларускай школы. Таксама зачыняюцца літоўскія і апошнія яўрэйскія школы.

Параўнайце ўсё гэта з небывалым росквітам беларускай соцыялістычнай культуры ў БССР.

Калі па меркаваннях уладу маючых у стары дарэволюцыйны час, як аб гэтым пісалі тузы г. Віцебска, усеагульнае навучанне можна будзе ўвесці ў горадзе толькі амаль што ці не праз 50 год (выходзіла ў 1950 г.), а ў вёсцы толькі к канцу будучага стагоддзя (выходзіць у 2000 г.), то ў БССР усеагульнае навучанне на роднай мове ўсіх нацыянальнасцей ужо ажыццёўлена. У 1933 г. было 6 961 пачатковая школа і 1 578 сямігодак. У 1932 г. было 222 польскіх школ, у яўрэйскіх школах навучалася 36 501 чал. Далей ідуць дзесяткі ВУЗ'аў і ВТУЗ'аў. У БССР быстра растуць і расцвітаюць літаратура, тэатр, мастацтва.

Агромны рост перажывае навука. Выраслі дзесяткі навуковых устаноў на чале з Беларускай Акадэміяй Навук. Але што асабліва трэба падкрэсліць, гэта—хто з'яўляецца актыўным удзельнікам і будаўніком соцыялістычнай культуры ў БССР. Калі раней у нямногалікіх гімназіях і універсітэтах навучаліся дзеці дваран, купцоў, фабрыкантаў, чыноўнікаў і з асяроддзя эксплаататараў выходзіла галоўная маса інжынераў, урачоў, вучоных і т. д., а дзяцей працоўных абрабатвалі ў інтарэсах пануючых класаў у цэрквах, сінагогах, царкоўна-прыходскіх школах і хедэрах, то зусім іншая справа цяпер.

Цяпер у БССР адукацыя і культура не для адзіночак, не для „абраных". Культурнае будаўніцтва, навука і мастацтва стала справай мільёнаў працоўных. Яны са свайго асяроддзя вылучаюць камандны састаў будаўнікоў і арганізатараў соцыялістычнай гаспадаркі, выдатных вучоных, літаратараў, мастакоў і т. п. будаўнікоў соцыялістычнага грамадства. Агромных поспехаў і вялікіх рэзультатаў дабіліся рабочыя і сяляне БССР, неаддзялімай часткі СССР.

Гэтыя поспехі магчымы былі толькі пры дыктатуры пролетарыята, пры совецкай уладзе, пад кіраўніцтвам ленінскай партыі, пад кіраўніцтвам правадыра сусветнага пролетарыята т. **Сталіна**, у бязлітаснай барацьбе з усякага роду апартунізмам, контррэволюцыйным трацкізмам, нацыяналізмам і т. д.

XVII з'езд ВКП(б) і XV з'езд КП(б)Б паставілі перад намі агромныя задачы. Наша задача заключаецца ў тым, каб закасаўшы рукавы, не пакладаючы рук цалкам і поўнасцю ажыццявіць указанні і палажэнні, высунутыя правадыром нашай партыі т. **Сталіным** у яго гістарычным дакладзе на XVII з'ездзе партыі.

Ажыццяўляючы перабудову кіраўніцтва соцыялістычнай гаспадаркай, неабходна дабіцца поўнага пералому і стопроцантнага выканання плана ў галіне прамысловасці па ўсіх колькасных і якасных паказчыках. Гэта выкананне павінна стаць баявой традыцыяй кожнага завода, яго партыйных, гаспадарчых і прафесіянальных арганізацый. Мы павінны забяспечыць арганізаваную ўборку ўраджаю і без страт, яго ахову, датэрміновае і якасна-высокае выкананне паставак дзяр-

жаве, бязлітасна змагаючыся з усякімі антыдзяржаўнымі тэндэнцыямі, за чэснае выкананне ўсіх абавязацельстваў перад дзяржавай.

> „Прадаўжаючы з усёй настойлівасцю далейшае ўмацаванне калгасаў, мы павінны ў бліжэйшы час дабіцца ліквідацыі адставання ў калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і сур'ёзных зрухаў у справе далейшай калектывізацыі і калгаснага будаўніцтва у цэлым“ (пленум ЦК КП(б)Б).

Неабходна па-большэвіцку змагацца за поўнае ажыццяўленне рашэнняў чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б) і ліпеньскага пленума ЦК КП(б)Б аб уздыме жывёлагадоўлі. Ажыццяўляючы канкрэтнае і апэратыўнае кіраўніцтва, мы павінны ў найкарацейшы тэрмін дабіцца пералому ў справе жывёлагадоўлі, у справе вырашэння гэтай вялікай задачы, пастаўленай т. **Сталіным** на XVII з'ездзе партыі.

Помнячы ўказанне т. **Сталіна** аб тым, што „справу жывёлагадоўлі павінны ўзяць у рукі ўся партыя, усе нашы работнікі партыйныя і беспартыйныя, маючы на ўвазе, што праблема жывёлагадоўлі з'яўляецца цяпер такой-жа першачарговай праблемай, якой была ўчора ўжо вырашаная з поспехам праблема зернавая“.

Выкананне ўсіх гэтых задач вядзе к далейшаму ўздыму ўсёй сельскай гаспадаркі ў цэлым, к далейшаму росквіту социялістычнага земляробства, к заможнаму і культурнаму жыццю. Таксама трэба змагацца за выкананне ўказанняў т. **Сталіна** аб разгорнутым савецкім гандлі, рашучым палепшанні транспарта і т. д.

Буйнейшыя задачы стаяць перад намі і ў галіне далейшага ажыццяўлення ленінскай нацыянальнай палітыкі, большэвіцкай беларусізацыі, абслугоўвання нацменшасцей і развіцця культурнага будаўніцтва. Трэба цвёрда помніць словы т. **Сталіна**, што

> „перажыткі капіталізма ў сазнанні людзей значна больш жывучы ў галіне нацыянальнага пытання, чым у любой другой галіне. Яны былі жывучы, бо маюць магчымасць добра маскіравацца ў нацыянальнай вопратцы“.

Малейшыя спробы класавага ворага і яго агентуры працягнуць контррэволюцыйны нацыянал-дэмакратызм, бундызм і т. д. у тэорыю і практыку соцыялістычнага будаўніцтва, павінны сустрэць сакрушальны адпор.

Малейшыя спробы пасягнуць на тэрыторыю СССР, у якім-бы пункце граніц вялікага Саюза гэта не здарылася, сустрэнуць аднадушны сакрушальны адпор з боку працоўных БССР. Якія-б новыя імперыялістычныя планы не будавалі недабітыя астаткі нацыяналістычнай контррэволюцыі і нацыянал-фашысты, прадажныя твары, якія састаяць на службе контр-разведкі імперыялістычных дзяржаў, гэтыя планы лопнуць як мыльны пузыр. Іх жалкія патугі будуць біты, як заўсёды, бо расце і мацнее вялікая магутнасць Савецкага Саюза— бацькаўшчыны працоўных усяго свету, аплоту сусветнай пролетарскай рэволюцыі, куды накіраваны погляды сотэнь мільёнаў пролетарыяў і працоўных усяго свету, якія змагаюцца за знішчэнне ланцугоў імперыялістычнага гнёту.

Узорнай большэвіцкай работай ва ўсіх галінах нашага вялікага соцыялістычнага будаўніцтва будзем біцца за лозунг, высунуты перад рабочымі і калгаснікамі БССР сакратаром ЦК КП(б)Б т. **Гікало— дабіцца чэсці атрымаць ордэн Леніна.**

---

# КАНСУЛЬТАЦЫІ

## Як вывучаць „Крытыку Гоцкай праграмы"[1])

«Крытыка Гоцкай праграмы» прадстаўляе выключна яркі дакумент асновапаложніка марксізма па пытанню аб дыктатуры пролетарыята, аб умовах давядзення барацьбы пролетарыята да поўнага комуністычнага грамадства.

Невыпадкова, што іменна гігантскае значэнне гэтага дакумента імкнуліся зменшыць многія і многія праціўнікі марксізма, што яго адмовіўся надрукаваць у свой час Карл Каўцкі і што пасля таго, як ён быў апублікован пад непасрэдным нажымам Энгельса, усе міжнародныя меншавікі рабілі ўсё магчымае, каб яго ўсякім чынам сказіць.

Маркс і Энгельс абаранялі і рыхтавалі насільніцкае знішчэнне капіталізма і пабудаванне комуністычнага грамадства праз дыктатуру пролетарыята, а міжнародныя меншавікі ў тэорыі і практыцы абаранялі капіталізм ад дыктатуры пролетарыята і пры гэтым, скажаючы марксізм, прабавалі скарыстаць вялікае імя Маркса.

Толькі Ленін, верны вучань і прадаўжальнік Маркса, у эпоху імперыялізма і дыктатуры пролетарыята не толькі поўнасцю аднавіў значэнне гэтага дакумента, але развіў, падняў на новую вышыню вучэнне аб дыктатуры пролетарыята і комунізме.

Як з'явілася Гоцкая праграма? У 1875 г. адбылося зліццё двух партый нямецкага рабочага класа. Адна з іх называлася Ўсеагульнай германскай соцыял-дэмакратычнай партыяй, або інакш, эйзенахскай, па імені горада Эйзенаха, дзе ў 1868 г. адбыўся ўстаноўчы з'езд партыі. Кіраўнікамі гэтай партыі былі Аўгуст Бебель і Вільгельм Лібкнехт, якія знаходзіліся пад вялікім уплывам Маркса і Энгельса. Але абодвы яны дапускалі сур'ёзныя тэарэтычныя і практычныя памылкі. За свае памылкі і хістанні яны заўсёды падвяргаліся суровай крытыцы з боку аснавальнікаў марксізма, бо гэтыя памылкі тармазілі паспяховае развіццё рэволюцыйнага рабочага руху. Дабавім, што не заўсёды ўказанні настаўнікаў навуковага комунізма нямецкія таварышы праводзілі ў жыццё.

Другая партыя называлася Ўсеагульным германскім рабочым саюзам і ўзначальвалася вучнямі Ласаля Газенклаверам, Гассельманам і інш. Як сам Ласаль, так і яго вучні былі далёкі ад рэволюцыйнага марксізма і прадстаўлялі сабой на справе дробна-буржуазных рэволюцыянераў. І калі ім удалося весці за сабой тыя або іншыя слаі рабочага класа, то таму, што германскі рабочы клас толькі пачынаў свой рэволюцыйны рух і быў у многім прасякнут дробнабуржуазнай ідэалогіяй.

[1]) Перапрацаваная радыёлекцыя.

Што было асабліва характэрна для ласальянцаў—так гэта тое, што яны не толькі не мелі ўяўлення аб дыктатуры пралетарыята, але нават дапускалі магчымасць збаўлення рабочага класа ад гнёту капітала праз скарыстанне буржуазна-памешчыцкай дзяржавы. Ласаль нават увайшоў у згоду з Бісмаркам—главой буржуазна-памешчыцкай прускай дзяржавы.

Існаванне двух рабочых партый было сур'ёзнай перашкодай у барацьбе рабочага класа супроць буржуазіі і памешчыкаў. На аб'яднанне ахвотна ішлі ласальянцы таму, што яны, па меры пашырэння марксава вучэння і ўмацавання ролі перадавых свядомых рабочых трацілі свой уплыў і лічылі, што аб'яднанне ўзмоцніць да іх спачуванне рабочага класа і ўмацуе іх пазіцыі. Якраз гэтай акалічнасці не ўлічылі эйзенахцы, якія, выпрацоўваючы праграму будучай адзінай партыі, ішлі на рад істотнейшых уступак ласальянцам. Эйзенахцы, у прыватнасці іх правадыры Бебель і Лібкнехт, не былі збаўлены ад раду сур'ёзнейшых тэарэтычных памылак, якія іх зблізілі з Ласалем.

Германскі рабочы рух у той перыяд іграў ролю першай скрыпкі ў міжнародным рабочым руху, бо цэнтр цяжару сусветнага рэвалюцыйнага руху знаходзіўся ў Германіі. Гэтым і можна аб'ясніць тое, што Маркс і Энгельс удзялялі выключна агромную ўвагу германскаму рабочаму руху, бо гутарка ішла аб падрыхтоўцы сіл да звяржэння панавання нямецкіх памешчыкаў і буржуазіі, што павінна было быць рашаючым момантам у справе разгортвання пралетарскай рэвалюцыі.

Памылкі Бебеля і Лібкнехта ў прынцыповых пытаннях былі вялікай пагрозай, яны маглі ўцягнуць нямецкіх рабочых у апартуністычнае балота.

Ніякіх уступак у прынцыповых пытаннях—такое было патрабаванне **Маркса**, а пазней **Леніна** і **Сталіна**. Можна дапускаць часовыя згоды пралетарскай партыі з прадстаўнікамі іншых партый у мэтах заваёвы рабочага класа, у мэтах сумесных дзеянняў супроць агульнага ворага. Прынцыпова супроць часовых кампрамісаў ніколі не пярэчыў марксізм-ленінізм, калі яны дапамагаюць пралетарыяту рухацца ўперад к дыктатуры пралетарыята і соцыялізму.

Гэту мысль Маркс выказаў у пісьме ад 5 мая 1875 г. В. Бракке, якое прызначалася для кіраўнікоў эйзенахцаў і ў якім даецца рэзкая адмоўная ацэнка Гоцкай праграмы.

«Правадыры ласальянцаў»,—пісаў Маркс,—«прыходзяць да нас таму, што іх вымусілі да гэтага акалічнасці. Калі-б ім заявілі з самага пачатку, што ні на якую **здзелку ў прынцыповых пытаннях** ім разлічваць няма чаго, то яны **павінны** былі-б задаволіцца праграмай дзеяння або арганізацыйным планам у мэтах сумеснага дзеяння... Вядома, што рабочых задавальняе ўжо самы факт аб'яднання; але памыляюцца тыя, хто думае, што гэты мінутны поспех куплен не надта дарагой цаной.

Між іншым, праграма нікуды не варта і незалежна ад таго, што прызнае непаграшымым ласалеўскі сімвал веры» (**Карл Маркс**, выбраныя творы ў двух томах, т. II, стар. 432).

Крайне важна падкрэсліць, што многія з тагачасных правадыроў былі нездаволены рэзкай крытыкай Маркса і лічылі, што гэта крытыка можа пашкодзіць пралетарыяту. Пры гэтым забывалі неаднаразовыя ўказанні Маркса, што рэвалюцыйная партыя не можа развівацца без пастаяннай самакрытыкі.

Аб гэтым Энгельсу прышлося напомніць Каўцкаму і іншым, калі яны адмаўляліся апублікаваць «Крытыку Гоцкай праграмы» Маркса.

«Апасенне, што яно дасць зброю ў рукі ворагаў, аказалася неабгрунтаваным. Злосныя інсінуацыі можна, вядома, пускаць па ўсякаму поваду. Але ў агульным і цэлым у ворагаў атрымалася ўражанне поўнага недаўмення ад гэтай безагаворачнай самакрытыкі і такое пачуццё: якой-жа ўнутранай сілай павінна ўладаць тая партыя, якая можа сама сабе прыпадносіць падобныя рэчы» (Пісьмо К. Каўцкаму, стар. 467).

Пасля гэтых папярэдніх заўваг, пяройдзем да пытання аб тым, як прыступіць да вывучэння «Крытыкі Гоцкай праграмы»?

Трэба папярэдзіць, што вывучэнне гэтай работы прадстаўляе некаторыя затрудненні, бо прыводзяцца паасобныя пункты з гоцкай праграмы, услед за якімі ідзе марксава крытыка.

Таму неабходна вельмі ўважліва ўдумацца ў тэкст гоцкай праграмы, каб ніводная дэталь не магла выслізнуць з поля зроку, тады крытыка Маркса праграмы будзе значна больш зразумелай.

Першыя пункты праграмы прысвечаны пытанням працы. З іх пачынаецца крытыка Маркса. Праграма гаворыць, па-першае, аб агульнай працы **наогул**, замест таго, каб пісаць аб тых гістарычных умовах, пры якіх адбываецца праца, і, па-другое, праграма паўтарае ласалеўскі прынцып аб тым, што кожны працоўны мае роўнае права на прадукт працы ў няўрэзаным выглядзе.

Пролетарыят павінен знішчыць капіталістычны лад, пры якім праца рабочага выступае як наёмная праца. Толькі знішчэнне капіталізма можа стварыць умовы для ператварэння працы паднявольнага ў соцыялістычную працу, якая выключае эксплаатацыю чалавека чалавекам.

Маркс указвае саставіцелям праграмы, што яны «замест агульных фраз аб «працы» і «грамадстве», павінны былі-б ясна паказаць,

«як у сучасным капіталістычным грамадстве былі, нарэшце, створаны тыя матэрыяльныя і іншыя ўмовы, якія прымушаюць рабочых і робяць іх здольнымі разбурыць гэта грамадскае праклятце» (там-жа, стар. 436).

Замест гэтага ў праграме мы знаходзім разважанні наогул, якія не даюць правільнага ўяўлення ні аб капіталістычным характары працы, ні аб умовах знішчэння капіталізма. У такога роду разважаннях і зацікаўлена буржуазія, бо яны старанна скрываюць эксплаататарскі характар працы пры капіталізме.

Але каб стварыць соцыялістычную працу трэба мець яснае ўяўленне аб тым, у каго прыдзецца экспрапрыяваць сродкі вытворчасці.

У капіталістычным грамадстве сродкі працы належаць капіталістам і землеўладальнікам. У праграме-ж гаворыцца, што «сродкі працы з'яўляюцца манаполіяй класа капіталістаў».

Маркс выкрывае саставіцеляў праграмы: адсутнасць указання аб землеўладальніках выклікана тым, што Ласаль прапанаваў рабочым змагацца супроць капіталістаў у саюзе з землеўладальнікамі, што ён сам зрабіў, увайшоўшы ў здзелку з Бісмаркам яшчэ ў 1863 годзе (задоўга да арганізацыі ласальянскай партыі). Выходзіць, што Ласаль прапанаваў рабочаму класу такія згоды, якія яго загадзя абракалі на вечнае гібенне.

Як відаць, гэты пункт праграмы дае скажоную перспектыву аб тым, з якімі ворагамі рабочаму класу неабходна змагацца, каб ажыццявіць соцыялістычную рэволюцыю.

Пойдзем далей. Як павінна ісці развіццё соцыялістычнага грамадства ўжо пасля таго, як усе прылады і сродкі працы належаць усяму грамадству?

На гэта пытанне прабуе даць адказ трэці пункт праграмы, але дае яго ў духу дробна-буржуазных соцыялістаў.

Каб крытыка Маркса была больш яснай прывядзем гэты параграф поўнасцю.

«Вызваленне працы,—гаворыцца ў гэтым пункце,—патрабуе ўзвядзення сродкаў працы ва ўласнасць усяго грамадства і калектыўнага рэгуляванння сукупнай працы пры справядлівым размеркаванні даходу працы».

Маркс паказвае, што саставіцелі праграмы па сутнасці ўзводзяць буржуазныя павярхоўныя ўяўленні аб справядлівым размеркаванні даходаў ва ўсеагульны прынцып, замест таго, каб уясніць, што прадстаўляе сабой соцыялістычнае грамадства ў адрозненне ад буржуазнага.

З пункту гледжання як капіталіста, так і дробнага ўласніка справядліў толькі такі парадак, пры якім адбываецца абмен тавараў, г. зн. роўныя колькасці працы абменьваюцца адна на другую. На самой справе пры абмене тавараў пры капіталізме скрываецца вапіючая «несправядлівасць», якая заключаецца ў тым, што рабочы атрымлівае за сваю працу значна менш, чым ён зрабіў. У гэтым заключаецца асобая ўласцівасць рабочай сілы, як тавара. Праграма, якую крытыкуе Маркс, зусім забыла неабходнасць яснага ізлажэння таго, што капіталізм існуе на аснове эксплаатацыі і наёмнай працы, на аснове велізарнейшай няроўнасці. Агульнымі словамі аб «справядлівым размеркаванні» даходу яна замяніла задачу паслядоўнай да канца крытыкі і выкрыцця асноў капіталістычнага рэжыму. Але калі ў праграме так ці інакш усё-ж было выражана абурэнне несправядлівасцямі капіталістычнай эксплаатацыі і няроўнасці, то надзвычайная блытаніна ў ёй змяшчалася па пытанню аб прынцыпах роўнасці і размеркавання ў соцыялістычным грамадстве.

Каб соцыялістычнае грамадстве магло развівацца неабходна з сукупнага грамадскага прадукта, які створан у соцыялістычным грамадстве, вылічыць тое, што павінна ісці на пашырэнне вытворчасці, на ўзмяшчэнне зрасходваных сродкаў вытворчасці, на стварэнне страхавога фонду. Апрача гэтага неабходна выдзеліць сродкі спажывання на ўтрыманне апарата кіраўніцтва, школ, больніц і непрацаздольных.

Такім чынам, з сукупнага прадукту, падлягаючага размеркаванню, ужо ўтрымана нейкая частка. Замест усяго гэтага праграма гаварыла зноў-такі аб наогул справядлівым размеркаванні даходу з працы і т. д.

Як адбываецца само размеркаванне пры соцыялізме?

Як вучыць аб гэтым марксізм-ленінізм?

Кожны працоўны атрымлівае свой прадукт у адпаведнасці з праробленай работай. Роўнага размеркавання няма, бо няма роўнай працы. Адзін сільней, другі слабей, адзін больш здольны, другі менш здольны, адзін працалюбівы, другі лянівы—усё гэта і робіць працу няроўнай. Апрача таго, адзін жанаты, другі халасты і гэта ствapae практычную няроўнасць пры размеркаванні.

Соцыялістычнае грамадства яшчэ не настолькі развіта эканамічна, каб мець магчымасць размяркоўваць прадметы спажывання незалежна ад якасці і колькасці працы.

Толькі пры комунізме, калі праца стане першай патрэбнасцю чалавека, калі прадукцыйныя сілы дасягнуць такога развіцця, што прадукты пальюцца шырокім патокам, тады стане магчыма размеркаванне прадуктаў па патрэбнасцях.

Як вядома, гэтыя марксавы мыслі знайшлі сваё развіццё ў «Дзяржаве і рэволюцыі» **Леніна**, у работах т. **Сталіна**. Тав. Сталіну прышлося ў дакладзе на XVII партз'ездзе спыніцца на пытаннях роўнасці, каб яшчэ раз узброіць комуністычную партыю для бязлітаснай барацьбы з «лявацкімі» тэорыямі па пытанню аб роўнасці і размеркаванні. Вось, што гаварыў т. **Сталін** у сувязі з крытыкай апартуністаў аб марксісцка-ленінскім разуменні роўнасці. ў сваім дакладзе на XVII з'ездзе партыі:

> «Гэтыя людзі відавочна думаюць, што соцыялізм патрабуе ўраўнілаўкі, ураўнання, нівеліроўкі патрэбнасцей і асабовага быту членаў грамадства. Няма чаго і гаворыць, што такое прадпалажэнне не мае нічога агульнага з марксізмам, ленінізмам. Пад роўнасцю марксізм разумее не ўраўнілаўку ў галіне асабовых патрэбнасцей і быту, а знішчэнне класаў, г. зн. а) роўнае вызваленне ўсіх працоўных ад эксплаатацыі пасля таго, як капіталісты звергнуты і экспрапрыяваны, б) роўнае скасаванне для ўсіх прыватнай уласнасці на сродкі вытворчасці пасля таго, як яны перададзены ва ўласнасць усяго грамадства, в) роўны абавязак усіх працаваць па сваіх здольнасцях і роўнае права ўсіх працоўных атрымліваць за гэта па іх працы **(соцыялістычнае грамадства)**, г) роўны абавязак усіх працаваць па сваіх здольнасцях і роўнае права ўсіх працоўных атрымліваць за гэта па патрэбнасцях **(комуністычнае грамадства)**. Пры гэтым марксізм выходзіць з таго, што густы і патрэбнасці людзей не бываюць і не могуць быць аднолькавымі і роўнымі па якасці або па колькасці ні ў перыяд соцыялізма, ні ў перыяд комунізма.
>
> Вось вам марксісцкае разуменне роўнасці».

Пяройдзем да наступнага вельмі важнага пункту марксавай крытыкі Гоцкай праграмы.

Каб ажыццявіць пераварот у капіталістычных адносінах, патрэбна рэволюцыя. Вызваленне рабочых справа саміх рабочых, але пролетарыяту ў барацьбе супроць капіталізма патрэбны саюзнікі. Капіталістычнае грамадства разарае дробную буржуазію горада і вёскі. Асабліва гнёт капітала адчувае працоўнае сялянства, якое на доўгім вопыце пераконваецца, што выхад з нішчаты і разарэння магчым толькі пры сумеснай з пролетарыятам барацьбе супроць існуючага ладу. Гоцкая-ж праграма прадстаўляе ўсе астатнія класы капіталістычнага грамадства, у тым ліку і сялянства, як «адну толькі рэакцыйную масу».

Маркс паказвае, што ў праграме няма гістарычнага падыходу да разгляду класаў, а адсюль няправільнае ўяўленне аб стратэгіі і тактыцы класавай барацьбы пролетарыята. Маркс асоба выдзяляе двуісты характар дробнай буржуазіі, калі яна, у сілу свайго эканамічнага становішча, з аднаго боку, з'яўляецца апорай старога рэжыму, а з другога, гатова злучыцца з пролетарыятам, змагацца пад яго кіраўніцтвам супроць буржуазіі, каб збавіцца ад пастаяннага разарэння, немінучага ва ўмовах капіталізма.

Даючы няверную карціну аб прыродзе пролетарыята і дробнай буржуазіі, Гоцкая праграма аддавала дробную буржуазію (галоўным

чынам сялянства) пад кіраўніцтва памешчыкаў і буржуазіі, тым самым пакідала пролетарыят без саюзнікаў.

Марксава ўказанне аб саюзніках пролетарыята, як вядома, было распрацавана Леніным і пасля Сталіным, якія на справе ажыццявілі саюз рабочага класа з усім сялянствам у барацьбе супроць царызма, з бяднейшым сялянствам пры нейтралізацыі серадняка, супроць буржуазіі ў Октябрскай рэволюцыі і ва ўмовах давядзення дыктатуры пролетарыята да соцыялізма ажыццявілі саюз рабочага класа з серадняком, пры апоры на беднату і ў барацьбе з кулаком.

Маркс далей крытыкуе пункт праграмы за адсутнасць указання аб абавязках германскага пролетарыята ў адносінах да сусветнага рабочага руху і сусветнай пролетарскай рэволюцыі.

Замест сумеснай барацьбы ўсяго сусветнага пролетарыята, супроць сусветнага капіталізма, праграма ў духу Ласаля гаворыць толькі аб барацьбе нямецкага пролетарыята ў рамках нямецкай дзяржавы і ў духу буржуазных праграм аб міжнародным брацтве народаў.

Таму Маркс павінен быў напомніць, што «Бісмаркаўская «Паўночна-Германская газета» мела поўнае права абвясціць, к прыемнасці свайго гаспадара, што германская рабочая партыя ў новай сваёй праграме адраклася ад інтэрнацыяналізма» (там-жа, стар. 446).

Вывад: крытыка Маркса ўскрывае сапраўднае становішча рабочага класа ў капіталістычным грамадстве, немінучасць дыктатуры пролетарыята і соцыялізма, выяўляе саюзнікаў пролетарыята, рэзка адзначае інтэрнацыянальны характар рабочага руху і ўказвае шляхі ажыццяўлення комуністычнага грамадства.

У другой главе Маркс падвяргае крытыцы ласалеўскі жалезны закон заработнай платы, які папаў у Гоцкую праграму.

Пропаведзь гэтага закона сведчыла аб поўным тэарэтычным невуцтве як самога Ласаля, так і яго староннікаў. Маркс задоўга да 1875 года даказаў, што ўсе грамадскія законы гістарычны, не вечны і што на вечнасці законаў капіталізма настойваюць буржуазныя вучоныя.

Буржуазныя эканамісты і Ласаль даказвалі, што зарабстная плата рабочага ёсць плата за працу і што таму яна справядліва і не можа павышацца. Маркс даказаў, што рабочы атрымлівае плату не за працу, а за рабочую сілу, а рабочая сіла наёмнага рабочага на капіталістычным прадпрыемстве вытварае больш таго, што рабочаму выплачвае капіталіст. Гэта ўпершыню даказаў Маркс. Іменна эксплаатацыя рабочага і складае аснову капіталістычнага ладу. Гэта адкрыцце мела агромнае практычнае значэнне і ў тым сэнсе, што Маркс кіраваў барацьбой пролетарыята за павышэнне заработнай платы, бачачы ў гэтым адзін з важнейшых бакоў класавай барацьбы пролетарыята. Па праграме выходзіла, што рабочаму змагацца за павышэнне заработнай платы нельга, бо гэта значыла-б змагацца супроць законаў самой прыроды. Зразумела, што такое разуменне было на руку капіталістам.

Цяпер пяройдзем да пытання аб тым, як-жа прадпалагала Гоцкая праграма практычна вырашыць рабочае пытанне,—устараніць соцыяльную няроўнасць?

Праграма ракамендуе арганізаваць прадукцыйныя таварыствы пры дапамозе дзяржавы і «пад дэмакратычным кантролем працоўнага народа».

Маркс жорстка высмейвае паўнейшую тэарэтычную бяспомачнасць праграмы і ў гэтым пытанні.

Толькі класавая барацьба, накіраваная супроць буржуазнай дзяржавы і даведзеная да дыктатуры пролетарыята—вось шлях вырашэння соцыяльнага пытання. Пакуль існуе капіталізм астаецца наёмнае рабства, а з ім прадаўжае існаваць буржуазная дзяржава, якая мае задачай падаўляць рабочы клас.

Усякія фразы аб дэмакратычнай, народнай дзяржаве ва ўмовах наёмнага рабства—сплашны абман у адносінах працоўных. І пашырэнню гэтага абману дапамагаў Ласаль. Недарма сучасныя соцыялфашысты даказваюць, што ў пытаннях дзяржавы праў быў Ласаль, а не Маркс.

Крытыка 4-га раздзелу праграмы прадстаўляе найбольшы інтарэс, бо тут Маркс дае разгорнутую формулу дыктатуры пролетарыята.

Чаго патрабавала праграма? Свабоднай дзяржавы, як асновы для развіцця грамадства. Дзяржава разглядаецца як нейкая самастойная сутнасць, незалежная ад тых або іншых грамадскіх адносін. Таму, гаворачы аб свабоднай дзяржаве, праграма разумела дзяржаву з парламенцкім рэжымам, зусім не падазраючы, што яна і ёсць буржуазная дзяржава, якая пакоіцца на буржуазных грамадскіх адносінах.

**Няма свабоднай дзяржавы, а ёсць дзяржава як зброя ў руках аднаго класа супроць другіх класаў—вось пазіцыя Маркса.**

Самая што ні на ёсць дэмакратычная дзяржава пры капіталізме ёсць буржуазная дзяржава, прыгнятаючая рабочы клас. Патрабаванне ў праграме партыі свабоднай дзяржавы азначала паўнейшае неразуменне ролі пераходнага перыяду ад капіталістычнага грамадства к комуністычнаму, поўнае неразуменне таго, як павінна адбыцца перастварэнне капіталізма ў соцыялізм.

«Паміж капіталістычным і комуністычным грамадствам,—піша Маркс,—ляжыць перыяд рэволюцыйнага пераўтварэння першага ў другое. Яму адпавядае і палітычны пераходны перыяд, і дзяржава гэтага перыяду не можа быць ні чым іншым, апрача як **рэволюцыйнай дыктатурай пролетарыята**. Праграма-ж не займаецца ні гэтай апошняй, ні будучай дзяржаўнасцю комуністычнага грамадства». (стар. 451).

Не толькі буржуазныя тэарэтыкі, але і ўсе меншавікі ўсякімі спосабамі скажалі і скажаюць гэтыя ясныя ўказанні Маркса.

Вось як выглядае, напрыклад, у Каўцкага пераходны перыяд ад капіталізма к соцыялізму ў адносінах палітычнага ладу.

Па яго словах «паміж часам чыста буржуазнага кіраўніцтва і чыста пролетарскага кіраўніцтва дэмакратычнай дзяржавай знаходзіцца перыяд пераўтварэння адной у другую. Гэтаму адпавядае таксама і палітычны перыяд, урад якога, як правіла, будзе формай кааліцыйнага ўрада». Так пісаў ён у 1922 годзе.

Адсюль зусім зразумела, чаму соцыял-фашысты павінны былі зрабіцца абаронцамі фашысцкага ладу, чаму яны нясуць адказнасць за тое, што фашызм часова перамог у Германіі і іншых краінах. З другога боку, неабходна супаставіць марксава палажэнне аб дыктатуры пролетарыята хоць-бы з артыкулам Леніна «Аб эканоміцы і палітыцы ў эпоху дыктатуры пролетарыята» (3-яе выд., т. XXIV), каб з усёй відавочнасцю выявіць, што Ленін не толькі аднавіў вучэнне Маркса аб дыктатуры пролетарыята, але развіў гэта вучэнне, прэтварыў яго ў жыццё.

Вывучэнне «Крытыкі Гоцкай праграмы» павінна суправаджацца вывучэннем адпаведных работ Леніна і Сталіна.

Астатнія пытанні, закранутыя крытыкай Маркса, як ён і сам падкрэслівае, не з'яўляюцца істотнай часткай праграмы. Але яны характэрны ў тых адносінах, што паказваюць, як праграма трактавала рад патрабаванняў рабочага класа, ажыццявімых яшчэ ў рамках капіталістычнай дзяржавы. Гэта адносіцца да свабоды навукі, нармальнага рабочага дня, абмежавання жаночай і забароны дзіцячай працы і т. д. Крытыкуючы пастаноўку ўсіх гэтых пытанняў у праграме Маркс паказвае, як пытанні барацьбы за 8-гадзінны рабочы дзень, за злучэнне прадукцыйнай працы дзяцей з іх абвучэннем і інш. павінны быць звязаны з ясным і адчотлівым разуменнем асноўных задач барацьбы рабочага класа за звяржэнне буржуазнага ладу.

«Крытыка Гоцкай праграмы» Маркса прадстаўляе выключна важны праграмны дакумент, які ў разгорнутым выглядзе ўстанаўляе задачы пераходнага перыяду і шляхі ажыццяўлення комунізма. Гэты дакумент меў выключнае значэнне для лёсаў рэволюцыйнага рабочага руху, ён адыграў выключную ролю ў далейшай распрацоўцы Леніным і Сталіным пытанняў пролетарскай дыктатуры.

З усяго ізложанага намі відаць, што ўсе заметкі Маркса прадстаўляюць на рэдкасць цэльны дакумент, які не ўступае любому твору асновапаложнікаў марксізма. Таму вучэнне павінна весціся ад першага да апошняга радка ў паслядоўным парадку. Трэба абавязкова глыбока ўдумвацца ў кожнае слова, бо сціслась ізлажэння звязана з найглыбейшымі мыслямі, агромнае значэнне якіх асабліва вялікае ў свеце нашых задач у справе будаўніцтва соцыялізма.

У якасці неабходнага падручніка павінны быць скарыстаны работы **Леніна**—«Дзяржава і рэволюцыя» і «Эканоміка і палітыка ў эпоху дыктатуры пролетарыята», а таксама работы **Сталіна**—«Аб асновах ленінізма», «К пытанням ленінізма» і раздзел аб партыі ў дакладзе на XVII партз'ездзе, бо яны развіваюць, абагачаюць, уздымаюць на новую вышыню марксавы ідэі прымяніцельна да эпохі дыктатуры пролетарыята.

---

# Барацьба са стратамі пры ўборцы зернавых культур

Уборка ўраджаю з'яўляецца найбольш працаёмкім працэсам сельска-гаспадарчых работ і патрабуе вялікага напружання сіл для своечасовай і без страт яе правядзення.

> «Пленум ЦК ВКП(б) лічыць баявой задачай усіх партыйных і совецкіх арганізацый паспяховае і арганізаванае правядзенне ўборкі і забяспечанне максімальнага збору хлябоў з мінімальнымі стратамі».

І далей:

> «Лічыць важнейшай задачай партыйных і совецкіх арганізацый у 1934 г. разгортванне канкрэтных мер барацьбы са стратамі ва ўсіх працэсах работы (хлебаўборка, скірдаванне, перавозка і захаванне хлеба), для чаго забяспечыць своечасовае скошванне ўсяго паспеўшага хлеба, недапускаць расцяжкі ўкосу хлябоў і ў сувязі з гэтым асыпання зярна, старанна правесці падграбаванне каласоў, устаноўку зернеўлавіцеляў на ўборачных машынах, скірдаванне і перавозку хлеба такім чынам, каб папярэдзіць рассыпанне зярна, устараніць небяспеку падмочкі каласоў у скірдах і копах і ўберагчы тым самым калгасы і соўгасы ад страт зярна» (з пастановы Пленума ЦК ВКП(б) ).

Для таго, каб дабіцца мінімальных страт, трэба правільна расставіць сілы, своечасова пачаць уборку, убраць ураджай у найкарацейшы тэрмін і поўнасцю і правільна скарыстаць уборачныя конныя, трактарныя сельска-гаспадарчыя машыны і прасцейшыя ручныя прылады (касу і серп).

Вопытам устаноўлена, што спазненне з уборкай на адзін дзень прыводзіць да асыпання не менш 1 проц. ураджаю зярна, што складае толькі па адной БССР больш 20 тыс. тон зярна.

Па саюзу страта 1 проц. зярна складае мільёны тон.

Апрача страт ад асыпання не меншыя страты могуць атрымацца з-за няправільнай арганізацыі работ і няўмелага прымянення і скарыстання ўборачных машын. Як і тыя, так і другія страты, безумоўна, можна і патрэбна ўстараніць шляхам прымянення арганізацыйных і тэхнічных мер барацьбы, якія даступны кожнаму калгасу, МТС і соўгасу.

Поспех барацьбы за высокую якасць работы, за сціслыя тэрміны ўборкі, а стала быць і поспех усёй гадавой барацьбы за высокі ўраджай у вельмі вялікай ступені будуць рашаць машына і конь.

Без добра адрамантаванай і правільна адрэгуляванай машыны, без моцнага, добра падрыхтаванага каня, без арганізацыі правільнага

скарыстання трактара і каня і іх найлепшага спалучэння, без уліку і выкарыстання прасцейшага сельска-гаспадарчага ўборачнага інвентара, без пабудовы прасцейшых прыспасабленняў да ўборачных машын немагчыма быстрае, своечасовае і без страт правядзенне ўборкі ўраджаю.

Барацьба са стратамі—ёсць барацьба за ахову грамадскай соцыялістычнай уласнасці, барацьба за соцыялістычныя адносіны да грамадскай маёмасці, барацьба за выкананне абавязацельстваў перад дзяржавай, барацьба за ўсямернае арганізацыйна-гаспадарчае і палітычнае ўмацаванне калгасаў.

Шырокім разгортваннем соцыялістычных метадаў работы сярод калгаснікаў, рабочых соўгасаў і МТС, самым поўным скарыстаннем уборачных машын і шырокім прымяненнем касы і сярпа, у самыя сціслыя тэрміны і без страт правядзем уборку ўраджаю і датэрмінова выканаем абавязацельствы перад дзяржавай.

Барацьба са стратамі і раскраданнямі ў калгаснай вытворчасці, асабліва ва ўборачную кампанію, з'яўляецца адказным участкам класавай барацьбы. Толькі кулак і яго агентура могуць гаварыць аб няззначнасці і немінучасці страт ураджаю ў часе ўборкі.

Кулацкім тэндэнцыям трэба даць самы рашучы, самы сакрушальны адпор.

Мабілізацыя шырокіх мас рабочых соўгасаў, МТС і калгаснікаў на барацьбу са стратамі дасць соцыялістычнай дзяржаве дадаткова мільёны тон ураджаю.

## Арганізацыйныя і агратэхнічныя мерапрыемствы па барацьбе са стратамі

### 1. Нагляд за паспяваннем хлеба і размяркаванне ўборачных машын

Уборку хлеба трэба пачынаць па меры паспявання паасобных участкаў яго, не чакаючы выспявання ўсяго поля. Таму неабходна арганізаваць нагляд за ходам паспявання хлеба.

Паспяванне хлеба на ўзвышаных месцах ідзе больш быстра, чым на роўным месцы ці тым больш на паніжаных. На паўднёвых і заходніх схілах хлеб паспявае быстрэй, чым на паўночных.

На пяшчаных і супяшчаных глебах (якія маюць менш вільгаці і спажыўных матэрый) паспяванне ідзе быстрэй, чым на глебах глiністых і чорназёмных.

Калі поле ўгнойвалася азот-утрымліваючым угнаеннем (стойлавы гной, лубін, серна-кіслы амоній і інш.), то паспяванне хлеба некалькі замаруджваецца.

Калі-ж поле ўгнойвалася фосфар-утрымліваючым угнаеннем (суперфасфат, томасшлак, касцяная мука і інш.), то паспяванне зернавых культур некалькі паскараецца.

На засмечаных палёх сарнякі замаруджваюць паспяванне зернавых культур.

Раннія пасевы ўсіх культур паспяваюць хутчэй, чым познія. Пры звышранняй сяўбе паспяванне наступае раней звычайнага на 3—5 дзён і нават больш.

Сухое надвор'е паскарае паспявання.

Адначасова з нагляданнем за паспяваннем хлябоў (а гэта значыць і ўстанаўленне пачатку ўборкі іх), неабходна выявіць асаблівасці хле-

бастою па паасобных участках (роўнамернасць паспявання, палегласць, ураджайнасць, вышыня, засмечанасць і т. д.).

Па даных, атрыманых у рэзультаце назіранняў, не пазней чым за дзесяць дзён да пачатку **ўборкі трэба ўдакладніць** размеркаванне плошчы ўборкі паміж паасобнымі відамі ўборачных машын (паміж жняяркамі, снопавязалкамі, лобагрэйкамі, камбайнамі і ручной уборкай), унесці ў рабочыя планы змены ў расстаноўцы людзей і машын, перамяшчэннях іх з участка на ўчастак і давесці аб зробленых зменах да ведама брыгад і калгаснікаў.

Правільная арганізацыя скарыстання ўборачных машын дае магчымасць правесці ўборку ў тэрміны, патрабуемыя агратэхнікай, якія маюць рашаючае значэнне ў барацьбе са стратамі ўраджаю.

## Калі трэба пачынаць уборку паасобных участкаў

Уборку зернавых каласавых культур жняяркамі, снопавязалкамі, лобагрэйкамі і віндроўэрамі пачынаюць у стадыі васковай спеласці. Пры васковай спеласці зярно жоўтае, як воск, лёгка рэжацца ногцем, але не мае ў сабе малочнай вадкасці, якая характэрна для папярэдняй стадыі спеласці (так званай малочнай стадыі). К часу васковай спеласці зярно ў поўнай меры накапляе пажыўныя матэрыі, поўнасцю фармуецца і ў далейшым траціць толькі ваду.

Пры дастаткова паспеўшым хлебе, калі процант вільготнасці зярна не перавышае 16—17 проц., убіраць можна і камбайнамі. Уборка камбайнамі скарачае страты ў два-тры разы, у параўнанні з членападзельнай уборкай іншымі відамі машын.

Уборку камбайнам можна праводзіць і пры васковай спеласці зярна, але тады прыходзіцца яго (камбайн) падзяляць: віндроўэрам (жняяркай) хлеб зразаецца і кладзецца ў радок (валок), які пасля прасушкі падбіраецца спецыяльным падборшчыкам—пікапам, прыстасаваным да камбайна і абмалачваецца ў часе праходу апошняга па полю.

Уборку ўсіх зернавых культур неабходна правесці ў тэрміны, вызначаныя ўрадам, дабіваючыся скарачэння гэтых тэрмінаў.

## Уборачным машынам падрыхтаваць людзей і замацаваць за імі машыны

На ўборачных машынах павінны працаваць добра падрыхтаваныя кадры работнікаў.

Таму трэба загадзя праверыць ці замацаваны сельска-гаспадарчыя машыны і цягло за калгаснікамі і рабочымі соўгасаў і МТС. Нельга дапускаць абязлічку ў кіраванні машынамі і ў справе падрыхтоўкі іх да работы, таксама нельга дапускаць прымацавання да машын класава-варожых нам элементаў. Трэба загадзя правесці спецыяльны інструктаж, курсы і пробныя выезды рабочых, якія рыхтуюцца працаваць на ўборачных машынах. Адначасова неабходна правесці праверку зручнасці ўведзеных прыстасаванняў (зернеўлавіцеляў і інш).

У рэзультаце праведзеных пры першым выездзе назіранняў кожнай брыгадзе трэба даць канкрэтную інструкцыю аб тым, як (у якіх умовах і пры якіх асаблівасцях хлебастою) рэгуляваць рабочыя органы той ці іншай машыны.

## Выбар участкаў і арганізацыя ўборкі машынамі

Самыя роўныя і чыстыя ўчасткі патрэбна адвесці для ўборкі трактарнымі машынамі, а ўчасткі з няроўным рэльефам, засмечаныя, з палеглым і пераблытаным хлебам—для ручной уборкі і ўборкі прасцейшымі коннымі машынамі.

Каб унікнуць агрэхаў, звязаных з імі страт і павялічыць прадукцыйнасць работы машын, трэба старацца накіроўваць апошнія па як мага прамых лініях, загадзя падраўноўваць краі палёў, памяншаць колькасць паваротаў. Для гэтай-жа мэты неабходна абкашваць вуглы (каб стварыць найбольш акруглы паварот уборачных машын).

Размяшчэнне рабочага ўчастка павінна быць выбрана па магчымасці такое, каб напрамак руху ўборачных машын ў найбольшай ступені супадаў з напрамкам пластоў узворвання.

Уборка хлеба па напрамку нахілу каласоў і іх палягання вядзе да дрэннага зрэзу і забівання часткі сцяблоў пад платформу. Таму ўбіраць трэба так, каб рух уборачных машын у большасці ішоў пад вуглом супроць напрамку і нахілу або палягання каласоў.

### Рабочы загон

Выбар загону для работы ўборачных машын мае вялікае значэнне. Правільны загон змяншае страты зярна, спрашчае абслугоўванне машын і іх агрэгатаў, знішчае лішнія халастыя пераезды.

Каб выбраць загон неабходна вызначыць яго размеры і канфігурацыю.

У практыцы работ размеры загону не з'яўляюцца пастаяннымі, а мяняюцца ў залежнасці ад раду акалічнасцей. Размер загону павінен быць разлічан не менш чым на дзённую прадукцыйнасць працуючых на ім машын або агрэгатаў.

Прадукцыйнасць коннай жняяркі за рабочы дзень складае 5—6 **га**, трактарнай снопавязалкі—9—11 **га**, віндроўэра—15 **га**, камбайна «Комунар»—12—15 **га**.

Некалькі конных машын (2—3) могуць працаваць у сцэпцы з трактарам. Указаныя паказчыкі прадукцыйнасці работы машын могуць легчы ў аснову пры выбары рабочага загону.

### Вязка ў снапы і прасушка

Пасля зразання жняяркамі і лобагрэйкамі хлеб неабходна звязаць у снапы. Снапы павінны быць звязаны туга і трывала, каб не рассыпаліся пры капненні і перавозках. Вязку снапоў неабходна рабіць неадкладна за жынаннем. Калі збожжа недастаткова прасохла або вельмі засмечана, вязку снапоў неабходна рабіць пасля прасыхання, але ў дзень зразання з кораня. Звязаныя снапы ставяцца ў бабкі, або кладуцца ў крыжыкі, сценкі і т. д. Ставіць снапы ў бабкі і класці ў крыжыкі трэба так, каб ніжнія снапы датыкаліся да зямлі толькі камлямі, а ні ў якім выпадку ні каласамі. Каласы не павінны выступаць з бабкі наповерх. Зверху бабка або крыжык пакрываецца снопам так, каб іх не прамачыў дождж. Пераносіць снапы трэба асцярожна. Нельга цягнуць іх за перавёсла, моцна кідаць і ставячы раўняць камель і стукаць ім аб зямлю. Пасля зноскі снапоў поле трэба старанна падгрэбці коннымі або ручнымі граблямі.

Трымаць доўгі час снапы ў бабках непатрэбна. Як толькі яны прасохнуць, трэба зараз-жа прыступіць да іх перавозкі і абмалоту. У выпадку прамакання снапоў у бабках трэба забяспечыць своечасовую пераукладку і прасушку іх.

## Звозка снапоў і скірдаванне

З мэтай папярэджання страт пры перавозцы снапоў, іх трэба перавозіць на павозках з непранікальнай падлогай (драўляны насціл, брэзент, рагожа і т. п.). Услед за нагрузкай кожнай бабкі або крыжыка на павозку, абавязкова трэба падгрэбці каласы ручнымі граблямі.

Калі няма памяшкання для захавання снапоў, іх неабходна скірдаваць. Месца для скірдавання павінна быць загадзя выбрана на роўным узгорку і своечасова ачышчана ад травы і смецця.

Хлеб розных сартоў або з участкаў, заражаных грыбнымі захворваннямі (галаўнёй і інш.), павінен быць заскірдаван у паасобныя скірды.

Пачынаць скірдаванне патрэбна ў добрае надвор'е і праводзіць яго ў найкарацейшы тэрмін.

Размер скірд раіцца наступны: шырыня 5 мтр., даўжыня 12—15 мтр., вышыня 5—6 мтр. Скірды лепш ставіць парамі і на пэўнай адлегласці адна ад другой, якая павінна даць магчымасць паставіць паміж імі малатарню і падаваць снапы да яе без падвозкі.

Адлегласць паміж парамі скірд (у выпадку групавога іх размяшчэння) павінна быць не менш чым 50 метраў.

Перад укладкай снапоў у скірды ў аснаванне яе неабходна палажыць галлё, а потым салому, каб захаваць ніжнія снапы ад сырасці і псавання.

Сярэдзіна скірды ва ўвесь час кладкі яе павінна быць вышэй краёў. Падаваць снапы на скірды трэба асцярожна, не дапускаючы асыпання зярна. Вяршына (страха) скірды павінна быць са схілам, роўнай (без усякіх упадзін) і пакрыта саломай. Такая вяршына забяспечвае быстры сток вады.

У часе скірдавання неабходна мець у запасе салому, на выпадак пакрыцця скірды ад летніх невялікіх дажджоў. Калі дажджавая вада ўсё-ж такі прамочыць снапы незакончанай складаемай скірды, то гэтыя снапы трэба зняць, прасушыць і толькі тады зноў лажыць у скірду.

Увесь раскіданы колас ў часе скірдавання трэба падгрэбці граблямі і ўлажыць у скірду. Калі-ж у скірду зацячэ дажджавая вада, то неабходна зрабіць больш шчыльную ўкладку гэтага месца пры дапамозе папярэдне прасушанай саломы, прасушыўшы і самую скірду. Пасля ўкладкі скірды яе трэба акапаць вадаадводзячай канавай і абараць.

## Ахова ўраджаю

Каб папярэдзіць шкодніцтва з боку класавага ворага і раскраданне збожжа як на корані, так і пры ўборцы ўраджаю, неабходна арганізаваць найстражэйшы ўлік і забяспечыць ахову ўраджаю. Для гэтага праўленне калгаса не пазней, чым за 10—15 дзён да паспявання ўраджаю вылучае аб'езчыкаў, якія падначальваюцца старшыні калгаса. На абавязку аб'езчыкаў ляжыць аб'езд палёў калгаса па ўсіх брыга-

дах і праверка вартаўнікоў па ахове хлеба, якія вылучаюцца кожнай брыгадай.

Для аховы хлеба на корані брыгадзір кожнай брыгады вылучае спецыяльна дзенных і начных вартаўнікоў, якія ахоўваюць пасевы і снапы ўчастку брыгады.

Адказнасць за работу вартаўнікоў па ахове ўраджаю нясе брыгадзір. Для аховы ўраджаю каля малатарні арганізуюцца дзве змены вартаўнікоў, якія вядуць кругласутачную ахову.

Побач з найстражэйшай аховай ураджаю праўленні калгасаў і дырэктары МТС павінны забяспечыць дакладны ўлік усяго атрыманага збожжа, пачынаючы з першай стадыі ўборкі. Рэзультаты жніва кожнай культуры павінны быць дакладна ўлічаны па кожнай паасобнай культуры.

Для правядзення ўліку ўраджаю пры малацьбе да кожнай малатарні павінен быць прызначан спецыяльны вагаўшчык.

Кожная адпраўка зярна павінна суправаджацца накладной з указаннем культуры, віду і колькасці зярна і асобы, адказнай за дастаўку яго ад малатарні да ссыпных пунктаў і свірнаў калгаса. У выпадку разыходжання паміж колькасцю і відам (сортам) адпраўленага і дастаўленага возчыкам зярна, вагаўшчык або брыгадзір павінны скласці акт для прыцягнення віноўнага да адказнасці.

## Устаноўка і рэгуліроўка паасобных механізмаў уборачных машын

**Рэжучы апарат.** Перад работай на кожнай уборачнай машыне неабходна праверыць устаноўку рэжучага апарата. Рэжучы апарат добра працуе і не пакідае ў полі нязрэзаных каласоў толькі пры наступнай устаноўцы:

1. Пры пастаноўцы шатуна ў крайняе правае або левае палажэнне сярэдзіны сегментаў нажа павінны супадаць з сярэдзінамі пальцаў.

2. Пальцы ножавага бруса павінны ляжаць на аднолькавай адлегласці адзін ад другога і быць паралельны паміж сабою. Пласцінкі пальцаў павінны ляжаць у адной роўніцы.

Размяшчэнне пласцінак пальцаў правяраецца нацяжэннем ніткі па пальцавых пласцінках удоўж пальцавага бруса. Калі некаторыя пласцінкі акажуцца ніжэй, то пальцы лёгкімі ўдарамі малатка трэба адагнуць (падняць) уверх. Пальцы, пласцінкі якіх падымаюць нітку, трэба апусціць уніз. Калі нітка будзе датыкацца толькі аднаго боку (краю) пласцінкі, то палец трэба павярнуць разводным ключом.

3. Пры ўборцы сырога або засмечанага хлеба ставіцца гладкі нож. Для работы на сухім, добра паспеўшым хлебе нажы ставяцца з насечкамі.

4. На адтачванне сегментаў трэба звярнуць сур'ёзную ўвагу. Сегменты нажа павінны быць заўсёды вострымі. Нельга дапускаць работы з затупіўшыміся і вельмі зношанымі сегментамі. Тупыя сегменты робяць цяжкім ход машыны, пакідаюць нязрэзанымі каласы і даюць штуршкі, якія выбіваюць зярно са зразаемых каласоў. Таму, чым больш востры нож, тым лепш і без страт будзе працаваць уборачная машына.

Нажы точаць на спецыяльным тачыльным апараце, або на звычайным тачыле.

**Платформа жнявяркі самаскідкі.** Палеглы хлеб самаскідкай трэба ўбіраць толькі насустрач і папярок палегласці, бо пры ходзе ма-

шыны па напрамку палегласці хлеб дрэнна падаецца на платформу, ад чаго атрымліваюцца пропускі і страты яго.

Пры рабоце на роўным, сярэднім і нават нізкім хлебе платформу неабходна ставіць гарызантальна. Нахіл яе ўперад выклікае спаўзанне каласоў на нож, пераразанне іх і страты. Толькі пры ўборцы нізкага, вельмі палеглага хлеба платформу трэба апускаць як мага ніжэй і нахіляць уперад па ходу машыны.

**Грабельны апарат.** Вялікае значэнне ва ўстараненні страт у жняярках самаскідках мае правільная ўстаноўка грабельнага апарата.

1. Грабельны апарат павінен нахіляць каласы к нажу і час ад часу скідаць іх з платформы.

2. Граблі павінны быць устаноўлены так, каб, скідваючы хлеб, яны не задзявалі бартоў і не скрэблі насцілу платформы.

Пры рэдкім хлебе граблі можна прыпадняць вышэй.

3. Пры рабоце на стаячым хлебе граблі павінны апускацца над лініяй нажа. Пры рабоце на палеглым хлебе апусканне грабель павінна быць уперадзе лініі нажа.

4. У залежнасці ад густаты хлеба для захавання аднолькавага размеру снапоў неабходна перастаўляць рэгулятар лічыльніка грабельнага апарата.

5. Лічыльнік трэба ўстанаўляць так, каб на платформе набіралася колькасць каласоў, дастатковая для звязвання снапа. Пры гэтым трэба сачыць, каб каласы не скатваліся на нож і зямлю і скідванне не было надта цяжкім для грабель.

6. На паваротах, як правіла, хлеб не павінен скідацца з платформы, каб не змяць яго трактарам або коньмі пры наступным заездзе.

Пры рабоце на жняярках-самаскідках неабходна абавязкова прымяняць зернеўлавіцелі.

**Матавіла снопавязалкі.** Выключнае значэнне для змяншэння страт хлеба мае правільная ўстаноўка матавіла снопавязалкі.

Яна павінна быць наступнай:

1. Вось матавіла павінна быць заўсёды паралельна пальцаваму брусу і ўстаноўлена на такой вышыні, каб матавіла не біла лопасцямі па каласах і не вымалачвала з іх зярна.

2. Пры нахіленым хлебастою—матавіла трэба ўстанаўляць так, каб яго лопасці не выкідвалі каласоў назад, за машыну або ўперад матавіла.

3. Пры высокім і прамым хлебе матавіла трэба ўстанавіць на такой вышыні, каб лопасці захватвалі ніжэй каласоў на 15—20 см. Матавіла ў такім выпадку павінна быць устаноўлена з некаторым, не вельмі значным, вынасам уперад.

4. Пры нізкім і рэдкім хлебе матавіла трэба апусціць у больш-менш ніжняе палажэнне і паставіць бліжэй да нажа.

5. Пры густым, блытаным і нізкім хлебе матавіла неабходна апусціць у самае ніжняе палажэнне і наколькі магчыма наблізіць да нажа.

6. Пры хлебе палеглым насустрач хода машыны матавіла неабходна ўстанавіць у ніжняе палажэнне на лініі нажа.

7. Пры нахіле хлеба ўдоўж па ходу машыны матавіла трэба выносіць уперад і апускаць.

8. Пры ходзе машыны папярок палегласці хлеба—матавіла павінна быць ўстаноўлена нармальна, у залежнасці ад фактычнай вышыні хлеба.

9. Пры ўборцы ўпаўне паспеўшага хлеба, каб унікнуць выбівання зярна матавілам, планкі яго неабходна абіць брэзентам або палатном.

10. Пры ветры, ад якога хлеб нахіляецца, матавіла трэба ўстанаўляць такосама, як і для палеглага хлеба, у залежнасці ад напрамку ветра.

11. Пры ўборцы вельмі палеглага хлеба на пальцы нажавога бруса трэба ўстанаўляць пад'ёмныя прыстасаванні—ліфцёры.

Правільная ўстаноўка і рэгуліроўка матавіла забяспечвае бесперабойную работу ўборачных машын, павялічвае іх прадукцыйнасць і зніштажае страты зярна ў полі.

**Ветраны і дзяліцельны шчыт і валікі палотнаў транспарцёра і элеватараў.** Устаноўка ветранога шчыта робіцца перастаноўкай яго адпаведна вышыні хлеба.

Дзяліцельны шчыт неабходна ўстанавіць так, каб ён правільна аддзяляў зжынаемы хлеб ад незжынаемага.

Для знішчэння страт хлеба ад выкідвання каласоў ў поле, на палявым баку транспарцёра платформы снопавязалкі трэба ставіць абаронныя борцікі.

Неабходна правяраць палажэнне валікаў транспарцёра. Яны павінны быць устаноўлены строга роўналежна і іх ход у падшыпніках павінен быць свабодным.

Нацяжэнне палотнаў з абодвух бакоў павінна быць аднолькавым (каб унікнуць перакосу). Па меры павелічэння густаты хлебастою трэба мацней падцягваць палотны, інакш яны будуць прабуксоўваць і забіваць элеватар хлебам. Асабліва тугое нацяжэнне шкодна, бо яно пацежаляе ход машыны.

Неабходна сачыць за тым, каб ланцугі элеватара і палотны былі правільна надзеты.

**Вязальны апарат.** Рэгуліроўку вязальнага апарата трэба рабіць вельмі старанна, каб стварыць правільнае завязванне вузла і ўнікнуць розвязі, а значыць і страт.

Нязвязванне снапа можа быць па наступных прычынах:

1) дыскавы зажым устаноўлен вельмі слаба, што дазваляе шпагату выслізгваць з яго ў часе вярчэння дзюбы;

2) дыскавы зажым настолькі туга ўстаноўлен, што шпагат праз яго не можа прасоўвацца, ад чаго разрываецца нітка.

3) іголка не апускаецца ў патрэбнай меры для надзейнага замацавання ніткі ў зажыме;

4) пружына вузлавязацеля зацягнута вельмі туга (дзюба не выпускае шпагату).

Нацяжэнне пружын вузлавязацеля (дзюбы) і зажыму шпагата трэба рабіць паступова і старанна. Нельга паварочваць установачныя вінты адразу на поўны абарот. Такой рэгуліроўкай недахопаў нельга знішчыць. Паварачваць установачныя вінты зараз трэба толькі на чвэрць абароту.

Празмеру нацягваць пружыну вузлавязацеля не трэба—абрываецца нітка.

Перад самым выпускам з завода іголка дакладна ўстанаўляецца на належнае месца і таму перастаўляць яе без асаблівай патрэбы не варта. Толькі ў снопавязалак, якія прапрацавалі больш-менш доўгі час, бывае часам неабходна падаўжаць ход іголкі для таго, каб яна нармальна ўводзіла нітку шпагата ў дыск зажыма.

Для забяспечання добрай вязкі снапоў трэба правільна запраўляць снопавязалку шпагатам, для чаго трэба акуратна звязаць канец шпагату першага клубка з пачаткам другога і абодвы клубкі палажыць

у вядро так, каб пітанне шпагатам ішло з сярэдзіны верхняга клубка, затым шпагат прадзяецца праз рад адтулін у іголку. Снопавязалка лепш працуе тады, калі шпагат дастаткова, але не надта туга, заціснут у зажым пад снопавязальным сталом.

Калі ножычак, які служыць для абразання шпагата, затупіцца, то яго трэба зняць і адтачыць. Калі-ж ён вельмі зработаецца—замяніць новым.

Па стану хлеба неабходна ўстанавіць патрэбную велічыню і тугасць снапа. Велічыня снапа рэгулюецца перастаноўкай адвальнага рычажка, да якога сноп прыціскаецца пад дзеяннем кампрэсараў: пры адсоўванні адвальнага рычажка ў знадворны бок—снапы атрымліваюцца большага размеру, пры падсоўванні яго ўнутр—снапы робяцца меншымі.

Тугасць звязвання снапа рэгулюецца нацяжэннем пружыны таго-ж адвальнага рычага. Пры павелічэнні нацяжэння атрымліваецца больш туга звязаны сноп, пры змяншэнні—слабейшы.

Пры касьбе густога або зблытанага хлеба трэба вязаць не вельмі тугія снапы і меншага размеру, пры прамых сцяблах і сухім хлебе—больш тугія снапы і большага размеру.

Для атрымання роўнага торца снапа неабходна адрэгуляваць работу падбойкі і паставіць шчыток, які трымае сцяблы на неабходнай адлегласці. Пры звычайным хлебе падбойку трэба ўстанавіць як мага бліжэй да пярэдняга боку снопавязалкі. Пры нізкім хлебе падбойку трэба адсунуць к задняму боку снопавязалкі. Гэтага можна дасягнуць пры дапамозе рычага падбойкі, які змешчан каля сядзення рабочага.

## Агульныя правілы барацьбы са стратамі пры рабоце на снопавязалках і іншых уборачных машынах

Вязаць снапы па магчымасці большага размеру, што значна зменшыць страты пры перавозцы і сушцы хлеба.

Снопавязалкі павінны працаваць са снопаносам, які змяншае выбіванне зярна пры падзенні снапоў на зямлю і не раскідае іх па ўсяму полю, а кладзе кучкамі. Трэба поўна нагружаць снопаносы снапамі.

Працаваць на машынах наогул, а на снопавязалках у асаблівасці, павінны кваліфікаваныя рабочыя, якія могуць забяспечыць чоткую работу машын і іх частак, як: вязальнага апарата, элеватара і неабходную рэгуліроўку матавіла і платформы. Усё гэта дасць магчымасць унікнуць страт зярна і прастояў машын.

Трэба правільна і старанна рабіць зборку машын, каб не мець у часе работы ненармальнасцей, выклікаючых страты і астаноўкі ў рабоце.

Неабходна своечасова змазваць машыну і правяраць мацаванне яе частак. У выпадку значнага аслаблення ланцугоў у скопавязалках і пры немагчымасці большага нацяжэння іх перастаноўкай націскных ролікаў, трэба выкінуць адно звяно.

Каб унікнуць страт агрэхамі і павялічыць прадукцыйнасць працы пры рабоце трактарнымі машынамі, рэкамендуецца прымяняць **маркёры.** Маркёр прадстаўляе сабой дзеравяны стрыжань, даўжыня якога павінна быць роўна патрэбнай адлегласці трактара ад хлебастою. Адзін канец стрыжня ўмацоўваецца да ніжніх сценак радыятара трактара, а на другі канец падвешваецца ланцуг. Каб зменшыць на-

пружание вока ланцуг мэтазгодна афарбаваць у чырвоны колер. Пры руху трактара маркёр павінен трымацца на весу, а ланцуг чаўзці ў самага хлебастою.

Для знішчэння страт каласоў пры рабоце на палеглым хлебе трэба прымяняць коласпад'ёмнікі (ліфцёры).

## Як пабудаваць і прыстасаваць зернеўлавіцель да жняяркі-самаскідкі

Барацьба са стратамі не была-б поўнай без прымянення зернеўлавіцеляў, якія даюць агромныя рэзультаты і якімі, згодна пастановы ўрадавых органаў, снопавязалка, таксама як і іншыя ўборачныя машыны, павінна быць абсталявана ў абавязковым парадку.

Зернеўлавіцель, які прапануецца інструкцыяй (1933 г.) саюзнага Наркамзема, прадстаўляе сабой дзеравяную скрынку вышынёй у 75 мм. і таўшчынёй ад 15 да 20 мм.

Скрынка зернеўлавіцеля з тарцовай сценкі падвешваецца пад дном платформы да дзеравянага бруса на двух жалезных устаноўках (кранштэйнах), сагнутых як літара «Г». Другі канец скрынкі зернеўлавіцеля ў канцы платформы замацоўваецца двума балтамі. У платформе жняяркі паміж краем яе абрэзу і другім ніжнім, замацоўваючым платформу, брусам—над зернеўлавіцелем прасвердліваюцца ў шахматным парадку круглыя дзіркі, дыяметрам ад 12 да 15 мм, на адлегласці ў 15 см адна ад другой. У тых месцах платформы, дзе праходзяць брусы, дзіркі не робяцца. Краі дзірак зверху павінны быць зачышчаны і закруглены напільнікам так, каб не было заўсёніц. Пасля таго, як скрынка зернеўлавіцеля падвешана да платформы, неабходна прасеў паміж ім і платформай з усіх бакоў, апрача тарцовай, закрыць дошкай. З тарцовага боку прасвет закрываецца дзеравянай дошкай, да якой падвешваецца скрынка зернеўлавіцеля.

Другі варыянт зернеўлавіцеля распрацован Беларускай машынадаследчай станцыяй к уборачнай кампаніі 1933 г.

Зернеўлавіцель прадстаўляе сабой прамавугольную скрынку, зробленую з дошак таўшчынёю ў 10—12 мм.

Асноўныя размеры гэтага зернеўлавіцеля наступныя: даўжыня—1 380 мм, шырыня—300 мм, вышыня—100 мм.

Для ачысткі зернеўлавіцеля ад сабранага хлеба ў пярэдняй яго сценцы робяцца дзве прамавугольныя адтуліны, размерам 150 × 75 мм, якія закрываюцца дзеравянай заслонкай, размерам 780×100×10 мм.

Для адкрывання і закрывання адтулін зернеўлавіцеля ў заслонцы робяцца дзве скураныя або дзеравяныя ручкі.

Заслонка зернеўлавіцеля змяшчаецца ў пазах дзеравяных брускоў. Глыбіня пазоў 10 мм. Размеры брускоў устаноўлены ў 100×32×32 мм.

Апрача ўказаных канструкцый можна таксама прымяніць зернеўлавіцелі, якія маюць 2 скрынкі: адна—прымацаваная да жняяркі і другая—высоўваючаяся першай. Зярно, якое асыпаецца пры ўборцы, збіраецца ў апошняй. Канструкцыя верхняй часткі зернеўлавіцеля такая самая як і папярэдняга.

Дно зернеўлавіцеля таксама дзеравянае і мае размер 1 380× ×300×12 мм.

Зернеўлавіцель павінен быць прымацован да платформы жняяркі наступным чынам:

У задняй частцы платформы ёсць брусок, які злучае дошкі платформы і прыдае ёй жорсткасць. Гэты брусок змешчан ад краю платформы на адлегласці 140 мм. Зернеўлавіцель устанаўляецца да

гэтага бруска шчытна і таму частка зернеўлавіцеля шырынёю ў 140 мм павінна быць пад платформай.

Зернеўлавіцель прымацоўваецца да бруска пры дапамозе вугольніка, які можна зрабіць у любой кузні.

Вышыня калена вугольніка павінна быць роўна адлегласці ад дна скрынкі да бруска платформы. Вугольнік прымацоўваецца да бруска платформы балтамі, якія мацуюцца ў платформе. К дну зернеўлавіцеля вугольнік можа прымацоўвацца цвікамі або балтамі. Адтуліну для балтоў ва ўгольніку трэба рабіць у $^{3}/_{8}$ дзюйма (9—10 мм). Пры прымацаванні цвікамі канец вугольніка рассякаецца на дзве часткі даўжынёй на 70 мм і разгінаецца.

Зверху зернеўлавіцеля, над выступаючай з-пад платформы яго часткай, робіцца рашотка з дзеравяных планак трохвугольнага сячэння.

Адлегласць паміж планкамі і рашоткамі ўстаноўлена ў 17 мм. Планкі прымацоўваюцца цвікамі да скрынкі зернеўлавіцеля.

Праведзеныя назіранні за работай зернеўлавіцеляў гэтай канструкцыі паказалі, што пры рабоце жняяркі з зернеўлавіцелем хлеб з платформы жняяркі скідаўся ўпаўне здавальняюча, не гледзячы на вялікую вышыню ўбіраўшагася жыта.

Указаныя зернеўлавіцелі і прымацаванне іх да платформы ўпаўне здавальняючыя. Тая частка зернеўлавіцеля (размерам 140 **мм**), якая знаходзіцца пад платформай, таксама скарыстоўваецца, павялічваючы аб'ём скрынкі, змяншаючы гэтым самым лік астановак для ачысткі скрынкі.

Для лепшага скідвання хлеба варта даць зернеўлавіцелю невялікі нахіл. Нахіл трэба рабіць такім чынам, каб паміж паверхняй скрынкі зернеўлавіцеля і ніжнім бокам краю платформы быў прамежак у 20—25 мм. Гэта можна зрабіць шляхам адпаведнага адгібу вугольнікаў (кранштэйнаў).

У рэзультаце тых-жа назіранняў устаноўлена, што для роўнага поля вышыня зернеўлавіцеля ўпаўне здавальняюча. Калі-ж убіраемае поле вельмі няроўнае, то ў мэтах папярэджання задзявання скрынкай зернеўлавіцеля частак глебы, вышыню яе неабходна паменшыць да 75 мм, замест 100. Можна таксама замест памяншэння вышыні скрынкі, рабіць зрэз хлеба адпаведна вышэй, падымаючы ўсю платформу.

Калі ў жняярках апошні брусок, які звязвае дошкі платформы, знаходзіцца ў краі платформы на адлегласці менш чым 140 мм, то шырыню скрынкі зернеўлавіцеля неабходна паменшыць на адпаведную велічыню. Напрыклад, адлегласць гэта=100 **мм**, тады шырыня скрынкі павінна быць 160+100=260 **мм.** У агульным шырыня зернеўлавіцеля павінна быць 160 **мм**, плюс адлегласць ад краю платформы да бруска, да якога ён прымацоўваецца.

З прычыны таго, што ў зернеўлавіцель пападае вельмі многа насення сарнякоў, таму зернеўлавіцель з'яўляецца адным са сродкаў барацьбы з сарнякамі. Скарыстанне яго неабходна рэкамендаваць і тады, калі зярно не асыпаецца (сыры хлеб і т. п.).

## Як да снопавязалак прыстасаваць зернеўлавіцелі [1])

Да снопавязалак устанаўляюцца тры зернеўлавіцелі. **Першы** зернеўлавіцель устанаўляецца на стыку платформеннага і элеватарнага палотнаў. У гэты зернеўлавіцель праз прасвет іх пападае зярно, вымала-

[1]) З інструкцыі НКЗ СССР.

чанае пры зрэзе і ад удару матавіла. Зернеўлавіцель прадстаўляе сабой скрынку, зробленую з дзеравяных дошак. Для снопавязалкі завода Ростсельмаш размер скрынкі патрэбен наступны: даўжыня—1 100 мм, шырыня—200 мм і вышыня—70 мм.

Скрынка зернеўлавіцеля падтрымліваецца двума жалезнымі кранштэйнамі, прымацаванымі да рамы снопавязалак. Кожны кранштэйн прымацоўваецца да рамы двума балтамі. У аднаго кранштэйна з пярэдняга боку робяцца вырэзы, куды ўваходзяць закладкі, якія не даюць магчымасці скрынкам зернеўлавіцеля высоўвацца ў часе работы снопавязалкі.

Знізу да кранштэйнаў прымацоўваюцца балтамі ў 6 мм дзве дзеравяныя планкі, па якіх і высоўваецца скрынка для іх ачысткі.

**Другі** зернеўлавіцель устанаўляецца пад прасветам, паміж верхнім канцом элеватарнага палатна і вязальным сталом. Гэты зернеўлавіцель—дзеравяная скрынка з прарэззю вугла ў задняй частцы і скосам вугла ў пярэдняй. Прорэзь у вуглу скрынкі патрэбна для таго, каб прапусціць стойку, праходзячую ад раскосу пад вязальны стол снопавязалкі. Скос вугла ў пярэдняй частцы скрынкі патрэбен для таго, каб прапусціць расцяжку ў пярэдняй частцы снопавязалкі.

Скрынка зернеўлавіцеля прымацавана на двух кранштэйнах ззаду і на адным кранштэйне спераду. З задняга боку адзін кранштэйн прымацоўваецца да скрынкі двума балтамі, а другім канцом апіраецца на папярэчную планку. Другі кранштэйн таксама прымацоўваецца да скрынкі двума балтамі, а другім канцом прымацоўваецца адным балтом да той-жа папярэчнай планкі. У пярэдняй частцы снопавязалкі скрынка зернеўлавіцеля прымацоўваецца кранштэйнам, адзін канец якога прымацоўваецца двума балтамі к дну скрынкі, а другі прымацоўваецца да пярэдняга раскосу снопавязалкі.

Зернеўлавіцель ачышчаецца праз адтуліну ў скошанай частцы скрынкі, якая закрываецца засаўкай, зробленай з ліставога жалеза.

Трэці зернеўлавіцель устанаўляецца на канцы вязальнага стала снопавязалкі. У гэты зернеўлавіцель пападае зярно, вымалачваемае ўпакоўшчыкамі. Зернеўлавіцель прадстаўляе сабой дзеравяную скрынку з фанерным або дашчатым дном. На верхняй, адкрытай частцы скрынкі, набіваюца планкі. Выкідваемы сноп саслізгвае з вязальнага стала і далей па планках, набітых у верхняй частцы скрынкі. Вымалачанае зярно свабодна праваліваецца паміж папярэчнымі планкамі, а сноп звальваецца на снопанос. Скрынка зернеўлавіцеля падвешваецца да вязальнага стала на двух жалезных кранштэйнах. Кранштэйны прымацоўваюцца да ніжняй частцы вязальнага стала двума балтамі кожны. **Для разгрузкі** зернеўлавіцеля скрынка крыху прыпаднімаецца, каб галоўка падвескі магла выйсці ў прорэзь кранштэйна і затым здымаецца.

Да снопавязалак іншых марак робяцца ўсе тры зернеўлавіцеля па тыпу зернеўлавіцеляў да снопавязалак Ростсельмаш з адпаведнай зменай размераў.

## Прыстасаванне конных грабель для барацьбы са стратамі

Пры ўборцы ўборачнымі машынамі страты бываюць і ў выглядзе зрэзанага, але не падабранага коласа. Гэтыя страты можна поўнасцю ўстараніць шляхам зграбання спецыяльна прыстасаванымі для гэтага444 коннымі граблямі.

Каб палепшыць работу конных грабель на зборцы коласа, да іх можна прыстасаваць рухомую дзеравяную планку.

Размер планкі 40×40 мм на ўсю шырыню захвата грабель. Можна таксама падвешваць і дзеравяны валік з дыяметрам, даходзячым да 80 мм. Планка або валікі мацуюцца кольцамі да двух зубоў. Кольцы свабодна рухаюцца па зубах. Каб планка не скідалася з зубоў, яе падвязваюць на двух вяровачках так, каб яна магла свабодна рухацца ўверх, але не даходзіла да зямлі сантыметраў на 6—10.

Другім прыстасаваннем з'яўляецца перапляценне ніжняй часткі зубоў грабель дротам у адзін ці два рады. Лепшыя рэзультаты пры гэтым атрымліваюцца тады, калі счапленне дроту з зубамі будзе свабодным, а не жорсткім, бо жорсткае счапленне затрудняе работу зубоў і ствараe забіванне.

Такія граблі збіраюць 0,5 і больш цнт. зярна з га.

Калі конныя граблі не былі прычэплены ўслед за ўборачнай машынай і хлеб будзе знаходзіцца ў полі не больш 5—7 дзён, то ў даным выпадку зграбанне раскіданых каласоў можна праводзіць пасля сканчэння возкі снапоў, г. зн. пасля скірдавання або перавозкі для абмалоту.

Калі-ж скошаны хлеб прадпалагаецца пакінуць на полі больш доўгі час і граблі не прычапляліся да ўборачных машын, то зграбанне каласоў трэба праводзіць неадкладна пасля складвання снапоў у бабкі або ўкладкі іх у крыжыкі, з тым, каб раскіданыя каласы не асыпаліся, не забіліся зямлёй і не прараслі. Пасля таго, як з поля будуць звезены снапы, граблі трэба пусціць у другі раз.

Пасля праходу грабель на полі могуць астацца кароткія, адламаўшыяся ад саломіны каласы, якія не падграбаюцца ніякімі граблямі. Таму неабходна арганізоўваць ручны збор каласоў, мабілізуючы на гэту справу піянераў, школьнікаў і т. д.

## Малацьба ўраджаю

Каб выканаць у тэрмін абавязацельства па здачы зярна дзяржаве і паменшыць страты ад паядання хлеба мышамі і інш., абмалот хлеба неабходна арганізаваць адначасова з уборкай. Малацьба павінна праводзіцца на добраачышчаным і ўтрамбаваным таку, для якога выбіраецца ўзвышанае і роўнае месца.

Пры ўстаноўцы малатарні і рухавіка неабходна ўлічваць напрамак пануючых у данай мясцовасці вятроў і ўстанаўляць малатарню пад некаторым вуглом да напрамку яго. Вецер, які дуе насустрач саломатрасу, перашкаджае прасоўванню саломы, што адбіваецца на рабоце грохата і веялак, раздзелка вораху будзе ісці няправільна.

Устаноўка малатарні пры напрамку ветра ад рухавіка да малатарні небяспечна ў пажарных адносінах.

Малатарня павінна быць устаноўлена строга ў гарызантальным напрамку як у падоўжным, так і ў папярэчным палажэнні. У адваротным выпадку зярно і сумесь яго з мякінай і збоінай пойдуць не па ўсёй паверхні рэшатаў, а па адной іх палавіне, могуць затрымлівацца на грохаце і рэшатах або збягаць з іх вельмі быстра. Усё гэта прывядзе да вялікіх страт.

Сярэдзіны шківоў рухавіка і малатарні павінны знаходзіцца на адной лініі. У процівапажарных мэтах рухавік неабходна выносіць за межы размяшчэння хлебных скірд.

Пускаць у ход малатарню трэба пасля таго, як яна добра агледжана і ўсе змазачныя прылады правераны. Пры пуску малатарні неабходна пераканацца ў тым, што ўсе часткі малатарні прыходзяць у рух лёгка, нічога нідзе не задзявае і не заціраe.

Пры абмалоце хлеба сярэдняй якасці і вільготнасці для першапачатковай установкі дэкі більных барабанаў можна карыстацца наступнымі данымі: яе адлегласць ад барабана ва ўваходзе—25 мм. у сярэдзіне—15—20 мм і ў выхадзе—5—10 мм.

Гэтымі ўстаноўкамі можна карыстацца толькі спачатку, а канчатковая ўстаноўка дэкі знаходзіцца шляхам рэгуліроўкі яе ў працэсе работы. Для добрай, без страт, малацьбы дэку неабходна ўстанаўляць у такім палажэнні, калі далейшае невялікае ўдаленне яе ад барабана выклікае недамалот.

Пры ўсіх устаноўках дэкі, апошняя павінна быць устаноўлена з кожнага боку на аднолькавай адлегласці ад біл барабана, інакш ствараецца перакос і атрымліваецца недамалот пры адначасовым драбленні зярна.

У дэках штыфтавых барабанаў зубы барабана павінны праходзіць строга па сярэдзіне прамежкаў паміж зубоў дэкі. Для забеспечання апошняга патрабавання перад пускам машыны ў работу трэба праверыць надзейнасць і правільнасць мацавання зубоў. Пагнутыя зубы барабана і дэкі трэба выпраміць спецыяльным ключом або ў крайнім выпадку замяніць новымі.

Падаваць хлеб к барабану можна ўручную або самападавацелем. Подачу ў самападавацель, як і ў барабаны малатарні, неабходна рабіць пасля таго, як барабан атрымаў поўны лік абаротаў.

Незалежна ад спосабу падачы, апошняя павінна быць па магчымасці поўнай, але не дапускаючай перагрузкі барабана і змяншэння быстрыні яго вярчэння. Каб унікнуць страт неабходна адрэгуляваць лік яго абаротаў у залежнасці ад роду ўбіраемага хлеба.

Лік абаротаў барабана пры дыяметры яго блізкім да 0,5 мтр. устанаўляецца, прыкладна, такі: для пшаніцы і жыта 900—1000 абаротаў у мінуту, для ячменю—1000—1100, для аўсу— 800—900. У кожным паасобным выпадку правільна ўстаноўлены лік абаротаў павінен пастаянна захоўвацца, бо змяншэнне або павелічэнне яго цягне за сабой недамалот або драбленне зярна.

Недамалот часта бывае ад зносу зубоў, бічоў і планак дэкі або ад згінання апошніх. Страты ад недамалоту з-за пералічаных прычын можна знішчыць заменай знасіўшыхся частак.

Падача ў барабан павінна быць раўнамернай. Пры ўзмоцненай падачы ў барабан саломатрас так заграмаджаецца саломай, што зярно не паспявае вытрасацца і збягае разам з саломай. У такіх выпадках неабходна зменшыць падачу ў барабан да нармальнай.

Страты зярна ў збоіне бываюць ад перагрузкі грохата ворахам. Перагрузка грохата ворахам атрымліваецца пры малацьбе сухога хлеба. У такіх выпадках неабходна апусціць дэку да магчымых меж (захоўваючы чыстату абмалоту), або зменшыць падачу. Часам прасветы або адтуліны грохата забіваюцца ад няправільнага па хлебу падбору, або калі малы нахіл грохата, або паверхня яго мае дэфекты (пакаробілася).

Не трэба дапускаць збягання зярна з рэшатаў другой веялкі зноў на грохат (што бывае пры няправільным падборы рэшатаў або пры сільным дуцці), бо частка зярна ў гэтых выпадках збягае са збоінай. Праверкай рэшатаў другой веялкі і ўважлівай рэгуліроўкай прасвету вакон вентылятара (раўнамерна з абодвух бакоў) можна спыніць збяганне зярна на грохат.

Страты зярна ў палове атрымліваюцца ад сільнага дуцця вентылятара першай ачысткі. Каб знішчыць гэтыя страты, неабходна зменшыць сілу ветра: прыкрыць вокны вентылятара ў ціхае надвор'е раўнамерна з абодвух бакоў, а ў ветранае —з боку ветра больш.

Страты зярна ад вельмі вялікага нахілу мякіннага рэшата знішчаюцца змяненнем нахілу ў залежнасці ад якасці вораху зярна.

Абмалочаную салому трэба адвозіць і складаць у скірды.

Зярно павінна захоўвацца ў загадзя адрамантаваных, ачышчаных і праветраных свірнах. Для знішчэння свірнавых шкоднікаў робіцца дэзінфекцыя свірнаў (па ўказаннях спецыялістаў па барацьбе са шкоднікамі). Дэзінфекцыі таксама падлягае і ўся тара, у якой перавозіцца зярно,—мяшкі, скрынкі і т. д.

Зярно, якое засыпаецца ў свірны, павінна быць добра прасушана. Калі зярно вільготнае, неабходна прасушыць яго на сонцы, на спецыяльных сушнях, таках, або дадатковым правейваннем і пералапачваннем.

Для папярэджання пажараў вакол малатарнага тока і скірдаў, на адлегласці не менш 8 мтр., паверхня глебы павінна быць ачышчана ад саломы і смецця (узарана), а таксама павінны быць пастаўлены бочкі з вадой, скрынкі з пяском і вогнетушыцелі.

Забараняецца курыць каля тока, скірдаў і малатарань. Трактары і іншыя рухавікі павінны быць забяспечаны іскратушыцелямі.

* * *

Такія далёка не поўныя, але галоўнейшыя моманты ў справе барацьбы са стратамі ўраджаю.

Такія арганізацыйныя і тэхнічныя правілы прымянення і выкарыстання (з пункту гледжання барацьбы са стратамі) найбольш пашыраных у БССР уборачных машын.

«Возьмемся за справу, таварышы, з яшчэ большай энергіяй, з тым, каб сапраўды забяспечыць быструю і без страт уборку ўраджаю і поўнае выкананне абавязацельстваў перад дзяржавай—гэтай першай запаведзі калгасніка» (**Гікало.** З прамовы на III пленуме ЦК КП(б)Б).

**М. Мацэпуро.**

# Аб уборцы ільну

„Зернавыя культуры, перш за ўсё, а з імі—тэхнічныя культуры ад гэтага часу будуць ісці к магутнаму ўздыму цвёрда і ўпэўнена" (Сталін. З адчотнага даклада на XVII з'ездзе ЦК ВКП(б)).

Масавая сяўба ільну ў асноўным закончана 25 мая. План сяўбы выканан на 101,5 проц. Пасля Маскоўскай вобласці БССР заняла па выкананню плана сяўбы ільну **другое месца ў Саюзе.**

Паспяховае завяршэнне сяўбы і палепшанне агратэхнікі стварылі ў гэтым годзе ўсе ўмовы для атрымання добрага ўраджаю ільну. Наша задача заключаецца цяпер у тым, каб поўнасцю сабраць і захаваць ураджай яго.

Трэба ўлічыць тую акалічнасць, што ў гэтым годзе паспяванне зернавых супадае з паспяваннем ільну, таму ўборка і пярвічная апрацоўка яго павінны з'явіцца ўзорам большэвіцкай арганізаванасці. Гэта можна забяспечыць толькі пры стараннай падрыхтоўцы ўсіх машын і людзей, належнай іх расстаноўцы і чоткім аператыўным кіраўніцтве ўсімі вытворчымі працэсамі.

Урокі мінулага года паказалі нам цэлы рад грубейшых недачотаў у рабоце па ўборцы і апрацоўцы ільну: наяўнасць вялікіх разрываў паміж важнейшымі працэсамі работ (церабленне, ачос, абмалот, расціл і мочка), наяўнасць надзвычай вялікіх страт, нізкая якасць прадукцыі, нескарыстанне, а ў радзе месц варварскія адносіны да ўборачных машын.

Так, за ўвесь 1933 г. адной дзейнічаўшай ільнацерабілкай «Комсамолка» было выцераблена ў сярэднім толькі 1,3 га. Гэта гаврыць аб тым, што ў радзе вядучых ільняных раёнаў (Лепельскі, Лёзненскі, Сіроцінскі) поўнасцю ігнаравалі машынізацыю ўборкі, як важнейшае і рашаючае мерапрыемства. Не лепш абстаяла справа і ў галіне барацьбы за якасць валакна і асабліва сартавога насення ільну.

Калі Заходняя Сібір выканала загатоўку селекцыйнага насення ільну на 100 проц., ўсхожасцю ад 80 проц. і вышэй, то БССР, маючы лепшыя магчымасці, выканала план толькі на 97 проц. і частка сартавога насення была загатоўлена ўсхожасцю ніжэй 80 проц.

Тое-ж самае мы бачым і па паасобных ільнанасенбазах. Самы высокі процант выканання плана дала Гарадокская ільнанасенбаза, (97,4 проц.) і самы нізкі—Лёзненская (56,9 проц.). З гэтых паказчыкаў відаць, што ўсё астатняе каштоўнае сартавое насенне загінула.

Правільным вырашэннем асноўных задач падрыхтоўкі да ўборкі і правядзення самой уборкі мы павінны ў гэтым годзе забяспечыць **паспяховыя рэзультаты яе.**

Гэтымі асноўнымі задачамі з'яўляюцца наступныя мерапрыемствы:

а) абавязкова правесці церабленне ільну ў ранняй жоўтай спеласці, а селекцыйнага ільну разрэжаных пасеваў—у жоўтай насеннай спеласці;

б) церабленне ільну ў кожнай гаспадарцы калгаса, соўгаса павінна быць праведзена ў максімальна сціслыя тэрміны, не перавышаючы **8—10 дзён**, а для селекцыйнага разрэжанага ільну—**5—7 дзён;**

в) церабленне кожнага ўчастку праводзіць па меры пасявання, пры чым церабленне селекцыйнага разрэжанага ільну праводзіць выключна ручным спосабам;

г) пасля цераблення ільну, яго неабходна сушыць у шалашах і конусах на працягу не больш 5—6 дзён. Для больш роўнай і быстрэйшай прасушкі ўсёй масы ільну конусы і шалашы з ільном трэба перыядычна паварачваць;

д) пасля сушкі, правёўшы ачос або абмалот, у той-жа дзень разаслаць або замачыць ільносалому.

У барацьбе за якасць ільнапрадукцыі не трэба дапускаць вялікіх разрываў паміж вышэйуказанымі паасобнымі працэсамі ўборкі ільну.

Калі да ўсяго гэтага дабавіць, што разам з уборкай ільну неабходна ўбіраць і зернавыя, то побач з правільнай арганізацыяй працы непасрэдна ў кожнай калгаснай вытворчай брыгадзе і звяне, шырокім прымяненнем індывідуальнай здзельшчыны, пытанні **машынізацыі ўборкі, правільнага скарыстання ўсіх ільнаўборачных і ільнаапрацоўваючых машын** у гэтым годзе, як ніколі, з'яўляюцца адказнейшымі мерапрыемствамі ў барацьбе за паспяховае правядзенне ўборкі, у барацьбе са стратамі, у барацьбе за высокую якасць прадукцыі і своечасовае і, нават, датэрміновае выкананне сваіх абавязацельстваў перад дзяржавай.

Асноўнымі машынамі па ўборцы ільну ў нас з'яўляюцца наступныя: **ільнацерабілка** «Комсамолка» і **шыроказахватная ільнацерабілка** «ВНИЛ—5».

Ільнацерабілак «Комсамолка» да 1934 г. завезена ў БССР каля 1.200 шт. Гэта машына, прымаючы актыўны ўдзел на нашых калгасных палях, поўнасцю сябе апраўдала. Вось паасобныя паказчыкі на 1933 г.: Зубцоўская МТС, Заходняй вобласці, мела ў рэзультаце работы «Комсамолкі» за ўвесь перыяд уборачнай у сярэднім на адну машыну выцерэбленага ільну **16 га**, а Першамайская МТС, Іванава-Прамысловай вобласці,—**32 га.**

У калгасе «Сталіна» і «Маяк», Дрысенскага раёна, ільнацерабілка «Комсамолка» за адзін рабочы дзень церабіла ільну ў сярэднім 1,5 **га**. Такіх фактаў можна прывесці многа. Калі пры ручным церабленні ў сярэднім на 1 га патрэбна 10—12 чал. у дзень, то «Комсамолка» ўбірала гэту плошчу ў 2—3 дні, пры затраце толькі 3 рабочых сіл.

Такім чынам, пры мінімальнай норме, калі кожная «Комсамолка» ў сярэднім выцерабіць ільну за ўвесь перыяд уборачнай не менш **15 га,** то ўвесь парк ільнацерабілак «Комсамолка» ў 1 200 шт. павінен у гэтым годзе забяспечыць церабленне ільну мінімум на 18 тысяч **га,** а гэта значыць, што 170—180 тысяч чалавека-дзён можна скарыстаць на іншай рабоце.

Апрача ільнацерабілкі «Комсамолка» ў гэтым годзе ў церабленні ільну ў Беларусі прымуць даволі значны ўдзел шыроказахватныя

ільнацерабілкі «ВНИЛ—5». Гэтых машын у БССР у 1933 г. завезена 42 і ў гэтым годзе будзе завезена да пачатку ўборкі ільну 160.

Вось якую характарыстыку дае паведамленне аб рэзультатах іспытання гэтай машыны, выпуску 1934 г. Люберэцкага завода, за подпісам прадстаўніка Наркамзема СССР т. Жадаева: «Убрана 19 гектараў. Прадукцыйнасць у рабочы дзень 5 гектараў. Каэфіцыент карыснай работы 75 замест 45 у мінулым годзе. Чыстата цераблення— 99,8 проц. Вытворчых і канструкцыйных дэфектаў пакуль не выяўлена. Іспытанні паказваюць надзейнасць канструкцыі і трываласць яе часткі».

Гэтыя паказчыкі гавораць аб тым, што кожная шырокаазахватная ільнацерабілка пры поўным рабочым дні павінна выцерабіць ільну за ўвесь перыяд уборачнай не менш 75 **га.** Гэта значыць, што машынным спосабам мы ў гэтым годзе толькі шырокаазахватнымі ільнацерабілкамі павінны забяспечыць уборку ільну не менш 14 тыс. га, што дадаткова вызваліць **не менш** 160 тысяч **чалавека-дзён** у нашых ільнаводных калгасах для іншай работы.

Вось у чым сакрэт перамогі на фронце ўборкі, у барацьбе за высокаякасную прадукцыю, у барацьбе са стратамі, у барацьбе за пачэснае месца па датэрміноваму выкананню сваіх абавязацельстваў перад пролетарскай дзяржавай.

Каб забяспечыць выкананне гэтых перамог, найшырэйшым масам калгаснікаў і калгасніц трэба ведаць наступныя агратэхнічныя правілы:

а) для машыннага церабленння неабходна загадзя выбраць участкі з роўнай паверхняй грунту, з непалёгшым і менш засмечаным, выраўненым па даўжыні ільном;

б) арганізаваць у кожным калгасе, МТС праверку гатоўнасці ільнацерабільных машын, зрабіць адрэгуліроўку і абкатку кожнай машыны, а ў шырокаазахватных, завозу 1933 года, унесці канструкцыйныя змены, згодна высланых чэрцяжоў НКЗБ, пад непасрэдным кантролем старшага механіка МТС і агранома;

в) да кожнай ільнацерабілкі прымацаваць на пастаянную работу на ўвесь час уборкі ільну не менш двух добра падрыхтаваных калгаснікаў-ільнацерабільшчыкаў;

г) абавязкова для кожнай ільнацерабілкі прыстасаваць галоўкаўлавіцелі;

д) для ільнацерабілак «Комсамолка», якія прызначаны для работы на конным цягле, трэба прыстасаваць перадок звычайнай павозкі на дзеравяным хаду.

Для работы ільнацерабілкі без снопавязальнага апарата патрэбны **тры кані.** Коняй трэба падбіраць «дружных» і з'езджаных і мець да іх зменных.

е) Ільнацерабільныя машыны павінны скарыстоўвацца не менш 14—16 гадзін у суткі (у залежнасці ад вільготнасці ільну);

ж) прадукцыйнасць «Комсамолкі» пры рабоце на другой скорасці трактара ХТЗ 1,2—1,5 гектара за 10 гадзін. Рабочы захват церабілкі павінен быць скарыстан максімальна і з добрай якасцю работы.

У далейшых працэсах апрацоўкі ільну вялікую ролю павінны адыграць (атрымаўшыя шырокае прымяненне ў нашых калгасах) малатарня «Эддзі» і ільночасальная машына «Гільштэйн».

Прадукцыйнасць малатарні **«Эддзі»** ў дзень 3 500—4 000 снапоў,

Рабочая сіла, прыкладна, размяркоўваецца наступным чынам:

| | |
|---|---|
| падвозка снапоў ільну з поля . . . . | 2 чал. |
| падача снапоў у машыну. . . . . . | 2 „ |
| падноска снапоў падавальшчыку . . . | 2 „ |
| абіўка вязам і сартыроўка снапоў з адноскай іх да машыны. . . . | 2 „ |
| паганяты коняй . . . . . . . . . | 1 „ |
| адвозка снапоў на стлішча . . . . . | 1 „ |
| адграбанне і ўборка вораху . . . . . | 1 „ |
| УСЯГО . . . . . . | 11 „ |

Прадукцыйнасць машыны «Гільштэйн» у дзень 120 коп.

Расстаноўка рабочай сілы наступная:

| | |
|---|---|
| падвозка снапоў з поля . . . . . . | 3 чал. |
| падача снапоў у машыну . . . . . . | 2 „ |
| падача снапоў закладчыку . . . . . | 1 „ |
| адноска і сартыроўка снапоў . . . . | 4 „ |
| падграбанне галовак з-пад барабанаў . . | 1 „ |
| паганяты коняй . . . . . . . . . | 1 „ |
| УСЯГО. . . . . . . | 12 чал., |

з якіх непасрэдна ў машыны працуюць 9 чалавек.

Калі ўлічыць, што гэтыя 9 чал. ручным спосабам змогуць ачасаць у сярэднім 50—60 коп, то перавага машыны «Гільштэйн» зусім відавочна. Відавочна таксама і тое, што пры высокіх якасных паказчыках гэтыя машыны вызваляюць дадатковыя рэзервы тысяч чалавека-дзён для ўсіх іншых працэсаў работ, звязаных з уборкай.

Адсюль трэба зрабіць такі вывад, што ў гэтым годзе ў сельскагаспадарчай вытворчасці павінны быць асвоены ўсе машыны па ільну. Гэта забяспечыць нам перамогу ў барацьбе за павышэнне прадукцыйнасці працы і палепшанне якасці работы.

Трэба павысіць класавую пільнасць супроць вылазак яшчэ недабітых астаткаў кулацтва, шкодніцтва, супроць антыдзяржаўных тэндэнцый і пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі большэвікоў Беларусі і яе ЦК, на чале з выпрабаваным большэвіком т. Гікало— пабольшэвіцку правесці ўборку, пярвічную апрацоўку і своечасовую здачу дзяржаве высокаякаснай ільнапрадукцыі.

**В. Савостаў.**

# Як лепш захоўваць бульбу ад гніення

Ва ўмовах соцыялістычнай сельскай гаспадаркі культура бульбы займае адно з відных месц сярод раду іншых сельска-гаспадарчых культур.

Не гледзячы на гэта, ураджайнасць яе дагэтуль з'яўляецца вельмі нізкай. Аб'ясніць гэта можна нізкай якасцю апрацоўкі глебы, дрэнным угнаеннем яе, сартавымі асаблівасцямі, вялікім гніеннем у часе зімняга захавання і т. д.

У 1934 г. пасеў бульбы, як і іншых культур, праведзен у больш раннія сціслыя тэрміны, пры лепшай апрацоўцы глебы і лепшым угнаенні яе. Гэтым самым створаны прадпасылкі для атрымання больш высокага ўраджаю. Але гэта толькі частка работы. У далейшым прадстаіць адказнейшая работа: захаваць ураджай ад шматлікіх хвароб, своечасова сабраць яго і падрыхтаваць хавальні (гэтым самым унікнуць гніення ў часе зімняга захавання).

Як вядома, бульба культывуецца з клубняў, а самым каштоўным у клубнях з'яўляецца крахмал. У клубнях бульбы маецца каля 75 проц. вады і толькі каля 25 проц. сухіх матэрый. Таму захаваць бульбу вельмі цяжка.

У той час, як зернавыя культуры пасля абмалоту і прасушкі, зложаныя ў сухое памяшканне, не баяцца ні холаду, ні цяпла, то за бульбай восенню, зімой і вясной трэба пільна сачыць.

Мільёны цэнтнераў бульбы гіне ў часе зімняга захавання дзякуючы нядбайным адносінам да яе ў часе ўборкі і самога працэсу захавання.

Усё вышэйадзначанае сведчыць аб тым, што барацьба за рашучы ўздым ураджайнасці бульбы можа быць праведзена з поспехам толькі ў тым выпадку, калі яна будзе праводзіцца на працягу круглага году, як у перыяд росту, так і ў перыяд захавання.

Ніжэй мы коратка спынімся на тых мерапрыемствах, якія неабходна правесці, каб захаваць і павысіць ураджай бульбы на данай стадыі яе росту.

### Апырскванне бульбы бардоскай вадкасцю

Як вядома, пашыранай і шкоднай хваробай бульбы з'яўляецца **фітафтора.** Фітафтора, пашкоджваючы з пачатку лісце, а потым клубні, часам зніжае ўраджай на 30—50 проц. і больш. У БССР на ранніх сартах яна з'явілася ў першых лічбах ліпеня. Важным сродкам у барацьбе з ёю з'яўляецца апырскванне бардоскай вадкасцю.

Для падрыхтоўкі бардоскай вадкасці бяруць:

| | |
|---|---|
| Меднага купаросу (сіні камень) . . . | 1 *кгр.* |
| Вапны нягашанай . . . . . . . . . | 1 *кгр.* |
| Вады . . . . . . . . . . . . . . | 100 *літр.* |

Падрыхтоўка робіцца так: у адной пасудзіне раствараюць медны купарос, а ў другой рыхтуюць вапнавае малако. Для растварэння меднага купаросу, а таксама і вапны, лепш браць гарачую ваду. Пасля падрыхтоўкі раствораў (меднага купаросу і вапнавага малака) іх адначасова зліваюць у трэцюю пасудзіну і разбаўляюць вадой у патрэбнай (вышэй адзначанай) колькасці.

Вадкасць рыхтуецца абавязкова ў дзеравянай пасудзіне.

Прымяняецца вадкасць толькі свежападрыхтаваная. Прастаяўшы некаторы час яна траціць свае фунгісідныя (атрутныя для грыбных захворванняў раслін) якасці.

Апырскванне будзе мець добры поспех тады, калі яно праведзена пры праяўленні першых адзнак хваробы, гэта значыць, для гэтага году ў БССР першае апырскванне ранніх сартоў патрэбна зрабіць у першай палавіне ліпеня, позніх—у другой палавіне ліпеня. Пасля першага апырсквання праз 10—15 дзён яго неабходна паўтарыць.

**Акучванне бульбы мае грамаднае значэнне ў барацьбе супроць паражэння клубняў бульбы фітафторай у глебе.** Пакуль клубні знаходзяцца ў зямлі, фітафтора праходзіць да іх не так лёгка. Аднак, калі клубні знаходзяцца блізка да паверхні, фітафтора ўсё-ж такі можа праходзіць да іх па капілярах глебы разам з дажджавой вадой. Такім чынам, **акучваннем** мы перашкаджаем праходжанню спор фітафторы да клубняў, якія знаходзяцца ў глебе. Фітафтора развіваецца на бульбяніку на працягу летняга перыяду. У часе ўборкі, калі клубні дакранаюцца да хворага бульбяніку, яны лёгка заражаюцца і потым быстра гніюць у часе захоўвання.

Унікнуць заражэння клубняў бульбы фітафторай можна шляхам скошвання і выдалення з поля бульбяніку перад уборкай бульбы. Скошванне бульбяніку, як паказалі нашы доследы, трэба праводзіць за 7—10 дзён да ўборкі. Зялёны бульбянік трэба абавязкова скарыстаць на сілас.

**Скашванне бульбяніку—вельмі важны сродак у справе барацьбы з фітафторай і адначасова не менш важнае мерапрыемства ў справе папаўнення кармовага балансу.**

**Другой мерай,** якая папярэджвае захворванне і загніванне ўжо выкапанай бульбы, **з'яўляецца пераборка і перасушка ўсіх клубняў.**

Для здачы (продажу) дзяржаве і засыпкі ў капцы бульба павінна быць выключна здаровая і сухая. Для гэтага пасля выкапкі бульбы з зямлі, яе трэба ўсю перабраць і адсартаваць. Усе загніўшыя, пашкоджаныя плугам і машынамі ў часе копкі, усе падазроныя ў захворанасці клубні абавязкова павінны быць адабраны ад здаровых. Здаровыя клубні павінны быць добра праветраны, а пры ўборцы ў мокрае надвор'е—прасушаны. Калі бульба ўбіраецца пры сухім надвор'і, то прасушка робіцца ў полі, а пры ўборцы пры сырым—трэба сушыць у пуні, таку, пад павецямі і т. д.

Сартаванне бульбы з адборам пашкоджанай праводзіцца на спецыяльных сартыроўках або грохатах.

Адсартаваная, прасушаная буйная бульба адразу з поля адпраўляецца на здатачны пункт у колькасці, неабходнай для выканання дзяржаўных паставак па бульбе.

Астатняя звозіцца ў хавальні, або закладаецца ў бурты тут-жа на полі для зімняга захавання.

## Захаванне бульбы на зіму

Добра перабраная і прасушаная бульба на зіму захоўваецца ў капцах або спецыяльных бульбахавальнях.

Бульбахавальні перад засыпкай бульбы павінны быць добра ачышчаны ад смецця і плесні, прасушаны і акураны серкай. Для акурвання серкай на кожны кубаметр хавальні бярэцца 25—30 грам серкі.

Замест акурвання серкай бульбахавальні можна апырскваць 10 процантным растворам фармаліна і сінім каменем разам з вапнаю (на кожныя 10 літраў вапнавага раствору трэба 100 грам сіняга каменя).

## Выбар і падрыхтоўка месца для капцоў

Месца для закладкі капцоў павінна быць роўнае з глыбокім заляганнем грунтавых вод і захаванае ад паўночных вятроў. Грунт лепш выбіраць пяшчаны. Пры разбіўцы месц пад капцы ўстанаўляюцца іх размеры і колькасць з разліку, што 1 кубаметр бульбы важыць 0,5 цнт., а ў капцы, шырынёй 2 метры, вышынёй 1,25 метры і даўжынёй 15—16 метраў, змяшчаецца да 16 тон бульбы. На плошчу ў 1 га ў такіх капцах можна захоўваць да 1 000 тон бульбы.

Пры закладцы вялікай колькасці капцоў у адным месцы, іх трэба размяшчаць папарна на адлегласці ад капца па капца на 4 метры і пара ад пары на 8 метраў. Напрамак капцоў павінен быць абавязкова з поўдня на поўнач (гэта робіцца для таго, каб папярэдзіць бульбу ад прамярзання пры паўночных вятрах).

Пасля разбіўкі месца пад капцы прыступаюць да копкі катлаванаў. Катлаваны для капцоў робяцца глыбінёй у 20—25 см, шырынёй 2 мтр. і больш, у залежнасці ад велічыні капца. Вынятая з катлавана зямля складаецца па бакох і скарыстоўваецца для засыпкі капцоў.

## Вентыляцыя ў капцах

Адначасова з падрыхтоўкай катлаванаў для капцоў робіцца вентыляцыя. Яна патрэбна для таго, каб зложаная ў капцы бульба магла свабодна выдзяляць цеплыню і вільгаць, якая ўтвараецца ў часе захоўвання.

Вентыляцыю можна рабіць так:

Па сярэдзіне катлавана ў падоўжным напрамку кладзецца 3—4-гранная труба, збітая з дошчак шырынёй у 20—25 см. Канцы гэтай трубы павінны недаходзіць да канца капца на 0,5 мтр, каб захаваць бульбу ад прамярзання. Да падоўжнай трубы прыстаўляюцца прамастаячыя трубы на адлегласці 4—5 мтр. адна ад адной.

Вышыня гэтых труб павінна быць такая, каб пасля канчатковай засыпкі капца на зіму, яны знаходзіліся над паверхняй капца на 15—20 см. Каб у сярэдзіну вентыляцыйных труб не пападаў дождж, над імі робяць накрыўку. Для лепшага праходу паветра ў дошках труб сверляцца адтуліны.

## Засыпка бульбы і прыкрыванне

У капец бульба насыпаецца роўнай кучай у выглядзе 2-скатнай страхі. Бакі добра выраўніваюцца, каб капец не быў перакошаны. Бульба запружаецца ў капецтва на ўзровень 1—2 мтр, у залежнасці ад прызначэння (насенная, сталовая і т. д.).

Калі капец падрыхтаваны, яго пакрываюць сухой саломай. Для гэтага лепш браць жытнюю салому, якая кладзецца на бульбу пластом таўшчынёй да 50 см.

Пасля ўкладкі саломы на яе насыпаюць зямлю, таўшчынёй у 10—15 см., пакідаючы незасыпаным толькі верх да пачатку заморазкаў.

З надыходам марозу да 4° пласт зямлі патаўшчаецца да 30—35 см.

Зямля для прыкрывання бярэцца на адлегласці 1—1,5 мтр. ад капца (з такім разлікам, каб стварыць вакол капца вадаадводзячую канаву).

## Догляд за капцамі і бульбахавальнямі

Пасля закладкі капцоў або ям за імі павінна быць арганізавана пастаяннае назіранне. Не менш аднаго разу ў пяцідзёнку брыгадзір па захаванню павінен рабіць агляд капцоў і правяраць тэмпературу ў іх. Мераць тэмпературу трэба звычайным тэрмометрам, які апускаюць на 10—15 мінут у прамастаячыя трубы. Апусціўшы тэрмометр, трубу неабходна зверху закрыць саламянай затычкай. Пры павышэнні тэмпературы ўвосень да 6—7° бульбахавальні ахалоджваюцца шляхам адкрыцця выцяжных труб і ў выключных выпадках вярхоў. Тэмпература ў капцах да асенніх замаразкаў павінна быць не вышэй тэмпературы акружаючага надвор'я. Зімой тэмпература павінна трымацца ад+2 да+3° С. Пры зніжэнні яе да 1° С. неабходна ўцяпляць капцы снегам або гноем. Калі тэмпература ў капцы або хавальнях рэзка павышаецца, то ў дні адлегі іх ахалоджваюць адкрываннем вентыляцыйных труб. Калі-ж гэтыя трубы не дапамагаюць і тэмпература ўсё павышаецца, паступова скідаецца пакрышка капцоў.

Спачатку скідаецца снег, а з наступленнем больш цёплых дзён і зямля. Бульба пад адной саломай, калі сярод яе няма гнілых клубняў, ляжыць далей (з наступленнем больш цёплых дзён) здавальняюча. Калі пры такім паступовым раскрыцці тэмпература павышаецца да 8° С, бульбу трэба зараз-жа перабраць.

Пры невялікіх марозах (4° С) перабраная, здаровая бульба можа захоўвацца ў пунях, пакрытая саломай, калі-ж марозы павялічваюцца, бульба павінна захоўвацца ўжо ў больш цёплых памяшканнях.

## Перавозка бульбы

Бульба зімою можа перавозіцца аўтагужавым транспартам у марозы да 15° С. Для перавозкі навалам, скрыні добра ўцяпляюцца, для чаго іх абіваюць тоўстымі і старымі мяшкамі або лямцам. Пры перавозцы ў мяшках іх неабходна пасля ўкладкі на воз з усіх бакоў укрываць саломай або сенам. Пры перавозцы бульбы па чыгунцы вагоны абсталёўваюцца спецыяльнымі печкамі для ацяплення.

Ураджай трэба лічыць цалкам сабраным толькі тады, калі ён добра захаваўся.

Кожны соўгас і калгас павінен абавязкова вылучыць адказнага па захаванню бульбы.

**Н. Дарожкін.**

# КРЫТЫКА І БІБЛІЯГРАФІЯ

## Кніжная паліца

**МАРКС КАРЛ. Избранные произведения.** В 2-х томах. Под ред. Адоратского. Изд. Института Маркса—Энгельса—Ленина при ЦК ВКП(б). Т. I. стар. 380, ц. 3 р. 75 к. Т. II, стар. 556, ц. 4 р. 75 кап.

Гэта папулярнае выданне твораў Карла Маркса складаецца з наступных матэрыялаў: у першым томе сабраны творы Маркса і Энгельса «Манифест Коммунистической партии», «Наемный труд и капитал», «Заработная плата», «Цена и прибыль», «Критика политической экономии». «Развитие социализма от утопии к науке», «Людвиг Фейербах и конец немецкой классической философии» і інш., у якіх, галоўным чынам, ізлагаюцца агульныя пытанні тэорыі, дыялектычны матэрыялізм, эканамічная тэорыя, вучэнне аб партыі пролетарыята, аб яе стратэгіі і тактыцы, вучэнне аб гістарычнай задачы пролетарыята і яго гістарычнай ролі.

Уводзінамі да першага тома (і да ўсяго выдання) служаць артыкулы Леніна і Сталіна. У артыкулах Леніна «Карл Маркс», «Три источника и три составных части марксизма», «Марксизм и ревизионизм» і «Исторические судьбы учения Карла Маркса», ахарактарызавана барацьба, якую вялі Маркс і Энгельс за рэволюцыйны марксізм і якую прадаўжаў сам Ленін на працягу ўсяго свайго жыцця. У артыкуле т. Сталіна «Из беседы с первой американской рабочей делегацией» даецца чоткае азначэнне таго, што новага ўнёс Ленін у скарбніцу марксізма. Тут-жа змешчаны ўспаміны аб Марксе Лафарга і Лібкнехта.

У другім томе сабраны, галоўным чынам, гістарычныя і палітычныя творы Маркса—«Классовая борьба во Франции», «Восемнадцатое брумера Луи Бонапарта» і Энгельса—«Карл Маркс и новая рейнская газета», «Революция и контрреволюция в Германии» і цэлы рад іншых работ, дакументаў і пісем Маркса і Энгельса, якія з'яўляюцца геніяльнымі ўзорамі прымянення метаду матэрыялістычнай дыялектыкі да вывучэння канкрэтнай гісторыі.

Да I і II тома маюцца прадмовы рэдактара В. В. Адоратскага, якія падрабязна ізлагаюць і раскрываюць змест усіх змешчаных тут работ Маркса і Энгельса.

**ЭНГЕЛЬС ФРЫДРЫХ. Людвіг Фейербах і канец нямецкай класічнай філасофіі.**

Менск. Партвыдавецтва, 1934 г., стар. 46, ц. 50 к.

Гэта кніга Энгельса дае найлепшы паказ развіцця тэарэтычных поглядаў Маркса і Энгельса, крытыку да-марксаўскага (фейербахаўскага) матэрыялізма і сціслае ізлажэнне поглядаў дыялектычнага матэрыялізма.

У канцы, у якасці дадатка, надрукаваны тэзісы Маркса аб Фейербаху, аб якіх Энгельс сказаў, што яны з'яўляюцца «першым дакументам, які змяшчае ў сабе геніяльны зародак новага светапогляду».

**ЛЕНІН В. І. Дзіцячая хвароба «левізны» ў комунізме.**
Менск. Партвыдавецтва, 1934 г., стар. 104, ц. 65 к.

Брашура ўпершыню друкавалася ў 1920 г., напярэдані II кангрэса Комінтэрна. Галоўным сваім астрыём гэта работа накіравана супроць «левага» ўхілу, які ў той момант быў вельмі моцным у радзе комуністычных партый.

У першых 4-х главах сваёй брашуры В. І. Ленін рысуе гісторыю развіцця большэвізма ў Расіі шляхам ачышчэння пролетарскага рэволюцыйнага ядра партыі ад усякіх ухілаў (пачынаючы ад меншавізма і ліквідатарства, з аднаго боку, «байкатызма», «адзавізма» і т. д. з другога, і канчаючы «левымі» комуністамі ў перыяд Брэсцкага міру). Гэтыя главы з'яўляюцца бліскучым канспектам па гісторыі комуністычнай партыі ад II з'езда да 1920 года.

У астатніх главах В. І. канкрэтна аналізуе палітычныя і тактычныя погляды «левых» у Германіі і Англіі, выкрывае шкоднасць адмаўлення імі парламенцкай барацьбы пролетарыята супроць буржуазіі, разглядае пытанні работы комуністаў у рэакцыйных профсаюзах. Ленін у гэтых главах асвятляе таксама пытанне аб узаемаадносінах паміж правадырамі — партыяй-класам-масай—і бязлітасна высмейвае адмаўленне левых ад якіх-бы там ні было кампрамісаў.

Брашура «Дзіцячая хвароба «левізны» ў комунізме» з'яўляецца адной з асноўных работ Леніна ў галіне пролетарскай стратэгіі і тактыкі.

У дадатку змешчан артыкул Леніна—«Раскол германскіх комуністаў».

**ЛЕНІН В. І. Дыскусія аб прафесіянальных саюзах.**
Партвыдавецтва, 1934 г., стар. 94, ц. 55 к., пер. 25 к.

Гэта кніжка прадстаўляе сабою зборнік асноўных перакладзеных на беларускую мову прамоў, дакладаў і артыкулаў В. І. Леніна, якія спецыяльна былі прысвечаны дыскусіі аб прафесіянальных саюзах, аб бягучым момамце і аб памылках тав. Троцкага: «Крызіс і партыя», «Даклад аб ролі і задачах прафесіянальных саюзаў», «Заключнае слова па дакладу аб ролі і задачах профсаюзаў», «Яшчэ раз аб профсаюзах, бягучым моманце і аб памылках таварышоў Троцкага і Бухарына», «З адчоту аб палітычнай дзейнасці ЦК РКП(б) X з'езду РКП(б)», «Прамова аб прафесіянальных саюзах X з'езду РКП(б)».

Ленін у сваіх выступленнях дае бязлітасны адпор усім апазіцыйным групам, якія ў той час вялі барацьбу супроць партыі.

Ведучы барацьбу супроць трацкісцкага лозунга «адзяржаўлення профсаюзаў», Ленін указаў, што профсаюзы не могуць быць ператвораны ў частку дзяржапарата таму, што ў сістэме дыктатуры пролетарыята яны займаюць асобае месца паміж партыяй і дзяржавай і з'яўляюцца прываднымі рамнямі ад партыі к пролетарыяту. «Профсаюзы»,—гаворыць Ленін,—«гэта ёсць арганізацыя выхаваўчая, арганізацыя ўцягнення, абучэння, гэта ёсць школа, школа кіраўніцтва, школа гаспадарання, школа комунізма». Ленін называў трацкісцкую палітыку «ператрасвання профсаюзаў»—палітыкай бюракратычнага дзёргання профсаюзаў, якая «пагражае прывесці к расколу паміж партыяй і саюзамі і к гібелі дыктатуры пролетарыята».

Платформу «рабочай апазіцыі» Ленін лічыў надзвычай яркім выражэннем нездавальнення дробнай буржуазіі дыктатурай пролетарыята. Ленін падкрэсліваў, што «рабочая апазіцыя», якая па сутнасці адмаўляла пролетарскі характар совецкай дзяржавы і большэвіцкай партыі, прадстаўляе сабою ўхіл у бок анархасіндыкалізма.

Тут-жа Ленін выкрывае «буферную» платформу Бухарына, які, імкнучыся прымірыць і спалучыць пункт гледжання Леніна, Троцкага і анархасіндыкалізма, дагаварыўся, па ленінскаму азначэнню, да «разрыву з комунізмам». Ленін даказаў, што платформа Бухарына з'яўлялася па сутнасці прыкрыццём трацкізма.

У канцы брашуры змешчан дадатак: «Рэзалюцыя X з'езда РКП(б) аб ролі і задачах профсаюзаў».

**БУБНОЎ А. С. Аб Леніне і ленінізме.**

Менска, Партвыдавецтва, 1934 г., стар. 78, ц. 60 к.

У гэтай брашуры сабраны артыкулы і даклады тав. Бубнова аб Леніне і ленінізме.

Першыя тры з іх («Вялікі будаўнік», «Ленін і партыя» і «Ленін у Кастрычніцкія дні») бяруць пытанні ленінізму ў гістарычным разрэзе. Два апошніх даклады («Ленін і асноўныя пытанні сучаснага этапа соцыялістычнай рэволюцыі» і «Аб ленінізме») разглядаюць ідэі Леніна ў прымяненні іх да асвятлення асаблівасцей гістарычнага перыяду першай пяцігодкі і тых асноўных задач, якія вырашаліся намі ў класавай барацьбе і соцыялістычным будаўніцтве ў апошнія гады. У сувязі з гэтым ва ўказаных дакладах разгледжана і выдатная работа т. **Сталіна,** як тэарэтыка марксізма, развіваючага далей распрацоўку пролетарскай тэорыі Маркса—Энгельса—Леніна.

**Первая боевая организация большевиков 1905—1907 гг.** Статьи и документы.

Склала С. М. Познер. З прадмовай М. Горкага. Масква, Выд-ва «Старый большевик», 1934 г., стр. 305, ц. 4 р. 50 к.

Гэта кніга з'яўляецца дапаўненнем да выданай Інстытутам Маркса—Энгельса—Леніна пры ЦК ВКП(б) у 1932 г. кнігі «Первая конференция военных и боевых организаций РСДРП в ноябре 1906 г.». Яна дапаўняе пратаколы канферэнцыі ілюстрацыямі работы баявой групы, аснаванай пры ЦК большэвікоў, рысуе партрэты баявікоў, людзей беззаветнай адданасці справе партыі, справе пролетарыята. Тыя з іх, якія ўцалелі, да гэтага дня астаюцца на службе рэволюцыі, таксама самааддана працуючы ў розных галінах будаўніцтва соцыялізма.

Пры складанні зборніка аўтар кіраваўся асабовымі ўспамінамі ўдзельнікаў баявых арганізацый, атрыманых у гутарцы з імі і запісаў на вечарах успамінаў; дакументамі гістарычнага Цэнтральнага Ленінградскага архіва і Гістпарта ЦК, дарэволюцыйнай партыйнай літаратурай, зборам Твораў В. І. Леніна, паслярэволюцыйнай літаратурай, а таксама паведамленнямі буржуазных газет дарэволюцыйнага часу.

Брыгада бібліяграфічнага Інстытута БССР імя Леніна.

# ПАСТАНОВА IV ПЛЕНУМА ЦК КП(б)Б

## АБ ВЫНІКАХ РАБОТЫ ЛІПЕНЬСКАГА ПЛЕНУМА ЦК ВКП(б) І ПРАКТЫЧНЫХ МЕРАПРЫЕМСТВАХ ПА ВЫКАНАННЮ РАШЭННЯЎ ПЛЕНУМА ЦК ВКП(б)

Заслухаўшы даклад тав. Галадзеда аб выніках пленума ЦК ВКП(б), пленум ЦК КП(б)Б разам з сакратарамі РК, начпалітаддзелаў МТС і соўгасаў цалкам і поўнасцю адобрывае рашэнні пленума і прымае іх да няўхільнага кіраўніцтва і выканання.

Ацэнка, даная пленумам ЦК ВКП(б) становішчу справы жывёлагадоўлі і кіраўніцтва ёю на месцах, у поўнай меры адносіцца да БССР. Хоць ёсць рост жывёлагадоўчых соўгасаў і калгасных таварных ферм і ў наяўнасці некаторыя дасягненні ў справе ліквідацыі бескароўнасці сярод калгаснікаў, агульнае становішча жывёлагадоўлі па БССР прадаўжае аставацца зусім нездавальняючым.

Такое становішча з жывёлагадоўляй абʼясняецца галоўным чынам тым, што большэвікі Беларусі не здолелі яшчэ перабудаваць сваю работу па развіццю жывёлагадоўлі так, як гэтага патрабуюць рашэнні XVII зʼезда і правадыр партыі тав. Сталін: канкрэтна, аператыўна, штодзённа кіраваць справай жывёлагадоўлі, сістэматычна правяраць гэты ўчастак соцыялістычнай гаспадаркі. Асабліва нездавальняюча праходзіць перабудова работы ў сістэме Наркамзема і Наркомсоўгасаў.

Пленум ЦК КП(б)Б упэўнен, што большэвікі Беларусі, узброеныя рашэннямі чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б), канкрэтна, аператыўна кіруючы кожным соўгасам, кожнай фермай, кожным сельсоветам, у самы кароткі тэрмін дабʼюцца рашучага пералому ў справе жывёлагадоўлі.

Пастановы пленума ЦК ВКП(б) аб хлеба-і мясапастаўках ускладаюць на беларускія партыйныя і совецкія арганізацыі абавязак своечасова і поўнасцю выканаць гэтыя важнейшыя дзяржаўныя абавязкі.

Пленум ЦК абавязвае ўсе партыйныя і совецкія арганізацыі: 1) паставіць у цэнтры сваёй работы па ўборцы задачу ўбраць ураджай без страт, задачу спалучыць уборку з малацьбой, задачу аховы ўраджаю ад раскрадвання, патраў, псавання; 2) забяспечыць хлебапастаўкі з першага-ж абмалоту і найлепшай якасці; 3) даць бязлітасны адпор усякім антыдзяржаўным тэндэнцыям затрымаць пастаўкі дзяржаве.

Уся партыйна-масавая работа павінна быць падпарадкавана задачы мабілізацыі мас, задачы разгортвання соцспаборніцтва раёнаў, МТС, соўгасаў, сельсоветаў, калгасаў на датэрміновае і якасна высокае выкананне паставак дзяржаве.

Пленум ЦК з усёй рэзкасцю падкрэслівае намеціўшаеся адставанне БССР у калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Гэтае адставанне—рэзультаты слабай арганізацыйна-масавай работы сярод аднаасобнікаў, папусціцельства да фактаў невыканання часткай аднаасобнікаў іх абавязацельстваў перад дзяржавай (пастаўкі, с-г. падаткі, дарожнае будаўніцтва, лесазагатоўкі); голага адміністравання ў кіраўніцтве калгасамі і нячуласці да патрэб і запросаў калгаснікаў (якія перш за ўсё выяўляюцца ў празмерных, нічым не абгрунтаваных, выключэннях з калгасаў), у замкнутасці, спроб адгарадзіцца ад аднаасобнікаў з боку якраз арганізацыйна і гаспадарча найбольш моцных калгасаў. Пленум ЦК абавязвае РК, РВК, палітаддзелы канкрэтна заняцца пытаннямі калектывізацыі з задачай забяспечыць ужо гэтай восенню сур'ёзныя зрухі ў справе далейшай калектывізацыі і калгаснага будаўніцтва ў цэлым.

Пленум ЦК з асаблівай рэзкасцю падкрэслівае слабасць партыйнай арганізацыйна-масавай работы, асабліва неабходнай у такі адказны момант, як уборка і загатоўкі. Пленум абавязвае РК і палітаддзелы намеціць суму канкрэтных мерапрыемстваў (перакідка актыва ў сельсовет, калгас, ферму, брыгаду, малацільны пункт, умацаванне гэтых рашаючых участкаў пастаяннымі работнікамі, сістэматычнае правядзенне калгасных палітдзён, сістэматычнае правядзенне вытворчых нарад старшынь калгасаў, брыгадзіраў, загадчыкаў фермамі і т. д.), якія-б забяспечылі ахват арганізацыйным і палітычным уздзеяннем партарганізацый кожнага калгаса, соўгаснага аддзялення, фермы, вёскі, калгасніка і аднаасобніка.

Пленум ЦК патрабуе ад кожнага члена партыі, працуючага на вёсцы, павышэння сваіх ведаў, аўладання тэхнікай паляводства і жывёлагадоўлі, бо толькі пры гэтай умове КП(б)Б зможа забяспечыць пералом у жывёлагадоўлі, зможа правесці ў жыццё рашэнні XVII з'езда партыі і чэрвеньскага пленума ЦК.

Пленум упэўнен, што КП(б)Б пад кіраўніцтвам ленінскага ЦК і вялікага правадыра тав. Сталіна, нястомна працуючы над умацаваннем кожнага калгаса, даб'ецца далейшага росквіту соцыялістычнага земляробства, вырашэння жывёлагадоўчай праблемы і заможнасці ўсіх калгасаў і калгаснікаў.

Зацвердзіць наступныя аператыўныя мерапрыемствы:

## I. ПА ЎБОРЦЫ ЎРАДЖАЮ, ПАСТАЎКАХ І ЗДАЧЫ ЗЯРНА, ІЛЬНУ І БУЛЬБЫ

### а) Аб арганізацыі работ па ўборцы збожжа і пастаўках дзяржаве

1. Для ўзмацнення барацьбы са стратамі як пры ўборцы, так і пры захаванні збожжа, даручыць усім РК КП(б)Б і РВК, нач. палітаддзелаў, дырэктарам МТС прасачыць за выкананнем наступных мерапрыемстваў па кожнаму калгасу і соўгасу:

а) Устанавіць штодзённую праверку палёў, з тым, каб неадкладна ўбіраць ураджай з усіх паспеўшых участкаў, не чакаючы агульнага выспявання збожжа ўсяго поля.

Адказнасць за збор каласоў і ўстаноўку зернаўлавіцеляў ускласці на пастаянныя брыгады, а ў дапамогу ім выдзеліць піонерскія пасты-дазоры з прыцягненнем школьнікаў. Прыёмку палёў, па прыкладу веснавой сяўбы, праводзіць праўленням калгасаў праз спецыяльных інспектароў па якасці.

Разам з тым РК КП(б)Б, палітаддзелы і праўленні калгасаў павінны правесці рашучую барацьбу супроць фактаў уборкі няспелага збожжа і капання няспелай бульбы, што мела месца ў мінулым гаду.

б) Для больш поўнага і рацыянальнага скарыстання рабочай сілы і цягла на працягу ўсіх летне-асенніх палявых работ (уборка ўраджаю, выкананне абавязацельстваў, асенняя сяўба)—абавязаць гаркомы, райкомы і палітаддзелы па кожнаму паасобку калгасу, соўгасу і сельсовету ўстанавіць поўнасцю, улічваючы наяўнасць цягла, машын і рабочай сілы, каляндарныя па пяцідзнеўках планы правядзення кожнай паасобку работы—да канца ўсіх сельска-гаспадарчых работ гэтага года.

в) Да 1 жніўня закончыць пабудову, рамонт і прыстасаванне гумнаў, такоў да ўмоў дажджлівай пагоды, а таксама закончыць пабудову і рамонт прасцейшых сушак для збожжа.

2. Пры зацвярджэнні пяцідзнеўных планаў работ па асобных соўгасах, калгасах і паселішчах і пры вызначэнні работы малатарань выходзіць з разліку двухзменнай работы кожнай малатарні і ўстанавіць цвёрды сутачны план абмалоту і вывазкі хлеба і зацвердзіць наступныя нормы сутачнай выпрацоўкі малатарань: на складанай — не менш 20 тон, на поўскладанай — 15 і на коннай — у залежнасці ад прыводаў—ад 4 да 10 тон.

Прапанаваць Наркамзему БССР у сутачны тэрмін спусціць падрабязную інструкцыю аб парадку прэміравання работнікаў малатарань за перавыкананне ўстаноўленых цвёрдых норм выпрацоўкі, у адпаведнасці з пастановай чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б).

Пленум ЦК КП(б)Б абавязвае ГК і РК КП(б)Б, начпалітаддзелаў МТС і соўгасаў максімальна скарыстаць увесь сельска-гаспадарчы інвентар, асабліва конныя малатарні. Пленум асуджае практыку некаторых МТС, якія ў кампаніі 1933 года забаранялі ўжыванне конных малатарань і іншага інвентара, матывуючы гэта неабходнасцю не дапусціць зніжэння размераў натураплаты.

3. Зацвердзіць наступныя канчатковыя тэрміны пачатку і скончэння работ:

а) азімую сяўбу пачаць не пазней 15 жніўня і закончыць не пазней 5 верасня;

б) зяблівае ворыва закончыць 5 кастрычніка, даручыўшы бюро ЦК КП(б)Б устанавіць каляндарныя па пяцідзнеўках тэрміны выканання плана зяблівага ворыва;

в) масавае капанне і здачу бульбы пачаць не пазней 5 верасня.

4. Зацвердзіць прадстаўлены Бюро ЦК КП(б)Б план здачы збожжа па натураплаце ў разрэзе кожнай МТС і абавязаць дырэктароў і начальнікаў палітаддзелаў МТС разгарнуць работы з такім разлікам, каб шляхам перавыканання вытворчай

праграмы дабіцца перавыканання плана здачы збожжа па натураплаце.

5. Прапанаваць райупоўкамзаг СНК, РК і начпалітаддзелам МТС і соўгасаў разгарнуць работу па здачы зярна з самага пачатку ўборкі і малацьбы, з тым, каб жнівень і верасень месяцы зрабіць асноўнымі месяцамі выканання ўсяго гадавога плана зярна.

6. Расшыраны пленум ЦК КП(б)Б звяртае ўвагу ўсіх партарганізацый на неабходнасць своечасовага выканання планаў абавязковых паставак і здачы збожжа па ўсіх крыніцах паступлення.

Пленум цалкам і поўнацю адобрывае дырэктыву ЦК ВКП(б) па пытанню аб памольным зборы, адзначаючы безумоўную абавязковасць своечасовага і поўнага выканання плана памольнага збору. Расшыраны пленум даручае ЦК і СНК:

а) агульны размер памольнага збору ўстанавіць ў 64.000 тон і не пазней 17 ліпеня зацвердзіць параённыя планы;

б) з самага пачатку кампаніі па збору гарнца ўсю невыкананую частку месячнага плана ўтрымліваць з фондаў мясцовага снабжэння;

в) уключыць у наменклатуру ЦК не толькі загадчыкаў млынамі, але і гарнцавых кантралёраў.

7. Устанавіць наступныя крайнія тэрміны звароту насеннай і харчовай пазыкі:

У ліпені і жніўні—70 проц.

У верасні—30 проц.

Выкананне цвёрдых заданняў па кулацкіх гаспадарках закончыць не пазней 15 верасня, з тым, каб у ліпені і жніўні месяцах было здана па цвёрдых заданнях не менш 70 проц.

8. Даручыць бюро ЦК не пазней 20 ліпеня зацвердзіць план хлебаздачы па кожнаму паасобку соўгасу і абавязаць Наркамзем і Упаўнаркомсоўгасаў не пазней 20 ліпеня накіраваць у адпаведныя соўгасы не менш ⅔ работнікаў трэстаў для дапамогі ў арганізацыі ўборкі і датэрміновай здачы прадукцыі дзяржаве.

Папярэдзіць дырэктараў і начальнікаў палітаддзелаў соўгасаў і кіраўнікоў соўгастрэстаў аб іх персанальнай адказнасці за своечасовую арганізацыю ўборкі і здачы прадукцыі дзяржаве.

9. Расшыраны пленум ЦК КП(б)Б абавязвае ГК і РК КП(б)Б, горсоветы і РВК, дырэктароў і палітаддзелы МТС, праўленні калгасаў і дырэктароў соўгасаў забяспечыць здачу на загатоўчыя пункты зярна з першага абмалоту і бульбы з першых копак, з непасрэднай здачай зярна з-пад малатарань на пункты, а бульбы з поля на здатачныя пункты і ў вагоны.

10. Улічваючы важнасць добраякаснага захавання зярна як на складах Заготзярно, так і на складах і ў свірнах калгасаў, прапанаваць усім ГК і РК КП(б)Б, начпалітаддзелаў МТС і соўгасаў і дырэктарам соўгасаў на аснове масавай раз'яснялнай работы, дабіцца здачы на загатоўчыя пункты зярна з больш нізкім процантам вільготнасці, ні ў якай меры не дапускаючы павышэння ўстаноўленага максімальнага проціанта вільготнасці зярна ў 19 проц.

11. Надаючы асабліва важнае значэнне рабоце камісіі па вызначэнню ўраджайнасці, прапанаваць ГК і РК КП(б)Б і начпалітаддзелаў аказаць поўнае садзеянне міжраённым камісіям па ўраджайнасці як у частцы камплектавання іх апаратаў кваліфікаванымі работнікамі, так і штодзённага ўдзелу ў рабоце па абследванню ўраджаю і ўстанаўленню ўраджайнасці.

Пленум ЦК адзначае, што яшчэ і зараз наглядаюцца яўныя антыдзяржаўныя тэндэнцыі свядомых спроб скрываць ад дзяржавы размеры фактычнага ўраджаю, асабліва пры вызначэнні натураплаты па МТС. Пленум даручае ўсім РК і РВК, палітаддзелам павесці рашучую барацьбу з гэтымі антыдзяржаўнымі тэндэнцыямі і аказаць усямерную дапамогу рабоце міжраённых камісій па вызначэнню ўраджайнасці, у прыватнасці вылучыць у дапамогу ім лепшых калгаснікаў.

12. Улічваючы вопыт 1933 года і ў мэтах своечасовага правядзення ўборкі ўраджаю і здачы прадукцыі дзяржаве па аднаасобнаму сектару—абавязаць ГК і РК КП(б)Б падабраць у якасці ўпаўнаважаных дзесяцідворак правераных работнікаў, асабліва з ліку дэмабілізаваных чырвонаармейцаў, якія праявілі сябе паказальнай работай па выкананню планаў здачы прадукцыі і правядзенню пасеўнай кампаніі і вылучыць частку кіруючых работнікаў раёна, замацаваўшы іх спецыяльна для кіраўніцтва ўборкай, абмалотам і загатоўкамі ў аднаасобным сектары.

У вёсках, дзе ёсць многа аднаасобнікаў, выдзеліць конныя малатарні і арганізаваць сумесна групавы абмалот зярна, закончыўшы падрыхтоўчую работу (выдзяленне малатарань і грамадскіх такоў) не пазней 1 жніўня.

13. Адзначыць слабы ход падрыхтоўкі тэхнічнай базы па прыёмцы зярна, асабліва бульбы і гародніны, і абавязаць Наркамснаб, пад адказнасць тт. Гурэвіча і Кладовікава; Белкаапсаюз, пад адказнасць т. Баскіна; загатоўчыя органы (тт. Нольдэ, Зелічонак, Анікейчык, Вайновіч, Кузьмічоў і іншыя) забяспечыць сканчэнне новага будаўніцтва, рамонт, дэзінфекцыю, перакідку інвентара і падрыхтоўку кадраў у тэрміны, у адпаведнасці з пастановай майскага пленума ЦК КП(б)Б.

14. У мэтах узмацнення барацьбы за захаванне ўраджаю пры ўборцы, малацьбе, здачы прадукцыі дзяржаве і пры хаванні на загатоўчых пунктах і складах—устанавіць найстражэйшую ахову і ўлік ураджаю, прымяняючы ў адносінах раскрадальнікаў ураджаю закон ад 7 жніўня аб ахове грамадскай маёмасці.

15. Пленум ЦК абавязвае Заготзярно і Саюзнасенвод арганізаваць такі парадак прыёмкі і хавання зярна, пры якім было-б забяспечана асобнае хаванне азімай пшаніцы ад яравой і асабліва асобная прыёмка і добраякаснае хаванне сартавога насення.

## б) Аб ільне

16. Адобрыць пастанову ЦК КП(б)Б і СНК БССР аб уборцы і першачарговай апрацоўцы прадукцыі ільну і канапель і прапанаваць усім ГК і РК КП(б)Б, дырэктарам і начальнікам палітаддзелаў МТС і загатоўчым органам строга кіравацца гэтай пастановай.

17. Зацвердзіць наступныя тэрміны здачы прадукцыі ільну і канапель:

а) па ільноўвалакну:

у верасні—5 проц.
у кастрычніку—35 проц.
у лістападзе—50 проц.
і да 15 снежня—10 проц.

б) па ільнонасенню:

у жніўні—30 проц.
у верасні—50 проц.
у кастрычніку (да 15 кастрычніка)—20 проц.

в) па насенню канапель:

у верасні—20 проц.
у кастрычніку—60 проц.
у лістападзе (да 15 лістапада)—20 проц.

г) па пенькавалакну:

у кастрычніку—20 проц.
у лістападзе—35 проц.
у снежні—45 проц.

18. Адзначыць асабліва нездавальняючае становішча з падрыхтоўкай да загатоўчага сезона ільнозаводаў (рамонт заводаў, падрыхтоўка кадраў і т. д.) і абавязаць Наркамлегпром БССР— тав. Балціна персанальна ўзначаліць усю работу па падрыхтоўцы ільнозаводаў да загатоўчага сезона, а ГК і РК КП(б)Б аказаць усямернае садзеянне Наркамлегпрому і ільназаводам па ўкамплектаванню работнікамі і рамонту заводаў.

### в) Аб здачы бульбы

19. Надаючы выключна важнае значэнне справе своечасовай уборкі і здачы дзяржаве бульбы, а таксама адгрузкі бульбы Ленінграду і, улічваючы неабходнасць выканання гэтых абавязацельстваў да наступлення асенніх дажджоў і халадоў і здачу высокаякаснай прадукцыі, пленум ЦК лічыць неабходным выкананне ўсяго плана бульбапаставак у асноўным у жніўні-верасні месяцах, з датэрміновым выкананнем задання. Даручыць бюро ЦК і СНК у адпаведнасці з гэтым рашэннем устанавіць каляндарны план здачы і адгрузкі бульбы.

## II. ПА МЯСАПАСТАЎКАХ

Расшыраны пленум ЦК КП(б)Б адзначае, што і пасля пастановы майскага пленума ЦК КП(б)Б мясапастаўкі ўсё яшчэ ідуць на надзвычай нізкім узроўні, пры чым асабліва адстаюць соўгасы сістэмы Наркомсоўгасаў і калгасна-сялянскі сектар у Кармянскім, Мсціслаўскім, Быхаўскім, Прапойскім, Гомельскім, Ушацкім, Веткаўскім раёнах, якія выканалі план другога квартала на 1 ліпеня па калгасна-сялянскаму сектару ўсяго толькі ў размерах, ад 23 да 30 проц.

Расшыраны пленум ЦК КП(б)Б адзначае, што рад раённых арганізацый і да сённешняга дня не дабіліся прыцягнення ўсіх здатчыкаў да ўдзелу ў выкананні плана мясапаставак, і таму ў

другім квартале ў выкананні плана прымалі ўдзел у абследваных 39 раёнах толькі 83 проц. здатчыкаў.

Расшыраны пленум ЦК КП(б)Б **пастанаўляе:**

1. Абавязаць Наркамснаб БССР і мясазагатоўчы апарат, а таксама РК КП(б)Б і РВК правесці на працягу ліпеня месяца суцэльную праверку выканання абавязацельстваў кожным мясаздатчыкам за першае паўгоддзе 1934 года, выявіць усіх няздатчыкаў, спагнаць з іх да 1 жніўня поўнасцю нядоімкі першага паўгоддзя, а ў адносінах да злосных асоб прымяняць прадугледжаныя законам меры спагнання (штраф, із'яцце жывёлы ў бясспрэчным парадку і т. д.).

2. Шляхам сістэматычнай праверкі выканання сваіх абавязацельстваў кожным здатчыкам дабіцца ў трэцім і чацвёртым кварталах стопрацантнага ўдзелу ўсіх здатчыкаў у выкананні плана і своечасовым выкананні квартальных планаў.

3. Адзначаючы, што часта накладзеныя штрафы фактычна не спаганяюцца, абавязаць РВК і сельсоветы забяспечыць безумоўнае спагнанне накладаемых штрафаў, а ГК і РК КП(б)Б і мясазагатоўчым органам прасачыць за своечасовым спагнаннем штрафаў.

4. Даручыць бюро ЦК не пазней 23 ліпеня зацвердзіць план здачы мяса ў разрэзе кожнага соўгаса з разбіўкай па месяцах.

5. Прызнаць арганізацыю групавой здачы жывёлы мясаздатчыкамі важнейшай задачай раённых партыйных і савецкіх органаў і, у асаблівасці, сельсоветаў і праўленняў калгасаў.

Абавязаць старшынь праўленняў калгасаў (у адносінах уласнай жывёлы калгаснікаў) і старшынь сельсоветаў (у адносінах аднаасобных працоўных гаспадарак) асабіста ўзначаліць работу па арганізацыі групавой здачы жывёлы, аказаць практычную дапамогу здатчыкам у закупцы жывёлы, а таксама арганізаваць калектыўнае вырошчванне і адкорм маладняка для групавой здачы.

6. Абавязаць ГК і РК КП(б)Б і мясазагатоўчыя органы шырока раз'ясніць калгаснікам і працоўным аднаасобнікам усю выгаднасць для іх здачы ўпітанай жывёлы, што дае магчымасць здатчыкам выканаць свой план пры параўнальна малой колькасці здаваемых галоў жывёлы з ільготамі ў вазе.

7. Лічыць недапушчальным і гаспадарча немэтазгодным зніжэнне за першае паўгоддзе процанта здачы скораспелых відаў жывёлы (свіней 1,4 проц., птушак 1,8 проц. да ўсёй загатоўкі) і абавязаць ГК і РК КП(б)Б, сельсоветы і мясазагатоўчы апарат шырока раз'ясніць здатчыкам выгаднасць павелічэння ўдзельнай вагі скараспелых відаў жывёлы (асабліва свіней) па выкананню плана мясапаставак.

8. Расшыраны пленум ЦК КП(б)Б абавязвае Наркамснаб і жывёлазагатоўчы апарат забяспечыць безумоўнае выкананне плана вывазкі мяса Ленінграду ў трэцім квартале не пазней 15 верасня г. г.

**Расшыраны пленум ЦК КП(б)Б «перасцерагае ўсе партыйныя арганізацыі ад недаацэнкі труднасцей хлебазагатовак і мясазагатовак і ад самацёку ў гэтай рабоце.**

**Поспех хлебазагатовак і мясазагатовак можа быць забяспечан толькі пры ўмове недапушчэння якога-б там ні было сама-**

**цёку і забеспячэнне большэвіцкай арганізаванасці і канкрэтнасці кіраўніцтва гэтай справай».**

Расшыраны пленум ЦК КП(б)Б адзначае, што як пры загатоўках іншых сельска-гаспадарчых прадуктаў у кампаніі 1933 г., так асабліва і ў мясапастаўках першай палавіны 1934 года адставанне раду раёнаў у выкананні сваіх планаў выклікана было адсутнасцю канкрэтнага кіраўніцтва і той акалічнасцю, што загатоўчыя органы і раённыя партыйна-совецкія арганізацыі супакойваліся на сярэдніх статыстычных цыфрах, недаацэньваючы ўдзелу ў своечасовым выкананні абавязацельстваў кожным паасобку здатчыкам. Расшыраны пленум абавязвае гаркомы і райкомы КП(б)Б і ўсіх членаў партыі з самага пачатку загатовак забяспечыць своечасовае выкананне сваіх абавязацельстваў кожным паасобку здатчыкам сельска-гаспадарчай прадукцыі.

## III. АБ ЖЫВЁЛАГАДОЎЛІ

Выходзячы з указанняў чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б) аб тым, што для больш быстрага ўздыму жывёлагадоўлі неабходна «прымяніць па прыкладу дзяржаўнага пасеўнага плана метады дзяржаўных планаў развіцця жывёлагадоўлі» і што «выкананне дзяржаўнага плана развіцця жывёлагадоўлі павінна стаць у цэнтры ўвагі ўсіх партыйных і совецкіх арганізацый і служыць важнейшым сродкам мабілізацыі работнікаў соўгасаў, калгаснікаў і аднаасобнікаў вакол задачы развіцця жывёлагадоўлі», а таксама ўлічваючы, што дзяржаўны план развіцця жывёлагадоўлі павінен быць складзен у кожным канкрэтным раёне, сельсовеце, соўгасе і калгасе,—пленум ЦК КП(б)Б прапануе Наркамзему, дырэктарам трэстаў і соўгасаў, РК КП(б)Б, палітаддзелам МТС і соўгасаў і райвыканкомам неадкладна разгарнуць работу па прапрацоўцы дзяржаўнага плана развіцця жывёлагадоўлі і стварэння кармовай базы на 1934-35 год, пачынаючы прапрацоўкай плана непасрэдна з калгаса, соўгаса і сельсовета і закончыўшы яе ў месячны тэрмін.

Пленум ЦК КП(б)Б падкрэслівае асабліва недапушчальнае адставанне па ўсіх паказальніках у вобласці жывёлагадоўлі наступных раёнаў: Чэрвеньскага, Суражскага, Горацкага, Шклоўскага, Жыткавіцкага, Лельчыцкага, Гомельскага, Быхаўскага, Чырвонапольскага, Мсціслаўскага, Жлобінскага, Сенненскага, Расонскага і Плешчаніцкага.

Для ажыццяўлення прынятай пленумам ЦК ВКП(б) баявой праграмы развіцця жывёлагадоўлі, пленум ЦК КП(б)Б абавязвае ўсіх большэвікоў Беларусі, усіх работнікаў, партыйных і беспартыйных, сканцэнтраваць сваю ўвагу на выкананні наступных аператыўных мерапрыемстваў:

### 1. Аб паляпшэнні развіцця жывёлагадоўлі ў соўгасах

Пленум ЦК КП(б)Б абавязвае Наркамзем, Упнаркомсоўгасаў, дырэктароў трэстаў і соўгасаў, начпалітаддзелаў соўгасаў, дырэктароў ОРСА'ў і каапгасаў правесці наступныя мерапрыемствы па соўгасах БССР:

а) поўнасцю забяспечыць усе соўгасы сваімі грубымі і сакавітымі кармамі і пасбішчамі і ў максімальнай колькасці канцэнт-

раванымі кармамі, для чаго расставіць пагалоўе буйнай рагатай жывёлы і свіней па соўгасах у адпаведнасці з магчымасцямі стварэння ў кожным соўгасе ўстойлівай уласнай кармавой базы і прыняць меры да насаджэння свіней у малочна-мясныя соўгасы і буйнай рагатай жывёлы ў свінагадоўчыя соўгасы;

б) для забеспячэння далейшага павелічэння і паляпшэння кармовай базы соўгасаў перагледзець севаабароты соўгасаў у бок павелічэння кармовых культур (траў, каранькпубняплодаў, сіласных і фуражных зернавых), давёўшы плошчу іх у 1935 гаду па соўгасах сістэмы Наркамзема і НКСоўгасаў: па караньплодах—3360 гектараў, па сіласных—3.200 гектараў, па аднагадовых травах чыстага пасеву—10.800 гектараў і стварыць пасеў шматгадовых траў на плошчы 20.400 гектараў і аднагадовых падпакроўных 500 гектараў, звярнуўшы асаблівую ўвагу на павышэнне ўраджайнасці;

в) на працягу 1934 г. правесці ачыстку лугоў і выганаў ад хмызняка на плошчы 5.400 гектараў, зрэзку кочак—3.000 гектараў, баранаванне—3.400 гектараў і ўнясенне мінеральных угнаенняў на плошчы 3.400 гектараў, забяспечыць соўгасы патрэбным для гэтага інвентаром—кочкарэзамі, хмызняковымі і балотнымі плугамі;

г) для больш рацыянальнага скарыстання канцэнтраваных і, асабліва, грубых кармоў арганізаваць у кожным соўгасе пярвічныя ўстаноўкі па пераапрацоўцы (блізарт, малатковыя млыны, зернадрабілкі, кормазапарнікі), забяспечыўшы соўгасы гэтымі ўстаноўкамі да 1935 года;

д) на працягу бліжэйшай дэкады праверыць прычыны дрэннага ходу будаўніцтва ў соўгасах, абавязаўшы дырэктароў трэстаў і соўгасаў забяспечыць соўгасы ў адпаведнасці з праграмай будаўніцтва на 1934 год сродкамі і будаўнічымі матэрыяламі, максімальна скарыстаўшы ўнутраныя рэсурсы соўгасаў і раёнаў, з абавязковым сканчэннем будаўнічай праграмы к пачатку зімовага перыяду;

е) надаючы выключна важнае значэнне пытанню аўладання тэхнікай у жывёлагадоўлі і павышэння тэарытычнага ўзроўню рабочых і спецыялістаў соўгасаў, абавязаць дырэктароў трэстаў і соўгасаў і начальнікаў палітаддзелаў ахваціць тэхвучобай усіх рабочых жывёлагадоўлі, з такім разлікам, каб да пастаноўкі жывёлы на стойлавае ўтрыманне ўсе рабочыя здалі тэхмінімум, а рабочыя, не здаўшыя тэхмінімуму, не былі дапушчаны да работы па догляду жывёлы;

ж) пленум абавязвае дырэктароў трэстаў і соўгасаў і начальнікаў палітаддзелаў звярнуць асаблівую ўвагу на паляпшэнне ўмоў работы спецыялістаў у соўгасах і стварэнне найлепшых матэрыяльна-бытавых умоў для штодзённай работы спецыялістаў, забяспечыўшы іх на працягу 1934-35 г. жыллём. Забараніць адрыў спецыялістаў ад іх непасрэднай вытворчай работы на розныя канцылярска-тэхнічныя перапіскі і работы па гаспадарцы, не звязаныя з іх спецыяльнасцю;

з) дырэктарам трэстаў у месячны тэрмін улічыць наяўнасць усёй племяннной жывёлы ў соўгасах, выдзеліўшы племянную жывёлу ў спецыяльна-племянныя гнёзды. Соўгасы «Каралёва»,

«Калініна», «Крынкі», «Самуэлева», «Уваравічы» і «Рачковічы» выдзеліць як рассаднікі племяннной буйнай рагатай жывёлы;

і) Пленум ЦК КП(б)Б патрабуе ад дырэктароў трэстаў і соўгасаў, начальнікаў палітаддзелаў і спецыялістаў жывёлагадоўлі карэннай перабудовы работы па ветэрынарна-санітарнаму абслугоўванню жывёлагадоўлі. Забяспечыць безумоўнае выкананне правіл ветзоамінімуму, абавязковае правядзенне на справе ўсіх мер прафілактыкі па соўгасах, прыцягваючы да стражэйшай адказнасці вінаватых у нарушэнні правіл ветзоамінімуму і прафілактыкі. Дырэктарам трэстаў арганізаваць па соўгасах міжсоўгасныя ветлабараторыі і габінеты, забяспечыўшы іх на працягу 1934-35 г. неабходным абсталяваннем, а таксама дабіцца бесперабойнага снабжэння соўгасаў медыкаментамі.

## 2. Аб калгаснай жывёлагадоўлі

а) На аснове ўказання пленума ЦК ВКП(б) аб тым, што «асноўным звяном у справе ўздыму жывёлагадоўлі з'яўляецца разгортванне калгасных таварных ферм і жывёлагадоўчых соўгасаў» і што «арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне існуючых таварных ферм і стварэнне фермы ў кожным калгасе павінна стаць першачарговай задачай партыйных і совецкіх арганізацый», пленум ЦК КП(б)Б абавязвае Наркамзем, РК КП(б)Б, РВК і палітаддзелы МТС да 1 кастрычніка 1934 года перавесці наяўныя ў калгасах абагуленыя стады на становішча калгасных таварных ферм, дабіўшыся, каб да канца 1934 года не асталося ні аднаго калгаса, якія-б не меў жывёлагадоўчай таварнай фермы. Абавязаць Наркамзем, РК КП(б)Б, РВК узмацніць работу па павелічэнню пагалоўя ферм шляхам вырошчвання свайго прыплоду, закупкі ў соўгасах, іншых калгасах, у калгаснікаў і аднаасобнікаў, з тым, каб да канца 1934 года пагалоўе ферм давесці не менш: па МТФ—520 тысяч галоў, па СТФ—200 тысяч галоў і ОТФ—120 тысяч галоў.

Устаноўлены пастановай ЦК КП(б)Б і СНК БССР ад 13 сакавіка 1934 года план закупкі 40.000 цялят для калгасаў павялічыць да 65 тысяч.

б) Пленум ЦК КП(б)Б абавязвае Наркамзем, РК КП(б)Б і РВК карэнным чынам перабудаваць работу па кіраўніцтву калгаснымі таварнымі фермамі, забяспечыўшы планамерную і глыбокую падрыхтоўку кожнай фермы да рашаючых перыядаў вытворчасці (зімоўка, ацёлы, апаросы, акоты, злучка) і канцэнтруючы асноўную ўвагу на адстаючых фермах з мэтай выцягвання іх у рады перадавых.

в) Наркамзему, РК КП(б)Б, палітаддзелам МТС і РВК не пазней 1 кастрычніка ва ўсіх фермах арганізаваць пастаянныя жывёлагадоўчыя брыгады і ўвесці здзельшчыну, прадугледзеўшы ў адпаведнасці з пастановай пленума ЦК ВКП(б) «дадатковае налічэнне працадзён да 15 проц. і прэміраванне натураплатай—маладняком—за перавыкананне планаў і добрую якасць і, наадварот, утрыманне працадзён за падзеж маладняка, ялавасць матак, нізкую якасць прадукцыі да размеру не вышэй 15 проц. выпрацаваных калгаснікам працадзён.

Наркамзему і Белдзяржвыдавецтву не пазней 15 жніўня выдаць масавым тыражом папулярнае палажэнне аб арганізацыі працы на калгасных таварных фермах.

г) Наркамзему, РК КП(б)Б, палітаддзелам МТС і РВК да 1 верасня праверыць састаў загадчыкаў усіх ферм, ачысціць ферму ад класава-варожых элементаў, замяніць непрацаздольных загадчыкаў лепшымі калгаснікамі-ўдарнікамі, здольнымі змагацца за калгасную жывёлагадоўлю. Зацвердзіць загадчыкаў па кожнай ферме пастановай РВК, катэгарычна забараніўшы ў далейшым знімаць іх без ведама райземаддзела.

д) Адзначаючы выключнае значэнне добрай падрыхтоўкі да зімоўкі ў справе нармальнага правядзення ацёлаў, апаросаў, акотаў і захавання маладняка—Наркамзему, РК КП(б)Б, палітаддзелам МТС і РВК не пазней 1 кастрычніка закончыць будаўніцтва вызначаных па плану конюшань на 20 тысяч галоў, скотных двароў на 100 тысяч галоў, свінарнікаў на 20 тысяч галоў і аўчарань на 10 тысяч галоў, усямерна выкарыстоўваючы мясцовыя будаўнічыя матэрыялы, а таксама закончыць прыстасаванне, рамонт, ацяпленне, ачыстку і дэзінфекцыю існуючых жывёлагадоўчых пабудоў з тым, каб ні адна галава жывёлы не асталася на зіму без належна падрыхтаванага памяшкання.

е) Пленум ЦК КП(б)Б асабліва падкрэслівае выключна дрэннае становішча свінагадоўчых і аўцагадоўчых калгасных таварных ферм у БССР, у рэзультаце недапушчальна слабай работы зямельных органаў і зусім недастатковай увагі да гэтых важнейшых галін жывёлагадоўлі з боку партыйных і савецкіх арганізацый, у сувязі з чым на працягу апошніх двух год матачнае пагалоўе свіней на фермах не толькі не павялічылася, а нават зменшылася.

Рашуча асуджаючы кулацкую тэорыю аб адсутнасці перспектывы для развіцця свінагадоўлі і аўцагадоўлі ў паасобных калгасах і нават раёнах, пленум ЦК КП(б)Б абавязвае ўсе партыйныя, савецкія і зямельныя арганізацыі дабіцца, каб да канца 1934 года не асталося ні аднаго калгаса, не маючага свіней і авец.

### 3. Аб кані

а) Адзначаючы выключна дрэннае становішча работы па ўзнаўленню і павелічэнню конскага пагалоўя, пленум ЦК КП(б)Б асноўнымі мерапрыемствамі ў вобласці конегадоўлі лічыць вырошчванне і поўнае захаванне конскага маладняка і паляпшэнне пароды каня.

б) Прапанаваць Наркамзему, РК КП(б)Б, РВК, дырэктарам трэстаў і соўгасаў і начальнікам палітаддзелаў неадкладна ўлічыць па соўгасах і калгасах наяўнасць племянных вытворнікаў (жарабцоў), завесці на іх адпаведныя пашпарты.

в) Арганізаваць у соўгасах «Адаменкі» і «Уваравічы», дзе ёсць групы племянных кабыл і вытворнікаў, племянныя гнёзды.

г) Абавязаць Наркамзем, РК КП(б)Б і РВК давесці колькасць племянных конегадоўчых ферм да 268 з пагалоўем 4940 матак і 248 жарабцоў, удзяліўшы выключную ўвагу ра-

боце конезаводаў, якія маюцца ў БССР, з тым, каб яны сталі сапраўды рассаднікам племяннной конегадоўлі.

д) Для больш поўнага і рацыянальнага выкарыстання маючыхся племянных жарабцоў дзяржплемканюшні, ліквідаваць апошнюю, перадаўшы племжарабцоў непасрэдна ў веданне райза. Зацвердзіць сетку злучных пунктаў пры райза на 1934 год у колькасці 100 адзінак, па калгасах—3368 адзінак.

е) Абавязаць Наркамзем да снежня месяца 1934 года распрацаваць форму і парадак пашпартызацыі конскага пагалоўя, з тым, каб з пачатку 1935 года ўвесці абавязковую пашпартызацыю ўсяго конскага пагалоўя.

ж) Абавязаць РВК, дырэктароў соўгасаў, старшынь калгасаў няўхільна праводзіць у жыццё пастанову пленума ЦК ВКП(б) па догляду і эксплаатацыі жарэбных матак.

## 4. Аб жывёлагадоўлі калгаснікаў і аднаасобнікаў

а) Пленум ЦК КП(б)Б абавязвае РК КП(б)Б, РВК і палітаддзелы МТС разгарнуць бальшэвіцкую работу вакол рашэння ЦК па захаванню маладняка ў аднаасобнікаў і калгаснікаў, шырока папулярызуючы пастанову пленума ЦК ВКП(б) аб тым, што калі калгаснік выгадуе і прадасць калгасу па дзяржаўнай цане нецеля або карову, ён вызваляецца на два гады поўнасцю ад пастаўак дзяржаве мяса і малака, а таксама раз'ясніць аднаасобніку аб тым, што «пры ўступленні ў калгас аднаасобніка, яго жывёла, за выключэннем рабочай жывёлы, а таксама гаспадарчыя пабудовы, неабходныя для ўтрымання жывёлы, не падлягае абагульненню».

б) У сувязі з тым, што асенні перыяд з'яўляецца рашаючым у справе захавання і вырошчвання маладняка для далейшага расшырэння вытворчага стада, пленум ЦК КП(б)Б абавязвае Наркамзем, РК КП(б)Б, РВК і палітаддзелы МТС узмацніць работу па захаванню і вырошчванню ў калгаснікаў і аднаасобнікаў маладняка.

в) Абавязаць Наркамзем, РК КП(б)Б, палітаддзелы МТС і РВК не пазней 1 жніўня правесці паіменны ўлік бескароўных калгаснікаў, распрацаваўшы канкрэтны план па кожнаму калгасу аб дапамозе бескароўным калгаснікам у набыцці цёлак, ліквідаваўшы бескароўнасць сярод калгаснікаў у 1934 гаду.

г) Наркамзему, РК КП(б)Б і РВК забяспечыць да канца 1934 года продаж калгаснікам не менш 40 тысяч парасят з калгасных таварных ферм.

## 5. Аб племяннной справе

Падкрэсліваючы абсалютна няправільнае скарыстанне племвытворнікаў, у рэзультаце чаго план метызацыі на 10 ліпеня па калгасна-сялянскаму сектару выканан па каровах на 42,6 проц. і па свіннях на 88,6 проц., Пленум ЦК КП(б)Б абавязвае Наркамзем, Соўгастрэсты, РК КП(б)Б і РВК рашуча палепшыць скарыстанне племянных вытворнікаў для метызацыі жывёлы соўгасаў, калгасаў, калгаснікаў і аднаасобнікаў.

Даручыць РК КП(б)Б і РВК да 1 жніўня правесці перадпічот усіх племянных вытворнікаў, якія маюцца ў раёне, а Наркамзему не пазней 15 жніўня ў адпаведнасці з перадпічотам ўдакладніць параённы план метызацыі жывёлагадоўлі.

б) Абавязаць Наркамзем, Племзагострэст, РК КП(б)Б, палітаддзелы МТС і РВК завозімыя ў БССР 400 галоў плембыкоў, 2.000 галоў племсвіней і кныроў і 1.500 штук плембараноў найбольш рацыянальна расставіць па калгасах, забяспечыўшы максімальнае скарыстанне вытворнікаў ужо ў злучную кампанію 1934 года.

в) Наркамзему не пазней 1 жніўня ўстанавіць парадак і форму вядзення раённай кнігі племяннoй і палепшанай жывёлы, а РК КП(б)Б і РВК забяспечыць да канца 1934 г. занясенне ў гэтую кнігу ўсёй племяннoй і палепшанай жывёлы, якая ёсць на тэрыторыі раёна.

г) У мэтах развядзення лепшай высокапрадукцыйнай і скораспелай пароды і масавага вырошчвання племматэрыяла абавязаць Наркамзем не пазней 1 жніўня арганізаваць дзяржплемрассаднік па буйнай рагатай жывёле на тэрыторыі Менскага і Дзяржынскага раёнаў і па свінях на тэрыторыі Слуцкага, Капыльскага, Старобінскага і Пухавіцкага раёнаў.

Даручыць СНК БССР да 20 ліпеня разгледзець і зацвердзіць палажэнне, структуру і штаты дзяржплемрассаднікаў, а таксама і крыніцы іх фінансавання.

д) Улічваючы вельмі нізкую якасць буйнай рагатай жывёлы ў палескіх раёнах і маючы на ўвазе вялікія перспектывы па развіццю гэтай галіны жывёлагадоўлі ў Палессі, абавязаць Наркамзем да 1 верасня прапрацаваць і ўнесці на зацвярджэнне бюро ЦК і СНК пытанне аб арганізацыі дзяржплемрассадніка буйнай рагатай жывёлы ў Палессі.

## 6. Аб расшырэнні кармовай базы

Выходзячы з таго, што стварэнне моцнай кармовай базы з'яўляецца асноўным звяном у вырашэнні жывёлагадоўчай праблемы, пленум ЦК КП(б)Б **пастанаўляе:**

а) Даручыць бюро ЦК КП(б)Б і СНК БССР пры ўстанаўленні пасеўных плошчаў на 1935 г. прадугледзець значнае павелічэнне кармовых культур у палявым севаабароце, давёўшы палявыя плошчы ў 1935 г. па калгасна-сялянскаму сектару: караняплодаў—30 тыс. га, сіласных—12 тыс. га і аднагадовых траў—160 тыс. га.

Абавязаць Наркамзем, РК КП(б)Б і РВК пры планаванні пасеўных плошчаў як у раённым разрэзе, так і ў разрэзе калгасаў абавязкова ўлічваць дзяржаўнае планавае заданне па развіццю жывёлагадоўлі, з тым, каб пасеўныя плошчы кожнага калгаса цалкам забяспечвалі жывёлу грубымі, сакавітымі і канцэнтраванымі кармамі.

б) Абавязаць Наркамзем, РК КП(б)Б, палітаддзелы і РВК справе паляпшэння сенакосаў надаць выключнае значэнне, забяспечыўшы да канца 1934 г. павярхоўнае паляпшэнне сенакосаў не менш як на плошчы ў 300 тыс. га.

в) Пленум лічыць зусім недапушчальным, што на працягу апошніх год пасевы канюшыны не толькі не ўзраслі, а нават паменшыліся, і абавязвае Наркамзем, дырэктароў трэстаў і соўгасаў, РК КП(б)Б, РВК і МТС забяспечыць вясной 1935 г. пасеў канюшыны ў адпаведнасці з устаноўленымі севаабаротамі, давёўшы плошчу пасеву канюшыны да 150 тыс. га.

Абавязаць Наркамзем, РК і РВК, начпалітаддзелаў, дырэктароў соўгасаў і МТС безагаворачна выканаць планы бранíравання насеннікаў кармавых траў, устаноўленыя СНК БССР, забяспечыць належнае захаванне і ўборку, прыцягваючы да самай суровай партыйнай і крымінальнай адказнасці вінаватых у псаванні, страўліванні жывёлай, або скошванні на сена плошчы насенных траў.

г) У сувязі са значным недасевам кармовых культур вясной 1934 г., а таксама ўлічваючы спрыяючыя метэаралагічныя ўмовы ў гэтым гаду, устанавіць план пасеву пажніўных культур на плошчы 20 тыс. га.

д) Для забеспячэння пагалоўя жывёлы кармамі на зімовы перыяд 1934—35 года ў калгасах, соўгасах і калгасна-таварных фермах лічыць неабходным пасля здачы хлеба дзяржаве, засыпкі насенных, страхавых фондаў і звароту пазык забраніраваць неабходную колькасць кармоў па нормах, вызначаных праўленнямі калгасаў і дырэктарамі соўгастрэстаў.

е) Даручыць Наркамзему, Упнаркомсоўгасаў унесці да 1 жніўня на зацвярджэнне Соўнаркома план арганізацыі выпасаў, вылучыўшы асобна свінагадоўлю.

ж) Канстатуючы выключную безгаспадарчасць у расходванні кармоў соўгасамі і калгасамі, абавязаць дырэктароў трэстаў і соўгасаў, нач. палітаддзелаў, старшынь калгасаў і загадчыкаў фермамі ўстанавіць эканомнае гаспадарчае расходванне кармоў з задачай поўнага забеспячнэння жывёлы да новага выпасу.

з) Абавязваць Наркамзем, Упнаркомсоўгасаў і НКСнабжэння, распрацаваць план арганізацыі вытворчасці кармоў жывёльнага пахаджэння, а таксама выкарыстанне сухой барды, мезгі, кармовых дражджэй і інш., устанавіўшы такі парадак, каб расходванне ўсемагчымых адыходаў прадпрыемстваў дзяржаўнай і мясцовай харчовай прамысловасці рабілася па ўзгодненаму і зацверджанаму НКСнабжэння, Упнаркомсоўгасаў і НКЗ плану.

Прапанову аб вытворчасці жывёльных, мінеральных і іншых канцэнтраваных кармоў унесці на зацверджанне Соўнаркома.

## 7. Аб паляпшэнні ветэрынарнай і заатэхнічнай справы

а) Пленум ЦК КП(б)Б адзначае нездавальняючае, запушчанае становішча ветэрынарна-заатэхнічнай справы, у выніку слабага кіраўніцтва НКЗ БССР, Упнаркомсоўгасаў і соўгастрэстаў гэтай справай пры зусім недастатковай увазе да яе і мясцовых партыйных і савецкіх органаў.

б) Абавязаць Наркамзем, РК КП(б)Б і РВК да 1 кастрычніка 1934 года закончыць прадугледжанае планам ветбудаўніцтва.

Прапанаваць РВК і РК КП(б)Б у месячны тэрмін вярнуць пад ветэрынарныя і заатэхнічныя ўчасткі ўсе памяшканні, зай-

маемыя раней гэтымі ўстановамі, кім-бы яны не займаліся ў сучасны момант.

в) Абавязаць Наркамзем унесці прапанову СНК аб пераключэнні часткі сродкаў з бюджэта НКЗ у 1934 г. для забеспячэння транспартам ветучасткаў і старшых зоатэхнікаў райза, з тым, каб у 1935 г. забяспечыць транспартам не менш 150 ветфельчарскіх участкаў і пунктаў, маючых вялікі радыус абслугоўвання і усе зоаўчасткі.

г) Наркамзему з трэцяга квартала арганізаваць сістэматычную курсавую перападрыхтоўку ветурачоў і стварыць пастаянныя курсы па павышэнню кваліфікацыі сярэдняга зоаветперсанала.

д) Абавязаць РК КП(б)Б, палітаддзелы і РВК, забяспечыць усіх зоаспецыялістаў кватэрамі і рашуча палепшыць снабжэнне і іх матэрыяльна-бытавое становішча.

е) Абавязаць РК КП(б)Б і РВК давесці да кожнага калгаса абавязковыя зоаветправілы, распрацаваныя Наркамземам БССР і ўстанавіць кантроль за іх выкананнем.

Пленум ЦК КП(б)Б абавязвае ўсіх бальшэвікоў Беларусі кіравацца ў сваёй практычнай рабоце наступнымі ўказаннямі чэрвеньскага Пленума ЦК ВКП(б):

«Пленум ЦК ВКП(б) патрабуе сапраўднага павароту ўсіх партыйных, савецкіх і гаспадарчых арганізацый, у тым ліку палітаддзелаў МТС і соўгасаў, да справы карэннага паляпшэння жывёлагадоўлі.

Партыйныя, савецкія і гаспадарчыя арганізацыі, у тым ліку палітаддзелы МТС і соўгасаў, павінны па-дзелавому арганізаваць работу па выкананню дзяржаўных планаў уздыму жывёлагадоўлі, а партыйныя і савецкія работнікі павінны аўладаць яе тэхнікай і займацца ёю штодзённа таксама настойліва і ўважліва, як і пытаннем зернавой гаспадаркі, прыцягваючы да гэтага ўсе лепшыя і актыўныя беспартыйныя сілы».

---

АД РЭДАКЦЫІ

У № 12 час. „Большэвік Беларусі" па віне друкарні на стар. 99 8—6 радкі знізу памылкова надрукавана: „Разумовая праца стала здабыткам прывілеяванай групы з прадстаўнікоў эксплаататарскіх калгасаў".

Трэба чытаць: „Разумовая праца стала здабыткам прывілеяванай групы з прадстаўнікоў эксплаататарскіх класаў".

---

Галоўлітбел №А 5023.
Тыраж 10.450.
566.720 друк. зн. (10¼ арк.)
Здана ў набор 31/VII—34 г.
Падпісана да друку 9/VIII—34 г.
Набрана на лін. № 6
Адк. кар. друк. *А. Мацкевіч*

*Рэдкалегія*: Мінкін (адк. рэдактар), Конік, Злоткін

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 1082.